# Сяргей
# ДАВІДОВІЧ

*Казкі*
*Прыгоды*

Том 5

Мінск
Беларускі рэспубліканскі
літаратурны фонд
2017



# Залатая рыбка

Ігнат скончыў першы клас і гэта былі яго першыя канікулы — вольнае лета.

Вёска, дзе ён нарадзіўся і жыў, выцягнулася ўздоўж маляўнічай рэчкі, таму вяскоўцы — і стары, і малы, бавілі вольны час з вудай каля вады.

Былі і такія, хто не зважаў на забароны, і «працэджваў» рэчку сеткай. Але што сетка! Толькі вуда ці спінінг дораць сапраўдную спартыўную асалоду. І хоць рыбака з вудай на беразе жартаўліва гукалі: — «Гэй ты, на адным канцы чарвяк, на другім канцы рыбак!...», Ігнатка не расставаўся з вудай. Ён з хваляваннем, дрыготкім пальцамі чапляў на адзін канец чарвяка, ну а сам, як і належыць, заставаўся на другім канцы.

Сёння яму зусім не шанцавала. І надвор'е здаецца было спрыяльнае, і на кручок ён пляваў, перад тым,

як шпурнуць яго з нажыўкай у ваду, і прыгаварваў, гледзячы на паплавок: «Лавіся, рыбка, вялікая і малая!» — ніводнай паклёўкі.

Цягануў ён лёску з вады, каб памяняць чарвяка, і сэрца яго салодка ёкнула. З вады на кручку вынырнула штосьці,...не, не штосьці, а, як падалося Ігнатку, хтосьці бліскучы, залачоны. Так, гэта была рыбка, ды не звычайная там нейкая сяляўка, а сапраўдная залатая рыбка. Яна круцілася ў паветры на кручку і выпраменьвала ад сябе сонечнае святло.

Ігнатка тузануў вудзіліна на сябе і залатая рыбка паслухмяна выпісала на лёсцы дугу і аказалася ў хлопчыкавай руцэ. Ён моцна сціснуў яе ў сваёй гарачай далоні і крыху адбег ад вады, каб не выпусціць каштоўны ўлоў. Рыбка на вобмацак падалася занадта цвёрдай, як жалеза. І самае галоўнае — яна зусім не трапятала і не выслабанялася.

Ігнатка расціснуў пальцы і ўбачыў у сябе на далоні звычайную блясну, якая мела форму рыбкі і весела зіхацела на сонцы. Відаць, нейкі спінінгіст калісьці згубіў сваю «залатую рыбку» у вадзе, а сёння Ігнаткаў кручок напаткаў яе ў рэчцы і спачатку ўзрадаваў рыбачка, а цяпер вось ледзь не давёў да слёз.

Хлопчык зняў свой «каштоўны» улоў з кручка і сумна шпурнуў яго ў траву: «У мяне і спінінга няма, ды і карыстацца я ім не ўмею».

Ігнатка вярнуўся да вады, сеў на новае месца і зноў закінуў лёску ў рэчку. Праўда перад гэтым перасунуў на лёсцы паплавок — паменшыў тонь

кручка, які дагэтуль, відаць, цягаўся па дне, таму і зачапіў блясну.

Настрой быў сапсаваны, клёву па-ранейшаму не было. Толькі ён сабраўся «зматаць вуды» адгэтуль, як паплавок заліхвацкі даў нырца. Вынырнуў і зноў знік у вадзе. Ігнатка, каб не вырваць з зубоў у рыбіны кручок, лёганька нацягнуў лёску, але ніхто ў вадзе не працівіўся. Нарэшце ў паветра вынырнуў кручок, на якім...

Ігнатка ажно плюнуў ад злосці — на кручку зноў весела целяпалася блясна, паблескваючы на сонцы сваімі меднымі бакамі.

— Адкуль вас тут назбіралася на маю галаву? — абурыўся хлопчык.

Ён нервова тузануў лёску да сябе, нядбайна схапіў блясну, нервова адчапіў і кінуў у рэчку.

— Ляці туды, адкуль прыйшла!

Пакуль блясна апісвала дугу ў паветры, Ігнатка адчуў, што яго далонь набыла ліпкасць ад гэтай, другой блясны.

Яна шлёпнула ў ваду, вільнула сваім хвосцікам і, падплыўшы бліжэй да берага, мілагучным голасам прамовіла:

— Дзякуй табе, Ігнацік, за тое, што ты мяне выпусціў, не пазбавіў жыцця! А я і не думала, што ты такі бескарысны хлопчык і ніякага выкупу ў мяне не запатрабаваў. Я цябе ніколі не забуду. Бывай!

І залатая рыбка, а гэта была яна, знікла ў рачной плыні.

Ігнатка працягваў сядзець на беразе з разяўленым ротам. Ён ніяк не мог зразумець: сон гэта ці праўда. Панюхаў сваю далонь — яна захавала тонкі пах рыбіны. Зірнуў больш уважліва і заўважыў на адным пальцы чашуйку, якая засталася ад рыбкі. Чашуйка была залатая.

— Дурань! — ускочыў ён,— Які я дурань! Злавіў сапраўдную залатую рыбку і ніякай ласкі ад яе не маю! Хоць бы папрасіў у яе веласіпед для сябе ці набор каляровых алоўкаў.

Ён у роспачы ўскочыў па калені ў ваду і паклікаў:

— Гэй, рыбка! Вярніся, залаценькая! Прыплыві, даражэнькая!

Але над рэчкай было ціха і спакойна. І толькі Ігнаткава сэрца тахкала, здавалася, на увесь свет.

— Эх, рыбка...— махнуў ён рукой, вылез з вады і сумна падаўся дамоў.

Дома ён нічога нікому не сказаў, але адмовіўся ад снедання, сядзеў прыцішаны і хмуры.

— Што, сынок, не пашанцавала табе сёння? — спытаўся бацька,— Так, братка, рыбацкае шчасце такое: сёння не шанцуе, заўтра — падфарціць. Не вешай нос, сынок — і рыбіна жыць хоча...

«Ведаў бы ты, тата, як мне сёння падфарціла...! — падумаў Ігнацік і глыбока ўздыхнуў.

Усю ноч яму не спалася. Яго хвалявала пытанне: «Што б я мог папрасіць у залатой рыбкі? Што? Веласіпед? Алоўкі? Ласункі? Не!»

Сваім дзіцячым сэрцам ён адчуваў, што ўсё гэта —дробязь. А што не дробязь?

Так ён пад раніцу і заснуў, не вырашыўшы, што ж карыснае можна было папрасіць у рыбкі.

Ён кожны дзень, цяпер ужо без вуды, падыходзіў да рэчкі і каб ніхто не чуў, клікаў залатую рыбку. Клікаў, хоць пакуль не ведаў, не вырашыў, што ў яе папрасіць.

І кожны дзень з вады ніхто яму не адгукаўся.

Аднаго разу, пасля дарэмнага гукання, ён убачыў прыгнаных вадой да берага мёртвых рыбак, якія гойдаліся на вадзе ўверх жывоцікамі.

Хлопчык жахнуўся, бо такое бачыў першы раз. Ён успомніў татавы словы: «і рыбіна жыць хоча...» і не па-дзіцячы востра адчуў боль душы ля забітага жыцця.

— Тата! Мама! — прыбег ён дамоў узрушаны і напалоханы.— Там, у нашай рэчцы, плавае нежывая рыба! Хто яе забіў?

Бацька задумліва паўтарыў пытанне сына:

— Хто яе забіў?...Эх,сынок, хто яе нішчыць, даўно вядома, а вось, як дапамагчы нашай рэчцы, справа вельмі складаная...

— Дык хто? Хто нішчыць? — ледзь стрымліваў слёзы хлопчык.

Бацька, каб супакоіць сына, прытуліў яго да сябе; патлумачыў:

— Уверх па рэчцы, даўно існуе нейкі завод, які раз-пораз злівае ў ваду ўсякі бруд. І хоць завод даволі далёка ад нас, яго атрутнасць усё ж дапінае да

нашых мясцінаў... Па-праўдзе кажучы, і рыбу ў нас тут лавіць непажадана, але што зробіш...

— Дык няўжо нічога нельга зрабіць? — гарачыўся Ігнатка,— А каб той завод адсунуць неяк далей ад вады!

Бацька горка ўсміхнуўся:

— Не, сынок, адсунуць завод немагчыма, а вось каб закрыць яго, спыніць яго дзейнасць, мы, людзі, спрабавалі. Пісалі лісты ў высокія кабінеты, ды толькі губляліся недзе нашы скаргі.

Пасля гэтай размовы Ігнатка непрыкметна выслізнуў з хаты і штосілы паімчаў да рэчкі. Зноў заскочыў па калені ў ваду і скрозь слёзы на ўвесь голас паклікаў:

— Рыбка! Пачуй мяне! Пачуй, калі ласка! Ты мне вельмі неабходная, рыбачка! Адклікніся!

Слёзы хлопчыка дажджавымі кроплямі цурылі ў рэчку, а ён усё клікаў і клікаў.

Нарэшце — О дзіва! — непадалёку ад Ігнаткавых ног вынырнула залатая рыбка і мілагучным голасам спыталася:

— Што табе, Ігнацік, трэба? Кажы, я зраблю ўсё, што ты пажадаеш. Ну? Можа, веласіпед? Ці алоўкі? А, магчыма розных прысмакаў захацелася? Але ў цябе ёсць толькі адно жаданне! Думай.

— Не! Які веласіпед? Нічога не хачу! Зрабі толькі, каб вада ў нашай рэчцы была чыстая, каб ніхто ў ёй не атручваўся! Гэта маё адзінае жаданне! А веласіпед ці штосьці смачнае мне купяць бацькі ці сам зараблю, як вырасту.

— Добра! — адказала залатая рыбка,— Дык ведай жа, Ігнацік, што сваім пажаданнем ты ратуеш не толькі жыхароў рэчкі, але, паколькі я жыву ў рэчцы, і мяне.

Здавалася б, я магла даўно спыніць атручванне вады, але не. Паляпшаць свой дабрабыт я не ў сілах, пакуль мяне хтосьці аб гэтым не папросіць. Мне пашанцавала, што я патрапіла менавіта табе на кручок, а не якому-небудзь сквапніку ды карысталюбцу. А ты мяне выпусціў у ваду адразу, без ніякіх умоў.

Ігнатка пачырванеў да вушэй, бо шпурляў у ваду чарговую блясну.

— Добра,— працягвала залатая рыбка,— вада ў рэчцы будзе чыстай. Бывай, Ігнацік!

Доўга яшчэ стаяў хлопчык ля рэчкі, асэнсоўваючы тое, што з ім адбылося.

А праз некалькі дзён Ігнацікаў тата ўсхвалявана і ўрачыста абвясціў сыну:

— Вось, сынок, знайшліся нашы скаргі ў высокіх кабінетах! Завод, які атручваў нашу рэчку, закрылі назаўсёды!



# Лявон і мабільны тэлефон

Дзед Лявон ішоў па маляўнічай дарозе і замілоўваў вочы навакольнай прыгажосцю, а душу ўспамінамі. Яго ветліва віталі бярозавыя гаі і квяцістыя лугі, празрыстыя далягляды і жытнёвыя палі.

— Вось па гэтай дарозе,— уздыхнуў дзед,— я бегаў басаном маленькім хлапчуком, па ёй жа юнаком спяшаўся на сустрэчу з чароўнай дзяўчынай, якая потым стала маёю жонкаю, а цяпер згарбела і згубіла ўсе зубы... О, гэта «цяпер»! — уголас заключыў Лявонцій.— Цяпер па гэтай векапомнай дарозе іздзе згорблены стары чалавек... — і замілаванне ўспамінамі саступіла месца нахлынуўшаму суму.

Раптам дзед войкнуў і нават прысеў ад нечаканасці. На дарозе ляжала штосьці незвычайнае, ніколі

ім нябачнае. Стары падняў гэта штосьці і, цяпер ужо заміloўваўся рознакаляровым дзівосам — маленькай скрыначкай з акенцам і рознымі кнопачкамі, якія весела зіхацелі на сонцы.

Дзед Лявонцій нават і падумаць не мог, што яму казачна пашанцавала, бо знайшоў ён мабільны тэлефон — і тэлефон не звычайны, а самага галоўнага чараўніка на свеце, якога ўсе дзеці ведаюць як Вялікадзівоса. Вось гэты Вялікадзівос, відаць, гэтаксама, як і дзед Лявонцій, заміloўваўся навакольнай прыгажосцю зямлі беларускай, разявіў рот і згубіў свой чароўны вялікадзівосны тэлефон.

Хутчэй за ўсё, ён сваю згубу і не заўважыў, бо ў чараўнікоў, тым больш у галоўнага, мабільны тэлефон не адзін.

Не дзіва, што стары не мог адарваць сваіх падслепаватых вачэй ад незвычайнай знаходкі, бо і звычайнага мабільнага тэлефона ён ніколі не бачыў.

Круціў дзед у руках гэты тэлефон і так, і гэтак, а што з ім рабіць, як ім карыстацца, не ведаў. Дай, думае, ціскану на якую-небудзь кнопачку-пупырачку — і ціскануў. Ціскануў і ледзь не выпусціў з рук таямнічую знаходку, бо скрыначка загаварыла прыемным жаночым голасам:

— Вы патэлефанавалі ва ўпраўленне казак. Вас слухае бюро тэрміновых паслуг. Што б вы хацелі? У якую казку вас перанесці? Выказвайце ўсе свае пажаданні!

Дзед Лявонцій стаяў з раскрытым ротам і воль-

най рукой трымаўся за сэрца, якое ад хвалявання збіралася выскачыць з грудзей.

— Ало! Што вы маўчыце? — пачулася з тэлефона.— Якія ў вас жаданні? Што вы хочаце?

Дзед, як ні сваім голасам прамармытаў:

— Дзякуй, шаноўная паненка... Што я хачу? Ды я і сам не ведаю, чаго я ўжо хачу. Жыццё праляцела неўпрыкмет... Здаецца, пачаць бы ўсё нанова, як кажуць, з чыстага ліста... але...

Дзед, магчыма. Працягваў бы разважаць, нічога пакуль не просячы, але тэлефон перарваў яго развагу і бадзёра адказаў:

— Заяўка прынята! Выконваем! Захочаце вярнуцца ў дазаявачнае становішча, націсніце на кнопку «адбой».

І дзед Лявонцій імгненна апынуўся ў першым класе за партай. Перад ім ляжаў чысты ліст паперы. Стары... цяпер ужо не стары, а маленькі хлопчык, азірнуўся і нічога не зразумеў — вакол яго сядзелі гэткія ж, як і ён мальцы і дзяўчынкі, а ля дошкі стаяў строгі настаўнік.

— Лявон, не круціся, слухай уважліва, бо папрашу з класа! — папярэдзіў ён нядаўняга дзеда.

— Ды ты мне ў сыны варты! — не стрымаўся дзед-малец.— Гэта я магу цябе за вушы выцягнуць з класа!.

Настаўнік з жахлівым здзіўленнем зірнуў на дзёрзкага вучня, а ўсе дзеці пырснулі ад смеху.

Чым бы ўсё гэта закончылася, невядома, але празваніў званок і ўсе шумна пабеглі на перапынак. Лявон з радасцю адчуў, што ногі яго пругкія, цела лёгкае. Галава не ацяжарана жыццёвымі клопатамі. Ён, як і ўсе дзеці, безупынку гуляў у даганялкі, штосьці крычаў і штурхаўся.

Нехта з хлопчыкаў кухтальнуў яго ў спіну і паддражніў:

— Лявон — кішкі вон, трыбухі на тэлефон!

— Ах ты, смаркач! Старых людзей дражніш! — пабег Лявон за крыўдзіцелем.— Вось я табе!

Але тут зноў зазваніў званок, цяпер ужо заклікаючы ўсіх на заняткі. Лявон сеў за парту і задумаўся: «Што я тут забыўся ў гэтай школе? Дома ж старая чакае, спраў назбіралася багата... Але дзе ж тая кнопачка «адбой»?»

Як ні шукаў яе Лявонцій, адшукаць не змог.

На наступным перапынку ён баязліва падыйшоў да настаўніка і запытаўся:

— Скажыце, калі ласка, а дзе ў гэтай штуковіне кнопачка «адобой»?

Настаўнік пакруціў у руках тэлефон:

— Ого, якая круцізна! Дзе гэта, Лявон, твае бацькі такі тэлефон купілі? Я падобнай мадыфікацыі пакуль не бачыў.

— Дык дзе, скажыце, калі ласка, кнопачка «адбой»? — перапытаў Лявон.

У голасе настаўніка пачулася іронія:

— Гляньце на яго, які ён ветлівы! «Калі ласка», «скажыце», «пакажыце»... А гадзіну таму збіраўся за вушы мяне выцягнуць з класа. Распусціўся ты, Лявон, разбасячыўся... А кнопачка, вось яна, справа. Толькі тут не «адбой» напісана, а стаіць умоўны знак, крыжык, і кнопачка мае чырвоны колер.

— Дзякуй! — схапіў хлопчык тэлефон і куляй выскачыў з класа.— Не хачу я вашых «двоек» і «пяцёрак», не трэба мне вашы кпіны і штурханіны! — і дзед... не, пакуль яшчэ хлопчык, рашуча націснуў на чырвоную кнопачку.

Зноў у імгненне, ён апынуўся на той жа маляўнічай дарозе. Зноў згорбілася спіна і адчуўся ва ўсім целе цяжар пражытых гадоў.

— Хух! Дзякуй Богу, зноў я — гэта я! Выкіну я вон гэтую непатрэбшчыну! — і дзед памкнуўся зашпурнуць тэлефон у кусты, ды завагаўся:

— Але ж ёсць і іншыя кнопачкі! Што ўтойваюць яны? Трэба праверыць!

І Лявонцій націснуў на першую, якая патрапіла пад палец.

— Ало! Прыёмная Кашчэя Бессмяротнага слухае! Яго Бессмяротнасці пакуль няма, ён б'ецца зараз з Русланам — хутка будзе.Ператэлефануйце праз паўгадзіны!

— Доўга ты будзеш чакаць свайго нячысціка. Казкі трэба чытаць, пачвара! — дзед плюнуў і націснуў на чырвоную кнопачку — даў адбой.

Націснуўшы на чарговую кнопачку, стары пачуў:

— Я — Васіліса Прыгожая! Чакаю цябе, сокал ясны, на гарачым кані! Даскачаш да вежы, дзе я буду сядзець ля акенца, пацалуеш мяне — стану тваёй! Пакінь даведку пра сябе і камп'ютар усё зафіксуе. Твая чарга восемдзясят сёмая.

— Ого-го! — усклікнуў дзед.— Мне 87 гадоў, ды яшчэ чарга мая восемдзясят сёмая... Доўга ж табе чакаць давядзецца мяне, прыгажуня! Не, я лепш да бабы вярнуся — і скакаць перад ёй не трэба, і без пацалунку яна мяне прыме. Бывай!

Цісануўшы на «адбой», дзед Лявонцій задумаўся: «Відаць, перастарэў я для гэтых усіх казак... Усё добра ў сваю пару...»

— Эх,— схамянуўся дзед.— Ціскану я яшчэ раз на тую самую, першую кнопачку! Там усё неяк па-людску!

— Упраўленне казак слухае! — адказаў той жа бадзёры жаночы голас.— Бюро тэрміновых паслуг выканае любое ваша жаданне. Жадайце!

Стары, цяпер ужо без ваганняў, папрасіў:

— Вярніце маёй Стэфаніі зубы, бо яна ўвесь час шамкае і нават кашу разжаваць не можа. Памаладзіце яе гэткім чынам...

— Заяўка прынята! Выконваем!.. Усё ці яшчэ што?

— Усё! Хіба ж гэтага мала? — і дзед Лявонцій з палёгкай паклыпаў дамоў на сустрэчу, як ён лічыў,

са сваёй «зубастай» жонкай. Адчыніў дзверы ў хату і здзіўлена спыніўся на парозе. За сталом сядзела маленькая дзяўчынка над нейкімі паперамі.

— Колькі будзе два памножыць на два, дзядуля? — спыталася дзяўчо.

— А ты хто, маляўка, будзеш?

Дзяўчынка засмяялася на ўвесь свой бяззубы рот:

— Я — Стэфачка!

— Якая яшчэ Стэфачка?! А дзе мая Стэфанія? — спрытна падскочыў да стала дзед.

— Падрасту, буду Стэфаніяй! — весела адказала дзяўчынка. Дык колькі будзе два памножыць на два?

Дзед задумліва прамармытаў:

— Зноў з чыстага ліста... пераблыталі ўсё, перастараліся казачнікі...

Потым спахапіўся:

— А чаму ў цябе няма зубоў?

Дзяўчынка па-дзіцячы шчыра, адказала:

— А яны ў мяне мяняюцца... Хутка вырастуць новыя.

— Вось што, Стэфачка, націсні ты на гэту чырвоную кнопачку,— папрасіў дзед Лявонцій.

— А навошта? — здзівілася Стэфачка.

— Націснеш — даведаешся...

Дзяўчынка асцярожна націснула пальчыкам на чырвоную кнопачку і адразу ператварылася ў

старую бабу — дзедаву Стэфанію. Баба сядзела, падпершы рукой галаву ля разбітага карыта і на чым свет дакарала дзеда Лявонція:

— Дурачына ты ў мяне, прастафіля! І без зубоў я свой век дажыла б,— папрасіў бы лепш новае карыта!..

— Ну вось, пачынаецца,— абурана прамармытаў дзед.

Стары адчыніў акно і са злосцю шпурнуў у крапіву сваю чароўную знаходку:

— Без цябе спакайней будзе!





# Хлопчык-журавель

Любімым заняткам хлопчыкаў падчас летніх канікулаў, было запусканне ў блакіт неба паветраных змеяў.

А цяпер, калі да пачатку заняткаў у школе заставаўся нейкі тыдзень, вольны час бавіўся асабліва шумна і азартна.

Каб запусціць змея ў паветра, неабходна валодаць асобай спрытнасцю і ўменнем. Ды што такое запусціць змея ў паветра ў параўнанні з яго стварэннем? Дробязь! Змайстраваць яго ды адладкаваць яго лётныя якасці — вось гэта давалася далёка нямногім. Да таго ж, кожны стараўся надаць свайму тварэнню не падобную да іншых форму, ды яшчэ як мага мудрагелісцей размаляваць яго.

Карацей, работа гэта і тэхнічная, і творчая. Яна спрыяе развіццю ў чалавеку фантазійнасці і індывідуальнасці.

Весела было і цікава!

Тут трэба ўдакладніць немалаважную дэталь: дапамагалі хлопчыкам ствараць сваіх лятаючых змеяў іх таты.

Неяк вечарам Мацейка слёзна паскардзіўся свайму тату.

— Мой змей лятае ніжэй за іншых, ды і завальваецца ён увесь час на адзін бок... Маленькі ён нейкі і някідкі. Дапамажы, тата, зрабіць новага, лепшага за ўсіх змея.

Бацька ўважліва выслухаў сынаву скаргу і тлумачыць яму:

— Тое, што ён ў цябе такі нізкалётны, дык, пэўна, нітка твая кароткая. А з астатнім я паспрабую разабрацца — змайструем табе змея, усім на зайздрасць.

І змайстравалі! Змей атрымаўся вялікі і сваім абрысам нагадваў жураўля з шырока раскрытымі крыламі. Рыхтуючы яго да запуску, бацька тлумачыў Мацею:

— Тут патрэбен шнур ад бялізны, бо ніякая нітка яго не ўтрымае, парвецца. А запускаць яго будзем разам, бо аднаму табе яго не ўтаймаваць. Панеслі яго, сынок, на выган! Мацеевы сябры з цікавасцю абступілі месца запуску змея і з зайздрасцю назіралі за ўсім, што адбываецца.

— Накруці шнур на рукі! — крыкнуў Мацею бацька,— Моцна накруці і з усіх сіл трымай, а я разбягуся і шпурну яго ў неба. Гатова?

— Гатова! — бадзёра адрапартаваў Мацейка,— Запускай яго, тата!

Мацееў бацька жартаўліва крыкнуў, каб усе пачулі:

— Ад вінта! — і штосілы пабег па выгане з велізарнай птушкай на выцягнутых над галавой руках. У нейкі момант ён моцна кідануў жураўля ў паветра, і з дзіцячым захапленнем назіраў за яго імклівым узлётам. Пры гэтым ён забыўся на сына і не бачыў, як Мацейка з усяе сілы нацягваў шнур, каб кантраляваць сваё тварэнне, якое ўпарта імчала вышэй і вышэй.

Спачатку Мацейка бег следам за шнуром, затым ногі яго пацягнуліся па траве і ён адарваўся ад зямлі. Толькі цяпер бацька заўважыў, што хлопчык адчайна дрыгае нагамі ў паветры і набірае вышыню.

— Кідай шнур! — крычаў ён,— Адпусці шнур, Мацейка!

Але шнур, як загадваў бацька перад палётам, быў моцна накручаны на рукі хлопчыка...

Тут трэба раскрыць галоўны сакрэт,— усё адбываецца ў казцы. А ўсе казкі, як вядома, маюць заўсёды шчаслівы канец. Таму, будзем спадзявацца, што і Мацейка адкупіцца адным толькі страхам. Хаця...

Ляціць Мацей у паветры, моцна трымаецца за

шнур. І хоць боязна глянуць уніз, настолькі высока яго ўзняў некіруемы журавель, але і гонар распіраў усяго хлопчыка:

— Я вышэй за ўсіх! Ура! Прэч з дарогі! — крычаў ён на варон, якія траплялі на яго шляху.

Раптам побач з Мацеевым самаробным жураўлём паказаўся клін сапраўдных жураўлёў, якія чамусьці зарана накіраваліся ў вырай.

Галоўны журавель, відаць, важак крыкнуў Мацею:

— Прыстройвайся ў хвост кліну, лягчэй будзе ляцець!

Мацея яшчэ працягваў распіраць гонар, таму ён рашуча адбіўся ад «хваста»:

— Ды ты што, даўгадзюбы! Мяне ў хвост? Я ніколі ў хвасце не цягаўся, я выдатнік!

— Ну, тады падмяні мяне, прыладжвайся на маё месца, будзеш за важака,— прапанаваў галоўны журавель,— здолееш быць важаком?

— Ага, хітранькі! Адказвай тут за вас, бязмозглых! — зноў не стрымаўся Мацейка,— Ды і ў школе ў нас не важакі, а важатыя. Разумець трэба!

— Ну, тады нам з такім, як ты, яршыстым, не па дарозе. Адхіляемся правей, журавы! — загадаў важак і клін пачаў аддаляцца.

— Ой, навошта ж я пакрыўдзіў добрых птушак? — абурыўся на сваю нястрыманасць хлопчык,— яж нават не ведаю куды мяне занёс мой журавель.

Мацейка з усяе сілы крыкнуў:

— А дзе мы знаходзімся? У Лапландзіі?

Важак быў добра выхаваны, таму не пакрыўдзіўся на дзёрзкасць хлопчыка і адказаў:

— Якая Лапландзія? Мы яшчэ за межы Беларусі не вылецелі! Вучыць геаграфію трэба, выдатнік!

У Мацея агнём пякло рукі ў тым месцы, дзе шнур урэзаўся ў скуру. Каб хутчэй паслабіць абмотку, ён не разлічыў і яго рукі выслізнулі з абдымкаў шнура.

Самаробны журавель, пазбавіўшыся вагі хлопчыкава цела, узмыў вышэй, а паветраны вандроўнік каменем паляцеў уніз.

— Ратуйце! Гіну! Дапамажыце!— залямантаваў ён у паветры.

На шчасце, жураўлі былі яшчэ не зусім далёка, і пачулі Мацееў лямант.

Важак паднырнуў пад хлопчыка і крыкнуў:

— Махай крыламі!

— У мяне няма крылаў!— крыкнуў у адказ Мацей.

— Тады махай рукамі!

Мацей камічна замахаў рукамі, але яго падзенне не спынілася.

— Жураўчык, родны, дарагі, дапамажы! — узмаліўся бедалага,— зрабі што-небудзь! Ты не даўгадзюбы, ты з мазгамі! Я бяру свае словы назад!

Журавель зірнуў у ніз, да зямлі было яшчэ далекавата, і спытаўся:

— Хочаш мець крылы?

— Не! Навошта мне крылы? — пагарачыўся з адказам хлопчык.

— Ну, тады праз хвіліну ты заб'ешся.

— Хачу, хачу, хачу крылы! — закрычаў Мацей і адразу адчуў, як яго рукі — ад плячэй да далоняў абраслі птушыным пер'ем.

— Махай! Махай крыламі! — загадаў важак.

Мацей няўпэўнена замахаў рукамі, цяпер ужо, сапраўднымі крыламі і паплыў у паветры.

— Можа хваста хочаш? — З усмешкай спытаўся важак.

— Якога хваста? Ды не трэба мне ён! — адгыркнуўся хлопчык,— А як я пазбаўлюся крылаў?— крыкнуў заклапочаны Мацей, але важак даганяў сваю стаю і да хлопчыкавых вушэй даляцела здаля:

— Вясной!.. Чакай мяне...

Мацей павярнуў на адваротны шлях і не ведаў — радавацца яму ці плакаць.

Ён не забіўся аб зямлю,— ён ляціць — і гэта радасць. Але ж ён пазбавіўся рук, а як без іх?

Хлопчык пільна ўглядваўся ўніз — зямля зверху падалася незнаёмай. Ён апусціўся ніжэй і заўважыў стужку рэчкі.

— Трэба ляцець уздоўж рэчкі, яна ж цячэ ля нашай вёскі! — не разважаў, а з задавальненнем крычаў ён, бо ведаў, што ў паветры, акрамя яго, нікога няма.

А вунь і вёска, вунь школа, у якую ён пойдзе праз некалькі дзён.

Мацейка ўголас жахнуўся:

— А як жа я пайду ў школу? У мяне ж няма рук!

Хлопчык павярнуў галаву ў адзін бок, у другі бок і з горыччу адзначыў, што пер'е вырасла ад плячэй да далоняў (ён нават пакратаў пальцамі) а за далонямі пачынаўся згіб крыла з доўгімі вялікімі пер'ямі, якія, пэўна выконвалі галоўную ролю лёту.

Пачало вечарэць, калі ён падляцеў да сваёй вёскі. Мацей мысленна адзначыў, што паказвацца на вочы людзям у такім выглядзе ён не можа, таму неабходна дачакацца цямна і непрыкметна праслізнуць у сваю хату.

Ён так і зрабіў. Апусціўся на зямлю, дачакаўся цемры і, прыціскаючыся да плотаў, забег дамоў.

— Сынок! — радасна ўскрыкнула маці, якая пакуль не заўважыла адсутнасць рук у сына.

— Ой, сынка... — заўважыў бацька птушынае пер'е па баках Мацея там, дзе павінны быць рукі.

Бацькі кінуліся да сына, а ён не ведаў, як сябе паводзіць і толькі ціха паўтараў, не ведаючы, каго суцяшае: ці бацькоў, ці сябе:

— Я жывы... Я жывы...

Крыху супакоіўшыся, бацькі выслухалі сумны распавед сына і абяссілена выдыхнулі:

— А што ж цяпер будзе?.. А табе ж, сынок, у школу хадзіць трэба, табе ж жыць...

Бацька горка ўсміхнуўся:

— Вось табе і на... Чалавек вякамі марыць аб крылах, а тут вось — гатовыя крылы, а радасці няма.

Мацейка асцярожна нагадаў:

— Журавель сказаў чакаць... ці вясны, ці яго — я не зразумеў.

— А што дасць вясна? — ускочыла маці,— Ды да вясны яшчэ дажыць трэба неяк! Не сядзець жа табе за печчу да вясны... А па-другое, абяцанка-цацанка, а дурань радуйся — шукай таго жорава.

— Пачакай,— спыніў жонку бацька,— магчыма тут штосьці звязана з тым журавом?

— З якім? — з надзеяй запытаўся Мацейка.

— Ты, сынок, быў яшчэ зусім малы, нават не хадзіў, калі я падабраў адной вясной раненага жураўля, які не мог лётаць,— задумліва ўспамінаў бацька і працягваў: — Усё лета ён жыў у нас, хадзіў за намі, як сабачка, а ўвосень адчуў сілы і, дзякуй Богу, паляцеў. Быў ветраны дзень, у вушах гудзела: гу-у, гу-у, там пасля ўзлёту таго жураўля, мне ў тым «гу-у-у» падалося: «Я лячу-у ці я адплачу-у». Мы з маці памахалі рукамі таму жораву і зажылі па-ранейшаму... Дык вось, магчыма той, наш журавель, неяк звязаны з тваім выратаваннем?

— Ды калі гэта было? — не стрымалася Мацеева маці,— І ці жывы той журавель, хто ведае...

Усю ноч бацькі раіліся, шукалі выйсце — што рабіць з сынам?

Бацька рашуча заключыў:

— У школу ён пойдзе! А рукі.. ці як іх, крылы, закруцім бінтамі да самых плячэй, маўляў, зламаў абедзве ключыцы. Далоні вунь з пальцамі ёсць — неяк будзе пісаць. Галоўнае, з хаты будзе выходзіць, жыць сярод людзей.

На гэтым і спыніліся. Ля самых далоняў, на згібе, крыло загнулі, як складаюць ножык, і старанна закруцілі бінтамі. Атрымалася штосьці нязграбнае і нават страшнае, але з бінтоў выглядалі далоні з пальцамі і гэта надавала закручаным крылам выгляд рук.

У школе і настаўнікі, і вучні дзівіліся з Мацеевай мужнасці — гэта ж трэба: ламаны-перабінтаваны, а ў школу ходзіць. Усе паверылі Мацею, бо былі сведкамі яго ўзлёту з журавом, і былі ўпэўненыя ў тым, што хлопчык зваліўся з вышыні і пакалечыўся.

Але для Мацея існавала адна істотная праблема: крылы былі жывой часткай яго цела і іх неабходна было вечарам аслабаняць, каб надаць ім жыватворнасць руху, бо кроў застойвалася. Мацею даводзілася рабіць своеасаблівую зарадку. А самае галоўнае — яму хацелася лятаць.

Відаць, аднойчы ўзляцеўшы, чалавек ужо не можа толькі хадзіць па зямлі — неба няўмольна вабіць да сябе.

І вось аднойчы Мацей па-даросламу рашуча заявіў бацькам:

— Хопіць бінтоў! Хопіць хавацца! Што благога ў тым, што ў мяне крылы? Гэта ж не рогі, не кіпцюры, не воўчыя іклы! Я хачу лятаць!

І ён паляцеў! Ды куды — раніцай у школу!

Што рабілася вакол Мацея, немагчыма перадаць словамі. Здзіўленне, уражанне, захапленне! Першы дзень заняткі ў школе скамечыліся, ды інакш і быць

не магло. А ўжо калі Мацейка зрабіў «паказальны палёт» над школай, ва ўсіх перахапілася дыханне. Дарослыя і дзеці крычалі «ура!», пляскалі ў далоні, абдымаліся.

Шчаслівы Мацей быў шчаслівым удвая ад таго, што не пачуў ніводнай кпіны, не ўбачыў нядобрага погляду. Ніхто не здзекаваўся, ніхто не зласловіў — усе хлопчыкі, без выключэння, адкрыта зайздросцілі яму.

А калі ў канцы верасня ён два дні без перадыху лётаў над лесам і адшукаў свайго аднакласніка і яго маленькую сястру, якія пайшлі ў лес у грыбы і заблудзіліся, Мацей зрабіўся сапраўдным героем.

Адно не падабалася яму: вельмі дакучалі розныя карэспандэнты ды тэлевізіёншчыкі, але што тут зробіш, як кажуць, слава знайшла героя.

Ішоў час. Накаціла зіма з маразамі ды завеямі. Лётаць Мацей вымушаны быў перастаць — перашкаджалі халады. Але паляцець усё ж давялося, хоць на двары ад марозу патрэсквалі дрэвы.

Захварэла ў вёсцы жанчына, якой тэрмінова неабходны былі лекі. Памкнуліся везці яе ў бальніцу альбо выклікаць «хуткую дапамогу», але ноччу папрацавала завіруха і замяла ўсе дарогі ўшчэнт. Што рабіць? Чакаць, пакуль расчысцяць дарогі — пройдзе шмат часу, а тут на ўліку кожная хвіліна.

Вось Мацейка, абкруціўшы шалікам твар і схаваўшы ў рукавіцы далоні, паляцеў у раённую аптэку. Ляцець было вельмі складана, насустрач дзьмуў

пякучы паўночны вецер, здавалася, мароз дапінаў да самых касцей. Былі хвіліны адчаю, калі сілы пакідалі Мацейку і ён гатовы быў зваліцца на заснежаную зямлю і замерзнуць. Але ён памятаў, што ад яго, магчыма, залежыць жыццё чалавека, ён ведаў, што яго чакаюць, на яго спадзяюцца. І ён працягваў ляцець і ляцець.

Купіўшы лекі ў здзіўленай аптэкаршы, Мацейка паімчаў у сваю вёску. Цяпер ляцець было лягчэй, бо вецер ужо не дзьмуў у твар, а, наадварот, дапамагаў, ды і думка пра хуткае вяртанне надавала сілы.

Вось так Мацейка выратаваў жанчыну і яшчэ больш узвысіўся ў вачах людзей.

Зіма падыходзіла да свайго заканчэння, няўмольна набліжалася вясна. Мацейка і чакаў вясну, яна і пужала яго. Ён адчуў дзіўнае раздваенне свайго сэрца — хацелася зноў стаць звычайным чалавекам, але й крылы зрабіліся часткай яго душы.

Што ж выбярэ Мацейка? Прыйдзе вясна — пабачым.



# Адважны баязлівец

Воўк, дачакаўшыся, пакуль у вокнах патухне святло і людзі лягуць спаць, скокнуў у загародку ля хлеўчука, схапіў авечку і знік з ёй у цемры. Усё адбылося настолькі хутка, што Дзік нават не зразумеў, што да чаго. А, магчыма, ён толькі зрабіў выгляд, што нічога не зразумеў, бо па сваму сабачаму характару быў баязліўцам — асабліва баяўся начной цемры. Ды і наслуханы быў пра тое, як воўк калінікалі падцікоўвае ноччу да сабачай будкі, выцягвае бедалагу за ланцуг, а раніцай гаспадары толькі ланцуг і знаходзяць.

А вось гэтай раніцай гаспадар знайшоў на месцы і сабаку, і ланцуг, затое не далічыўся авечкі. Ён убачыў у загарадцы воўчыя сляды і ўсё зразумеў.

— Праспаў, злыдзень! — напусціўся ён на саба-

ку.— Хоць бы голас падаў, хоць бы разок яўкнуў. Забіць цябе мала!

Сабака, апусціўшы галаву, моўчкі выслухваў папрокі.

«Усё правільна,— думаў ён.— Адна справа днём, у прысутнасці гаспадара, «рваць» ланцуг, кідаючыся на кагосьці і паказваючы сваю рашучасць, а зусім іншая ноччу аднаму, нос у нос з воўкам».

Ён згодзен быў вытрываць і папрокі, і нават лупцоўку, але словы «забіць цябе мала», Дзіка вельмі палохалі — ён іх успрымаў літаральна.

— Не! Мне тут не жыць больш! — уздыхнуў сабака, парваў ашыйнік і падаўся ў лес.

Страшна было ў лесе, асабліва ноччу ды і галадна.

Аднойчы Дзік нос у нос сутыкнуўся з Зайчыхай, якая бачыла ваўкоў толькі здаля. А паколькі сабака мае падабенства з ваўком, бедная Зайчыха палічыла, што трапіла амаль у пашчу лютаму драпежніку.

— Не еш мяне, воўк! — узмалілася Зайчыха.— Не рабі маіх дзетак сіроткамі. Злітуйся з нас!

Сабака ледзь не зарагатаў ад чутага, але, паколькі быў засмучаны сваім бяздомніцтвам і вельмі хацеў есці, сумна адказаў:

— Ды я зусім не воўк! Перастань дрыжаць. I хоць я галодны, есці цябе не збіраюся.

Зайчыха працягвала трэсціся ад страху і спыталася:

— А хто ты?

— Я — Дзік.

Цяпер ужо Зайчыха, каб не была моцна напалохана, рассмяялася б, бо дзікоў яна не раз бачыла і ведае, як яны выглядаюць.

— Які ж ты дзік? А дзе ж твае капыты? Дзе твой лыч? Не-е-е! Ты — воўк, я цябе пазнала.

— Ну, добра... Няхай сабе я воўк,— стомлена згадзіўся сабака.— Ідзі сваёй дарогай да сваіх дзетак, няма ў мяне ахвоты за пусты мех спрачацца.— І Дзік абмінуў зайчыху, якая без агляднкі плятанула да сваіх зайчаняткаў.

— Дзеткі родныя! — захлёбвалася яна ад шчасця.— патрапіла я ледзь не ў пашчу да самога ваўка, а ён аказаўся такім добрым, такім жартаўнікам — дзіком прыкідваўся. Але не з'еў мяне, пашкадаваў вас рабіць сіроткамі.

— Ура! Ура! — запляскалі ў ладкі зайчаткі.

Зайчыха іх абняла і папярэдзіла:

— Вы сядзіце тут ціха, а я збегаю да людзей на грады і, можа, морквачкі прынясу вам,— і знікла.

Дзік ціхенька з-за куста назіраў за шчаслівым сямействам і не мог намілавацца на зайчанятак — такія яны былі прыгожыя.

А яны працягвалі радавацца:

— Ура! У нас будзе морквачка! Дзякуй ваўку-жартаўніку! Ура добраму ваўку!

Раптам з-за другога куста выйшаў на шум сапраўдны ваўчына.

— Хто тут у нас добры? — рыкнуў ён. І каму «ура»?

— Вам! Вам ура! — заскакалі зайчаняткі.— Вы такі добры, нашу маму не з'елі. Мы вас любім, дзядзечка воўк!

Воўк смачна аблізнуўся:

— І я вас вельмі люблю! Але больш моцна я буду любіць вас разам з вашай мамай. Дзе яна?

— Яна пабегла за морквай! — у адзін голас адказалі зайчаняткі.

— Морква?.. Фу, якая гадасць! — плюнуў воўк.— А хутка яна вернецца?

— Не! Яна толькі што пабегла.

Воўк зноў смачна аблізнуўся.

— Ну, тады я спачатку з'ем вас, а вашу маму пачакаю тут.

Дзік, хоць і быў баязліўцам, не мог не заступіцца за такіх прыгожанькіх і такіх безабаронных зайчаняткаў. Ён мужна скочыў з-за свайго куста і сабой закрыў ад ваўка маленькіх вушасцікаў.

— Толькі праз мой труп! — ашчэрыў сваю пашчу сабака. Іх табе я не аддам!

Воўк ад нечаканасці разгубіўся, але хутка зразумеў, з кім мае справу:

— Вой! Хто гэта?.. Гэта той, хто ноччу носу з будкі не вытыркае? А я збіраўся наведацца да цябе ды пашкматаць зубамі тваё нутро. А ты сам прыпоўз на паўсагнутых да мяне. Ну, трымайся!

І яны адначасова кінуліся адно на аднаго.

Поўсць ляцела шматкамі на ўсе бакі, пена з раз'юшаных пашчаў, разам з крывёю афарбоўвала ў чырвоны колер зямлю пад імі, хрыпенне і рык аглушалі наваколле. Немагчыма было разабраць, дзе хто — адзін жывы клуб маланкава круціўся на зямлі, ламаючы кусты і сухое голле. Воўк быў мацёры і больш дужы, але за сабакам сціснуліся ў перапалоханы камячок маленькія дзеткі-зайчаняткі, чыё жыццё зараз цалкам залежала ад выніку гэтага смяртэльнага паядынку.

Нарэшце абодва — сабака і воўк, рухнулі на зямлю, як мёртвыя. Але мёртвым быў толькі адзін — воўк, а Дзік не меў сіл нават варухнуцца, бо ўсе іх аддаў дзеля перамогі жыцця над смерцю.

— Ура! — Дзеткі, я нясу вам морквачку! — пачулася з-за кустоў.

Але ніхто гэта не пачуў... Дакладней, пачулі ўсе, але ніхто не зрэагаваў. Зайчаткі — таму, што былі ледзь жывыя ад жаху за перажытае, а сабака — таму, што пакуль не было сіл радавацца ні перамозе, ні моркве.

Зайчыха акамянела ад відовішча:

— Во-о-о-ой!.. Што гэта, воўк забіў ваўка?..

Сабака варухнуўся і падняў галаву:

— Колькі разоў табе казаць, што я не воўк, а Дзік? І гэта я забіў ваўка. Я — сабака. Зразумела?

Зайчыха разгублена паціснула плячыма:

— Ага, зразумела... Дзік і сабака забілі ваўка...

Гэты адказ Зайчыхі падняў настрой у сабакі і надаў яму сілы. Дзік падняўся на лапы і зірнуў на бяздыханнага ваўка:

— Вось ты ляжыш, а я стаю на прамых лапах... А ты казаў, на паўсагнутых. А цяпер я пацягну цябе ў твой апошні шлях.— І, схапіўшы зубамі за карак ваўка, Дзік з цяжкасцю пацягнуў яго туды, адкуль нядаўна збег, будучы баязліўцам.

Убачыўшы свайго вернага сабаку ды яшчэ з такім трафеям, гаспадары абнялі Дзіка, накармілі яго і больш ніколі не дакаралі, нават за моцны сон у будцы.

З кім не бывае!..





# Папарацьь-кветка

Сцяпанка за сваё кароткае свядомае жыццё не аднойчы чуў пра таямнічую папараць-кветку. Ледзь толькі падыходзіла свята Купалле, як назва гэтай кветкі не зыходзіла з языкоў і моладзі, і сталых людзей. Дзеці з цікавасцю «развешвалі вушы», слухаючы пра папараць-кветку, але ніяк не маглі зразумець — што да чаго. Што гэта за кветка такая, якая ніколі не цвіце, але якую ўсім хочацца знайсці? Чуў Сцяпанка, што некаторыя маладыя адчюгі давалі нырца ў цёмную Купальскую ноч і блыталіся ў лесе да раніцы, але вярталіся з пустымі рукамі. Ды і само свята Купалле Сцяпанка не зусім разумеў. Раскладвала моладзь вогнішчы ля рэчкі і скакала праз агонь... Падумаеш! Сцяпанка з сябрамі распальваў кастры не адзін раз за лета. І што? Гэта — свята?

Альбо плялі дзяўчаты вянкі і кідалі іх у рэчку, кожная пры гэтым прышэптваючы штосьці... А вось кветка, якая ніколі не цвіце, гэта — цуд! Знайсці б яе! А яшчэ кажуць, што гэта кветка выканае любое загаданае жаданне. «Эх, мне б маё жаданне шаптануць той кветачцы!» — уздыхнуў Сцяпанка.

А жаданне ў хлопчыка вельмі важнае. У другім класе, дзе вучыўся Сцяпанка, вучылася і Алёнка, курносая задавака, якая вельмі Сцяпанку падабалася. Але гэтая ганарліўка яго нават не заўважала, а ўсё заглядалася на Вадзіма, нахабнага і дзёрзкага «татава сыночка». Вадзіма Алёнкіна ўвага забаўляла, тым больш, што ён бачыў зацікаўленасць Сцяпана да дзяўчынкі.

Вось хлопчык і вырашыў гэтай Купальскай ноччу, употай ад бацькоў, паспытаць шчасця.

«Ды не можа быць,— думаў ён, каб гэта кветка не існавала! Вунь колькі ў лесе папаратнікаў — хоць адзін жа павінен зацвісці!»

І Сцяпанка, дачакаўшыся, пакуль заснуць бацькі, ціхенька праслізнуў праз дзверы і падаўся ў лес. Ой жа ж і страшна было ў начным лесе, асабліва тады, калі хмаркі напаўзалі на месяц.

Хлопчык чапляўся нагамі за нейкае ражонне, натыкаўся лбом на калючы яловы лапнік, раз-пораз падаў і зноў паднімаўся. Ён прысядаў ад жаху, калі чуў то справа, то злева «фу-фу-фу-у» альбо «гу-гу-уу». «Гэта не вядзьмак, гэта — совы...» — Супакойваў Сцяпанка сябе і працягваў пятляць па чарнаце

начнога лесу. Ён яшчэ не ведаў, што даўно ўжо заблудзіўся, але прага знайсці кветку, якую яшчэ ніхто не знаходзіў, штурхала хлопчыка глыбей і глыбей у лес, далей і далей ад дому.

Нарэшце ён стаміўся і прысеў на нейкую нябачную карчажыну.

— Не, відаць не знайсці і мне таямнічую кветку... — з горыччу прашаптаў Сцяпанка.— Трэба вяртацца...

Раптам ён жахнуўся:

— Лёгка сказаць, вяртацца! А ў які бок ісці? Дзе вёска, дзе мой дом? Вакол — страх і ноч...

Хлопчык кінуўся ў адзін, другі бок, натыкаючыся на голле і зразумеў — ён заблудзіўся. У адчаі Сцяпанка крыкнуў, але рэха жудасна замітусілася па цемры лесу, быццам нехта таямнічы і незнаёмы шматгалоса перадражніў яго. Ад гэтага зрабілася яшчэ больш страшна і адзінока.

Далей хлопчык ціхенька прадзіраўся праз нябачны гушчар. Раптам ён убачыў воддаль, між дрэвамі агеньчык, які, як здавалася гойдаўся і вабіў да сябе.

— Ура! Касцёр! Людзі! — усклікнуў пасмялелы начны вандроўнік. Я тут! Эгэ-гэ-эй! — закрычаў Сцяпанка і, чапляючыся адзеннем за ражны, кінуўся да агню. Але, падбегшы бліжэй, ён сцішыў свой бег і нават зусім спыніўся. Гэта быў не касцёр, а... штосьці зіхцела і адсвечвала на бліжэйшыя дрэвы дзівосным святлом.

Сцяпанка ажно затросся ад хвалявання і захаплення — гэта была яна, папараць-кветка! Яна! Таямнічая, такая жаданая, папараць-кветка!

Хлопчык ціхенька, амаль не дыхаючы, быццам мог спалохаць гэты цуд, наблізіўся да кветкі і не мог надзівіцца, намілавацца на казачную прыгажосць адвечнай мары тых, хто працягваў верыць у існаванне «неіснуючай» папараць-кветкі. Яна пагойдвалася на высокай сцяблінцы між папаратніку і выпраменьвала шматкаляровую вясёлкавую прыгажосць. Здавалася, што ўсе колеры, якія ёсць на гэтым свеце, увабрала ў сябе папараць-кветка, і цяпер шчодра дорыць іх начному лесу і, цяпер ужо, Сцяпанку — першаадкрывацелю самай вялікай, казачнай тайны.

Хлопчык з пашанай схіліўся над кветкай і з душэўнай цеплынёй прашаптаў:

— Прабач, кветачка! Я вымушаны цябе сарваць, інакш мне ніхто не паверыць, што ты паказалася менавіта мне... Даруй, родненькая! — і Сцяпанка асцярожна ўзяўся за сцябло ля самай зямлі і далікатна сарваў папараць-кветку. Шматкаляровасць, якую выпраменьвалі яе пялёсткі, адразу згасла, як бывае з лямпачкай пасля адключэння электрасвятла.

Цемра яшчэ больш пачарнела, але душу хлопчыка працягвала асвятляць дзіўная прыгажосць дзівоснай кветкі і ён бадзёра і смела пакрочыў, як яму здавалася, у бок сваёй вёскі.

Пачало днець. Першыя палоскі ранішняй зары прагналі цемру з лесу і Сцяпанка зноў адзначыў,

што не ведае, у які бок ісці. Але гэта было не галоўнае расчараванне. Зірнуўшы на папараць-кветку, хлопчык ледзь не заплакаў: у руцэ было толькі сцябло нейкай расліны, а цудоўная кветка знікла. Відаць, яна жыве толькі адну ноч на Купалле, а, з надыходам раніцы, пераходзіць зноў у прастору легенд і мараў, каб праз год чарговы раз зацвісці ў патаемным кутку начнога лесу.

Такая думка крыху супакоіла Сцяпанку і ён падаўся насустрач ружовасці раніцы, упэўнены ў тым, што яна, раніца, прывядзе яго дадому.

Але прывяла дахаты Сцяпанку не раніца, а яго бацькі, якія спахапіліся ноччу, што сына няма дома і паднялі вяскоўцаў на дапамогу, бо ведалі пра мару Сцяпанкі пра таямнічую папараць-кветку. Яны прачэсвалі лес, шукалі і гукалі — гукалі і шукалі, пакуль не сустрэлі яго, знямоглага і абадранага, але самага шчаслівага на свеце.

— Мама! Тата!  Усклікнуў ён, калі ўбачыў бацькоў і аднавяскоўцаў. Я знайшоў таямнічую папараць-кветку! Вось, толькі сцяблінка ад яе засталася!

Сцяпанкаў бацька ўсміхнуўся:

— Гэта ж, сынок, звычайная...

Але маці ціхенька штурханула бацьку пад бок: «Навошта ты пазбаўляеш яго мары?..» Бацька спахапіўся і ўжо радасна працягваў:

— Гэта ж, сынок, звычайная... справа — ноччу кветка цвіце, а раніцай ад яе застаецца толькі сця-

блінка. Віншую, сынок, ты першы, хто адшукаў папараць-кветку!

Назаўтра вёска толькі і гаманіла пра тое, як дзевяцігадовы Сцяпанка мужна пайшоў адзін ноччу ў лес шукаць загадкавую кветку.

Сцяпанка адчуваў сябе героем, але адчуў сапраўднае шчасце пасля таго, як Алёнка, сустрэўшы яго з цеплынёй сказала:

— Я ганаруся табой, Сцяпанчык! Ты такі мужны!

— А Вадзім?..— спытаўся хлопчык.

Дзяўчынка весела засмяялася:

— Ды ён, баязлівец, і днём у лес не пойдзе! — затым зірнула ў вочы Сцяпанку і спыталася: — Хочаш, будзем сябраваць?!

Сцяпанка толькі цяпер успомніў, што той ноччу, ад хвалявання і захаплення, забыўся загадаць кветцы сваё запаветнае жаданне пра сяброўства з Алёнкай і вось жаданне спаўняецца, значыцца, папараць-кветка сапраўды чароўная і ўсё пра ўсіх ведае.

Алёнка здзівілася такой доўгай паўзе з боку Сцяпанкі і перапытала:

— Дык хочаш, будзем сябрамі?!

— Хачу! Хачу! — засвяціўся шчасцем Сцяпанка.



# Другое «я»

Янка ў сваім класе быў для ўсіх прыкладам. І вучыўся на «выдатна», і ў самадзейнасці ўдзельнічаў, і грамадскае жыццё класа і школы цікавіла яго.

Вырашаючы спрэчныя пытанні, заўсёды праяўляў прынцыповасць і мог сказаць нават самую горкую праўду ў вочы лепшаму сябру.

Але ў трэцім класе ён пачаў заўважаць у сваіх паводзінах, у сваіх учынках непрыемныя перамены. Быццам у ім пасяліўся другі чалавек — другі Янка. І самай вялікай непрыемнасцю было тое, што ранейшы станоўчы, прынцыповы Янка, пачаў падпарадкавацца свайму нябачнаму двайніку.

Цяпер першы Янка на класным сходзе толькі раскрываў рот, каб пакрытыкаваць прагульшчыкаў ды двоечнікаў, як другі ўнутраны голас нашэптваў

яму сваё. І тады прынцыповы Янка, на здзіўленне ўсім, казаў:

— Ну, прагулялі яны...Ну, адзнакі ў іх благія... Што гэта, канец свету? Даруем ім.

Ці не таму ён так «прынцыпова» заступаўся за гультаёў і парушальнікаў школьных парадкаў, што сам пачаў паціху адлыньваць ад вучобы? Магчыма, і захвалілі яго, чым кінулі ў душу семя зазнайства.. Ды душа душой, а Янка розумам заўважаў, што з ім адбываецца штосьці недарэчнае, бо і аднакласнікі, і вяскоўцы пачалі адварочвацца ад яго.

Ён прыкладаў усе намаганні, каб адолець сваё другое «я», але яно ўпарцілася і прымушала хлопчыка маніць, хітрыць і лындзіць.

Каб пазбавіць сябе ад гэтай вымотваючай унутранай барацьбы з самім сабой, Янка адны вечарам, уціхую ад чужых вачэй, падаўся да хаты, якая прытаілася на ўскраі вёскі і ў якой жыў адзінокі стары дзед. Хтосьці называў яго чарадзеем, нехта шэптам казаў, што ён вядзьмак — і хату таго дзеда стараліся абыходзіць усе.

Боязна было Янку, але ён перасіліў свой страх і адчыніў дзверы да таямнічага старога.

У хаце панаваў прыцемак, але гаспадар быў у белай вопратцы, магчыма, нават у сподняй бялізне, меў доўгую сівую бараду, таму хлопчык убачыў яго на лаве ля акна.

Янка хацеў прывітацца, але ад напругі і хвалявання, язык не паслухаўся яго, і хлопчык моўчкі працягваў пераступаць з нагі на нагу.

— Заходзь, саколік,— пачуў Янка ціхі і мяккі голас старога.

Янка няўпэўнена зрабіў некалькі крокаў і зноў стаў.

— Я да вас, дзядуля,— дрыготкім голасам абвясціў хлопчык.

— Вось таму і праходзь! — паўтарыў запрашэнне дзед.— Праходзь і сядай,— і паказаў на табурэтку насупраць сябе.

Янка баязліва сеў на табурэтку і сціснуўся ў камячок.

— Якія ж справы цябе прывялі да мяне, саколік? — ласкава спытаўся стары,і Янка адчуў, як страх яго кудысьці знік. Ды і дзед падаўся яму ветлівым і спагадлівым.

Янка падрабязна расказаў пра свае нягоды апошняга часу, прызнаўся ў сваёй слабасці і няўпэўненасці, а ў канцы скрозь слёзы папрасіў:

— Дапамажыце, дзядуля!

Дзед доўга маўчаў, відаць, асэнсоўваючы чутае, затым сказаў:

— Тое, што ты прызнаўся ў сваёй слабасці — ужо не слабасць, а твая мужнасць... Але што б ты хацеў, якое ратаванне?

— Я хачу пазбавіцца ад таго другога сябе, які псуе мне жыццё.

— Пазбавіцца? — перапытаў дзед,— Пазбавіцца ты можаш двума шляхамі: перамагчы яго...сябе ў сабе ці...

І дзед змоўк.

— Ці што? — напружана спытаў Янка.

— Ведаеш, саколік, мне не хочацца называць другі варыянт, бо першы, на маё разуменне, больш правільны. Але, калі ты настойваеш, я магу прапанаваць увогуле адрынуць тваё другое «я» ад цябе. Ты будзеш жыць сам па сабе, а той, другі ты — будзе існаваць самастойна, незалежна ад цябе. Ну, што ты выбіраеш?

Янка, не вагаючыся, ускочыў з табурэткі:

— Другі! Другі варыянт!

— Няхай так і будзе, саколік,— і дзед устаў з лавы, даючы зразумець хлопчыку, што размова закончана.

Янка падзякаваў, развітаўся з дзедам, які зусім не быў падобны на ведзьмака і з палёгкай пакрочыў дамоў.

Але палёгка хутка мінула, бо хлопчык не разумеў, а што ж далей? Дзед нагаварыць нагаварыў усякага ўсяго, але ж нічога не зрабіў, нават ніякіх лекаў не прапісаў.

Назаўтра Янка, як заўсёды, раніцай бадзёра пабег у школу. Настрой — выдатны, урокі былі вывучаны «на зубок», яго, як і раней цікавіла жыццё класа і ўвогуле жыццё.

І настаўнікі, і вучні заўважылі станоўчыя перамены ў колішнім выдатніку — і верылася, што ўсё будзе па-ранейшаму, самым лепшым чынам.

Ды і сам Янка адчуў, што той непрыемны ўнутраны голас сціх, што ў душы светла, на сэрцы лёгка.

Але, вяртаючыся са школы дамоў у гэты ж дзень, Янка пачуў, як хтосьці яго гукнуў. Хлопчык азірнуўся і ледзь не самлеў — за ім стаяў ён сам, Янка.

Сапраўдны Янка Ліхаманкава выкрыкнуў:

— Ты хто?!

— Я? Ха-ха-ха! — зарагатаў нечакана двайнік,— Я — ты! Я той, каго ты выгнаў з сябе! Ды ты мне цяпер зусім не трэба! Я — самастойны, што хачу, тое і раблю.

— І ты мне не трэба! — злосна адгукнуўся Янка.— Прэч адсюль! Прэч назаўсёды!

— Не хвалюйся! — зноў зарагатала другое Янкава «я»,— Больш ты мяне не ўбачыш, хаця чуць пра мяне табе давядзецца часцяком.

І Янкаў двайнік растаў у паветры, быццам яго і не было тут.

Настрой у хлопчыка быў сапсаваны, бо ён нават падумаць не мог, што такое магчыма, што ён, Янка, раздваіцца вось так ідавочна. Гэта яму не падабалася, але надзея, што двайнік больш не сустрэнецца, падняла настрой.

Прайшло некалькі дзён, поўных цікавага для Янкі школьнага і пазашкольнага жыцця.

У школе ладзілася вечарына пад агульнай тэмай: «Мая Радзіма — Беларусь». Ад кожнага класа, пачынаючы з першага і да адзінаццатага, рыхтаваўся выступіць толькі адзін вучань і па выніках выступленняў пераможцаў чакалі тры першых месцы.

Тэма была цікавая і давала магчымасць кожнаму выступоўцу праявіць сваю любоў да Радзімы і веданне гісторыі роднага краю.

Ад трэцяга класа рыхтаваўся выступіць Янка, якому прадказвалі першае месца. Але ў дзень правядзення вечарыны Янка нечакана захварэў, аб чым патэлефанавалі ў школу. Пачалі тэрмінова шукаць новага выступоўцу ад трэцяга класа. Зрабіць гэта было не складана, бо кожны, хто нарадзіўся і жыве ў Беларусі, шмат цікавага можа распавесці і пра сваю Радзіму.

І вось перад самым пачаткам урачыстасці, у школе з'явіўся Янка. Усе, хто ведаў пра яго захворванне, кінуліся да яго:

— Як тваё адчуванне? Навошта ж ты рызыкуеш сваім здароўем? Ты — сапраўдны патрыёт! — а потым пацікавіліся: — Будзеш выступаць ці не?

— Дзеля гэтага я тут! — нядбайна адказаў Янка,— Вы тут усе, у параўнанні са мной, слабакі.

Настаўнікі і вучні разгублена пераглянуліся, але рабіць вынікі з пачутага не было калі, бо аб'явілі першага выступоўца, як і належыць, ад першага класа.

Янка выступаў трэцім. Расхрыстаўшы пінжак, раскудлаціўшы валасы і запхнуўшы рукі ў кішэні штаноў, ён, здавалася, выплёўваў словы праз губу:

— Гісторыя Беларусі, ды будзе вам вядома, гэта — гісторыя, а не геаграфія, тым больш, не фізкультура. Мая Радзіма — Беларусь таму мая, што я ў ёй жыву і лічуся лепшым вучнем трэцяга класа...

Ён, магчыма, і далей плёў бы языком усякую лухту, але на сцэну выбегла збянтэжаная настаўніца і звярнулася да прысутных:

— Прабачце, шаноўныя! Янка ўстаў з пасцелі хворы, у яго гарачка, тэмпература. Ён не разумее, што гаворыць.

— Я больш за цябе разумею! — перайшоў на «ты» Янка, дакладней, не сапраўдны Янка, а яго другое, самастойнае «я». Давялося сілком сцягнуць са сцэны «лепшага вучня» трэцяга класа.

Вечарына працягвалася, але настрой ва ўсіх быў сапсаваны, не кажучы пра тое, што трэці клас заняў апошняе месца.

Калі сапраўдны Янка праз два дні з'явіўся ў школе, яго абступілі аднакласнікі і даволі холадна папракалі:

— Лепш бы ты не ўставаў з пасцелі і не выступаў на вечарыне ад імя нашага класа. Ты такое гарадзіў са сцэны, што ў нас вушы гарэлі ад сораму.

— Да вы што? — пратэставаў Янка,— Я не быў у школе і не выступаў!

— Манюка! —зашыкалі на яго вучні,— Ды ты яшчэ, у дадатак да ўсяго і манюка. Хоць бы пачырванеў!

Толькі цяпер Янка здагадаўся і пахаладзеў: выступаў у школе яго двайнік. Вось чаму ён тады са здзекам сказаў: —»Чуць пра мяне давядзецца часцяком...!

«Дык я не пазбавіўся ад яго! — жахнуўся хлопчык,— Я наадварот, нажыў сабе такога каварнага і непрадказальнага ворага...!

Дома Янку чакала новая непрыемнасць.

— А, вярнуўся! Тваё шчасце, што бацькі не было дома, ён табе ўсыпаў бы на арэхі! — запрычытала маці,— І адкуль у цябе такая дзёрзкасць, Янка?

Хлопчык лыпаў поўнымі слёз вачыма. Ён зразумеў, што яго двайнік і дома штосьці натварыў.

— Што, мама? Што адбылося?

— Ты яшчэ пытаешся, што адбылося! Ты ж некалькі хвілін таму, як бура, уляцеў у хату, я спыталася:— Што здарылася? Што, у школе непрыемнасці? А ты што мне адказаў? Ты закрычаў: — Дык чхаў я на вашу школу і на вас усіх! Надакучылі вы мне да чорцікаў, абыдуся і без вас! — пасля чаго выбег з хаты! Вось ты праз некалькі хвілін вяртаешся і робіш выгляд, што нічога не здарылася.

— Мама! Мамачка! — узмаліўся Янка,— Гэта быў не я!

Маці спалохана глянула на сына:

— Яначка, ты здаровы?.. Як жа «быў не я?» Ці ж я ўжо свайго сына пазнаваць перастала?

Янка зноў даўся ў дзверы і, не хаваючыся ад чужых вачэй, з усяе сілы пабег да сівога дзеда.

— Дзядуля, дарагі, родны, што мне рабіць? Маё другое «я» злыднічае, паскуднічае ад майго імя. Яно хутка перапсуе ўсё маё жыццё. Нават мама...

— Хопіць! — перапыніў дзед Янку. Памятаеш, я

прапаноўваў табе два варыянты вырашэння тваёй праблемы? Я засяроджваў тваю ўвагу на першым...

— Помню,— апусціў галаву хлопчык.

— Дык вось, даражэнькі, свайму другому «я» нельга патрафляць і дазваляць выходзіць з-пад кантролю. Тым больш, нельга даваць яму волю! Не ты першы, Янка, выпусціў свайго двайніка ў самастойнае існаванне. Шмат іх, двайнікоў, гуляе па свеце, ганьбячы сваіх сапраўдных і годных гаспадароў.

— Што ж цяпер рабіць? Як мне жыць далей? — прашаптаў хлопчык.

— Змагацца з ім трэба і перамагчы сваё другое свавольнае «я» — рашуча параіў дзед.

— А як жа мне з ім змагацца, калі яно мяне пазбягае?

— Дык вось, саколік, цяпер, пасля нашай гутаркі, я адкрыю табе сакрэт: ты да мяне ўжо прыходзіў учора.

— Я ў вас не быў! — падскочыў Янка.

— Паспрабуй вас распазнаць, хто з вас быў, хто не быў, калі вы, як дзве кроплі вады,— усміхнуўся дзед,— А вось, выслухаўшы вас абодвух, я зразумеў, што сапраўдны Янка ўсё ж ты. Той, які быў учора, прасіў дапамагчы знішчыць цябе ўвогуле, каб без перашкаджаў існаваць аднаму. Ён так і сказаў «існаваць». Сапраўдны жывы чалавек прагне жыць, а не існаваць. Я паабяцаў яму дапамагчы, таму заўтра ён зноў будзе тут.

— А як жа яго злавіць, дзядуля? Ён жа імгненна знікае, растае ў паветры.

Дзед супакоіў:

— Ты — яго паветра. Ты — адзінае «я», і сваё, і яго. Ён, твой двайнік, не разумее, што існаваць без сапраўднага Янкі не здольны, што ў яго адна дарога — туды, адкуль з'явіўся.

— А як жа яго злавіць? — паўтарыў сваё пытанне Янка.

— Дык вось,— пацягваў дзед,— прыйдзі заўтра да мяне раней і схавайся вунь туды, за печ. Як толькі сярод маёй з ім размовы пачуеш пытанне: —Запытаць чарга мая — ты чыё другое «я»?, хуценька стань перад сваім двайніком. Ён міжволі павінен паказаць на цябе і адказаць:— «Яго!» Ты, зноў жа хуценька загадай: «Марш на месца!» — астатняе ўбачыш сам.

Назаўтра сапраўдны Янка, як мыш, затаіўся за дзедавай печчу і напружана чакаў сустрэчы з сваім другім «я».

І вось адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў хлопчык, якога нельга было адрозніць ад таго, хто сядзеў за печчу.

— Здарова, дзед! — прывітаўся ён,— Я зноў прыйшоў да цябе за дапамогай.

— І што ж ты хочаш? — спытаўся стары.

— Я ж табе ўжо мінулым разам казаў.— выказаў сваё нецярпенне гэты хлопчык.

— А я стары, я забыўся. Паўтары! Язык не адломіцца.

— Ну, старэча, ты мяне нервуеш! Я ў цябе пытаўся тады і зноў пытаюся, як знішчыць таго, другога Янку? Як?

Дзед ўзвысіў голас, каб Янка за печчу зразумеў, што надыйшоў яго час і зычна прамовіў:

— Запытаць чарга мая — ты чыё другое «я»?

Сапраўдны Янка спрытна выскачыў з-за печы і стаў перад сваім двайнікам. Той не паспеў і вокам міргнуць, як з яго вуснаў сарвалася: «Яго!»

— Марш на месца! — крыкнуў Янка свайму другому «я», і абрыс хлопчыка-двайніка загойдаўся ў паветры, наблізіўся да Янкі і растаў у ім.

Сапраўдны...не, цяпер ужо адзіны Янка, ад здзіўлення не мог варухнуцца.

— Ну вось,— пачуўся голас дзеда,— справа зроблена... Зроблена, ды не завершана. А завяршаць яе будзеш ужо толькі ты, Яначка. Завяршаць будзеш на працягу ўсяго свайго жыцця. Галоўнае, заўсёды памятай, што другое «я», на тое яно і другое, каб са сваімі спакусамі і непрыстойнымі памкненнямі, падпарадкоўвацца табе, адзінаму гаспадару свайго жыцця. Забудзешся на гэта, дасі паслабленне свайму другому «я», якое ніколі не спіць, і зноў нажывеш непрыемнасці.

Янка страпянуўся:

— Ой, дзядуля, дзякуй вам! Цяпер я ведаю, як мне жыць далей!



# Хто самы прыгожы?

Сабраліся неяк адной парой кветкі і загаманілі, і горача заспрачаліся. Кожная вытыркалася наперад, кожная ўхваляла сваю прыгажосць і свае якасці.

Ружа называла сябе царыцай над усімі кветкамі і патрабавала, каб і астатнія сяброўкі называлі яе гэтак сама.

Яна грацыёзна распраўляла свае пялёсткі і нахвальвала сябе:

— Яшчэ ў старажытнасці я была радасцю Афрадзіты. У тыя ж старажытныя часы ў Індыі той, хто прыносіў ружу цару, мог прасіць за гэта самы дарагі падарунак. Паэты ўсіх часоў і народаў складалі пра мяне ўзнёслыя оды. Вось такая я!

— Ты прыгожая,— пагаджаліся сяброўкі,— але ж салавей, прыціскаючы ноччу цябе да сваіх грудзей, не заўважыў тваіх шыпоў і параніў сабе сэрца.

Наперад ганарліва падаўся нарцыс:

— Ха! Падумаеш, ружа ды ўсе вы тут астатнія! Я самы грацыёзны і непаўторны! Сам Магамед сказаў пра мяне: « У каго ёсць два хлябы, хай той прадасць адзін і купіць нарцыс, як ежу для душы. А персідскі цар Кір называў мяне бессмяротнаю асалодаю. Ад мяне нельга адарваць вачэй!

Астатнія кветкі запярэчылі:

— Ды ты толькі сам без памяці ўлюблёны ў сябе, ад люстэрка не адыходзіш. Фі!

Раптам пачуўся мілагучны перазвон званочкаў і прыемны водар напоўніў сабой паветра.

Гэта лясны ландыш звярнуў на сябе ўвагу:

— Я, магчыма, і не самы кідкі сваёй прыгажосцю сярод вас, але мая сціпласць мае сваю непаўторную прыгажосць. А мой пах зачароўвае людзей, натхняе паэтаў і мастакоў, вяртае ўсіх нас да майскай пяшчоты.

— Калі ўжо ты нагадаў мастакоў, нізкаросцік,— зірнуў зверху на ландыша бэз,— дык і мяне не абыходзіць сваёй увагай ніводзін мастак. Нават славуты Паленаў напісаў карціну «Бабушкін сад», дзе ад мяне нельга адарваць вачэй. А што тычыцца паху, дык я дыхаю водарам больш вытанчаным, чым ты, і ад майго паху ні ў кога не баліць галава.

Кветкі зашапталіся:

— Прыпёрся сюды з Персіі, а ўсім рот затыкае.

Бэз гэта пачуў і пакрыўдзіўся:

— Ну і што з таго, што мая радзіма Персія? Я ўжо сотні гадоў жыву тут, упрыгожваю гэту зямлю і даўно заслужыў права на беларускае грамадзянства.. Ды і амаль усе вы родам з розных канцоў зямлі, і вас прытуліла Беларусь пад сваім небам,— і бэз яшчэ раз падкрэслена ганарліва зірнуў зверху ўніз на сваіх апанентаў.

Штосьці важнае хацеў сказаць піён, захвалявaліся фіялкі і незабудкі, не кажучы пра цюльпана і лілею, але ўсе раптам убачылі хлопца і дзяўчыну, якія ішлі ў бок кветак.

Кветкі адразу пазналі, што ідуць закаханыя, бо каму, як ні кветкам яшчэ здаля адчуваць каханне?

— Вось зараз і пабачым,— самаўпэўнена зашаптала ружа,— каго з нас падорыць хлопец сваёй каханай! — і яна непрыкметна для астатніх, падалася наперад, каб першай звярнуць на сябе ўвагу.

Нарцыс гэта заўважыў і хацеў тузануць ружу на сваё месца, але напароўся на шып і паспеў толькі войкнуць, бо маладыя ўжо наблізіліся да кветак.

— Глянь, якая прыгажосць! — усклікнула дзяўчына,— колькі цудоўных кветак у адным месцы, быццам у іх тут кірмаш ці нейкая нарада. Вочы разбягаюцца! Цуд ды і толькі!

Маладыя спыніліся і дзяўчына неяк загадкава зірнула на свайго абранага. Хлопец перахапіў гэты погляд і здагадаўся, што каханая чакае ад яго цудоўнага падарунку.

Зразумелі гэта і кветкі, напружыліся і ледзь прыкметна заківалі галоўкамі.

Хлопец, не вагаючыся, падыйшоў да васілька, асцярожна ўзяў яго ў руку і працягнуў сваёй спадарожніцы.

— Вось, мая самая любімая кветачка — васілёк!

Астатнія кветкі разгубіліся, затым абурыліся: — Выбраў не нас, а нейкі быльнёг, які блытаецца ў жыце. Якая бязгусціца!



Але хлопец не пакрыўдзіўся, бо не разумеў мову кветак, і перадаючы васілька дзяўчыне, працягваў:

— Дзіўная кветачка васілёк! Расце толькі побач з жытам ці ў жыце, таму яго многія памылкова лічаць былью нёгам. Расказваюць, быццам неба калісьці абурылася на жыта: усе ўслаўляюць мяне, усе цягнуцца да мяне, вачэй з мяне не зводзяць, адно толькі ты сваімі каласамі адварочваешся ад мяне, гнешся да зямлі.

Жыта апраўдвалася: — Не крыўдуй, сіняе неба! Мае каласы набіраюць сокі зямлі, ацяжарваюцца і гнуцца да зямлі. Мае каласы павінны карміць людзей. Без хлеба не будзе жыцця на зямлі...

Зл ітавалася неба і кінула частку сябе сінімі кроплямі на жытнёвае поле. І прараслі тыя кроплі сінімі васількамі.

— Вось цяпер,— сказала неба жыту,— твае каласы, нахіляючыся да зямлі, будуць заўсёды бачыць мяне.

— Якая дзіўная гісторыя! — усклікнула дзяўчына, з любоўю зірнуўшы на васілька.

— Сапраўды дзіўная! — загаманілі кветкі, а мы думалі...

Хлопец працягваў:

— А між тым, васілёк — адна х самых любімых кветачак славутага Максіма Багдановіча. Нездарма сваю кніжку паэзіі ён назваў «Вянок». Па-праўдзе кажучы, я люблю і астатнія кветкі, яны — непаўтор-

ны цуд! І ружа-царыца, і нарцыс-прыгажун, і лясны духмяны ландыш — і ўсе-усе-усе! Але я з маленства рос побач з васількамі, а яны — побач са мной. У іх, сапраўды жыве часцінка нашага беларускага неба. Да таго ж, колерам яны, як тваe, Васілінка вочы. Якое дзівоснае спалучэнне: васілёк для Васілінкі! — і маладыя, абняўшыся, пайшлі далей, беражліва трымаючы васілёк.

— Я ж казала, што я царыца!— страпянулася ружа,— чулі, што сказаў хлопец?

— А я — прыгажун з прыгажуноў! — заганарыўся нарцыс, зірнуўшы ў кішэннае люстэрка.

— А я!

— А я!..

Доўга яшчэ чулася ў чароўнай квецені зямлі «а я!» і «я»кожнай кветачкі мела права называцца самым прыгожым «я», бо непрыгожых кветак не бывае.



# Мара

Стасік, як і ўсе дзеці яго ўзросту, любіў маляваць. Сядзіць над лістом паперы, нізка нахіліўшы галаву і незразумела, алоўкам ён выводзіць на паперы ці носам.

Калі нехта з бацькоў, ідучы ў краму, пытаўся ў яго: — «Ну, які ласунак табе прынесці?»— ён коратка адказваў: «Алоўкі!»

І бацькі, разам з ласункам, прыносілі яму і каляровыя алоўкі, і альбом для малявання.

Стасік маляваў зайцоў, кветкі, птушак ды матылькоў. Ішлі гады, ён намаляваў дзяўчынку. Ды такую прыгожую, што не мог адарваць вачэй ад свайго тварэння.

На малюнку была толькі галава дзяўчынкі — яе выразлівыя, амаль жывыя вочы, яе, з лёгкай усмеш-

кай вусны, і сцякаючыя лёгкімі хвалямі на два бакі, валасы. Стасік адклаў у бок партрэт і хацеў намаляваць яшчэ што-небудзь, але твар дзяўчынкі непакоіў і прыцягваў да сябе.

Ішлі дні. Цяпер, прыбегшы са школы. Стасік, найперш, чым есці ці садзіцца за выконванне хатняга задання, даставаў партрэт і падоўгу глядзеў яму ў вочы.

Непрыкметна для сябе, хлопчык па-дзіцячаму закахаўся ў намаляваную ім жа дзяўчынку. Ён нават павесіў партрэт над сваім ложкам, каб заўсёды бачыць яго.

Маці аднойчы спыталася:

— Хто гэта, Стасік? Каго ты намаляваў? Як яе імя?

— Не ведаю,— сумна адказаў ён,— А імя я даў ёй Мара.

— Мара? — здзівілася маці,— такіх жаночых імёнаў няма, сынок.

— А ў яе будзе! — цяпер ужо рашуча заявіў хлопчык,— Ёсць жа такія імёны як Надзея ці Вера... Чым горшае імя Мара?

— Няхай будзе Мара,— згадзілася маці,— і сапраўды, гэта прыгожае слова.

Аднойчы, вярнуўшыся дамоў са школы, Стасік з жахам заўважыў, што над яго ложкам вісіць чысты ліст паперы — выява дзяўчынкі знікла.

Ледзь стрымліваючы слёзы, ён кінуўся да маці:

— Мама, гэта ты зняла партрэт дзяўчыны з-над ложка? Навошта?

Маці ўвайшла ў дзіцячы пакой і здзівілася не менш за сына:

— Стасік, я не чапала партрэт! Ён і мне самой падабаўся... Дзіва! Пайду, спытаюся ў бацькі, але...

— Не! Навошта мне яго здымаць? — запратэставаў бацька,— Ён што, піць ці есць ў мяне прасіў?

Стасік больш ўважліва разглядзеў ліст паперы і ў самым рагу знізу заўважыў свой, ледзь бачны надпіс: Мара.

Так, гэта быў менавіта той самы ліст паперы, на якім ён намаляваў дзяўчынку — але куды дзеўся сам малюнак?

Стасік вельмі засмуткаваў, бо ведаў, што паўтарыць партрэт не зможа.

Наступным днём хлопчык нават не пайшоў у школу — ён нікога не хацеў бачыць і чуць. Здавалася, што жыццё страціла цікавасць і каляровасць. Але жыццё працягвалася і ў школу ўсё ж ісці прыйшлося.

Першае, што пачуў Стасік, адчыніўшы дзверы ў клас, было захапленне яго сяброў, якія шумна аб'яўлялі сябру навіну:

— У нас новенькая! У нас новенькая!..

Усе вучні добра ведаюць, якую вострую зацікаўленасць выказваюць усе дзеці да новенькага вучня ў класе, быццам гэта не такі ж, як і яны, хлопчык ці дзяўчынка, а лунацік альбо марсіянін.

Вось і Стасіка глушылі сёння водгукі:

— Новенькая! Новенькая!

Стасік, пасля страты партрэту Мары, даволі абыякава адрэагаваў:

— Ну й што?.. Падумаеш...

Але тут у клас ўвайшла «новенькая». Стасік ажно ўголас войкнуў, затым кінуўся да дзяўчынкі і, гледзячы на яе шырока адкрытымі вачамі, выдыхнуў:

— Ты Мара?!

Усе, хто быў у класе, неяк разгублена канстатавалі:

— А-а..Дык вы, аказваецца, знаёмыя...

На Стасіка глядзеў намалёваны ім колісь партрэт — тыя ж вочы, тыя ж вусны, тыя ж ручайкі локанаў. Партрэт, які таямнічым чынам знік з ліста паперы, нечакана праявіўся ў жыцці.

Новенькая, якую Стасік назваў Марай, здзівілася:

— Табе сказалі маё імя?

— Не,— ціха прамовіў хлопчык,— яго прыдумаў я сам... Прыдумаў даўно... І цябе ведаю даўно — і не толькі ведаю...

— Дзіўны нейкі! — крутнулася дзяўчынка і пайшла на сваё месца.

Пасля ўрокаў Стасік падыйшоў да дзяўчынкі і дрыготкім голасам папрасіў:

— Мара, дазволь я правяду цябе дамоў. Мне вельмі трэба з табой пагаварыць.

— Калі ласка! — весела адказала яна,— Я ў вашым класе новенькая, і ў горадзе вашым таксама ніколі раней не была. Я так мала ведаю пра ваш горад і пра школу, таму мне цікава будзе паслухаць цябе.

Але Стасік пачаў гаворку не пра горад і нават не пра клас:

— Скажы, Мара адкуль ты ўзялася?

— І сапраўды ты дзіўны! Як адкуль? Прыехала з бацькамі з другога горада ў ваш. Тата ў мяне вайсковец і яго часта, як ён кажа, перакідваюць з аднаго месца на другое. Мы з мамай да гэтага ужо прывыклі.

— А я думаў...— расчаравана ўздыхнуў Стасік.

— Што думаў? — спыталася яна.

— Ды так... Нічога...

Дзяўчынка засмяялася і працягвала:

— Калі ты спытаўся, адкуль я ўзялася, мне прыпомніўся мой сон, быццам мяне на самой справе намаляваў нейкі хлопчык і...

— І што? Што і?..

— І ўсё! — зноў засмяялася яна.— Я нават маме пра гэты сон не расказвала, а табе чамусьці расказала.

— Гэта быў не сон! — усклікнуў Стасік,— Не сон!

— Ты мяне палохаеш! — спынілася дзяўчынка,— Ты што, хочаш сказаць, што ў мяне няма бацькоў? Што я — партрэт неадушаўлёны? Так?

— А імя Мара табе хто даў? — гарачыўся Стасік,— Можа, скажаш бацькі?

— Ты — дзівак і фантазёр,— суха сказала Мара,— і хопіць пра мяне! Раскажы лепей пра горад і пра сябе.

Але Стасік адчуў ў душы нейкую мешаніну. Ён не разумеў, што адбываецца — дзе рэаліі жыцця, а дзе фантазія? Усё пераблыталася.

— Прабач, Мара, мне трэба дамоў,— і ён пайшоў сваёй дарогай.

Ішоў час. Стасік і Мара ссябраваліся і ніхто ўжо не здзівіўся, калі бачылі іх разам. А бачылі іх разам — кожны дзень.

У сёмым класе, у самы разгар зімовых канікул, Стасік на катку разагрэўся, прастудзіўся і моцна захварэў. Яму было сорамна перад аднакласнікамі і асабліва перад Марай за сваю «кволасць», таму ўсім, хто тэлефанаваў ці стукаўся ў дзверы, маці Стасіка, па яго просьбе, адказвала: — «Ён паехаў да сваякоў у другі горад і будзе няхутка».

І гэта была яго памылка, бо пасля канікулаў, прыйшоўшы ў клас, ён пачуў:

— Мары болей у нашым класе няма. Яе бацьку зноў тэрмінова перавялі ў новы гарнізон і за ім паехала ўся сям'я. А куды — невядома.

Стасік выбег са школы неапрануты, у адным касцюме і кінуўся...

Куды бегчы? Да каго? Дзе шукаць тую, каго ён даўно, яшчэ па-дзіцячы пакахаў?

Ён бег па горадзе, хапаючы раскрытым ротам марознае паветра, не заўважаючы людзей і машын.

Яго раптам спынілі. Спынілі і пасадзілі ў міліцэйскую машыну, каб не даць замерзнуць і каб высветліць: што здарылася з маладым хлопцам, які ў мароз распрануўся і — ці ад некага ўцякае, ці кагосьці даганяе.

У аддзеле міліцыі яго напаілі гарачым чаем і спыталіся:

— Што здарылася, малады чалавек?

— Я шукаю Мару! Падкажыце, дзе знайсці мне Мару? — Як закліканне паўтараў Стасік.

Яму спагадліва адказалі:

— Кожны чалавек мае мару, ды, на жаль, не кожны яе шукае. Мяркуючы па таму, як ты бег, ты сваю мару знойдзеш. Не хвалюйся! А пакуль мы адвязём цябе дамоў.

Абяссілены хлопец паслухмяна сеў ў машыну.

Дома маці працягнула сыну канверт:

— Стасік, табе пісьмо!

Ён схапіў канверт, ліхаманкава разадраў яго і прыціснуў ліст да грудзей.

Мара знайшла яго!



# Ветлівы Дымок

Гром быў злосным і пільным сабакам. Гаспадары спалі спакойна, бо ведалі, што ніводзін злодзей нават носа ні ткне на двор. Гром трымаў парадак на сядзібе гаспадароў не адзін, а са сваім, яшчэ зусім маленькім сыночкам Дымком.

Так атрымалася, што маці Дымка, Ласка, сяброўка яго таты, ахоўвала двор і надворныя пабудовы на суседняй сядзібе, дзе і жыла. І Ласка «гаспадарыла» па-суседску не адна, а са сваёю маленькаю дачушкай Мілкай, якая, як вы ўжо здагадаліся, даводзілася роднай сястрой Дымку.

А падзяліць іх і гэткім чынам разлучыць Дымка з Мілкай, людзі былі вымушаны — не трымаць жа цэлую псарню на адным двары.

Ды і разлучаны яны былі больш умоўна, чым на-

туральна, бо штодня яны па-суседску перабрэхваліся, а сабачае перабрэхванне можна смела параўнаць з чалавечым перакрыкваннем. Вось чаму Гром і Ласка, а таксама іх дзеці, праз сваё «перакрыкванне», добра ведалі ўсе сабачыя навіны і, між іншым, кожны дзень не забываліся пацікавіцца пра здароўе адно аднаго і гаспадароў.

Але... Існавала адно «але», якое псавала настрой Грому. Дымок быў поўнай яго процілегласцю — ціхі, сціплы, ветлівы.

Гаспадары ставіліся да гэтага даволі спакойна і адносілі такую выхаванасць Дымка да яго блазнюковага ўзросту.

Было яшчэ адно «але», якое нервавала Грома. Маленькі Дымок, як лічыў яго грозны тата, перайшоў увогуле межы дазволенага — ён ссябраваўся з усімі катамі і кацянятамі, якія завітвалі на ахоўваемую сабакамі тэрыторыю. Гром задаў бы катам «чосу», але ён, у адрозненні ад Дымка, быў пасаджаны на ланцуг.

— Ды які ты сабака! — гыркаў ён на свайго сынка.— Катоў трэба шарсціць і ганяць так, каб аж іскры ляцелі з-пад іх лап!

— Татачка, яны такія ласкавыя і прыгожыя! — апраўдваўся Дымок.— Яны так цікава расказваюць пра свае кацячыя паходжанні.

— Якія ў іх могуць быць паходжанні? — не адступаў Гром.— Адзін толькі крык па начах...

Паколькі каты гуляюць у асноўным ноччу, дык і Дымок употай ад свайго таты, начамі збягаў са двара, каб пры поўні пасядзець і памарыць з адным з сваіх каткоў-сяброў.

Неяк такой ноччу, вяртаючыся з «самаволкі», Дымок заўважыў, як два незнаёмцы спрабуюць ціхенька ададраць дошкі з тыльнага боку варыўні, нябачнага і недасягальнага для яго таты.

Дымок ведаў, што ў будынку варыўні гаспадары захоўваюць вяндлёныя кумпякі, самаробныя каўбасы і іншую смакату, таму злодзеі спадзяваліся паласавацца чужым дабром.

Дымок падбег да незнаёмцаў ззаду і хацеў штосілы забрахаць на іх, але, паколькі ён быў вельмі добры і ветлівы, брэх у яго не атрымаўся — мусіць, не дазволіла сабачае сумленне брахаць на людзей. Замест брэху, ён ціха, каб не напалохаць незнаёмцаў, сказаў:

— Не аддзірайце, калі ласка, дошкі. Так рабіць сорамна.

Злодзеі разгублена пераглянуліся, затым зірнулі зверху ўніз:

— Гэта ты, шмакадзяўка, сказаў?

— Сказаў я, але я не шмакадзяўка, а Дымок, сын майго таты Грома,— ветліва завіхляў хвосцікам сабачка.— Я не хачу ўздымаць шум і клікаць на дапамогу свайго тату. Таму, будзьце людзьмі і пакіньце ў спакоі дошкі.

Адзін з злодзеяў злосна параіў сябру, які стаяў бліжэй да Дымка:

— Ды пні ты яго нагой пад адно месца, каб праз плот пераляцеў! Чытае тут лекцыі нам, шчанё!

Але сябар не пнуў нагой сабачку, а, падумаўшы, сказаў:

— І сапраўды не будзем паднімаць шум і еньк... Пайшлі адсюль! Бывай, «ваўкадаў».

Дымок яшчэ крыху пастаяў на сваім «рубяжы абароны», назіраючы, як знікаюць у цемры незнаёмцы, затым ціхенька падаўся да сваёй будкі. Але тут яго чакалі непрыемнасці — пільны Гром заўважыў адсутнасць «гулёні» і з грозным выглядам чакаў яго вяртання.

— Дзе цябе носіць нялёгкая? — напусціўся на сына бацька.— Замест таго, каб ахоўваць сон нашых гаспадароў і іхняе дабро, ты цягаешся няведама дзе і з кім! Адлупцаваць бы цябе, ды не хочацца ўздымаць шум.

— Не трэба, тата, шуму... — ціха папрасіў гулёня.

— Які ты сабака! — працягваў злавацца Гром.— Толькі што, адзін дымок, а агню няма!..

Прайшло некалькі дзён. Дымок сядзеў ля варотцаў і грэўся на сонейку. Ён нічога не сказаў тату пра начное здарэнне, бо ведаў, што атрымае ад яго нахлабучку за несабачыя паводзіны.

Раптам бачыць, як міма па вуліцы ідуць двое. Сэрца ў Дымка ёкнула — гэта былі тыя начныя

шукальнікі лёгкай нажывы, жыхары гэтай жа вёскі. Убачыўшы Дымка, мужчыны паскорылі хаду.

— А я вас пазнаў! — ветліва завіхляў хвосцікам Дымок.— Пазнаў, але нікому не скажу. А чаму — вы ведаеце самі...

Мужчыны пачырванелі да вушэй і, як мага хутчэй, падаліся прэч, нібы шкадлівыя дзеці.

Дымок, каб мог, засмяяўся б, але смяяцца ён пакуль не вывучыўся. Затое за спінай пачуў грозны татаў голас:

— Зноў ты з некім размаўляеш! Калі ўжо ты пачнеш брахаць?

Нечакана для сябе, Дымок усміхнуўся.





# Znічкіны ласкі

Вясковыя мальцы любілі вечарам, напрыцемку збірацца на ўскраі вёскі, раскладваць вогнішча і, калі нагараў жар, пячы ў ім бульбу. Пры гэтым яны наперабой, наперакрык, наперарогат расказвалі, даўно і не раз расказанае і чутае.

Але гэта не перашкаджала ім безупынку гаманіць, жартаваць і аддавацца ў палон весялосці, якая бывае толькі ў іхнім узросце.

Калі, па іх разуменню, бульба спякалася, а вопыт у гэтым яны мелі не малы, ля вогнішча рабілася значна цішэй. Кожны нейкім ражончыкам завіхаўся і выкочваў з попелу і жару да сваіх ног спечаную бульбу.

Тут варон не страляй — колькі падкаціў бульбін, усе твае.

Гоман і рогат сціхаў і таму, што кожнаму хацелася як мага хутчэй глытаць замест слінак спечаную смакату. Кожны хапаў па бульбінцы ў рукі і пачынаў, як той жанглёр у цырку, перакідваць яе з адной рукі ў другую, бо бульбіна толькі што з жару, і сама, як жар. Пры гэтым хлопчык увесь час фукаў і дзьмуў то на далоні па чарзе, то на бульбінку.

О, што гэта за цуд, печаная бульба! Ды яшчэ ля вогнішча, ды яшчэ сярод сябрукоў, гэткіх жа «жанглёраў», як і сам!

Спачатку бульбіна чорная, непрывабная воку, затое, пасля таго, як яе паскрабеш ножычкам ці звычайнай трэсачкай, яна робіцца жоўценькай і сама просіцца ў рот. Але не так і проста да яе падступіцца. У руках яе ўжо можна трымаць. Яна не дужа пячэ, але пад апетытнай жоўценькай скарыначкай утойваецца такі ўнутраны жар, што мальцы, трымаючы ў роце адкусаны кавалачак — і хукаюць, і фукаюць, і шумна ўдыхаюць і выдыхаюць паветра, выпускаючы з роту такія клубы пары, што ім пазайздросціў бы паравоз.

Калі ж перапэцканыя вуголлем і падпаленай бульбай мальцы добра падсілкаваліся, адзін з іх, Паўлюк, з асалодай лёг на спіну, заклаў пад галаву рукі і пачаў углядацца ў зорнае неба.

— А давайце, пацаны,— прапанаваў Паўлюк,— выглядваць знічкі і загадваць жаданні. Кажуць, калі паспееш што загадаць, тое і збудзецца.

Усім прапанова спадабалася, і вось ужо пяць пар вачэй уперыліся ў неба.

Быў жнівень і метэоры часцяком успыхвалі ў небе, згараючы ў атмасферы. Таму хутка пяць малечых галасоў адначасова ўскрыквалі:

— Вунь! І вунь!.. Эх, не паспеў нічога загадаць!.. Ух, шкада...

— Ды дзе ты паспееш! Марная справа!

— А я паспеў! — усклікнуў Паўлюк.— Я паспеў! Вось так!

— Мані! — не паверылі сябры.— І што ты пажадаў?

Паўлюк падняўся, абтрос штаны і з гонарам абвясціў:

— Я пажадаў, каб мае ўсе сны спраўджваліся. Я столькі сню цікавага і смачнага, а прачнуся — і ўсё знікае, як гэтыя znічкі.

— А калі ты сасніш, што цябе праглынуў кракадзіл? Што тады? — пажартаваў хтосьці з сяброў.

Другі хлопчык уставіў сваё:

— А раптам у сне ты ператворышся ў футбольны мячык і па табе будуць з усяе сілы лупіць нагамі?

— Во здорава! — зарагатаў трэці.— Наш Паўлюк ляціць у вароты і — ба-ба-бах у штангу! Ото ж будзе балець Паўлюку-мячыку! Ха-ха-ха!

— Ну хопіць вам выскаляцца! — абарваў сяброўскія фантазіі Паўлюк. А сам, употай ад усіх падумаў: «А што, калі і напраўду знічка выконвае любое жаданне?.. А раптам мне прысніцца абы што...»

Уголас Паўлюк дадаў:

— Увогуле, усё гэта мана! Як гэта можа нейкая там зорачка выконваць жаданні? Тым больш спраўджваць сны?

Ён гэта сказаў падкрэслена весела, каб, у першую чаргу, падбадзёрыць сябе.

Усе сябрукі ўзрушана і весела накіраваліся па сваіх хатах.

Ноччу Паўлюку прыснілася, быццам яму падаравалі вялізны, прыгожа аздоблены торт, на якім зверху было напісана: «Еш на здароўе, Паўлюк!»

Звычайна хлопчык любіў раніцай паваляцца ў пасцелі. Канікулы ж — куды спяшацца? А сёння ён ускочыў... але адразу зразумеў, што сон працягваецца, што з пасцелі ён яшчэ не ўставаў, а гэты вялізны торт на стале — усяго толькі працяг прыемнага сну.

Ён азірнуўся вакол, баючыся падыходзіць да стала, і асцярожна выйшаў у першую палову хаты, дзе маці штосьці гатавала ў печы і прабіралася ля стала.

— А-а, ты прачнуўся, сынок! — ласкава сказала яна,— Апранайся, будзеш снедаць.

Паўлюк няўпэўнена пераступіў з нагі на нагу і спытаўся:

— Мама, я яшчэ сплю?..

— Што з табой, сынок? — здзівілася маці.— ты ж прачнуўся і размаўляеш са мной.

— Дык ты мне не снішся? — ажно ўскрыкнуў хлопчык.— дык гэта праўда?

— Што, праўда? — хацела высветліць маці, але Паўлюк кінуўся назад у той пакой, дзе спаў і — да стала.

Вялізны, прыгожы торт стаяў на стале, зверху на ім было напісана: «Еш на здароўе, Паўлюк!»

— Мама! — закрычаў ён.— Мамачка!

Спалоханая маці забегла на крык:

— Што здарылася, Паўлючок?

— Мама! Ты пякла гэты торт? Адкуль ён?

Здзіўленая жанчына схапілася за галаву:

— Што гэта? Адкуль ён? — як рэха, паўтарыла яна пытанне сына.

— Я ведаю адкуль ён! — усклікнуў Паўлюк і даўся ў дзверы. Ён паімчаўся да свайго лепшага сябра Міхася, з якім учора вечарам пяклі бульбу.

— Міхаська! Гайда хутчэй да мяне! — страсянуў ён сябра, які яшчэ спаў.

Той спалохана падскочыў:

— Што здарылася?

— Хутчэй да мяне! — узмаліўся Паўлюк.— Мой сон спраўдзіўся!

— Цябе што, праглынуў кракадзіл? — не паверыў Міхась.

— Які кракадзіл? Хадзем хутчэй, усё сам пабачыш!..

Ото ж быў смачны торт! У Паўлюка і Міхася ажно трашчалі пузы ад з'едзенага, а яго амаль не ўбавілася, настолькі ён быў агромністы.

— Вось гэта знічка! — захапляўся Міхась, аблізваючы пальцы.

— Ці тое яшчэ будзе! — пахваляўся Паўлюк, выціраючы са шчок заварны крэм.

Бацькі Паўлюка дапытваліся ў сына:

— Хто цябе, сынок, так павіншаваў? І з чым? Чаму нам нічога не вядома?

Хлопчыкі змоўніцкі пераглянуліся і толькі ўсміхаліся, паказваючы ўсім сваім выглядам: «Гэта — тайна!»

Гэту тайну хлопчыкі вырашылі ахоўваць і ад астатніх сяброў — маўляў, гэта ж толькі «першы блін», а далейшае пакажа, як ім сябе паводзіць.

Дзень праляцеў непрыкметна, а, калі надышоў вечар, Паўлюк з асалодай уклаўся ў пасцель і марыў: «Эх, прыснілася б мне сёння, што я паляцеў у космас і там, у глыбінях сусвету, штосьці паламалася ў касмічнага карабля. Увесь свет напружана назірае за тым, як я ў адкрытым космасе закручваю нейкія гайкі і, рызыкуючы жыццём, уратоўваю карабель. На зямлі мяне сустракаюць, як Юрыя Гагарына альбо Пятра Клімука. Сам Прэзідэнт моцна ціскае мне руку і на ўвесь свет абвяшчае: «Малайчына, Паўлюк! Ты не пасаромеў нашу Беларусь і паводзіў сябе, як сапраўдны герой... герой... геро...»

І Паўлюк закалыханы сваёй марай, салодка заснуў. Сніцца яму, як ён адразае сабе вялікі кавалак торту і толькі раскрывае рот, каб з’есці смакату, як у пакой заскоквае з рэменем яго бацька і з крыкам:

«Ах ты, абібок», пачынае лупцаваць яго па адным месцы. Лупцуе настолькі моцна, што ад дзягі гарыць агнём гэта «адно месца».

«Цябе пакінулі на другі год у класе! — крычаў раз'юшаны бацька.— У цябе адны двойкі ў дзённіку! Я цябе вывучу!»

Прыбегла маці, перахапіла рамень і закрыла сабой Паўлюка ад бацькі: «Як ты можаш біць дзіця? — галасіла маці.— Гэта ж перажыткі мінулага! Адкуль ты ўзяў нейкія двойкі? Наш Паўлюк выдатнік!»

Паўлюк прачнуўся ў халодным поце. Сонца ўжо весела зазірала ў вокны і гэта яскрава падкрэслівала, што жыццё адрозніваецца ад сна.

Паўлюк пазяхнуў, пацягнуўся і падыйшоў да торта на стале. Узяўся за нож і завагаўся:

— А можа, не адразаць? А-а, пустое! Тата ж на працы, а я перайшоў у трэці клас...

І толькі ён адрэзаў сабе торта і адкрыў рот, каб кусануць яго, як у пакой заскочыў з рамнём яго бацька і...

І ўсё адбылося як у сне. Паўлюкова «адно месца» гарэла агнём, маці галасіла, перахапіўшы дзягу, а бацька вінаваціўся:

— Што мне стрэльнула ў галаву, быццам ты не перайшоў у наступны клас? Разумею, што ты не двоечнік, а нібы ў жахлівым сне, не магу звалодаць з сабой. Нейкае насланнё! Прабач, сынок, вінаваты я...

Паўлюк адразу зразумеў, што да чаго, і ціха сказаў:

— Гэта я вінаваты тата. Ты тут ні пры чым.

Праз нейкі час да Паўлюка заскочыў узрушаны Міхась:

— Ну, што сёння снілася?

Паўлюк з неахвотай адказаў:

— Ды нічога... Сёння нічога...

— Эх, шкада! — абурыўся сябар.— Я спадзяваўся на штосьці смачненькае, думаў, ты са мной падзелішся.

Паўлюк уздыхнуў:

— Я з задавальненнем падзяліўся б з табой, нават усё б табе аддаў, ды не магу...

— А дзе торт? Яго ж заставалася во-о! — шмаргануў пальцам па горле Міхась.

— Яго я выкінуў вон...

— Няўжо за ноч сапсаваўся? — пашкадаваў Міхась,— Эх, і смакацішча была!

Паўлюк з горыччу выдыхнуў:

— Ды ну іх, гэтыя знічкавыя ласкі! Абыдземся без іх.— А потым нечакана спытаўся: — Слухай, Міхась, перайшоў я ў трэці клас ці не?

— Ды ты што?! Тортам аб'еўся? — засмяяўся сябар.— Цябе ж нават павесілі на школьную дошку гонару! — Міхась перамяніў тэму: — Гайда на рыбалку! Кажуць, плотка клюе з разгону.

— Не,— адмахнуўся ад прапановы Паўлюк,— я сябе дрэнна адчуваю.

— Ну, дык бывай! — і Міхась знік за дзвярыма.

Дзень цягнуўся марудна. Паўлюк з жахам чакаў

наступную ноч, пераканаўшыся, што сны і сапраўды нейкім чынам спраўджваюцца. Ён і рады быў бы адмовіцца ад свайго таго загаданага жадання, ды не ведаў, як гэта зрабіць. Тая знічка згарэла, а другую паспрабуй падцікаваць ды яшчэ паспей адзагадаць загаданае.

Як ні адцягваў Паўлюк сваё засынанне, а ноч прытулілася да вокнаў і ён мусіў лезці ў пасцель.

Доўга бадзёрыўся Паўлюк, ляжаў з адкрытымі вачыма, і ўсё ж непрыкметна заснуў.

І прыснілася яму...

Ён ужо не разумеў, сніцца яму ці ён прачнуўся і сон пачаў спраўджвацца, але ён з усіх ноч імчаў па нейкіх джунглях, а за ім, улюлюкаючы на ўсе галасы, гналіся з коп'ямі і лукамі, з пер'ямі на галаве, амаль голыя індзейцы з самага жорсткага індзейскага племя Аракчытапулоктэра.

Паўлюк, магчыма, і ўцёк бы, бо страх удвойвае сілы, але нейкая малпа, відаць, гуляючы, падставіла яму падножку і Паўлюк з усяго маху зарыўся носам у зямлю.

Яго скруцілі і прывялі да правадыра індзейцаў, які сядзеў на бамбукавым троне.

— Ты хто, бледнатвары воін? — сурова спытаўся ён.

— Я — Паўлюк,— спалохана адказаў палонны.— Я вучань другога «А» класа, паспяхова перайшоў у трэці. Адзнакі ў мяне выдатныя, магу нават дзённік паказаць...



— Што ён сказаў,— спытаўся правадыр у галоўнага шамана.

Шаман пакурчыў страшэнныя міны, штосьці пашаптаў, гледзячы ў неба і адказаў:

— Гэта — белы вядзьмак! Ён чытае свае заклінанні, каб знішчыць наша племя.

— Ты манюка! — закрычаў Паўлюк.— Сам ты вядзьмак!

Правадыр загадаў:

— Кіньце ведзьмака на раздзіранне львам!

Але шаман ціхенька даклаў яму:

— У нас саміх праблемы з правіянтам.

Тады правадыр даў новы загад:

— Пасадзіце яго пад ахову, заўтра раніцай мы яго спячэм на агні альбо з’ядзім жыўём.

— Жыўём! Лепш жыўём! — закрычалі з усіх бакоў чырванаскурыя воіны.

І Паўлюка пасадзілі нанач у нейкую каталажку пад ахову дзвюх індзейцаў.

— Усё! Мне адсюль не выбрацца! — заплакаў Паўлюк.— Бывайце, мама і тата! Бывайце, мае сябры! Ніколі ўжо нам не пячы разам бульбу...

Раптам Паўлюк страпянуўся:

— Ноч жа наперадзе! Варта мне толькі заснуць і новы сон перанясе мяне ў другі час і ў новую дзею!

Але дарэмна ўзрадаваўся ён. Сон па загадзе не прыходзіць. І чым мацней Паўлюк прымушаў сябе заснуць, тым горш гэта атрымлівалася. Колькі ён ні паўтараў: «Спаць, спаць, спаць!» — сон не надыходзіў.

Ён успомніў чутае ад дарослых, быццам некага некалі таксама прыгаварылі да смяротнай кары і сказалі: «Заўтра раніцай табе адсякуць галаву, але, калі ты гэтай ноччу не будзеш думаць пра белага мядзведзя, табе даруюць жыццё...»

Колькі бедалага не прымушаў сябе не думаць пра белага мядзведзя, думаў ён толькі пра яго.

Раніцай у яго спыталіся: «Ну, думаў ты ноччу пра белага мядзведзя ці не?» Прыгавораны да смерці шчыра прызнаўся: «На жаль, толькі пра яго і думаў...»

Суддзі памілавалі яго за мужнасць і добрасумленнасць, бо ведалі, што ў такім стане не думаць пра забароненае немагчыма...

Паўлюка гэты белы мядзведзь і выратаваў, бо ён адхінуўся ад сваіх жахлівых думак і непрыкметна заснуў. І прыснілася яму, што яго родная мама

нахілілася над яго ложкам і ласкавым голасам, ціхенька азвалася:

— Уставай, сынок. Прачынайся, Паўлючок, снедаць пара...

Хлопчык слухаў маці голас, як чароўную музыку і не хацеў расплюшчваць вочы, каб гэта казка не знікла.

І толькі тады, калі маці пагладзіла яго па галаве і паўтарыла: «Уставай, сынок!» Паўлюк прачнууўся і — о, шчасце! — казка не знікла.

Маці сапраўды будзіла яго, і гэта была самая цудоўная раніца ў жыцці хлопчыка.

Наступныя ночы прыносілі самыя розныя сны, але яны, на шчасце, больш не спраўджваліся. Магчыма. таму, што маціна ласка расчаравала яго, а, можа, зорачкі ў небе злітаваліся і далі магчымасць хлопчыку не спадзявацца на сны, а самому знаходзіць дзіўнае і цікавае ў рэальным жыцці.

Калі ж чарговым вечарам ля вогнішча, пасля ласавання печанай бульбай. Хтосьці з сяброў прапаноўваў:

— Давайце глядзець на зоркі і загадваць жаданні!

Паўлюк адмаўляўся:

— Свае жаданні трэба ажыццяўляць самім, без дапамогі зорак!



# Пчолка Юля і труцень Кузя

Яўсей касіў Дубаў лужок. Лужок быў звычайны, як і ўсе лужкі, але на ім рос каранджакаваты разгалісты дуб, таму яго пачалі зваць Дубавым лужком.

Яўсей пайшоў касіць давідна, роснасцю і цяпер, з узыходам сонца, адчуваў лёгкі голад. Ён выцер узмакрэлы лоб і з радасцю заўважыў сваіх унукаў Юлю і Кузьму, якія неслі снеданне. Юлі было дзевяць гадоў, а Кузьме ўсяго шэсць, таму яго звалі Кузяй, паколькі да Кузьмы ён яшчэ не дарос.

— Вось дзякуй, мае залаценькія! — абняў унукаў Яўсей.— А я збіраўся ўжо ісці дамоў, а цяпер, з вашай дапамогі, падсілкуюся і яшчэ крыху пакашу.

— Гэта бабуля накіравала нас сюды,— даклаў Кузя.

Пакуль дзед сядзеў, прыхінуўшыся спіной да дуба, і з апетытам еў акраец хлеба з малаком, малыя сядзелі побач і шчабяталі, як тыя раннія птушачкі.

— Ой, як шмат ты, дзядуля накасіў! А кароўцы гэтага сена хопіць на зіму ці не? А вунь сонейка з-за лесу выглядае! А вось і пчолкі ўжо не спяць з краскі на краску пералятаюць...

Раптам Юля ўскрыкнула:

— Я так люблю мёд! Чаму я не пчолка? Пералятала б з кветкі на кветачку і ласавалася б смакатой.

Яўсей палыкнуў малако і патлумачыў унучцы:

— Яны, пчолкі, мала жывуць, Юлечка. Працуюць цяжка і шмат, таму яны недаўгавечныя.

Кузя ўставіў сваё:

— А я б хацеў быць трутнем! Я чуў, што трутні не працуюць, а толькі ядуць мёд. Вось гэта здорава!

— Не, трутнем быць не цікава! — не пагадзілася з братам Юля.— Вось пчолка — гэта сапраўды здорава! Уяві, Кузя, я — пчолка!

Не паспела яна даказаць сваё пажаданне, як разам з Кузяй апынулася ў вуллі сярод мноства пчол. Ды апынулася яна, як і жадала, у выглядзе пчолкі, а Кузя быў сапраўдным трутнем. Ён, не раздумваючы, накінуўся на поўныя мёду соты, прыцмокваючы ад асалоды.

— Ха! Я ж табе казаў, што трутні — не дурні! Еш гатовенькае да лежабоч сабе! — пасмяяўся ён з сястры.

Юля не паспела нічога адказаць, бо ў яе строга спыталася нейкая пчала, відаць, начальніца над пчоламі:

— А ты хто?

— Я — Юля!

Начальніца незадаволена павысіла голас:

— Мяне не цікавіць тваё імя! Я пытаюся, хто ты па сваіх абавязках?

— Я не ведаю, цётачка,— разгубілася Юля.

— Я табе не цётачка, а правіцельніца вулля. Я сачу за парадкам тут, каб кожны старанна выконваў свае абавязкі і не лындзіў. Дык хто ты — вартаўніца, прыёмшчыца мёду, рабочая пчала ці пакаёўка?

— А пакаёўка, гэта хто? — пацікавілася Юля.

— Пакаёўка прыбірае ў пакоях нашай царыцы — Маткі. Гэта вельмі пачэсна.

Юля ўспомніла, што маці нярэдка даручала ёй прыбіраць у хаце, што работа гэта пыльная і не зусім прыемная, таму сказала:

— Не, прыбіральшчыцай я не хачу быць!

— Тады, вось табе вядзерца і марш на працу! Збірай з кветак нектар і прынось яго ў вулей. Тут прыёмшчыцы будуць прымаць твае здабыткі і адзначаць у ведамасці. Твая дзённая норма — дзесяць вядзерцаў. Ляток вунь і не марнуй часу — за працу!

Юля ўзрадавалася, што такое маленькае вядзерца і памкнулася да лятка, каб ляцець у лугі і палі збіраць нектар.

Кузя зноў хіхікнуў:

— Ляці, ляці! У мяне ўжо пуза трашчыць ад мёду, а ты нават не пакаштавала яго! Хі-хі!

Тут самы час патлумачыць, чаму Юля і Кузя раптоўна змянілі свае аблiччы і свой чалавечы ўклад жыцця. Справа ў тым, што даўным-даўно жыў на гэтай зямлі адзін не вельмі ветлівы хлопец, у якога быў даволі благі характар. Ён, у размове з любым чалавекам любога ўзросту, нават шмат сталейшым за сябе, мог кінуць на вочы такую абразу:

— Ну і дуб ты цвердалобы!

Знаёмыя пачалі абыходзіць яго бокам, а незнаёмцы атрымлівалі нязменнае: «Ну ты і дуб!», маючы на ўвазе някемлівасць ці ўвогуле маючы адсутнасць розуму.

Але аднойчы ён сустрэў старэнькага дзядка, які падчас размовы з няветлівым хлопцам, усё пытаўся і пытаўся ў абразніка пра самае living. Нарэшце хлапцу надакучыла адказваць і ён выдаў дзеду сваё заключэнне:

— Ну ты, дзед, і дуб тугадумны!

Стары аказаўся чараўніком і вырашыў пакараць маладога нахабніка:

— Быць табе, хлопча, дубам! І будзеш ты ім столькі, пакуль хтосьці шчыра не выкажа табе сваю падзяку. А каб весялей табе было чакаць свайго выратавацеля, я надзялю цябе магчымасцю выконваць любое жаданне таго, хто прыхінецца да твайго ствала і штосьці загадае.

— Ды ты што, дзед! — напалохаўся хлапец.— Каму ж прыйдзе ў галаву прасіць штосьці ў дуба?

Але дзед расстаў у паветры, быццам яго і не было, а на месцы іх размовы вырас дубок. Відаць, шмат прайшло з тае пары часу, бо дубок паспеў пераўтварыцца ў магутнае дрэва.

Вось Юля і Кузя, нічога не падазраючы сядзелі, прыхінуўшыся да кары дуба і па-дзіцячы марылі, а мары перайшлі ў рэальнасць.

Таму цяпер Юля з маленькім вядзерцам старанна пералятала з краскі на краску, збіраючы нектар. Пчолка Юля засмучана адзначыла, што вядзерца не такое ўжо і маленькае, і нектарам напаўнялася марудна.

Пасля кожнага прынесенага ў вулей вядзерца, правіцельніца прыдзірыста выгаворвала:

— Не мухлюй! Вядзерца не да краёў поўнае! Хутчэй збірай, бо да вечара не паспееш выканаць норму, тады заўтра прыйдзецца дазбіраць недавыкананае сёння.

Юля норму першага працоўнага дня выканала. Але абяссілела настолькі, што не магла з’есці і лыжачкі мёду. Затое ў Кузі не закрываўся рот.

Так прайшло некалькі дзён поўных працы.

Аднойчы пчолка, Юліна сяброўка, з сумам адкрыла Юлі галоўны пчаліны сакрэт:

— Ты стамляешся і я стамляюся ад штодзённай перанапругі. Таму мы, рабочыя пчолы, жывём

усяго два тыдні, а нас заменяць маладыя пчолы, якіх чакае наш лёс...

Юля прыкінула ў галаве, колькі ж яна тут працуе і жахнулася — прайшоў цэлы тыдзень. Гэта значыць, што палавіну пчалінага жыцця яна ўжо пражыла. Які жах! Няўжо ў дзевяць чалавечых гадоў яна памрэ? Не, трэба тэрмінова нешта рабіць! А што?

Тут яшчэ, як на тую бяду, пчолы пачалі выганяць з вулля ўсіх дармаедаў-трутняў. Надавалі ў каршэль і Кузе, які пазбавіўся і дому, і ежы.

Цяпер пчолцы Юлі, даводзілася працаваць з яшчэ большай напругай, бо, акрамя штодзённай нормы, трэба было ўпотай падкормліваць свайго брата, які раз'еўся на дармавым мёдзе і цяпер мог з'есці за раз цэлая вядзерца нектару.

Кузя схуднеў, выглядаў жаласліва. Юля паведаміла яму, што праз некалькі дзён яна будзе вымушана памерці, тады памрэ з голаду і ён, бо трутні працаваць не любяць, нават дзеля ўратавання свайго жыцця.

— Што ж рабіць? — ускрыкнуў Кузя.— Як нам зноў пераўтварыцца ў дзяцей? Не хачу я больш мёду, мяне ад яго ванітуе!

— А дзе мы з табой пачалі пераўтварацца ў пчол? — спыталася Юля.

— Я — у трутня,— удакладніў Кузя. А пераўтварацца мы пачалі пад дубам.

— Ляцім да дуба! — цяпер ужо закрычала Юля.— Хутчэй да дуба!

Пчолка і труцень прыляцелі да дуба і апусціліся пад ім на кветачку.

— Што далей? — спытаўся Кузя.

— Не ведаю,— адказала Юля,— давай уголас хацець пераўтварыцца ў людзей.

— Давай! — адказаў Кузя і запрычытаў: — Хачу быць чалавекам! Хачу зрабіцца хлопчыкам! Хачу! Хачу.

Прыкладна гэта ж прасіла ўголас і Юля, але нічога не адбывалася.

— Вось і ўсё... — сумна зазначыла пчолка Юля.— Застанёмся мы такімі, як ёсць... Давай, Кузечка, злётаем да роднай хаты і развітаемся з ёй назаўсёды...

Але труцень Кузя даказаў, што нездарма еў дармавы мёд, і прапанаваў:

— Давай пераляцім з скраскі на дуб, на яго кару! Мы тады сядзелі як? Прыхінуўшыся да кары, да яго ствала. А што, калі наша пераўтварэнне звязана неяк чынам з дубам?

— Давай... — без асобай ахвоты згадзілася Юля.— Што мы губляем?

І пчолка з трутнем узмахнула крылцамі і пераляцелі на кару дуба. Тут яны ўголас паўтарылі свае пажаданні і раптоўна, у выглядзе дзяўчынкі і хлопчыка балюча шмякнуліся на зямлю, бо сядзелі высакавата. Але ім было не да болю — вялікая радасць перапоўніла дзіцячыя сэрцы.

Шчаслівая Юля з удзячнасцю кінулася да дуба,

наколькі хапала рук, абхапіла яго ствол, прыціснулася шчакой да кары і ўсклікнула:

— Калі гэта ты нас уратаваў ад цяжкай пчалінай долі, дык дзякуй табе, дарагі дуб, ад усяго сэрца!

І раптам Юля адчула і ўбачыла, што абдымае не дрэва, а незнаёмага хлопца. Яна здзіўлена адскочыла і спыталася:

— Хто вы?.. І куды дзеўся дуб?

І тут хлопец упершыню не абазваў нікога «дубам», а шчыра і з радасцю адказаў:

— Я — дуб!

Пасля гэтага ён расказаў здзіўленым дзецям гісторыю свайго лёсу, а затым заклапочана спытаў:

— Куды мне цяпер падацца? На ўсёй зямлі, акрамя вас, у мяне няма ніводнага знаёмага чалавека.

Дзеці ў адзін голас радасна ўсклікнулі:

— Да нас! Хадзем да нас! Месца ўсім хопіць!

Вось і ўся гісторыя пчолкі Юлі і трутня Кузі. Але...

Кузя... не, Кузьма назаўсёды ўсвядоміў, што на дармавым хлебе і гультайстве доўга не пражывеш, а Юля ўсё жыццё з вялікай павагай адносіцца да любой працы.



# Сямёра казлянят і Воўк

Мама Каза, адыходзячы з дому, папярэдзіла сваіх дзетак-казляняткаў:

— Сядзіцце ціха. На стук у дзверы не адгукайцеся. Паляўнічы сезон пакуль не адкрыты, таму воўк у лесе настолькі разбасячыўся, што баішся свайго ценю. За дзверы — ні кроку! Зразумелі?

— Зразумелі! Зразумелі! — закрычалі ў адзін голас сем галасоў.

Ледзь толькі зачыніліся за маці дзверы, як самы дасціпны з сямёркі абвясціў:

— Ха! Будзем мы чакаць Ваўка! Калі ён прыйдзе? Мы самі пойдзем да яго!

Самы маленькі і самы баязлівы забляяў:

— Ты што-о-о?! Я баюся! Я жыць хачу!

— Ну і сядзі, Баязлівец, дома! Вось так і ўсё

жыццё пражывеш тут, трасучыся — не будзе чаго ўспомніць.

Астатнія казляняткі не хацелі паказацца баязліўцамі, але і трапляць у зубы Воўку таксама не адчувалі ахвоты.

— А, можа, лепш тут яго пачакаем? — прапанаваў нерашуча першы з вагаючыхся.

Другі вагаючыся дадаў:

— Дома і сцены дапамагаюць...

Трэці пацікавіўся:

— А чаго мы пойдзем да Воўка?

— А таго! — рашуча адказаў Дасціпнік.

Адказ быў кароткі і незразумелы, але той, хто задаваў пытанне, зрабіў выгляд, што яму ўсё зразумела:

— Ну, калі «таго», дык я згодзен ісці.

Чацвёрты ўвогуле прамаўчаў, бо ведаў, што маўчанне — золата. Але пяты вагаючыся, відаць, самы разважлівы, прапанаваў:

— Патрэбен план!

— А план ёсць! — бадзёра даклаў Дасціпнік.— Без плана я б і рот не раскрываў... — падумаў і патлумачыў: — У нас у школе працуе гурток пачынаючых айбалітаўцаў. Я ў гэтым кружку ўдзельнічаю, таму маю белы халат і белы каптурок з чырвоным крыжыкам, як у сапраўдных дактароў. Вось я і прадстаўлюся Воўку доктарам, а вы чакайце за дзвярыма маёй каманды. Як толькі я крыкну: «Сюды!» — вы заскоквайце з вяроўкай і вяжыце шэрага...

У гэты самы час у логаве Ваўка знаходзілася Ліса, якая прыйшла праведаць свайго кума.

— Дык вось,— працягвала яна гаворку,— ты пакуль, куманёк, з логава не надта вытыркайся. Хоць паляўнічы сезон і закрыты, але бракан'еры па лесе шастаюць. Я ледзь да цябе праскочыла.

— Дзякуй, кума, за параду! — адгукнуўся Воўк.— Правіянт пакуль ёсць — поўны халадзільнік. Ды ты ж ведаеш, што я ў асноўным на грыбкі ды ягады перайшоў — не той ужо ўзрост косці грызці. А, па-другое, люблю я бавіць час ля тэлевізара! Праўда, там — цьфу! — адны занудлівыя серыялы ідуць, каб не перадача «У свеце жывёл», дык хоць прападзі... Вось толькі шкада, не маю газеты з праграмай тэлеперадач на наступны тыдзень...

— Ну, дык бывай, кум! — і Ліса падалася дамоў.

Праз нейкі час хтосьці пастукаўся да Ваўка ў дзверы:

— Хто там? — насцярожана спытаўся ён.

— Доктар! — пачулася з-за дзвярэй.

— Доктар? — здзівіўся Воўк.— Я доктара не выклікаў. Я здаровы.

— У лесе эпідэмія! — зноў пачулася з-за дзвярэй.

Слова «эпідэмія» напалохала Ваўка. Ён адчыніў дзверы і ўбачыў перад сабой «доктара» ва ўсім белым, які спытаўся:

— А вы хіба не чулі, што ў лесе лютуе скразнячная ліхаманка? Адна яе бацыла збівае сто ваўкоў!

— Не... Не чуў... — разгубіўся Воўк.— І тэлевізар

пра гэта маўчыць. Праўда, я гляджу толькі перадачу «У свеце жывёл»...

— А трэба глядзець перадачу «Здароўе»! — рашуча параіў «доктар».— Мы губляем дарэмна час, я зараз зраблю вам ратавальную прывіўку.

— Рабіце... Ці ж я вораг свайму здароўю?..— пакорліва падставіў спіну Воўк для ўколу.— А скажыце, доктар, адкуль яна ўзялася гэта скразняковая ліхаманка?

Дасціпнік, а гэта быў ён, дзелавіта адказаў:

— Скразнякі прынеслі яе, таму яна скразнячнай і завецца.

Затым дастаў з сумкі, дарэчы, таксама з чырвоным крыжыкам, шпрыц з санлівай ін'екцыяй, адцягнуў скуру на спіне Ваўка і зрабіў укол.

— Вой! — войкнуў Воўк.

«Доктар» супакоіў яго:

— Сядайце і кратайцеся. Як толькі адчуеце санлівасць, скажыце мне і я буду ведаць, што вакцына дзейнічае правільна.

Воўк паслухмяна сеў у крэсла, а «доктар» з надзеяй паглядаў на яго вочы, чакаючы засынання.

Але Дасціпнік не ведаў, што ў кружку пачынаючых айбалітаўцаў усе лекі, якія толькі там ёсць, несапраўдныя, а ўмоўныя, разлічаныя для навучальнага працэсу. Таму і на Ваўка яго ўкол ніяк не дзейнічаў.

А Воўк, утульна ўладкаваўшыся ў крэсле, адчуў натуральную санлівую млявасць і пачаў пазяхаць.

— Засынаеце? — удакладніў Дасціпнік.

— Так, доктар, нешта на сон пацягнула... — шырока пазяхнуў Воўк.— Вочы зліпаюцца.

— Сюды! — штосілы закрычаў Дасціпнік.

У логава заскочылі з вяроўкай пяцёра казлянят і пачалі абкручваць ёй Ваўку ногі.

— Ага! Папаўся! — пераможна крычаў Дасціпнік.— Гэта табе за песню пра рожкі ды ножкі!

Воўк ад нечаканасці разгубіўся, а затым адкінуў з сябе вяроўку і ўскочыў з крэсла.

— Дык вось які тут доктар! Ага, папалася, казлінае племя! Зараз я вас усіх лячыць буду па-свойму!

І ён...

Але ў доме мамы-Казы засталося самае малое казлянятка ды і самае баязлівае. Яно чакала, чакала сваіх братоў і адчула, што з імі здарылася штосьці благое, інакш яны даўно былі б дома.

Баязліўчык хадзіў яшчэ ў казляткін дзіцячы садок і меў сярод мноства сваіх цацак і дзіцячае паляўнічае ружжо, якім ён любіў пужаць сваіх братоў. Прыкладна так: «Піф! Паф!» Рожак у яго пакуль не было, а замест іх меліся невялічкія гурбячкі. Таму ён накінуў на галаву капялюш, нацягнуў яго на самыя вочы, прыклеіў вусы і ў ботах, каб схаваць капытцы, накіраваўся на пошукі адважных братоў. Стрэльбу ён, як і належыць, трымаў нагатове.

Калі ў свеце ўсе дарогі, кажуць, вядуць у Рым, дык у лесе яны з лёгкасцю прывядуць да логава Ваўка, бо вытаптаны вялізнымі лапамі гаспадара лесу.

Вось па такой вытаптанай дарозе Баяўліўчык і прыкрочыў да воўчага логава, дзе яго браты былі скручаны Ваўком іх жа вяроўкай.

Праз прыадчыненыя дзверы самае маленькае казлянятка ўбачыла ўвесь жах становішча, у якім апынуліся шукацелі прыгод.

Каб не даць страху авалодаць сабой, Баязлівец рашуча даўся ў дзверы, наставіў на Ваўка сваю стрэльбу і, як мага гучней, крыкнуў:

— Лапы ў верх!

Воўк імгненна ўскінуў лапы ўгару і затросся. Але, убачыўшы паляўнічага, запратэставаў:

— Не маеце права! Паляўнічы сезон яшчэ закрыты. Я буду скардзіцца!

— А я бракан'ер! — не разгубіўся Баязліўчык.— Мне законы не пісаны! Я ў любы момант магу зрабіць — Піф! Паф!

— Панапладзілася вас на маю галаву! — узвыў Воўк.— А яшчэ кажуць, што толькі я адзін хищник.

— Што-о-о? Дык вы, у дадатак да ўсяго, і мовы беларускай не ведаеце?!

— Не! Не! — замахаў лапамі Воўк.— Я не хищник, я — драпежнік! Па тэлебачанні ў асноўным расійскія каналы, вось я і заблытаўся... Ці ж магу я, жывучы ў беларускім лесе, не валодаць роднай мовай?

Астатнія шасцёра казлянят напружана назіралі за ўсім, што адбываецца. Хтосьці з іх жаласліва спытаўся:

— А бракан’еры казлянят чапаюць?

— Усіх яны чапаюць! — уставіў сваё Воўк.— Яны горш за ваўкоў...

Баязліўчык рашуча абарваў воўчыя развагі:

— Значыць так! Казлянят я канфіскую, а вас... — зірнуў ён з-пад капелюша на Ваўка.

— А са мной што? — спытаўся той.— Я, каб вы ведалі, казлянят не ем. Я перайшоў на грыбкі і ягады... Прашу гэта ўлічыць — я вегетарыянствую.

— А вас я пасаджу пад хатні арышт. Таму — казляняты, марш на двор!

Звязаныя ў адзін «снапок» казляняткі, дробненька заперабіралі нагамі, праціскаючыся праз дзверы на волю. Апошнім, не апускаючы стрэльбу, выйшаў сам «бракан’ер» і напаследак даў каманду гаспадару логава:

— Лапы можна апусціць! Сядзець ціха і назаўжды забыцца на тое, што на свеце ёсць казляняты. На першы раз я вам дарую! — бразнуў ён дзвярмі і падпёр іх калом.

Толькі цяпер Баязліўчык адчуў, як моцна трасуцца ў яго ад страху ногі.

— А з намі што будзе? — ледзь не ў адзін голас запыталіся звязаныя яго браты.

— А з вамі... — Баязліўчык адчапіў вусы і зняў капелюш.— З вамі я пайду дамоў, там, пэўна, мама зачакалася нас. Але спачатку я вас развяжу.

— Ура! — закрычалі былыя палонныя.— Вось дык Баязліўчык! Самога Ваўка напалохаў да кончыка яго хваста!

І сямёра шчаслівых казлянят весела зацягнулі песню: «На мне страшны шэры Воўк...» — і падаліся дамоў.

Праз хуткі час да логава Ваўка падшпацыравала Ліса і здзівілася, убачыўшы падпёртыя з двара дзверы.

— Ты дзе, шэры? — закрычала яна.— Далёка пайшоў?

— Тут я! Тут! — пачулася з логава.— Я пад хатнім арыштам. Адапры мяне!

Ліса адкінула кол і зайшла ў сярэдзіну.

— А я купіла табе газету з праграмай тэлеперадач і, думаю, абрадую цябе, а ты пад нейкім арыштам сядзіш. Адкуль ён узяўся? Што тут у маю адсутнасць здарылася?

— Ты, кума, праўду казала. Шастаюць па лесе бракан’еры — няма ад іх спасу. Аднаго нячыстая сіла занесла ажно ў маё логава... Казлянят у мяне канфіскаваў. У-у, драпежнік!..

А недзе ў лесе чулася вясёлая песенька: «Нам не страшны шэры Воўк!..»



# Волаты Белавежскай пушчы

Зубр, якога звалі Волат, паволі ішоў па Белавежская пушчы, лянотна памахваў хвастом, адганяючы мух, і ціхенька сам сабе скардзіўся:

— Сумна... Сумна жыць і нікога не баяцца. Ваўкі і тыя абыходзяць мяне. Я такі дужы, а каму я магу паказаць сваю моц, калі роўнага мне няма?

І зубр падчапіў рогамі бервяно, якое ляжала на яго шляху, і з лёгкасцю зашпурнуў далёка ад сябе, быццам гэта была запалка, а не паваленая сасна.

— А я дык усіх баюся. Мне дзень і ноч страшна. Як я вам зайздрошчу, дзядзечка зубр. Вы такі магутны, Волат!

Зубр азірнуўся і ўбачыў зайца, які баязліва скакаў крыху збоку ад яго, і таксама скардзіўся на свой лёс.

— Не ведаю, пра што ты гаворыш,— здзівіўся зубр.— Што гэта такое «страшна»?

— А гэта, дзядзечка Волат, калі баішся нават уласнага ценю, калі подых ветру наганяе жах, калі...

— Ты, вушасты, перабольшваеш,— перарваў заячыя развагі Волат.— Цень... вецер... хіба ж гэта ворагі?

Гэтым часам зубр і заяц праміналі дзве маладыя асінкі, якія асцярожна зашапталіся:

— Ціха ты! Не дрыжы сваім лісцем, не прываблівай увагу!

— Як я магу не дрыжаць, калі вунь скача сам Заяц, ён умомант можа абгрызці нашу кару, тады мы прапалі,— адказала шэптам другая асінка.

Зубр усміхнуўся:

— Ну вось, баязліўчык, і цябе хтосьці баіцца. Асінкі нават увагі на мяне не звярнулі, а перад табой закалаціліся, як асінавы ліст. Для іх ты — волат.

Заяц апраўдваўся:

— Гэта я зімой, бывае, і пагрызу асінавую карыцу. Але голад вымушае мяне гэта рабіць. Ды і тое, я стараюся грызці паваленыя ветрам асіны.

Раптам зубр, які падчас размовы з зайцам, глядзеў больш убок, чым уперад, ударыўся лбом у дрэва. Звычайна дрэвы паважліва расхіналіся перад гаспадаром Белавежскай пушчы альбо гнуліся ці зусім ламаліся, а гэта дрэва нават не пахіснулася. Зубр уважліва агледзеў нечаканую перашкоду на сваім шляху.

— Ты хто?

Дрэва з гонарам адказала:

— Я — Волат! Дуб Волат!

— О-о! Дык мы цёзкі! — усклікнуў зубр.— Я таксама Волат!.. А вось я зараз праверу, які ты Волат.

І зубр, адышоўшы, набраў разгон і штомоцы ўдарыў лбом па ствале дуба. Волату-зубру падалося, што ў яго з вачэй паляцелі іскры,— у галаве загуло, ногі падагнуліся. А волат-дуб, як стаяў, так і працягваў стаяць, не варухнуўшы нават сваім раскідзістым голлем.

— Ого! — заматаў галавой зубр.— Ды ты сапраўды Волат! Я — самы дужы ў Белавежскай пушчы, а цябе нават скрануць не змог. Цяпер я бачу, што ты самы дужы і ніхто цябе не паваліць.

— Ты памыляешся, цёзка,— сумна прашапацеў лісцем Волат-дуб.— Ёсць той, каму пад сілу мяне знішчыць.

— Хто гэта? — усклікнуў зубр.— Чалавек?

— Не, чалавек у Белавежскай пушчы — наш сябар. Ён нас ахоўвае...

— Дык хто гэта? Няўжо ёсць у нашай пушчы той, хто больш дужы, чым я? — захваляваўся зубр.

— Я не буду называць яго, каб не наклікаць бяду, бо баюся нават аднаго яго імя. Бывай, цёзка!

— Бывай! — разгублена адказаў Волат-зубр і пайшоў шукаць таго, хто, аказваецца, больш дужы, чым ён.

Зубр успомніў пра зайца і хацеў запытацца ў яго, можа, ён ведае, хто гэты асілак, якога баіцца непахісны Волат-дуб, але зайца ўжо побач не было.

Шмат часу прайшло, пакуль зубр выхадзіў усю пушчу і ўздоўж, і ўпоперак, але дужэйшага за сябе не знайшоў. Вяртаўся ён да Волата-дуба, каб сказаць яму, што той памыляецца і дарэмна некага баіцца. Калі ўжо яму, зубру, не пад сілу зваліць такога Волата, як дуб, дык жыць ён можа і надалей упэўнена і спакойна.

Але, падышоўшы да таго месца, дзе калісь узвышаўся над усімі сваёй кронай магутны дуб, убачыў яго ляжачым на зямлі, без лістоты і амаль без кары.

— Хто?! Хто гэта зрабіў? — закрычаў у адчаі Волат-зубр.— Дзе той асілак, які паваліў такога Волата?

— Я тут! — прапішчала штосьці ці хтосьці.

— Дзе тут? Я цябе не бачу! — узрушана спытаўся ўсхваляваны зубр.

— Ды тут я! Пад самым тваім носам... Прабач, пад самай тваёй пысай. Вось я, на ствале дуба.

Волат-зубр уважліва агледзеў мёртвы ствол свайго цёзкі і заўважыў на ім маленькага жучка.

— Гэта ты? — здзівіўся зубр.— Няўжо гэта цябе баяўся Волат-дуб?

— Мяне! — самазадаволена адказаў жучок.

— А хто ты?

— Я — жук-караед. Мне варта толькі залезці пад кару дрэва, і жыць таму дрэву застанецца мала. Мае

лічыны свідруюць яго наскрозь, ператвараючы ў труху. Мяне баяцца тут усе дрэвы!

— А я нікога не баюся! — з гонарам усклікнуў Волат-зубр.— Нікога!

— Не надта ты пахваляйся,— празумдзеў жук.— Над кожным волатам ёсць свой волат.

Раптам зубр з жахам ускрыкнуў:

— Вой! Во-ой! Ай, пеканула, як агнём! — і, падняўшы хвост, кінуўся ў ратавальны гушчар, а над ім пераможна гудзеў авадзень-крывасмок.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў жук-караед.— такі вялікі, а не ведае, што ў жыцці кожны некага баіцца...

Але ту караед сцішыў голас і баязліва завойкаў, убачыўшы падыходзячых людзей:

— О-ё-ё! Трэба хуценька хавацца!

Да паваленага дуба падыйшлі два лесніка і заклапочана загаманілі:

— Ну вось, чаго баяліся, тое і адбываецца... Зноў нашэсце жукоў-караедаў. Трэба тэрмінова ратаваць дрэвы.

Зубр, які схаваўся ў цяністым гушчары, пачуў чалавечую гаворку і здзівіўся:

— Людзі,якіх я лічыў уладарамі прыроды, баяцца нейкіх там жучкоў. А я, смешна сказаць, аказваецца, баюся аваднёў! Відаць, праўду казаў той караед, што над кожным волатам ёсць свой волат.



# Пярсцёнак

Ішлі па дарозе дзве дзяўчыны — адна добрая, другая злыднюга. Добрая, як і належыць, робіць добрыя справы, злосная — благія...

Праўда гэтыя, такія розныя дзяўчынкі, мелі і падабенства — іх сукенкі былі аднаго колеру, ружовыя. Мусіць, калісьці дзяўчынкі купілі тканіну ў адной краме, але гэта — дробязь.

Усё пра дзяўчат мы ведаем, таму можна і кропку ставіць у нашай казцы, але... Пачакайце, вунь ідзе насустрач старэнькая бабуля з кійком у руцэ. Цікава, што ж будзе далей?

Я, у адрозненні ад дзяўчат, ведаю, што гэта ідзе не звычайная старая, а добрая чараўніца, якая спецыяльна ходзіць па дарогах нашых лёсаў, каб узнагароджваць дабро і выводзіць на чыстую ваду зло.

Упэўнены, што, як і ва ўсіх казках, чараўніца ўзнагародзіць добрую дзяўчынку за яе чулае сэрца...

Параўналася бабуля з дзяўчатамі і ласкава прывіталася:

— Добры дзень, шчабятуні-прыгажуні! Куды, красачкі, ідзіцё?

— Дзень добры, бабулечка! — адказала добрая дзяўчына.— Ідзём мы шукаць дзявочае шчасце. Няхай і вам пашчасціць у дарозе!

Злосная дзяўчына гыркнула:

— Куды ідзём, туды і ідзём! А табе якая справа? Кульгай сабе па халадку.

Старая пакорпалася ў фальбонах спадніцы і штосьці адтуль дастала.

— Табе, унучачка, за тваё добрае сэрца я дам вось гэта,— і працягнула дзяўчыне пярсцёнак.— Надзень яго на свой пальчык і ён будзе выконваць усе твае пажаданні.

(Я ж казаў, што так і будзе, і не памыліўся.)

Бабуля, хоць і была чараўніцай, але ад старасці паслабела зрокам. Яна сзпераляку тыцнула пярсцёнак у рукі злоснай дзяўчыне. Пэўна, аднаго колеру сукенкі паспрыялі адбыцца такой нечаканай несправядлівасці.

Але, што адбылося, тое адбылося — і старая паціху паклыпала далей.

— Ну што, з’ела?! — ажно пырснула слінкай злосная дзяўчына.— Ты перад ёй тут дываном сцялілася, а яна мяне вышэй ацаніла. Ха-ха-ха!

— Я не магу асуджаць старога чалавека,— ціха адказала добрая дзяўчына.— Відаць, ты ёй больш спадабалася...

Злыднюга пацяшалася:

— З такім персцяньком нам з табой не па дарозе. Бывай, лагодніца!

І яна крутнулася ўбок ад добрай дзяўчыны і весела пашыбавала прэч...

Во-ой, я ж забыўся прадставіць вам, як завуць гэтых дзяўчат! Казка, як і благая дзяўчына, крутнулася не ў той бок, я і абеламуціўся.

Дык вось, добрую дзяўчыну завуць Святлянкай, бо валасы ў яе светлыя, пшанічнага колеру, а імя злосная дзяўчыны — Чарнушка, бо валасы ў яе чорныя.

Яны аднагодкі, з маленства раслі побач і нават сябравалі. З узростам сяброўства крыху астудзілася, у асноўным з-за характару Чарнушкі, але добрая Святлянка рабіла ўсё, каб быць побач з сяброўкай і, па-магчымасці, ратаваць яе ад чэрствасці.

Застаўшыся адна, Чарнушка накіравалася ў горад, які быў побач, а там — праміком у гарадскі парк, дзе прывабна гучала музыка. Вакол было шмат моладзі, чуліся песні, смех, было сонечна ў прыродзе і на тварах людзей.

— Зараз вы ў мяне насвяткуецеся! — самазадаволена прашаптала Чарнушка.— Што б мне вам такое ўтварыць?

У вачах дзяўчынкі засвяціўся нейкі дзікі азарт, як у коткі, якая збіраецца скокнуць на мыш.

Дзіўна, але сярод гэтай весялосці і росквіту ўсмешак у Чарнушкі не ўзнікла ніводнай светлай думкі.

— Ага! Вось што вы зараз атрымаеце ад мяне! — пераможна ўсклікнула злыднюга. Яна паднесла да самага роту пярсцёнак і загадала: — Хачу, каб грымнуў гром з маланкамі і з неба палілося на галовы людзей, як з вядра!

Дзяўчына напружана паглядзела на неба, але працягвала свяціць сонца, гучала музыка і чуўся смех. Вакол вiравала весялосць і добразычлівасць.

— Ты што, аглух? — цяпер ужо крыкнула дзяўчына на пярсцёнак.

Але, колькі яна не крычала, колькі не круціла яго на пальцы, нічога не мянялася.

Чарнушка злосна бліснула вачамі і падалася прэч з парку.

— Старая манюка! — ажно кіпела яна.— Звычайная кульга, а не чараўніца!

Раптам да Чарнушкі падышоў сімпатычны хлопец і шчыра ўсміхнуўся:

— Вы самі з сабой размаўляеце! Як дзіўна! Можа б, вы лепш са мной пагутарылі?

Дзяўчына адзначыла, што хлопец даволі прывабліві, але злосць ад невыкананых яе намераў у парку, перапаўняла яе, таму хлопец пачуў:

— Каціся ты адсюль па халадку, казёл!

Потым спахапілася і паднесла да вуснаў палец з пярсцёнкам:

— Хачу, каб гэты пруставала зрабіўся казлом! Казло-о-м! Чуеш?

Хлопец расчаравана паціснуў плячыма і выдыхнуў:

— З выгляду такая прыгажуня, а ў роце — бруд.

Ён крутнуўся, але, адышоўшы, крыкнуў:

— А я цябе ўсё роўна знайду! Чакай!

Дзяўчына адчула на сэрцы горыч. Злосць, цяпер ужо на сябе, павялічвалася.

— А пярсцёнак — звычайнае абы што і з боку банцік. Выкінуць яго ці што? О-о, мне б сустрэць тую старую, я б ёй сказала пару ласкавых слоў.

Чарнушка па той самай дарозе накіравалася дамоў, спадзяваючыся сустрэць бабу-манюку. І сустрэла. Але сустрэла сваю сяброўку Святлянку, якая вельмі ўзрадавалася Чарнушцы.

— А я так хвалявалася за цябе! Ты амаль цэлы дзень адсутнічала, а мне ў галаву лезлі розныя думкі.

Чарнушка хмыкнула:

А ў тваю галаву не завіталі думкі, што гэты пярсцёнак — пшык, а тая старая абдурыла нас. Мяне, у першую чаргу.

— Што ты такое гаворыш? — абурылася сяброўка.

— А тое, што ніводнага жадання, нават майго загаду пярсцёнак не выканаў.

— І што ты яму загадвала, цікава? — не вытрывала Святлянка.

— Мая справа! — гыркнула Чарнушка.— На, можаш забраць яго сабе!

Святлянка рашуча адмовілася:

— Чужыя дарункі мне не патрэбны! Жыццё доўгае, магчыма, сустрэнеш тую...

Раптоўна, нібы міраж у пустыні, на дарозе паказалася тая самая бабуля з кійком у руцэ, якая нетаропка ішла насустрач.

— Во-о! На лаўца і звер бяжыць! — ажно затрэслася Чарнушка.— Ну, трымайся, кульга!

Старая засвяцілася радасцю, убачыўшы сваіх знаёмых:

— А-а, мае дзетачкі-кветачкі! Знайшлі дзявочае шчасце, кукілкі?

— Кульгай па халадку на трох нагах! — зноў пырснула слінкай Чарнушка.— Але спачатку забяры свой бракованы пярсцёнак! Манюка!

Старая ўважліва агледзела сяброўак, прыняла ад Чарнушкі свой падарунак і здзівілася:

— Няўжо ён не спрацаваў ні разу?

— Не, не і не! — ажно крыкнула злосная дзяўчына.— Ты памылілася і тыцнула пярсцёнак мне, а гэта не я, а яна рассыпалася перад табой драбней маку. Ха-ха-ха!

Старая перадала падарунак Святлянцы і сумна ўдакладніла:

— Не, я не памылілася, унучачка. Пярсцёнак я спецыяльна дала табе, каб ён уратаваў цябе ад чорнай злосці. Варта табе было загадаць штосьці добрае, карыснае табе ці людзям — усё б споўнілася, а ты б прасвятлела душой. Гэта было выпрабаванне, якое ты не вытрымала. Бывайце, красунькі-прыгажунькі!

І старая зноў, як і першы раз, паволі паклыпала далей і знікла за паваротам дарогі.

Дзяўчаты ад пачытага доўга не маглі варухнуцца.

Першай, нібы прачнулася Святлянка:

— Што ж ты нарабіла, Чарнушачка! Ты ж магла сябе ўратаваць ад злосці, зайздрасці, чэрствасці...

Раптам яна страпянулася:

— Але ж пярсцёнак у мяне!

Яна хуценька надзела яго на палец і ціхенька папрасіла:

— Зрабі, пярсцёначак, маю сяброўку Чарнушку добразычлівай, з чулым сэрцам і светлай душой!

Некалькі хвілін сяброўкі стаялі моўчкі, як пад гіпнозам.

Раптам з вачэй Чарнушкі зацурэлі ачышчальныя слёзы. Яна кінулася на шыю сяброўкі і працягвала плакаць, уздрыгваючы ўсім целам.

— Прабач, Святляначка! Даруй мне ўсё! Я столькі перажыла. Я рабіла не тое, гаварыла не тое, я не любіла ўсіх і сябе... Як я памылялася. Дзякуй табе, Святляначка, дзякуй той бабулі! Вы ўратавалі мяне ад самой сябе, той, злоснай і змрочнай.

Чарнушка адрынула ад сяброўкі, выцерла вочы і сонечна ўсміхнулася, як не ўсміхалася ніколі.

— Вітаю цябе, жыццё! — шчасліва ўсклікнула яна. Потым звярнулася да сяброўкі: — Святляначка! А сабе? Сабе што-небудзь загадай! Загадай усяго-ўсяго шмат! Загадай шчасце!

Святлянка задумліва паківала галавой:

— Сабе?.. Не... Сапраўднае шчасце не пярсцёнак стварае. Шчасце атрымлівае той, хто яго заслугоўвае сваімі адносінамі да жыцця... А вось адно жаданне я абавязкова загадаю... Зрабі, пярсцёначак, так, каб бабуля, якую мы сустракалі, набыла сілы, адкінула кіёк і яшчэ доўга насіла па дарогах жыцця дабрыню і любоў да ўсяго жывога на зямлі... А яшчэ, пярсцёначак, вяртайся да сваёй гаспадыні. Яна лепш ведае, як табой распарадзіцца... Бывай!



# Такое доўгае жыццё

Ранюсенькім ранкам, ледзь толькі зачаўся новы дзень, на свет паявіўся маленькі блакітны матылёк.

У яго было блакітным усё — і крылцы, і вусікі, і, безумоўна, вочкі. Ён закратаў вусікамі, расправіў крылцы і першы раз у жыцці раскрыў свае блакітныя вочкі.

— Вой, якая вакол прыгажосць! — з захапленнем прашапталі яго блакітныя вусны.

Ён і не ведаў, што сапраўдная прыгажосць чакае яго наперадзе, бо сонейка толькі-толькі пачынала ўсходзіць і яго першыя промні яшчэ не паспелі пачаць працу і не разбудзілі шматлікія краскі, якія закрываюцца на ноч, хаваючы ад расы смачны пылок і салодкі нектар.

Але і без кветак, першы ў жыцці матылька ранак

падаўся яму надзвычай чароўным, і ён ад захаплення не стрымаўся і замахаў блакітнымі крылцамі.

Адкуль яму было ведаць, што варта толькі ўзмахнуць крылцамі, як яны ўздымуць яго высока над зямлёй і панясуць насустрач дзівосным падзеям прыгожага і доўгага жыцця?

— Я лячу! — не мог стрымаць сваёй радасці шчаслівы матылёк.— Я лячу!

І тут першы сонечны промнік весела бліснуў у ружовай празрыстасці цёплага світанка і нечакана сутыкнуўся з блакітным матыльком, які працягваў бесклапотна махаць у паветры сваімі блакітнымі крылцамі. Заззяўшы ў святле першага промніка, матылёк заплюшчыў вочкі і ўсклікнуў:

— Які цуд! Якая пяшчота!

— Ты хто? — спытаўся здзіўлены промнік.

Матылёк расплюшчыў вочкі:

— Я — блакітны матылёк! А ты?

— А я — промнік сонца! Самы яго любімы, бо самы першы. На жаль, мы, промнікі, кожную раніцу мяняемся, таму заўтра будзе ўжо другі самы першы і самы любімы промень. Нас гэтулькі многа, што толькі раз даводзіцца быць першым і любімым сонейкавым промнем. Заўтра я буду звычайны промень.

— А куды ты так спяшаешся? — пацікавіўся блакітны матылёк, які ў святле ранішняга промня таксама крыху паружавеў.

— Я спяшаюся разбудзіць краскі, птушак, усё жывое на зямлі, ды і саму зямлю, і абвясціць

надыход новага дня. Дарэчы, а чаму ты прачнуўся без майго дазволу? — пацікавіўся промнік.

Матылёк вінавата залыпаў сваімі блакітнымі вочкамі:

— Не ведаю. Я толькі-толькі нарадзіўся, і мне ніхто не сказаў, што без твайго дазволу нельга прачынацца... Даруй!

— Дык глядзі ж надалей і другі раз раней за сонейка не ўставай! А цяпер — бывай! У мяне шмат клопатаў!

Матылёк радасна крыкнуў наўздагон першаму промніку і першаму свайму сябру:

— Заўтра я буду чакаць новага промніка і без яго дазволу не прачнуся. Абяцаю!

Але матылёк не ведаў, што выканаць сваё абяцанне яму не ўдасца, бо ён быў матылёк-аднадзёнак. Але і ягоны сябар промнік ніколі не даведаецца пра гэта, бо заўтра новы першы промнік сустрэне іншага, толькі што народжанага блакітнага матылька і ўсё паўторыцца нанова.

А пакуль наш знаёмы блакітны матылёк ляцеў ужо ў сонечным святле і дзівіўся з хараства зямлі. Адчуўшы, што пачынае стамляцца, матылёк выбраў самую прыгожую краску і сеў на яе адпачыць. Але і тут яго чакала дзівоснае адкрыццё: краска была не толькі прыгожай, яна пачаставала матылька цудоўны пылком.

— Ой, як смачна! — захапляўся матылёк, глытаючы красчын пачастунак.— Ніколі ў жыцці такога

не еў! — І гэта была праўда, бо ўвогуле еў ён першы раз у жыцці.

Наступная краска, на якую ён пераляцеў, падаравала яму салодкі нектар, ад якога ў матылька захапіла дух, бо ён быў яшчэ смачнейшы за пылок.

— Ах, якое цудоўнае жыццё! Як добра быць матыльком! Дзякуй, красачкі, за пачастунак! — і адпачынутыя крылцы зноў узнялі яго ў паветра.

Выказваючы падзяку краскам, матылёк і не падазраваў, што і сам зрабіў ім карысную паслугу — перанёс пылок ад адной краскі да другой і гэтым падоўжыў іх жыццё.

І тут матылёк заўважыў, што неба, якое ў першыя гадзіны яго жыцця было ружовым, непрыкметнаператварылася ў блакітнае.

— Колькі блакіту вакол нарабілі мае крылцы! — радаваўся матылёк і імкнуўся вышэй і вышэй — бліжэй да неба.

Раптам яго сэрца моцна затахкала, нешта салодка заварушылася ў яго душы — ён убачыў яшчэ аднаго, гэткага, як і сам, блакітнага матылька, які імкнуўся яму насустрач, нібы маленькі кавалачак блакітнага неба.

— Ой! — схапіўся матылёк адной ножкай за сваю галаву, а другой за трапяткое сэрца.— Ой, як усё закруцілася і кудысьці паплыло! Ой, што з маім сэрцам?

Ён раптам аслабеў, але толькі на адно імгненне, бо нейкая невядомая сіла падхапіла яго і разам

з другім блакітным матыльком, закруціла ў казачным карагодзе, узняла іх абодвух высока над зямлёй і злучыла ў чароўным танцы адвечнага кахання. Але назву гэтага танца матылёк не ведаў, бо такое было першы раз у ягоным жыцці.

Нябачна хваля гарачых пачуццяў то несла двух блакітных матылькоў ледзь не да самага блакітнага неба, то імкліва апускала да самых красак на зямлі. І не існавала для іх на ўсім свеце нічога, акрамя гэтага чароўнага карагода.

Нарэшце абяссіленыя, яны селі на адну краску, заплюшчылі ў асалодзе свае вочкі, і зноў для іх нічога і нікога не існавала вакол, акрамя трапятлівага тахкання сэрцаў, якія біліся, як адно. Потым усё некуды адышло, знікла...

Лёгкі ветрык далікатна калыхнуў краску і вывеў матылькоў з чароўнага забыцця. Наш матылёк адкрыў вочкі і нікога побач з сабой не ўбачыў, быццам мінулае было цудоўным сном. Стома прайшла, але былой лёгкасці крылцы болей не адчувалі. Нават пылок падаўся менш прыемным, ды і нектар не захапляў салодкасцю, як раней.

Узмахнуўшы крылцамі, матылёк з жалем заўважыў, што блакіт неба прыцмянеў, што сонейка стомлена нахілілася да другога краю зямлі, а раскрытыя пялёсткі красак пачалі паціху рухацца насустрач адзін аднаму, быццам іх сціскала нябачная сіла.

Ды і сам блакітны матылёк усё часцей і часцей шукаў адпачынку на засынаючых красках, адчуваючы, што і ён няўмольна засынае.

— Ах, якое доўгае і цікавае жыццё! — з нейкай сумнай урачыстасцю выдыхнуў ён.— Ах, як я стаміўся...

Блакітны матылёк напружыў апошнія сілы і ўзмахнуў крылцамі, не заўважаючы, куды яны яго апошні раз нясуць.

Надышоў цёплы летні вечар. Апошні сонечны промень, апошні раз бліснуў і імкліва схаваўся за край зямлі. Блакітны матылёк цяжка апусціўся ля сцяны нейкай хаты і быў гатовы забыцца вечным сном, але раптоўна пачуў:

— Ах, як хутка праляцела жыццё... Дзевяноста гадоў праляцела, быццам я і не жыў...

Блакітны матылёк расплюшчыў свае вочкі і ўбачыў на лаўцы ля хаты састарэлага чалавека, які смактаў люльку і скардзіўся на хуткаплыннасць часу.

Блакітны матылёк, перад тым, як заснуць, успеў падумаць: «Добра, што гэты чалавек не ведае, якое доўгае жыццё было ў мяне...»



# Кемлівы Заяц

Ішоў па лесе галодны Воўк — як ён лічыў, самы галодны Воўк ва ўсім свеце. Ужо некалькі дзён у яго пашчу не трапляла ні крошачкі, ні кропелькі. Шукаў ён, чым бы пажывіцца, як бы ад голаду адкупіцца.

Але лес вялікі, і ў лесе, як вядома, жыве не адзін Воўк. Таму па гэтых жа гушчарынах туляўся другі галодны Воўк. І ён лічыў сябе самым галодным Ваўком ва ўсім свеце, бо і ў яго пашчу не трапляла некалькі дзён ніякая пажыва.

У гэтым жа лесе, акрамя іншай жыўнасці, жыў і Кемлівы Заяц. Ён сядзеў на пяньку і, хоць быў кемлівым, ніяк не мог вырашыць, куды яму спярша бегчы — на грады, дзе расце морква ці на гарод, дзе расце капуста. І хоць гэту смакату садзіў не ён, а людзі ў вёсцы, ды чужое ён лічыў больш смачным, чым сваё.

Каб не вагацца, Заяц сарваў рамонак і пачаў варажыць, адрываючы па чарзе пялёсткі: «морква-капуста, морква-капуста, морква-капуста...»

Не паспеў ён закончыць варажбу, як над самым сваім вухам пачуў:

— Вось каго я зараз з’ем!

Заяц ад нечаканасці выпусціў з лап рамоначку і з жахам заўважыў ля свайго левага вуха раскрытую пашчу Ваўка.

Але ў гэты момант ля другога свайго, правага вуха, пачуў, як рэха, другі рык:

— Вось каго я зараз з’ем!

Паколькі ў Зайца касыя вочы, ён, не паварочваючы галавы, заўважыў адначасова з двух бакоў двух Ваўкоў з разяўленымі пашчамі.

— Стоп, стоп, стоп! — закрычаў Заяц.— Што значыць, адразу, з’ем? Тут трэба раскінуць мазгамі! Я — маленькі Заяц, а вы — вунь якія вялізныя Ваўчыны. Што для вас двух такая мелюзга, як я? Вось аднаму з вас мяне хопіць самы найякраз.

Заяц скасавурыў вочы на першага Ваўка і тыцнуў лапай у яго бок:

— Ты! Менавіта ты павінен мяне з’есці! Толькі ты адзін!

— Чаму ён, а не я? — ажно пырснуў слінай другі Воўк.— Я — самы галодны!

— Не ты, а я — самы галодны! — зароў першы Воўк.— Да таго ж, сам Заяц паказаў на мяне.

— Стоп, стоп, стоп! — зноў усклікнуў Кемлівы Заяц.— тут трэба раскінуць мазгамі!

Ён цяпер ужо скасавурыўся на другога Ваўка і паказаў лапай на яго:

— Я не ведаў, што гэты Воўк — самы галодны. Таму толькі ён можа смела мяне з'есці. Толькі ён!

— Не дам! — ашчэрыўся першы Воўк на другога.— Я — самы галодны!

— Не! Я — самы галодны!

— Я

— Не, я!

— Стоп, стоп, стоп! — развёў у бакі Воўчыя пашчы заяц.— Давайце раскінем мазгамі так: хто з вас самы дужы, той і самы галодны. Яму я і дастануся.

Я сяду на гэты пянёк і буду вашым секундантам, а вы крыху разыдзіцеся і па маёй камандзе кідайцеся адзін на аднаго. Згодны?

— Згодны! — у адзін голас адказалі галодныя Ваўкі.— Давай хутчэй каманду!

Заяц сеў на пянёк, падняў угару лапу і папярэдзіў:

— Кідайцеся адзін на аднаго толькі на лік «тры». Увага! Ра-а-аз... дв-а-а... Тры!

Ваўкі абрынулі адзін на другога ўсю сваю моц, пусціўшы ў ход вострыя іклы. Рык стаяў страшэнны, поўсць разам з пенай ляцела ва ўсе бакі.

Заяц ціхенька саслізнуў з пянька, і са словамі: «І я — самы галодны», падаўся далей ад гэтага небяспечнага месца.

— Куды ж мне кіравацца? Да морквы ці да капусты?

Тут ён раптоўна, нос у нос, сутыкнуўся са сваім лепшым сябрам, Памяркоўным Зайцам, які заўсёды з усім згаджаўся.

— О, вітаю цябе! — радасна ўсклікнуў Памяркоўны Заяц.— Адкуль і куды?

Кемлівы замест прывітання, спытаўся:

— Як ты думаеш, што больш карыснае на сняданак, морква ці капуста?

— Я згодзен есці адразу і моркву, і капусту,— аблізнуўся Памяркоўны.— Я згодзен.

— А я лічу, што самае карыснае і на сняданак, і на абед, і на вячэру — гэта Зайцы! — пачуў Кемлівы Заяц страшэнны рык ля самага вуха. Ён з жахам заўважыў каля сябе аднаго з тых двух галодных Ваўкоў, які, відаць, перамог свайго канкурэнта.

Воўк працягваў злосна хрыпець:

— Я — самы дужы, бо перамог таго галоднага Ваўка. Значыцца, я — самы галодны. І што? Я сабраўся цябе з'есці, а ты збег. Абдурыў нас і знік.— Ён прыцiснуў да зямлі сваёй вялікай лапай Кемлівага Зайца: — Цяпер не ўцячэш! Дурных больш няма! Цяпер я з'ем вас абодвух! — і прыцiснуў другой лапай Памяркоўнага Зайца.

Памяркоўны пакорліва апусціў вушы:

— Я згодзен, я згодзен...

— Стоп, стоп, стоп! — запратэставаў Кемлівы Заяц.— Удакладняю: я не збег, а ненадоўга адхінуўся,

каб прыйсці да вас вось з ім, з маім сябрам. Праўда, Памяркновец?

— Нешта я нічога не разумею, але я згодзен,— прамармытаў Памяркоўны Заяц.

— А навошта ты пабег за сваім сябрам? — пацікавіўся Воўк.— Мне б і цябе аднаго хапіла.

Кемлівы пераканаўча патлумачыў:

— Я падумаў, а раптам вы абодва аднолькава дужыя і ў вас атрымаецца нічыя, каму тады з вас было б есці мяне? Вось я і вырашыў, што кожны з вас заслугоўвае па зайцу.

— Талкова! — згадзіўся Воўк.— Ну, а цяпер мне час снедаць.

І ён раскрыў ікластую пашчу, збіраючыся з'есці сваю ахвяру.

— Стоп, стоп, стоп! — страпянуўся пад Воўчай лапай Кемлівы Заяц.

— Што яшчэ? — незадаволена прахрыпеў Воўк.

— А тое,— пачаў выкручвацца хітрун,— што тады вас было двое, а я адзін, а цяпер наадварот, ты адзін, а нас двое.

— І што з гэтага? — не зразумеў Воўк.

— Вы тады спрачаліся, каго ты першым павінен з'есці. Я згодны быць першым, бо гэта — пачэсна, але ж і мой сябар жадае на першае месца.— Ён павярнуўся да Памяркоўнага: — Ты ж хочаш быць першым?

— Я згодзен, я згодзен...— выдыхнуў Памяркоўны Заяц.

— Тут трэба раскінуць мазгамі! — насядаў на Ваўка Кемлівы.— Мы патрабуем справядлівасці — ніхто з нас не жадае быць другім. Паважай нашы правы!

Воўк завагаўся і перастаў прыціскаць лапамі зайцоў да зямлі.

— Яно так... А як нам гэту справядлівасць усталяваць?

— А вельмі проста! — ажывіўся Кемлівы Заяц, адчуўшы з боку Ваўка паслабленне.— Ты садзіся вось на гэты пянёк і будзеш нашым секундантам, а мы, па тваёй камандзе лупянём з усіх ног ву-у-унь за той пагорачак, там акруцімся і прыімчым зноў да цябе. Хто прыскача першым, таго ты першага і з'ясі. Ну як?

— Талкова! — згадзіўся Воўк.— Толькі без маёй каманды не стартуйце. Пачынайце бегчы на лік «тры». Згодны?

— Яшчэ як згодны! — адказалі адначасова два сябрукі.

— Воўк сеў на пянёк, узняў угару лапу і папярэдзіў:

— Увага! Ра-а-аз, два-а-а, тры!

Памяркоўны і Кемлівы Зайцы так сiганулі з месца, што толькі хвосцікі іх замільгалі і зніклі за пагоркам.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў задаволены Воўк.—

Во стараюцца! Кожны хоча быць першым... Цікава, хто ж з іх пераможа?

Доўга чакаў Воўк свай сняданак, а Зайцоў усё не было і не было.

— Дзе яны забавіліся? — абурыўся ён.— Паўзуць там за пагоркам, як чарапахі...

Але прайшоў час снеданка, мінуў час абеду, надыйшоў час вячэры, а галодны Воўк цярпліва сядзеў, глытаючы слінкі.

Не будзем яму перашкаджаць.





# «Белы свет»

Сядзелі летнім днём дзед Васіль са сваім унукам Максімкам на лаўцы ля хаты, на сонейку грэліся ды размову вялі.

Раптам дзед уздыхнуў і кажа:

— Вось, унучак, жыццё дажываю, а свету белага пабачыць не давялося. У Беларусі нарадзіўся, тут і кропку ў жыцці пастаўлю... Праўда, вайна скіроўвала дарогі лёсу па Еўропе, але тады я больш у прыцэл вінтоўкі глядзеў, чым па баках... Э-хэ-хэ...

— А што гэта, дзядуля, за белы свет такі? — пацікавіўся хлопчык,— хіба бывае чорны ці зялёны свет? Вакол жа нас усё шматкаляровае.

Дзед Васіль абняў унука:

— Гэта толькі так кажуць, Максімка, белы свет. Белы свет — значыцца свет вялікі, неабдымны,

уся наша матухна-зямля. Ты, унучак,правільна заўважыў: наш свет — шматкаляровы і цікавы. Вось таму я і ўздыхнуў, што не давялося мне пабачыць шмат чаго ў гэтым свеце...

Пасля гэтай размовы моцна задумаўся Максімка, як дапамагчы дзеду «белы свет» пабачыць.

Але што ён можа зрабіць, маленькі хлопчык, які і сам яшчэ не бачыў гэты шматкаляровы белы свет?

І чым больш ён аб гэтым думаў, тым больш адчуваў сваю бездапаможнасць, а адчуваючы сваю бездапаможнасць, усё мацней прагнуў сваім шчырым сэрцам дапамагчы дзеду.

І вось аднойчы ноччу яму прысніўся дзівосны сон, быццам над ім схілілася незнаёмая, прыгожая жанчына, празрыстая, як сонечная раніца. На ёй была дзівосная, нібы крылы, накідка, сатканая з сонечных промняў. У руцэ яна трымала маленькі глобусік, на якім зіхцелі рознакаляровыя кнопачкі, з назвамі гарадоў. Незнаёмка ласкавым голасам сказала:

— Вось, Максімка, чароўны глобусік, якім ты можаш пакарыстацца толькі адзін дзень. Націснеш на кнопачку з назваю горада і адразу апынешся ў тым горадзе са сваім дзедам. Захочаш вярнуцца дамоў, падкінь глобусік у паветра, ён растане ў ім. А пакуль я пакладу яго ў шуфлядку твайго стала...

Максімка не ведаў, як не ведаюць і ўсе дзеці, што ў кожнага дзіцяці ёсць свая добрая фея, якая дапамагае дзецям рабіць дабро для іншых людзей.

Вось і Максімка, прачнуўшыся, быў упэўнены, што бачыў чарговы сон. Колькі разоў ён сніў цукеркі і цацкі, а раніцай нічога не знаходзіў. Ён не здагадваўся, што знайсці пад падушкай цукеркі ці цацкі — гэта звычайныя рэчы, а не сапраўдная добрая справа.

А Максімку вельмі хацелася ўсцешыць свайго дзеда і паказаць яму такі таямнічы белы свет. Хіба ж гэта не высакароднае жаданне зрабіць добрую справу?

Максімка паснедаў і пабег на вуліцу ладзіць са сваімі сябрамі гулі. Толькі вечарам, калі прыйшлі з працы яго бацькі і ўсе сабраліся за вячэрай дома, хлопчык ўспомніў незвычайны сон. Ён пабег у свой пакой, але каля стала спыніўся. Паглядзець у шуфлядку ці не? Не, лепей не расчароўвацца! Гэта ж толькі сон...

— Але што я губляю?— выдыхнуў Максімка і рашуча высунуў шуфлядку. Зазірнуў у яе і аслупянеў, вачам сваім не верыць — у шуфлядцы ляжаў прыгожы каляровы глобусік. Хлопчык дрыготкімі рукамі дастаў яго і паднёс бліжэй да святла. На глобусіку перламутрам пераліваліся шматлікія кнопачкі, пад якімі чыталіся назвы гарадоў.

Максім ушчыкнуў сябе.

— Зноў я сплю! Зноў сон! — але ўшчыкнутае месца забалела.— Гэта не сон! Гэта напраўду! — ледзь не закрычаў ён і памкнуўся ціскануць на любую кнопачку, але своечасова стрымаў сябе:

— Што я, дурань, чуць не зрабіў! А калі гэта напраўду чароўны глобусік? Сапсаваў бы ўсю справу! Гэта ж толькі адзін раз можна пакарыстацца цудам! А дзед? Хіба ж без яго можна ціскаць на кнопкі? Ды і вечар за вокнамі, ноч на носе. Не, трэба чакаць раніцу і відном рабіць спробу перанесціся ў «белы свет».

Лёгка сказаць, чакаць раніцу, калі ў руках такая неверагоднасць. Каб супакоіць нецярпенне, Максімка пачаў вывучаць назвы гарадоў і планаваць, адкуль пачаць вандроўку і дзе абавязкова пабыць. Гэта зрабіць было зусім няпроста, таму што хацелася як мага болей гарадоў наведаць і таму, што Максім не ведаў, што хацеў бы пабачыць яго любы дзед. А галоўнае, яму было сорамна прызнацца сабе ў тым, што яго геаграфічныя веды «кульгаюць».

Ноч цягнулася марудна доўга, сон не ішоў да Максімкі, здавалася, што час стаіць на месцы.

Нарэшце надыйшла доўгачаканая раніца. Паснедаўшы, Максімавы бацькі пайшлі на працу, а ён застаўся з дзедам і бабуляй.

Летні дзень ласкава запрашаў на вуліцу і абяцаў цяпло і пяшчоту. Баба рупілася ля стала, а Максімка з дзедам селі ля хаты на лаўку і маўчалі.

Максімка маўчаў таму, што не вырашыў, як падступіцца да дзеда са сваім сакрэтам. Ці сказаць яму адкрыта, ці нейкім чынам схітраваць? Дзед маўчаў таму, што з асалодай курыў.

Нечакана выйсце з гэтай праблемы прыйшло само: дзед прыгрэўся на сонейку і задрамаў.

Максімка, для надзейнасці, ціхенька узяўся за дзедаву руку і націснуў на першую кнопачку, пад якой было напісана добра вядомае яму слова «Масква».

Умомант абодва вандроўнікі апынуліся ў Маскве. Ды дзе! На самой Чырвонай плошчы! Усё адбылося так хутка, што дзедава цыгарка працягвала дыміцца.

Дзед надзіва спакойна азірнуўся навакол і сказаў ціхенька сабе пад нос:

— Гэта ж трэба такому прысніцца!..

Максімка раскрыў рот, каб пераможна абвясціць дзеду, што гэта не сон, што гэта ён, яго ўнук, творыць цуд, але прыкусіў язык: няхай сабе дзед думае, што ўсё адбываецца ў сне. Меней будзе пытанняў, на якія і сам Максімка не ведае адказу.

Дзед і ўнук, ўзяўшыся за рукі, расталі ў шматлікім натоўпе людзей, сярод гоману галасоў і сталічнага тлуму.

Спачатку яны падыйшлі да Маўзалею Леніна, затым за нейкай экскурсіяй накіраваліся да Вечнага агню ля магілы Невядомага салдата. Дзед ніяк не мог надзівіцца на Крамлёўскія шпілі, якія, здавалася, прапорваюць сваімі зоркамі неба.

Дзед ціха выдыхнуў:

— Як шкада, унучак, што гэта мой сон...Хадзіць

ты са мной ходзіш, але бачыць нічога не можаш, бо кожны бачыць толькі свае ўласныя сны...

Максімку зноў давялося прыкусваць свой язык, каб не сапсаваць дзедаў «уласны сон».

Хлопчык сам з захапленнем круціў галавой, як тая сава, але памятаў і пра тое, што на ім ляжыць адказнасць «сусветнага экскурсавода». Ён па-даросламу разумеў, што час бяжыць хутка, што доўга затрымлівацца ў адным горадзе нельга, таму непрыкметна для дзеда адвярнуўся і ціскануў на кнопку...

Дзед у сваіх успамінах часта нагадваў гэты горад, бо з ім былі звязаны вельмі важныя падзеі ў яго жыцці і, як ён казаў, у жыцці ўсяго чалавецтва.

Так, гэта быў горад Берлін. Стары відавочна ажывіўся, выпрастаў плечы, здавалася, памаладзеў.

— Матухна родная! Гэта ж Берлін! — усклікнуў ён,— Вось гэта, унучак, Брандэнбургскія вароты! А вунь, ліха яго бяры — Рэйхстаг! Я табе, Максімка, пра яго распавядаў. Эх, шкада, залізалі яго ды падфарбавалі... Вунь на той сцяне быў і мой пераможны надпіс.. Эх, шкада, запэцкалі, затынкавалі ўсё...

Прахожыя з цікавасцю азіраліся на дзеда, які пасля сняданка ў вёсцы, выйшаў з хаты пакурыць басанож. Цяпер і па Берліну ён вытупваў босымі нагамі.

— А-а! Азіраюцца! Ты павінен бачыць гэта, Максімка — азіраюцца, пазнаюць пераможцу! Эх, ведаць бы, што такое прысніцца, пачапіў бы перад сном на

ўсе грудзі свае медалі і ордэны — знайце нашых! Глядзіце, азірайцеся — дзед з унукам на шляхах баявой славы! Дзеля гэтага варта жыць, Максімка!

Магчыма, стары і далей працягваў бы свой усхваляваны маналог, але хлопчык ціскануў на чарговую кнопачку з невядомым словам Нью-Йорк.

Па вушах адразу разануў шум, гудзенне вялікага мноства машын, ад людзей і шыльдаў навокал застракаціла ўваччу. Знікла небе, яго засланілі высачэзныя гмахі-дамы. Тут было шмат чарнаскурых людзей і Максімка крыху спалохаўся, а дзед прашаптаў: «Свят! Свят!» і перахрысціўся. Было горача і няўтульна, хацелася піць. І ўвогуле хацелася на прастор, не хапала паветра, але за кожным вуглом пачыналася ўсё з пачатку — дамы-гмахі, слата людзей і машын.

Дзед абурыўся:

— Не ведаю, унучак, куды мяне занёс сон, але нават сніць такое непрыемна, а ўжо жыць тут — барані Бог.

Максімку таксама не падабалася тут і ён з палёгкай націснуў на зноў жа незнаёмы горад Дэлі.

Але палёгкі не атрымалася. На нашых вандроўнікаў дыхнула яшчэ большай спякотай. Ды і людзей тут было багата — не размінуцца. Па вуліцах імчалі ў двух напрамках розныя машыны, нейкія дзіўныя двух і трохколыя веласіпеды, нават сланы сустракаліся. Але самае дзіўнае было тое, што між

гэтай тлумнай мітусні спакойна вышпацыроўвалі звычайныя каровы, да якіх усе ставіліся надзвычай трывала і паважліва. абміналі іх нават тады, калі якая-небудзь рагуля укладвалася пасярод вуліцы.

— Вось гэта дык сон! — не пераставаў дзівіцца дзед,— Глянь, Максімка, вунь якая шырокая рэчка і колькі людзей ў ёй боўтаецца, нават у адзенні. Можа б і нам абмыць ногі?..

Максімку было вельмі горача і ён з асалодай пакупаўся бы, але працягваў маўчаць, каб не раскрыць дзеду сакрэту, які і для яго самога заставаўся сакрэтам.

А дзед працягваў:

Не, унучак, не палезем у рэчку, вада нейкая мутная і жоўтая, не тое, што ў нашай крынічнай Удранцы. Дзед выцер успацелы твар і Максімка зразумеў, што тут не вельмі спрыяльна для дзедава здароўя. Таму ён хуценька націснуў на назву горада — Парыж.

Пасля шумнага і душнага Дэлі, Парыж падаўся раем. Тым больш што вандроўнікі апынуліся ля Эйфелевай башні, дзе адсутнічаў аўтамабільны рух і толькі турысты ды гаражане павольна праміналіся па вычурнаму бруку.

Тут дзед выказаў сваю дасведчанасць:

— А я, унучак, ведаю гэту шыбельніцу, бачыў яе па тэлебачанні ды ў часопісах. Гэта — знакамітая Эйфелева башня. Вось куды занёс нас сон — аж у

Парыж! Але ў Францыі ёсць і іншыя знакамітасці. Я, унучак, як прачнуся, раскажу табе пра французскіх лётчыкаў, якія ў вайну дапамагалі нам біць фашыстаў. Ліхія былі часы і славутыя!..

Недзе тут, Максімка, і слынная Трыўмфальная арка, але я, хоць і ў сне, а дужа стаміўся. Ногі гудуць, падэшвы агнём пячэ. Гады бяруць сваё.

Максімка і сам адчуваў стому ва ўсім целе,але трываў дзеля дзеда. Цяпер, пасля дзедавых скаргаў, ён ледзь не валіўся з ног.

Хлопчыку было шкада перапыняць падарожжа, было шкада расставацца з глобусікам, але абставіны вымусілі яго зрабіць гэта. Ён непрыкметна адвярнуўся ад дзеда, прыціснуў да грудзей цудоўны начны падарунак і, стрымліваючы слёзы, прашаптаў:

— Дзякуй табе, начная таямнічая госця, дзякуй табе, чароўны глобусік! Бывай! — і кідануў яго ў паветра над галавой, дзе ён растаў у блакітным небе.

Адразу Максімка і дзед апынуліся ля сваёй хаты на лаўцы. Вечарэла.

З хаты выйшла Максімкава бабуля і здзівілася:

— Вы тут? А дзе гэта вы, гулёні, цэлы дзень адсутнічалі? Абедаць не прыходзілі, я ўжо хваляваццa пачала.

— Што ты выдумляеш? — запярэчаў дзед,— я крыху прыдрамнуў на лаўцы, а Максімка, пэўна, гойсаў з сябрамі.

За вячэрай дзед узрушана і дэталёва распавя-

даў усім, які незвычайны сон ён бачыў, дрэмячы на лаўцы.

— Шмат пабачыў, як у кіно. І цікавага, і рознага, але больш прыгожага, чым у нас, у Беларусі, нават у сне няма. Ведаеце,— горача працягваў ён свой распавед,— мне ў сне падалося, што Парыж не так ужо і далёка ад нашай вёскі.

Максімка загадкава ўсміхнуўся.





# Хто ніколі не спіць?

Кожны вечар, укладаючы спаць Аленку, маці чула адно і тое ж:

— Мамачка, ну я не хачу спаць! Ну я яшчэ крыху пагуляю!

Маці расказвала ёй і казкі, і розныя цікавыя гісторыі, а ў адказ чула нязменнае: — Не хачу спаць!

Тады маці пускала ў ход свой апошні аргумент:

— Аленачка, няма ў свеце нікога, хто б у свой час не спаў. Спяць усе — так ўжо заведзена ў свеце. Вось ты мне назаві каго-небудзь, хто ніколі не спіць, назаві! Назавеш і я дазволю табе гуляць столькі, колькі захочаш. Нават зусім можаш не спаць. Згодна?

— Згодна, мамачка! — адказала Аленка і адразу ж адвярнулася да сцяны, робячы выгляд, што збіраецца заснуць.

Задаволеная маці ўсміхнулася і выйшла з дзіцячага пакою.

Але Аленка адвярнулася да сцяны зусім не для таго, каб заснуць, а для пошуку ў думках свайго выратавацеля, які павінен недзе быць.

Але падумаць нічога карыснага для сябе яна не змагла, і непрыкметна заснула.

Раніцай, паснедаўшы і нікому нічога не сказаўшы, Аленка пайшла...як у той казцы, туды, не ведаю куды.

Выйшла яна на пагорак, азірнулася — у каго б запытацца, дзе знайсці таго ці тую, хто ніколі не спіць.

Навокал нікога не было, таму яна села на траву і раптоўна ўзрадавалася:

— Спытаюся я ў зямлі! Яна, пэўна, ніколі не спіць, ды і вачэй ў яе няма, каб іх заплюшчыць.

Аленка, хоць і была маленькай дзяўчынкай, ды разумела, што зямля размаўляць не можа.

Але не ведала яна і таго, што ў казцы размаўляюць усе, нават зямля.

Таму была вельмі здзіўлена, калі на сваё пытанне: «Зямелька, ты спіш калі-небудзь ці не?» — атрымала адказ:

— Сплю, Аленачка, я, сплю. Ды сплю даволі доўга — цэлую зіму. Мне неабходна адпачыць пасля руплівага лета і працоўнай восені. Я прачынаюся вясной з новымі сіламі, каб зноў гаспадарыць і ўраджаіць. Без сну не будзе росту і ў раслін, і ў людзей.

— І ў мяне? — спыталася дзяўчынка.

— І ў цябе.— адказала зямля.

Здзіўленая Аленка падыйшла да яблынькі.

— Яблынька, скажы мне, ці спіш ты калі-небудзь ці не?

— Якое, сапраўды дзіцячае пытанне,— усклікнула яблынька.— Безумоўна, я сплю. Усе дрэвы восенню скідваюць сваю лістоту і апускаюцца ў глыбокі сон аж да вясны.

— Як і зямля?

— Як і зямля,— пацвердзіла яблынька.

Тут дзяўчынка ўбачыла яшчарку.

— Яшчарачка, не палохайся мяне, скажы, ці ты спіш калі ці, можа, не?

— Ха-ха! — засмяялася яшчарка,— Я не проста сплю, я зімой халадзею, камянею і гэтак сплю да вясны. Сон — маё ратаванне. Бывай, цікаўніца! — і яшчарка шмыгнула пад камень.

Аленка разгубілася — няўжо ўсе такія сплюшкі? Няўжо яна не назаве сваёй маме таго, хто ніколі не спіць?..

А вунь міліцыянер! Ён, кажуць, дзень і ноч на пасту.

— Дзядзечка міліцыянер! — звярнулася яна да ахоўніку парадку,— Дзядзечка паставы, вы, я ведаю, дзень і ноч на варце. Вам, пэўна, і спаць няма калі. Скажыце, што вы не спіце! Няўжо і вы кладзецеся спаць?

І нарэшце Аленка пачула тое, што і хацела пачуць:

— Спаць? — здзівіўся міліцыянер,— не спаць мы не кладземся! Не хвалюйся, дзяўчынка, і спі спакойна!

— Ура! — запляскала ў далоні Аленка,— нарэшце я адшукала таго, хто ніколі не спіць!

— Ніколі?— яшчэ больш здзівіўся міліцыянер,— Ты мяне, дзяўчынка, няправільна зразумела. Калі я сказаў, што спаць мы не кладземся, я меў на ўвазе тое, што мы ніколі не кладземся спаць на службе. А ў вольны час, нам, як і ўсім людзям, неабходна выспацца і аднавіць сілы. Сон — вельмі важны ў жыцці чалавека. Вось ты,— звярнуўся ён да Аленкі,— не будзеш спаць і не вырасцеш.

Яшчэ больш разгубілася дзяўчынка. Да каго б звярнуцца яшчэ?

Тут яна ўбачыла сонца, якое хілілася да зямлі, каб саступіць дарогу ночы.

— Вось хто мне дапаможа знайсці ісціну! — усклікнула Аленка і звярнулася да сонца:

— Сонейка яснае! Я бачу, што ты хіліш галаву за лес і рыхтуешся да сну. Але ты павінна ведаць, ці ёсць хто-небудзь, хто ніколі не спіць? Ці такіх няма?

— Ёсць!— не задумваючыся, адказала сонца.

— Ёсць? Няўжо ўсё-такі ёсць? — радасна ўсклікнула Аленка.— І хто гэта, скажы?

— Я! — спакойна адказала яно.

— Ты? — здзіўлена выцягнула шыю дзяўчынка,— Ты ж хілішся за далягляд. Надыдзе ноч і ўсе мы заснём.

Сонца ціха засмяялася:

— Я хілюся за далягляд, але не спаць, а даць магчымасць вам адпачыць, а там, на тым баку зямлі, я распачну раніцу, а за ёй і дзень для другіх людзей, якія пакуль спяць і чакаюць майго прыходу. Такім чынам, каб жыла зямля і ўсё на ёй жыло і расло, я вымушана ніколі не спаць. Засну я — і ўсё жывое на зямлі засне назаўсёды.

— І я? — спалохалася Аленка.

— Не хвалюйся,— ласкава сказала сонца,— ты будзеш жыць, бо я ніколі не буду спаць. Да новай сустрэчы і — рыхтуйся да сну! — пасля чаго сонейка схавалася за лесам.

Аленка з усіх сіл кінулася дамоў і з парога ўзрушана закрычала:

— Мамачка! Я знайшла таго, хто ніколі-ніколі не спіць!

— Дзе ты так доўга адсутнічала? — спыталася маці,— і каго ты знайшла?

— Мамачка, дай хутчэй есці і ўкладай мяне спаць!



# Абыякавіч

Жыў-быў... не, ні цар, ні пан, а зусім звычайны чалавек.

Вой, што я кажу, звычайны?! Наадварот, зусім незвычайны, бадай, самы страшны за ўсе, якія толькі былі часы, чалавек.

Думаеце, злодзей? Не!

Думаеце, забойца? Зноў не!

А-а, цяпер вы падумалі, што гэта — людаед? Не, не і не!

Гэта быў з выгляду сціплы, ціхі, малапрыкметны чалавек, але абыякавы да ўсяго. Абыякавы да падзей, якія адбываліся ў жыцці вакол яго, абыякавы да чужога гора і болю, ды і чужая радасць яго не кранала.

Як жа яго нам назваць?.. давайце дадзім яму прозвішча Абыякавіч.

Сустрэўся аднойчы гэты Абыякавіч са сваім знаёмым і распачалі яны размову. Гаворка ішла пра штодзённыя жыццёвыя справы. Вось падчас гэтай размовы, знаёмы Абыякавіча, між іншым, заўважыў:

— Вецер сёння штосьці ўзмацніўся... Пэўна на дождж.

Абыякавіч абыякава адказаў:

— Па мне дык, што ёсць вецер, што яго няма — мне ўсё роўна.

Вецер гэта пачуў і пакрыўдзіўся:

— Я табе пакажу, калі я ёсць, калі мяне няма!

Знаёмы Абыякавіча здзіўлена спытаўся:

— Ну, а дождж? Няўжо і ён для цябе не існуе?

Абыякавіч, не мяняючы інтанацыю, адказаў:

— Па мне, што ён ёсць, што яго няма...

Пачуў гэта дождж і яго агарнула крыўда:

— Як такое можна было сказаць? Без мяне ўсе расліны на зямлі загінуць. Без мяне спыніцца кругазварот вады ў прыродзе і тады наступіць канец усяму жывому, без мяне... Вось я табе пакажу, што значыць жыць без мяне!

— Нейкі незразумелы ты чалавек, Абыякавіч,— пацiснуў плячыма яго знаёмы.— Ці ж можна такое казаць? З прыродай трэба жыць у суладдзі, у згодзе, паважліва ставіцца да яе. Мы з табой, Абыякавіч,— частка прыроды, можна сказаць, яе дзеці. А хіба ж можна сваю маці не паважаць?

— Ну і паважай. 'Хто табе не дае? Абыякава адказаў Абыякавіч.

— Эх ты!..— махнуў рукой яго суразмоўца.— Жывеш сярод людзей, а не па-людску разважаеш. У цябе ж, я ведаю, такія прыстойныя і добрыя суседзі...

Але і тут Абыякавіч застаўся самім сабой:

— А па мне, што ёсць суседзі, што іх няма — без розніцы. Яны свой хлеб ядуць, я — свой...

Суседзі, у адрозненні ад ветру і дажджу не пачулі гэтага, інакш, хутчэй за ўсё, і яны пакрыўдзіліся б...

Можна было б і забыцца пра тую размову Абыякавіча са сваім знаёмым, але далейшыя падзеі не дазваляюць гэтага зрабіць.

Памятаеце, вецер абяцаў паказаць Абыякавічу, хто ёсць хто? І паказаў! Разгуляўся так, што паваліў плот у Абыякавіча і здзёр са страхі некалькі шыферын.

Вецер мог бы і больш нарабіць шкоды, але баяўся закрануць суседнія пабудовы.

Абыякавіч упершыню не стрымаўся:

— Во чортава безгаловіца наляцела! Лепш бы цябе век не было.

Вецер гэта пачуў і ўсміхнуўся:

— Добра! Паглядзім, што ты запяеш без мяне!

Напаўзлі аднекуль хмары на ўсё неба, закрылі сабой сонца і — ні з месца. Вісяць хмары і дзень, і тыдзень, і месяц. Пахмурна і няўтульна зрабілася,

ды і холадна стала. Не разумеюць людзі, што гэта за праява такая. І Абыякавіч сцяміў, што без ветру неба не ачысціцца ад хмар.

— Эх, хоць бы лёгкі ветрык падзьмуў... — уздыхнуў ён.

Пашкадаваў вецер людзей і пагнаў хмары ў іх вечную вандроўку вакол зямлі.

Але разам з хмарамі пакінуў гэтыя мясціны і дождж. Цяпер ужо — і дзень, і тыдзень, і месяц — ні кроплі з неба. Патрэскалася зямля, пагарэла трава, схілілі галовы дрэва, пажухлі гароды. Нават вада ў студнях знікла.

Зноў Абыякавіч з надзеяй пазірае на неба і, як малітву, шэпча:

— Хоць бы хмарачка, хоць бы дожджычак...

І дождж злітаваўся з людзей і раслін — напаіў зямлю жывацельнай вільгаццю.

Пачухаў патыліцу Абыякавіч:

— Відаць, дарэмна я ставіўся да прыродных з'яў абыякава... Прырода — сапраўды матухна наша.

Але канчаткова адкрыліся вочы ў Абыякавіча на жыццё пасля таго, як ноччу нечакана загарэлася яго хата. Абыякавіч спаў і, пэўна, згарэў бы жыўём, каб не суседзі. Але добрыя людзі — яго суседзі, своечасова заўважылі загаранне, разбудзілі гаспадара і дапамаглі патушыць хату.

Вось тут Абыякавіч успомніў усе свае выказванні і ў адрас прыродных з'яў, і ў адрас людзей.

Цяпер ён з пашанай і замілаваннем успрымае і ветрык, і дожджык, і ўсмешкі сустрэчных людзей.

А яшчэ — ён напісаў заяву ў ЗАГС з просьбай змяніць прозвішча Абыякавіч на Руплівец...

О, як было б добра, каб гэта быў апошні Абыякавіч на нашай зямлі!





# Занадта хітрая Ліса

Надыйшла раніца. Сонечныя промні рупліва разбегліся па наваколлі, зазіраючы ў кожны закуточак. Прачыналася пасля ночы ўсё і ўсе.

Вылезла і Ліса са сваёй нары, пазяхнула і пачала пералічваць:

— Варону я ашукала — сыр быў вельмі смачны, Ваўка я аб'ягорыла, ён, біты, вазіў мяне, нябітую, на сябе. Зайца я абдурыла, ён замятаў мае сляды. Нават Чалавека я абвяла вакол яго ж пальца — ён пазбавіўся і рыбкі, і «каўнер» ад яго збег...

Што ж гэта атрымліваецца? З кім не павядзешся, над тым і пасмяешся. Не! Гэтак зусім не цікава!..

У Лісы нават падпсаваўся ранішні настрой.

— Каго б мне яшчэ перахітрыць? Не ведаю — усе такія працячкі... А што, калі б мне... паспрабаваць

абвесці вакол уласнага хваста сябе? Ідэя! Я — такая разумная, такая хітрая, а раптам мне ўдасца быць яшчэ больш хітрай над сабой.

Яна, як уявіла, што па ўсім лесе разляціцца слых: «Чулі? Ліса сябе — саму Лісу перахітрыла!» — у яе ажно мазгі засвярбелі ад нецярпення.

І Ліса пачала планаваць:

— Што б мне надзвычай такое-растакое прыдумаць, каб аставіць сябе ў дурнях?.. Зраблю я... Не, я ўжо ведаю, што я збіраюся зрабіць, таму на гэта я не пападуся...

А-а, скажу я сабе, што... Зноў не! Мне, на жаль, вядома, што я задумала сабе сказаць...

Ліса разгубілася:

— Ого! Аказваецца, зусім няпроста мне сябе абдурыць. Тая я, якую збіраюся ашукаць я, гэтая, далёка не прасцячка. Яна адразу дагадваецца пра ўсе мае намеры. Што ж рабіць? Няўжо так і заставацца звычайнай Лісой? Не!

І ўсё ж, нягледзячы на ўсю сваю фантазію і рашучасць, нічога Ліса так і не прыдумала.

— Што ж, буду жыць, як і жыла! — махнула яна сваім шыкоўным хвастом і пайшла па лесе, весела спяваючы:

А я разумная такая —
Куды хачу, туды іду.
Ніхто мяне не ашукае,
А я — любога на хаду.

Раптам Лісе сустрэўся Воўк.

— Што гэта ты, суседка, такая вясёлая? — спытаўся шэры.— Пэўна, рыбкай недзе паласавалася?

«Вось зараз я і дакажу, што для мяне — луска ашукаць любога! — падумала Ліса.— Што б мне такое яму наплесці, каб ён паверыў?»

— Падумаеш, рыбка! — прытворна весела ўсклікнула рыжая і смачна пагладзіла жывот.— Я курацінкай аб'елася! На птушкаферме звольнілі вартаўніка за гультайства і разагналі ўсіх Сабак за нядбайства. Кажу табе, сусед, без маны — ноччу куры адны.

Воўк ажно затросся ад нецярпення:

— І што?

— А тое, працягвала Ліса,— што ноччу можна смела на ферму кіравацца і курацінкай ад пуза сілкавацца.

— Ого! — усклікнуў Воўк.— Ты, суседка, пачала ў рыфму гаварыць. З чаго б гэта?

— Каб ты, сусед, з'еў столькі курачак, колькі я, ты б не толькі ў рыфму загаварыў, а салаўём заспяваў бы. Бывай, шэры!

І Ліса падалася далей, весела памахваючы хвастом.

Воўк пачухаў патыліцу і вырашыў абавязкова наведацца ноччу на птушкаферму, каб потым заспяваць салаўём.

Гэтую гаворку Лісы з Ваўком пачула Сарока, якая выпадкова пралятала міма. А Сарока не

была б Сарокай, каб не разнесла па ўсім лесе навіну пра тое, што вартаўніка птушкафермы зволілі за гультайства, а ўсіх Сабак выгналі за нядбайства.

Што тут пачалося рабіцца! Усе, хто любіць курацінку, пачалі рыхтавацца да начнога візіту на ферму. І галоўнае, хто б ні сустракаў Лісу, усе ёй па сакрэту шапталі:

— Ты чула, кума? Птушкаферму даўно ўжо ніхто не ахоўвае! Ідзі і бяры курэй, колькі хочаш!

Ліса адмахвалася:

— Ды кіньце вы! Гэта я пажартавала з Ваўком.

— Не, Лісачка! Воўк тут ні пры чым! — пераконвалі рыжую.— нам Рысь пра гэта сказала, а ўжо ёй можна верыць!

Потым Лісе данеслі, што сам Мядзведзь запэўніваў, што ферма засталася без вартаўніка і Сабак.

— Што ж гэта робіцца? — узрушылася Ліса.— Я пажартавала з Ваўком, а ферма і сапраўды не ахоўваецца. Якое супадзенне!.. А курацінка мне даспадобы больш, чым каму. Я павінна быць першая там! І буду!

Ледзь толькі сцямнела, Ліса была ўжо ля дзвярэй фермы і, ведаючы, што яна не ахоўваецца, не хаваючыся, заскочыла да курэй.

Што тут пачалося! Куры ўзнялі перапалох, на шум збегліся Сабакі, за імі вартаўнік са стрэльбай — і ўсе на Лісу.

Не памятае яна, як вырвалася з той фермы і толькі дома, у нарэ спахапілася, што страціла палову свайго шыкоўнага хваста. Пэўна, ён застаўся ў зубах Сабакі.

На наступны дзень Ліса зноў сустрэла Ваўка, які храмаў на ўсе чатыры лапы і ледзь дыхаў. Ён напусціўся на рыжую:

— Аддубасіць бы цябе, суседка, за ману, ды сіл няма. Так курацінкі наеўся, што вось, інвалідам зрабіўся. А ўсё ты!

— І ты быў на ферме? Бедненькі! Што ж там адбылося? — зрабіла жаласлівы выгляд Ліса, хаваючы свой абадраны хвост.

Воўк з болем узвыў:

— Што там было, страшна ўспомніць. Куры распачалі шум і крык, Сабакі паднялі брэх і рык, а вартаўнік з дубальтоўкай вырас перада мной, як штык. Ледзь я ўратаваўся — кожная костачка баліць.

Ліса ўсміхнулася:

— А ты, сусед, пачаў гаварыць у рыфму. З чаго б гэта?

— Абдурыла ты мяне, рыжая! Вось з чаго! — прахрыпеў Воўк і пакрыўджаны паклыпаў прэч.

«Каб жа толькі цябе...— сумна падумала Ліса.— Сама сябе абвяла вакол абадранага свайго хваста...»

Затым яна страпянулася:

— Затое я, гэта, разумнейшая за сябе, тую!



# Галоўнае багацце

Калі дзед Сцяпан адчуў, што надыйшоў яго час пакінуць гэты свет, паклікаў ён сваіх сыноў, каб апошні раз выказаць ім бацькоўскую параду і блаславенне.

— Сыны мае родныя, сыны мае годныя! — звярнуўся стары да дзяцей, якія ўжо паспелі ажаніцца і самі займелі сваіх дзяцей,— У кожнага з вас свая сям'я, свая гаспадарка, таму я, развітваючыся з вамі, заспакойваю сэрца тым, што вы — не зломкі, што жыць і надалей будзеце з любоўю да сваёй зямлі, з Богам у сэрцы.

Вялікага багацця я не нажыў, але ўсё ж сёе-тое маю, таму хачу пакінуць напаследак кожнаму па падарунку. Табе, Міхась, як старэйшаму сыну — шасцісоты «Мэрсэдэс», табе, Мікола, як сярэдняму

сыну — камп'ютар з усімі прычындаламі да яго, ну а табе, Алеська, як самаму малодшаму — вось гэту вышываную кашулю. Нічога, што яна не новая, а ношаная мной у маладосці, яна — прыгажосць з прыгажосці! Карыстайцеся, сыны, атрыманай спадчынай з розумам і чыстым сэрцам, і яна прынясе вам карысць і радасць.— і стары ціха адыйшоў у іншы свет.

Пахавалі сыны бацьку і зажылі далей, кожны па-свойму.

Міхась, раней працавіты і гаспадарлівы, цяпер не выпускаў з рук «абаранку» «Мэрсэдэса» — гойсаў на ім па патрэбе і без патрэбы, ад ранку да вечара. Мікола таксама адвярнуўся ад гаспадаркі — уткнуў нос у экран камп'ютара і патрапіў у палон розных «стралялак-страшылак». Пакаціліся гаспадаркі двух братоў да заняпаду.

І толькі Алесь працягваў руціцца і на калгаснай працы, і на ўласнай гаспадарцы.

На саракавы дзень пасля пахавання бацькі, Алесь завітаў да старэйшага брата.

— Міхась, сёння ж сорак дзён як памёр наш тата, трэба і на могілкі схадзіць, і людзей сабраць, а галоўнае, можа б ты на «Мэрсэдэсе» звазіў нас з Міколам у царкву заказаць памінальную паніхіду. Тут нейкіх дваццаць кіламетраў — за гадзіну ўправімся. Га?

— А ты б на вышыванку сеў і скокнуў у царкву,— куснуў брата Міхась.— А ўвогуле , твае сорак

дзён — бабскія забабоны. Каму яны патрэбныя? Ды і заняты я — хаўтура падкруцілася.

Засмучаны Алесь пераступіў парог Міколавай хаты.

— Якія сорак дзён? Якая царква? — ажно ўскіпеў сярэдні брат, не адрываючыся ад камп'ютара,— Глянь, як я заліхвацкі лупянуў першым стрэлам гэтага тэрмінатара! Бачыў? А вось і гэтаму — кранты! Ха! Ба-бах!

Паехаў Алесь на аўтобусе ў раённы цэнтр, заказаў па бацьку службу ў царкве — і хуценька дамоў, дапамагаць жонцы ладзіць памінальны стол, ды вырашыў, перад тым, як збяруцца вяскоўцы падбегчы на могілкі і запаліць свечку на магіле бацькі.

З фотакарткі на крыжы, побач з крыжом маці, якая памерла раней, на Алеся глядзеў родны чалавек, які ўсяго сябе аддаваў сям'і, дзецям. І адчуў Алесь сэрцам круглае сіроцтва, і такая туга агарнула яго, што душу апякло агнём нясцерпнага жалю, што захацелася крычаць, не згаджацца з няўмольным законам жыцця і смерці. Алесь, каб не расплакацца, моцна сціснуў рукамі скроні і працягла застагнаў.

Раптам хтосьці асцярожна паклаў яму на плячо руку.

Алесь здрыгануўся і, азірнуўшыся, аслупянеў: перад ім стаяў яго бацька.

— Не пужайся, сынок,— ціхім і ласкавым голасам мовіў ён,— ты сапраўды бачыш мяне, свайго

бацьку. Але перад табой не зусім я, а мая душа, якая набыла абрыс чалавека, і якая на працягу сарака дзён пасля смерці, здольная і бачыць, і чуць сваіх кроўна родных людзей. Вось я нябачна і быў усе гэтыя дні побач з вамі. Таму нябачна, каб даць вам магчымасць паводзіць сябе так, як падкажа вам сэрца і ваша сумленне. Сёння — апошні дзень, калі я маю магчымасць вось так, відавочна зносіцца са сваімі дзецьмі.

Алесь не мог паверыць сваім вачам, сваім вушам. Ён чуў, што нібыта душы пайшоўшых з жыцця нейкім чынам прысутнічаюць сярод жывых людзей, але каб так!..

Ён ледзь павярнуў свой здранцвелы язык:

— Т-тата, я тут адзін... прабач...

— Я усё ведаю, Алеська. Я усё бачыў гэтыя дні і ўсё чуў. Ты, напэўна, пакрыўдзіўся на мяне за вышываную кашулю, але...

— Не, тата, не! — горача ўсклікнуў Алесь,— Я з чыстым сэрцам... Стары перапыніў сына і працягваў:

— Але вышываная кашуля, у адрозненні ад «Мэрсэдэса» і камп’ютара, захоўвае цеплыню і маёй калісьці жывой душы, і, што самае галоўнае, яна адлюстроўвае душу Беларусі. Насі яе, шануй яе, і ты заўсёды будзеш адчуваць неразрыўную повязь з роднай зямлёй, з людзьмі, сярод якіх жывеш. А гэта — галоўнае багацце ў свеце!

— Дзякуй, тата, я заўсёды буду... Але Алесь зап-

нуўся і змоўк — таты ужо не было. Ён крутнуўся на ўсе бакі — нікога.

«Ах, як шкада, што я не паспеў сказаць яму, што люблю яго, што яго вельмі не хапае,» — абурыўся Алесь.

Дамоў ён вярнуўся задумлівы і прыцішаны. Сядзеў за сталом сярод вяскоўцаў моўчкі, нават з братамі ні словам не абмовіўся пра дзівосную сустрэчу з бацькам.

«А, магчыма, мне гэта толькі падалося»,— думаў ён.

Жыццё не стаіць на месцы, і Алесь зноў уключыўся ў няспынны яго рытм.

У вольны час, у нядзелю, апранаў ён бацькаву вышыванку, садзіўся на лаву ля хаты, браў у рукі гармонік і... і дзівіўся сваёй нечаканай здольнасці — быццам сам гармонік нараджаў няведамыя дагэтуль мілагучныя мелодыі.

Чуючы дзівосную музыку, вакол Алеся пачалі збірацца вяскоўцы і падпяваць у такт мелодый.

Ах, якія нараджаліся песні — надзіва прыгожыя і душэўныя! І ніхто не мог сказаць, чые ж словы, чые вершы кладуцца на Алесеву музыку. Аўтарамі былі ўсе — кожны па слову, кожны па радку, кожны — па часцінцы душы.

І паляцелі гэтыя песні да суседніх вёсак, а ад іх — далей і далей па ўсёй Беларусі. І ўжо не пыталіся людзі, хто ж аўтар песняў, а называлі іх ласкава —

народныя песні, бо ў іх, як і ў вышыванцы жыве самабытная душа Беларусі.

А што ж браты? Як жывуць яны сёння? Іхнія дзеці і дзеці дзяцей раз'ехаліся ў розныя канцы зямлі і — хто гойсае на «Мэрсэдэсах», не заўважаючы жыцця, хто — не вылазіць з інтэрнэта, але ёсць і такія, хто захоўвае духоўную спадчыну і памнажае яе.





# Дзівос з дзівосаў

Трахім, мужчына сярэдніх гадоў, лічыў сябе чалавекам сучасным, не пазбаўленым інтэлекту і фантазіі. Ён, хоць і быў вяскоўцам, але адчуваў сябе на «ты» з камп'юратам і не блудзіў у інтэрнэтпрасторы.

І тым не менш, пастаянна скардзіўся сваім суседзям і знаёмым:

— Што гэта за жыццё? Усё вакол звычайнае, натуральнае, не раз чутае і бачанае. Хоць бы які-небудзь цуд, хоць бы нейкі дзівос ці неверагодшчына. Адна ўцеха — разгарну перад сном кніжку казак і душой суперажываю з яе героямі, вяртаюся ў маленства.

Можна нават праводзіць своеасаблівы тэст на выяўленне людзей з жывой душой: чытае сталы чалавек казкі, значыцца душа ў яго жывая. Не чытае —

лепш абысці такога за вярсту. Дзяцей правяраць не трэба — ва ўсіх дзяцей душы светлыя і жывыя.

Вяскоўцы слухалі Трахіма і не з усім згаджаліся:

— Ну, не чытаю я казак! Дык што, бегчы ад мяне?

— Бегчы не трэба,— уздыхнуў Трахім.— А пашкадаваць не пашкодзіць, бо тваё маленства ў табе памерла. Старасць не рызыкуе падступацца да таго чалавека, у душы якога працягваюць гучаць галасы маленства... Вось толькі дзівосаў у сучасным жыцці ўсё менш і менш, а без іх галасы дзяцінства ў душы пачынаюць цішэць.

Аднойчы Трахім убачыў ноччу сон (а, магчыма, і не сон), быццам ля яго ложка сеў анёл і спытаўся: «Дык ты сапраўды хочаш дзівос з дзівосаў?»

— Хачу! — ускочыў з ложка Трахім і прачнуўся.

Ішоў час, але ніякіх дзівосаў не адбывалася і Трахім забыўся на сваё начное бачанне.

Наязджаючы калі-нікалі ў Мінск, ён купляў там розныя прысмакі, якія не заўсёды бываюць у вясковай краме. На гэты раз кінуліся яму ў вочы сваёй спелай прываблівасцю персікі, якія, на жаль, у Беларусі не растуць і якія ён вельмі любіў.

Пахадзіўшы па Мінску, ды трасучыся ў аўтобусе па дарозе дамоў, Трахім прагаладаўся, таму ўзяў самы спелы персік і з асалодай пачаў аб'ядаць вакол костачкі сакаўную мяккасць. Персік падаўся настолькі смачным, што Трахім паклаў у рот костачку і абсмактваў яе, як цукерку.

Раптам адбылася нечаканая неверагоднасць. Ці аўтобус моцна страсянула на нейкай яме, а разам з ім і Трахіма, ці Трахімаў голад паспрыяў гэтай неверагоднасці — але вялізную костачку ад персіка ён палыкнуў.

«Ды не можа такога быць! — спалохана падумаў Трахім,— костка праз горла не пралезе!»

Ён крутнуў языком па ўсім роце — пуста! Памацаў пальцам і за верхнімі, і за ніжнімі зубамі — косткі няма!

— Во ўліп! — застагнаў ён.— Трэба будзе бегчы на аперацыйны стол.

Але дома жонка супакоіла яго:

— Дарэмна хвалюешся! Выйдзе твая костачка і без дапамогі дактароў.

Трахім папрасіў жонку:

— Ты толькі нікому ў вёсцы не кажы пра гэта — засмяюць. Скажуць — вось захацеў дзівосаў — паспявай толькі глытаць!

І зажыў Трахім далей, не ведаючы дакладна, дзе ж тая костка. Ён цешыў сябе думкай: «А, магчыма, я і не глытаў яе, а не заўважыў, як яна выслізнула з роту на падлогу аўтобуса і ляжыць там роўненька...»

Але ж нездарма кажуць: «Хто да чаго імкнецца, той на сваё і натыкнецца».

Не хапала ўвесь час Трахіму дзівоса, ён яго дачакаўся. І не проста нейкага там цуда, а сапраўднага дзівоса з дзівосаў.

Заказытала раптоўна яму ў вушах. Ды тык, што кінуўся ён у раённую бальніцу — праміком у кабінет «вуха-горла-нос».

Пасвяціў доктар лямпаў у Трахімавы вушы і адскочыў з крыкам:

— Святы Гіпакрат! Што ж гэта такое?

Цяпер ужо ускочыў спалоханы Трахім:

— Што там, доктар?! Павукі завяліся?

— Якія павукі? У вас з вушэй прарастаюць парасткі персікавага дрэва! Я адразу пазнаў іх, бо скончыў сельскагаспадарчую Акадэмію.

Трахім успрыняў словы доктара, як здзек, і нават недалікатна агрызнуўся:

— Добра, што вы не скончылі Акадэмію жывёлагадоўлі, інакш у маіх вушах вы знайшлі б свінаматак з парасятамі.

Бразнуў дзвярмі і рашуча пашыбаваў дамоў.

Дома папрасіў жонку:

— Глянь ты ў мае вушы. Што там такое?

Жонка зазірнула мужу ў вушы і пляснула далонямі:

— Трахімка! У цябе з вушэй нейкія дубцы вытыркаюцца! Матухна родная, вунь ужо і лісточкі распускацца пачалі!

Трахім зароў не сваім голасам:

— Костачка!

— Якая костачка? — здзівілася жонка.

Трахім падскочыў да люстэрка.

— Костачка ад персіка, якую я калісь праглынуў! Яна ўва мне! Яна прарасла!

Трахім успомніў свой сон і анёла, які спытаўся: «Хочаш дзівос з дзівосаў?»

— Што я нарабіў?! — зноў закрычаў ён.— даддзівосіўся! Жыў бы, як усе людзі, сярод натуральнага і звычайнага, дык не — падавай мне цуды!

Вестка пра здарэнне з Трахімам маланкай абляцела вёску. Хто спачуваў яму, а хто і пад'ялдыкваў: «Ну што, жывая душа, начытаўся казак?» Былі і такія, хто шчыра захапляліся:

— Гэта дзіва дык дзіва! Пэўна, адно на ўвесь свет!

А дрэўца, між тым, расло не па днях, а па гадзінах. Хутка яно з двух бакоў Трахімавай галавы разгалінілася, зазелянела і зацвіло прыгожымі кветачкамі. Калі ж на ім закрасаваліся спелыя персікі, дзеці не адыходзілі ад Трахіма.

— Дзядзечка, дайце персік!

Тады Трахім нахіляўся голлем да дзяцей і прапаноўваў:

— Бярыце, частуйцеся, дзеткі, але зрывайце персікі асцярожна, не цягайце мне вушы.

Усё было б яшчэ нічога, але даведаліся пра незвычайшчыну розныя карэспандэнты, ад якіх не было адбою ні ноччу, ні днём.

Калі ж Трахіма, як чалавека-дрэва, уключылі ў кнігу рэкордаў Гінэса, прыехала ў вёску высокае начальства і парспарадзілася тэрмінова падубаваць для хадзячага дзівосу спецыяльную аранжарэю

з неабходным тэмпературным рэжымам, каб Трахім мог зімой, у маразы жыць там, не марозячы далікатнае паўднёвае дрэва.

Трахім пачаў прывыкаць да свайго незвычайнага ладу жыцця. Адно толькі засмучала яго: праціскаючыся праз дзверы у хату ці з хаты, спелыя персікі адрываліся і пляскаліся аб падлогу, губляючы свой выгляд, і якасць. Таму Трахім з нецярпеннем чакаў пабудовы аранжэрэі.

Яшчэ было вельмі складана ўкласціся спаць. Ложак давялося паставіць пасярод хаты і засынаць у паўляжачым стане.

І вось адной такой ноччу яму зноў прысніўся (а, можа, і не прысніўся, а быў на самай справе) той самы анёл, які асцярожна, каб не паламаць галінкі дрэва, сеў ля Трахімава ложка і спытаўся:

— Ці такі ты дзівос хацеў?

— Не! — ускочыў Трахім і прачнуўся.

Была раніца. Незвычайная лёгкасць адчувалася ва ўсім целе.

Трахім — мац, мац! — за вушы і не паверыў сваім рукам, якія не намацалі ніякага голля.

Ён падскочыў да люстэрка і закрычаў:

— Жонка, сюды!

Забегла перапалоханая жонка і спыталася:

— Што? Што здарылася?

— Ты ж глянь на мае вушы!

Жончын спалох змяніўся здзіўленнем:

— Ну, вушы як вушы...

— А, костачка! А персікавае дрэва! — гарачыўся Трахім.— Яно ж расло ў мяне з вушэй! Гэта ж быў дзівос з дзівосаў! Куды ён дзеўся?

— Даражэнькі! — усміхнулася жонка.— Ты начытаўся нанач казак. Такія дзівосы бываюць толькі ў казках, у жыцці іх няма.

Трахім не здаваўся:

— А вось жа на стале персікі ў талерцы! Адкуль яны? З майго дрэва!

Жонка зноў усміхнулася:

— Ты ж ездзіў у Мінск, і купіў іх там. Забыўся ці што?

Трахім зірнуў у акно і выбег на двор. За ім на двор выйшла і жонка.

— Глянь! — закрычаў Трахім.— Вось жа на нашым двары аранжарэя. Адкуль яна?

— І праўда...— разгубілася жонка.— мы ж яе не будавалі, і навошта... Але пры чым тут твае вушы да аранжарэі?

Трахім заскочыў у аранжарэю і аслупянеў ад нечаканасці — тут расло цудоўнае персікавае дрэва, голле якога гнулася ад важкіх, ружовабокіх персікаў.

За сваёй спінай ён пачуў усхваляваны жончын голас:

— Во-о-ой! Які дзівос! Сапраўдны дзівос з дзівосаў!

Трахім самазадаволена адгукнуўся:

— А ты казала, што я начытаўся казак...

Затым ён не ўтрымаўся, сарваў самы спелы персік і з апетытам пачаў абгрызаць яго.

Жонка паспела толькі крыкнуць Асцярожна!», як Трахім закашляўся да слёз, папярхнуўся і нечакана праглынуў вялізную персікаву костачку.

Цікава, што ж будзе далей?..





# Грозны… Бяскрыўдны Пярун

Жыве высока на небе тысячы,а, магчыма, і мільёны гадоў, вельмі сярдзіты, нават грозны Пярун. Колькі ён напалохаў за сваё доўгае жыццё людзей, асабліва дзяцей — не пералічыць.

Ёсць у яго, як ён лічыць, і свае дзеці — сын Гром і дачка Маланка, якую яшчэ завуць Бліскавіцай. Дзеці Перуна, як і ўсе дзеці, непаседлівыя, непаслухмяныя, нават свавольныя. Але Пярун па-бацькоўску ставіцца да свавольства дзяцей з паразуменнем, маўляў, падрастуць — паразумнеюць.

Любімым заняткам Грома заўсёды было бесклапотнае пагрукванне ў бязмежнай прасторы неба. Калі ён весела каціўся ад аднаго краю нябёсаў да другога, было такое ўражанне, што хтосьці перако-

чвае ў вялізнай бляшанай пасудзіне каменьчык. Але Грому асабліва ніхто не баяўся і гэта яму падабалася, у адрозненні ад яго бацькі Перуна, якому наадварот падабалася, калі людзі, пасля яго раптоўных грымотаў, ажно прысядалі ад страху. Гром, у большасці, быў побач са сваім бацькам, таму Перуну лёгка было ўплываць на паводзіны сына. Але шалянец Гром, заўважыўшы побач чорныя хмары. У якіх затойваўся яго бацька, весела каціўся на другі край неба туды, дзе менш чорных хмараў і больш блакіту.

Маланка ж была больш свавольная і непрадказальная. Яна ў імгненне вока выскоквала з хмараў і гэтак жа нечакана знікала.

Колькі разоў Пярун памыкаўся крыкнуць ёй, каб не прапорвала хмары, каб выпадкова не параніла свайго бацьку, які ў гэтых хмарах мог і прыдрамнуць, але не паспяваў нават рот раскрыць, як дачка знікала. Знікала і праз імгненне асляпляльна бліскала ў другім месцы. Нават спрытны Гром крычаў ёй: «Давай пагуляем разам!», але крык яго каціўся ў небе ўжо па слядах сястры.

І вось аднойчы, усе тры жыхары неба ўбачылі дзяўчынку, якой было гадоў дзесяць і маленькага хлопчыка. Яны бесклапотна ішлі па палявой дарозе, узяўшыся за рукі.

Грому было сумна аднаму, таму ён перакаціўся над галовамі дзяцей, запрашаючы іх у сваю

кампанію. Але дзеці, як ішлі, так і працягвалі ісці далей — на Гром не звярнулі ніякай увагі.

— Ну і не трэба! — пакрыўдзіўся Гром і пакаціўся на другі край неба ў пошуках сяброў.

— Ах так! — закратаўся ў хмарах Пярун.— зараз вы паскачаце, як зайчаняты!

І ён з усяе сілы грымнуў: «Ба-бах! Дух-дух!»

Хлопчык ажно прысеў да зямлі і з жахам зірнуў на неба.

— Я баюся! — заплакаў ён.

Але дзяўчынка, на здзіўленне Перуна, супакоіла хлопчыка:

— Не бойся! Гэта ўсяго Пярун. Ён бяскрыўдны і нічога благога нам не зробіць. Пагрыміць, папужае і сціхне.

Раптам неба распаласавала вогненная Бліскавіца, высветліўшы абрысы чорных хмар.

— Вой, якая прыгажосць! — ускліknуў з захапленнем хлопчык.

Дзяўчына патлумачыла яму:

— А вось гэтай прыгажосці неабходна асцерагацца. Маланка, ці, як яе яшчэ завуць, Бліскавіца, шмат гора прыносіць на зямлю.

— Але ж яна бліснула бязгучна, а што ж тады так страшна грыміць над галавой? — пацікавіўся малец.

Дзяўчынка ўсміхнулася:

— А-а, гэта Гром і Пярун. Іх можна назваць голасам Маланкі альбо яе дзецьмі, бо Маланка

нараджае гэта грукаценне. Не было б маланкі, не было б Грома і Перуна.

Гром у небе гэта пачуў і весела зарагатаў:

— Дык я, аказваецца, сын Маланкі! Яна мне зусім не сястра! Вось здорава! А ты,— звярнуўся ён да Перуна,— надзімаў шчокі і грукацеў на мяне за кожную дробязь! Ты — мой брат, і цяпер я цябе зусім не баюся! Бывай! — і Гром з вясёлым рогатам пакаціўся па небе.

Старэйшы брат,— незадаволена ўдакладніў Пярун, пасля чаго пакрыўджана ўхутаўся з галавой самай чорнай храмай.

А хлопчык на дарозе працягваў дапытвацца:

— А як жа ратавацца ад Бліскавіцы, калі яна такая небяспечная?

Дзяўчынка, відаць, старэйшая сястра хлопчыка, тлумачыць яму:

— Ад Маланкі не трэба ўцякаць. Калі пачнецца навальніца і ліне дождж, трэба на чыстым месцы, вось, як мы зараз у полі, спыніцца і стаяць, а яшчэ лепш, сесці на зямлю і не варушыцца. А галоўнае, не бегчы хавацца пад дрэва, бо Бліскавіца вельмі часта кіруе сваё вогненнае джала ў дрэвы.

Хлопчык весела зашчабятаў:

— Цяпер я не буду баяцца грымотаў! Не буду! Няхай грыміць над галавой, а мне не страшна!

Раптоўна бліснула Маланка, на якую дзеці амаль не звярнулі ўвагі, бо яна была бязгучная.

Затое Пярун сабраў усю сваю злосць і грымнуў на ўсё неба. Хлопчык зноў баязліва прысеў, ды і дзяўчынка войкнула, насцярожана зірнуўшы на чорныя хмары.

— Ха-ха-ха! — рэхам пракаціўся па небе Пярун.— Не было яшчэ ніводнага чалавека, які б не здрыгануўся ад майго бяскрыўднага голасу!





# Заслужыў — атрымай!

Генадзь ішоў у школу ў добрым настроі. Урокі ён вывучыў ці, дакладней, ён так думаў, што вывучыў. Маці, як заўсёды, паклала ў партфель да падручнікаў штосьці ласункавае. Сёння ён нават не спытаўся што — вырашыў пазней, у школе зрабіць сабе сюрпрыз. Надвор'е было цудоўнае, сонечнае, дарога да суседняй вёскі, дзе знаходзілася школа, была даволі кароткай і пралягала праз лес, які заўсёды выглядаў неяк па-новаму, загадкава.

Раптам Генадзь убачыў ля лясной дарогі сівога дзеда, які сядзеў на пяньку. Хлопчык разгубіўся, нават напалохаўся крыху, бо дзед быў настолькі старэнькі, што здавалася, яму было сто, альбо тысячу гадоў.

Генадзь паскорыў хаду, прывітаўся са старым і перайшоў на подбег, але за спінай пачулася:

— Можа б, хлопчык, ты даў старому чалавеку штосьці паесці. Голад з'еў усе мае сілы, няма моцы ісці далей.

— Няма ў мяне нічога! — не азіраючыся кінуў Генадзь.— Ды і часу таксама няма, бягу ў школу!

— Ну, няма дык няма,— сумна пагадзіўся дзед.

Хлопчык подбегам аддаляўся ад старога, але раптам падумаў: «А што, калі дзед — чарадзей? Ва ўсіх казках тых, хто дзяліўся сваёй ежай з чараўнікамі ў выглядзе старых, дзяды шчодра ўзнагароджвалі за дабрыню сэрца... Адкуль тут, у лесе мог узяцца дзед, які кроку не можа ступіць? Ясна — гэта чарадзей!»

І Генадзь, зноў жа подбегам вярнуўся да старога і пачаў хітраваць:

— Прабачце, дзядуля, я ўспомніў, што ў мяне ў партфелі штосьці знойдзецца, каб падтрымаць вашы сілы... Я зараз...

Хлопчык пакорпаўся ля падручнікаў, дастаў скрутак, які паклала маці, і працягнуў яго старому:

— Вось, дарагі дзядуля, сілкуйцеся на здароўе!

Дзед раскруціў скрутак і ўсклікнуў:

— Во-о, дык тут у цябе ласункі! Дзякуй, унучак! — і дзед з апетытам пачаў есці кавалак пірага з яблыкамі і заядаць цукеркамі.

Генадзь палыкнуў слінкі: «Ну вось, плакаў мой пірог... Шкада...»

Стары ўсё даеў, выцер сівыя вусы і яшчэ раз падзякаваў свайго дабрадзея:

— Дзякуй, мілы хлопчык! А цяпер бяжы ў школу, бо спознішся з-за мяне.

Генадзь разгублена стаяў і лыпаў вачамі. Ён дрыготкім голасам спытаўся:

— А ў вас што, нічога няма?

— Нічога. А што табе трэба? — здзівіўся дзед.

Генадзь пакрыўджана прамармытаў:

— Ну, там... можа б, меч-кладзінец ці шапка-невядзімка...

— Не, унучак, нічога такога няма,— адказаў стары.

Генадзь крутнуўся і паклыпаў далей, дакараючы сябе: «Захацеў чараўніка... Толькі дарэмна смакату сваю перапсаваў, як вонкі выкінуў, ды час змарнаваў...»

Прайшоўшы яшчэ крыху, хлопчык, цяпер ужо з жахам заўважыў за паваротам дарогі, другога дзеда, які зноў жа сядзеў на пяньку, абапершыся на кіёк. Генадзь у нерашучасці спыніўся, вагаючыся — прамінаць дзеда ці абысці яго па лесе? Ён і падумаць не мог, што гэта адзін і той жа дзед, які быў здольны не толькі мяняць выгляд, але і чытаць чужыя думкі.

Стары заўважыў хлопчыкаву нерашучасць і загаварыў першым:

— Ідзі, галубок, сваёй дарогай. Не бойся мяне.

Параўняўшыся з дзедам, Генадзь пачуў:

— Можа, што паесці ў цябе ёсць, саколік, голад адабраў у мяне ўсе сілы.

Хлопчык змікіціў, што ніякіх чараўнікоў у жыцці не бывае, што перад кожным нахлебнікам не варта ламаць шапку, таму дзёрзка адказаў:

— Няма ў мяне нічога! А каб і было, я б падумаў, ці частаваць кожнага сустрэчнага, ці самому з'есці. Вось так, дзядуля!

І Генадзь пашыбаваў далей.

Дзед сумна згадзіўся:

— Ну, няма дык няма... Шкада, а то я б табе прапанаваў меч-кладзінец, абрус-самабранец ці вось...

Генадзь не даў дагаварыць старому, крутнуўся, як той флюгер на ветры:

— А ў вас усё гэта ёсць?!

— Чаму не. Для добрага чалавека знайшлося б...

— А я добры! — усклікнуў хлопчык.— Я вунь дзеда пакарміў, апошняе яму аддаў! Той дзед ведае, што я добры!

— Ну і што той дзед? — спытаўся стары.— Аддзячыў ён табе ці не?

— Якое там аддзячыў! — запаліўся Генадзь.— З'еў і нават «дзякуй» не сказаў!

— Няўжо і не сказаў? — дзівіцца стары.

Генадзь пачырванеў і моўчкі стаяў.

Стары працягваў:

— Атрымліваецца, што ты дарэмна перапсаваў сваю ежу ды і час змарнаваў?

Генадзь пераступіў з нагі на нагу:

— Атрымліваецца, так...

— Добра,— памякчэў голас дзеда,— я табе аддзячу за таго няўважлівага старога. Што б ты хацеў? Меч?

— Не! Навошта мне меч? Змея Гарынавіча няма, ды сёння столькі розных стралялак, што меч у руцэ будзе толькі замінішчам.

— А што не замінішча? — пачаў удакладняць стары.— Можа, хочаш абрус-самабранец? Будзеш есці ўсё, што захочаш і калі пажадаеш.

— Не! Сёння галодных няма! Вось каб шапка-невядзімка... Я б разлічыўся тады са сваімі крыўдзіцелямі...

— А ты вазьмі вось мой кіёк! — параіў дзед.

Хлопчык здзівіўся:

— Навошта мне кіёк? Я ж яшчэ не стары!

— А гэты кіёк незвычайны,— тлумачыць дзед.— Ён будзе тваім надзейным абаронцам. Ты толькі яму скажы: «Заслужыў — атрымай!», і ён так аддубасіць вінаватага, што той піць папросіць. Ну, згодзен?

Генадзь успомніў свайго настаўніка, які ўвесь час, як лічыў хлопчык, чэпіцца да яго без аніякіх падстаў. Ды і двойкі ён «лепіць» незаслужана. О-о, яго неабходна правучыць...

— Давайце кіёк! — рашуча заявіў хлопчык і гэтак жа рашуча пакрочыў з ім у школу.

Дзед наўздагон крыкнуў:

— Ён карае толькі вінаватых!

Але хлопчык у адказ толькі махнуў рукой.

На занятку Генадзь, па вядомай нам прычыне, спазніўся, таму настаўнік, зноў «без падстаў», зрабіў яму вусную вымову перад усімі вучнямі. А выклікаўшы да дошкі, зноў «уляпіў» чарговую двойку за хатняе заданне, якое, на думку Генадзя, было ім вывучана.

Цярпенне ў хлопчыка лопнула і ён, сеўшы на сваё месца з «цёпленькай» двойкай, ціхенька загадаў кійку: «Заслужыў — атрымай!»

І тут дзедаў кіёк як пачаў дубасіць па спіне свайго новага гаспадара, што той паспяваў толькі войкаць.

На шчасце, настаўнік спрытна падскочыў да Генадзя і перахапіў кій.

— Што ты за ражон прыпёр у клас, і што ён тут вытварае? Хіба ж можна біць чалавека, тым больш дзіця? Адкуль у цябе гэты кіёк, Генадзь?

— Мне... мне баліць нага,— зноў кінуўся ў хітрыкі хлопчык.— Я ледзь ступаю.

— І ты з хворай нагой ішоў такую далеч у школу? — заклапочана спытаўся настаўнік.— Які ты адказны! Відаць, дарэмна я чытаў табе натацыю за спазненне, прабач. Ды і двойку тваю мы пераглядзем... Я ж не ведаў, што ты хворы.

У Генадзя ад сораму ажно вушы гарэлі. Аказваецца, настаўнік зусім не такі благі, якім яго лічыў ён.

А настаўнік працягваў:

— Я зараз папрашу школьнага шафёра, каб ён завёз цябе да хаты. Падлячыся — і прыходзь.

— Не! Не трэба! — запратэставаў Генадзь.— Я сам дайду! І двойку вы мне правільна паставілі! — і Генадзь ледзь не сказаў: «Заслужыў — атрымай!», але своечасова спахапіўся, бо ведаў, каму кіёк выдасць заслужанае.

Вяртаючыся дамоў, Генадзь спадзяваўся ўбачыць дзеда і вярнуць яму яго кіёк, але дзеда нідзе не было. Генадзь прыхінуў чароўны дарунак старога да пянька, на якім ён раніцай сядзеў, і ўголас сказаў, быццам дзед быў перад ім:

— Я сам заслужу іншае і атрымаю па заслугах, без ласкі чараўнікоў! Вось так, дзядуля!






# Боль

З давён-даўна, з няпамятных часоў, жыве на зямлі Боль. Звычайны Боль, з якім і сёння амаль кожны чалавек ва ўсім свеце блізка знаёмы.

О, як было б добра не сустракаць яго, не ведаць і ўвогуле забыцца, што ён існуе.

Але Радасць, Гора, Шчасце і, ліха яго бяры, Боль — нашы спадарожнікі. Як і Любоў да ўсяго добрага на гэтым свеце, і Каханне да кагосьці адзінага ў жыцці.

Так мы і крочым па лёсе, часам, забываючыся на гэтых спадарожнікаў, але яны не проста няўхільна побач з намі і перыядычна напамінаюць пра сябе, яны — у нас, яны — частка нас.

Вось і Боль туляецца між людзей і, бадай, часцей за ўсіх, непакоіць нас.

Пастукаўся ён некалі ў адну хатку і на пытанне: «Хто там?», адказаў:

— Я — Боль. Пусціце пераначаваць. Ноч на падыходзе, дождж лье, як вада з вядра праз рэшата.

Гаспадар запярэчыў:

— Толькі цябе і не хапала! Такога госця, як ты, ніхто не чакае і ў хату не пускае. Ды і дзяцей у нас поўная хата, самі спім шчыльна, яе снапы на возе.

Але адзін хлопчык-падлетак пашкадаваў Боль:

— Тата, можа, пусцім яго да раніцы...

— Што ты, Яначка! Ці ж ты не чуў, што гэта — Боль? Асцерагайся яго!

Боль звярнуўся да Янкі:

— Добры хлопчык! Я ўвогуле не займаю месца, мне трэба толькі ваш дазвол зайсці. Я магу пераначаваць нават у тваёй душы. Гэта так цікава! Хочаш паспытаць?

Не паспеў гаспадар і рот раскрыць, каб прагнаць Боль, як Янка жартаўліва даў згоду:

— Калі ты такі спрытны, калі ласка, у маю душу.

Пачулася задаволенае:

— Оп-ля! Я ўжо тут! Дабранач!

Гаспадар бразнуў дзвярмі, зачыніў іх на клямку і, паколькі Боль нябачны, вырашыў, што ён застаўся на двары. Тое ж падумаў і Янка.

Загасіўшы лямпу, усе леглі спаць.

Раніцай, паснедаўшы, Янка адчуў, дагэтуль невядомае ўнутранае ўсхваляванне. Яго штосьці

непакоіла, пазбаўляла прывычнага пакою і бесклапотнасці. Ён нібы другімі вачыма паглядзеў на людзей, на жыццё вакол, і ўбачыў, раней не бачанае. Дакладней, бачанае, але не зважанае ім. Ён заўважыў паншчыну і парабшчыну, прыгон і несправядлівасць, калі тыя, хто ад цямна да цямна працуюць — жывуць у галечы і голадзе, а тыя, на каго яны батрачаць — бавяць час у гультайстве і раскошы.

— Што здарылася? Што са мной адбываецца? — усклікнуў Янка.— Што мяне непакоіць?

— Гэта я! — пачуў ён.

— Хто ты? І дзе ты? — спытаў усхваляваны хлопчык.

— Я — Боль! Я ў табе, у тваёй душы. Ты пусціў мяне пераначаваць і цяпер я — Боль тваёй душы.

— Боль маёй душы? — спалохаўся Янка. Атрымліваецца, што я хворы?

— Не, Яначка! Хворыя тыя, у каго душа не баліць, хто не бачыць і не адчувае чужога гора, хто не ведае: ёсць у яго душа ці не. Праз мяне, праз Боль тваёй душы, табе адкрыліся вочы на неўладкаваны і жорсткі свет. Прыз мяне ты хутка ўсвядоміш сваё прызначэнне і будзеш праз свае творы і песняром, і змагаром за лепшую долю Беларусі.

— Дык я першы, у кім ты пасяліўся, каго ты абудзіў? — схамянуўся Янка.

— Не, Яначка! Я наведваю душы многіх людзей, ды не ўсе адгукаюцца на мяне, а, магчыма, і не жадаюць звяртаць увагі на Боль сваёй душы. Так ім жыць

значна лягчэй. Але ўсё ж свет рухаецца наперад дзякуючы тым, чые душы прымаюць мяне.

— А хто адгукнуўся табе да мяне?

— Да цябе? Вельмі многа,— адказваў Боль.— Напрыклад, адгукнуліся калісьці творамі і сваёй грамадзянскай дзейнасцю Вінцэнт Дунін-Марцынкевіч, Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, а яшчэ былі такія славутыя асобы як Адам Міцкевіч і Уладзіслаў Сыракомля.

Іх лічаць польскімі пісьменнікамі, але яны беларускага паходжання. Той жа Міцкевіч, нарадзіўся ў Навагрудку і ганарыўся заўсёды тым, што яго лірыка і эпас грунтуюцца на беларускасці, якую ён насіў у сваім сэрцы па жыцці. Сваё любімае возера Свіцязь ён рамантычна ўяўляў толькі з русалкамі на беразе.

Сыракомля вельмі добра ведаў беларускі сялянскі побыт, быў аддавы яму душой і ў сваіх творах з любоўю апяваў жыццё вяскоўцаў. І ўвогуле, яго паэтычныя творы прасякнуты духам Беларусі.

Янка, як зачараваны, солухаў расповед Болю, цяпер ужо — Боль сваёй душы. А той працягваў размову з юнаком:

— Ты, Яначка, пачуеш яшчэ шмат славутых імёнаў твайго часу, якія загучаць на ніве адраджэння Беларусі — і Максіма, і Якуба, і многіх іншых.

— А як адбывалася? — насцярожыўся Янка.— Ты наведваў душы згаданых асоб, а затым пераход-

зіў у іншыя? Ты іх пакідаў пры жыцці? Душа ж без цябе перастае балець. Так?

— Не, Яначка, не так! Мне дастаткова абудзіць душу чалавека і яна застаецца «жывой» назаўсёды. Ты, аднойчы гукнуўшы мяне, не засмучайся, не пачуўшы майго адказу. Табе адгукнецца твая душа...

І ўспрымаў з тае пары Янка жыццё сваім чулым сэрцам, і прапускаў праз сваю абуджаную душу падзеі свайго часу і лёсы сучаснікаў.

І нараджаліся з-пад яго пяра творы, поўныя душэўнага Болю і непахіснай Веры ў светлую будучыню.





# Свавольнае рэха

Завялося ў лесе рэха...

Лес быў грыбны і ягадны, таму не дзіва, што рэхза адбілася ад нейкага грыбніка ці ягадніка, якіх тут у сезон шмат, заблудзілася і засталося тут.

Звычайна, рэха вяртаецца да свайго гаспадара пасля таго, як той гукне ды крыкне. Пабегае, памітусіцца між дрэў — і ведае сваё месца.

А гэта рэха, як потым высветлілася, адбілася, але не заблудзілася, а засвавольнічала і вырашыла пажыць самастойна і незалежна ад свайго гаспадара.

А гаспадаром яго быў Юрасік, які ў свае сем гадоў, таксама праявіў свавольства і без дазволу дарослых, пайшоў у лес. І пайшоў ён у лес не па грыбы і не па ягады, а вельмі хацеў убачыць, як вавёрачка скача з галінкі на галінку, з дрэва на дрэва.

Бацькі расказвалі яму, што вявёрачка не толькі скача, а, бывае, пералятае з дрэва на дрэва, як на крылах. Юрасік чуў пра гэта не раз, а вось бачыць не бачыў ніколі.

Ці ж мог ён уседзець дома, не пабачыўшы на свае вочы такую цікавосць?

Вядома ж, каб убачыць вавёрачку, трэба ўвесь час ісці па лесе, задзёршы галаву. Так і дарасламу лёгка заблудзіцца, гледзячы ўверх ды ўверх, а што ўжо казаць пра хлопчыка, які, абышоўшы вакол адной сасны, не будзе ведаць, куды кіравацца далей.

А Юрасік абмінуў не адну сасну і не адну елку, напятляў па лесе, як тое зайчаня, пакуль нарэшце не ўбачыў вавёрачку, якая, сапраўды. Пераляцела з сасны на сасну, як птушка. Пасля чаго яна, заўважыўшы Юрасіка, звесілася з галінкі і бадзёра зацокала язычком. Пэўна, яна яму штосьці сказала, але хлопчык пакуль не ведаў вавёрчынай мовы.

Юрасік стаяў, як зачараваны, затым памахаў услед вавёрачцы, якая весела паскакала далей.

Калі ж шчаслівы хлопчык апамятаўся, ён не ведаў, дзе ён і куды ісці. Страх агарнуў яго.

Першае, што ён зрабіў, гэта тое, што зрабіў бы кожны, апынуўшыся ў незнаёмым лесе. Ён закрычаў, спадзеючыся, што хтосьці яго пачуе:

— О-го-го!

Прыслухаўся і — о радасць! — яго пачулі. Бо недзе ў лесе хтосьці адгукнуўся: «О-го-го!»

Юрасік не зусім зразумеў. З якога боку яму адгукнуліся, таму яшчэ раз, больш моцна гукнуў:

— Э-гэ-гэй! Я ту-у-ут!

Як жа ён узрадаваўся. Калі пачуў, што яму зноў адгукнуліся. Але яму падалося, што «о-го-го!» і «э-гэ-гэй!» гучала ў розных месцах.

— Дык тут, у лесе, шмат людзей! — цешыўся хлопчык.— Да якіх жа мне лепей ісці?

Ён не ведаў, што гэта — звычайнае рэха, яго ўласнае рэха, якое дурэе з ім і не можа наталіцца нечаканай свабодай. Ды і што тут дзіўнага, яно першы раз у сваім жыцці апынулася ў лесе.

Але рэха было не зусім звычайнае, яно было свавольнае і, што самае галоўнае, магло самастойна а-у-укаць, галёкаць і нават смяяцца. Яно насілася па лесе, пераскоквала з дрэва на дрэва, як тая вавёрачка.

Крыкнуўшы ў чарговы раз, Юрасік разгубіўся, бо яму хтосьці адгукнуўся з усіх чатырох бакоў. Ён падумаў: «Куды ж мне ісці? І там людзі, і там людзі... А-а, пайду вунь да тых людзей, яны, здаецца, бліжэй да мяне».

І падаўся Юрасік зусім у процілеглы бок ад сваёй вёскі.

Чым бы ўсё скончылася, страшна падумаць. Лес незнаёмы, вакол гушчары, ды і ноч набліжалася.

Але, на шчасце, Юраськіна рэха аказалася вельмі добрым, як і сам яго гаспадар.

Убачыўшы, што хлопчык канчаткова заблудзіўся, рэха адбеглася ў той бок, дзе, хоць і далёка, але знаходзілася яго вёска, і гукнула:

— О-го-го! Э-гэ-гэй!

— Я ту-у-ут! — закрычаў хлопчык, крутнуўшыся ў бок невядомага гукацеля.

— Т-у-ут! Т-у-ут! — О-го-го! — клікала рэха свайго маленькага гаспадара ў бок вёскі.

І пакуль Юрасік не выбраўся з лесу да знаёмых мясцін, рэха ішло наперадзе і падбадзёрвала яго.

Ужо вечарэла, калі хлопчык прыбег дамоў і з парога радасна абвясціў:

— Мама! Тата! Я бачыў, як вавёрачка пералятае з дрэва на дрэва! Спачатку яна скача з галінкі на галінку, а потым — ск-о-ок — і паляцела! Як гэта цікава! Яна мне нават штосьці сказала, але была высока і я не зразумеў, што!

— Ты быў адзін у лесе? — жахнуліся бацькі.— Ты ж мог заблудзіцца! Там жа страшна!

— Мамачка! Татачка! Я быў не адзін! Там столькі людзей — гукалі з усіх бакоў!..

Вось такі шчаслівы канец у гэтай свавольнай вандроўкі.

А як жа рэха? Яно — рэха маленькага хлопчыка, таксама дзіцё. Таму, хутчэй за ўсё, яно нагуляецца ў лесе, засумуе адно, і вернецца да Юрасіка, каб больш ніколі з ім не расставацца. Рэха ж не можа жыць без свайго гаспадара.



# Яўсейка і дзедава жалейка

Яўсейка яшчэ не хадзіў у школу, а ўжо бегаў у лес па баравікі. Такой малечы, як ён, хадзіць у лес аднаму забаронена, таму грыбы збіраў ён не адзін, а са сваім дзедам, якога таксама звалі Яўсеем.

Калі нарадзіўся хлопчык, дзедаў унук, яму далі імя ў гонар дзеда — Яўсейка.

Вось цяпер, ходзячы па лесе і знаходзячы вялізнага рудагаловага баравіка, а побач зусім маленькага, дзед Яўсей жартаваў:

— Гэта мы з табой, унучак. Я ўжо старэнькі, а табе расці ды расці. Не будзем іх, Яўсейка, зразаць, няхай сабе жывуць ды размаўляюць.

— А хіба ж грыбы размаўляюць між сабой? — здзівіўся хлопчык.

Дзед пацiснуў плячыма:

— А хто ж яго ведае... Думаю, што на зямлі ўсе і ўсё нейкім чынам размаўляюць — і грыбы, і дрэвы, і краскі. Мне здаецца, унучак, што і наша матухна-зямелька штосьці спрабуе нам сказаць, але мы не звяртаем увагі, не прыслухоўваемся.

І дзед з унукам ішлі далей, зразаючы грыбы-адзіноты.

Малы Яўсейка, бегаючы па лесе, вельмі любіў спяваць. Дзеду ўнукавы спевы ўвогуле спадабаліся, а ў лесе — не зусім.

— Ты, Яўсейка, сваімі спевамі распалохаеш усе грыбы. Лес цішыню любіць.

Хлопчык не згаджаўся:

— Хіба ж можна песнямі каго-небудзь спалохаць? Я, дзядуля, для грыбоў і спяваю, вось яны мне і трапляюцца.

— Ну спявай, спявай... Калі так, прываблівай грыбкі.

Тут дзед, відаць, штосьці ўспомніў, бо спыніўся і вочы яго засвяціліся маладымі агеньчыкамі:

— А ведаеш, Яўсейка, калі ўжо ты такі пяюн, падарую я табе сваю жалейку. Я пра яе зусім і даўно забыўся, ляжыць яна за абразамі яшчэ з тае пары, калі цябе на свеце не было. Састарэў я, адклаў яе калісьці і забыўся. Во галава!.. Ты, унучак, дасі ёй другое жыццё.

— А што гэта за жалейка, дзядок? Чаму такая дзіўная назва ў яе? Жалейка! Каго яна жалее-шкадуе ці каму яна жаліцца-скардзіцца?

— О-о, Яўсейка! У гэтай, простай з выгляду дудачкі, жывая душа. Яна грае жаласліва, пранікнёна. У яе жаласлівасці — гора людское, у яе пранікнёнасці — душа беларуса, чыстая, светлая, узнёслая. Вось будзеш граць на ёй, Яўсейка, усё гэта адчуеш сваім сэрцам.

І пачаў хлопчык, з дапамогай дзеда, асвойваць, спазнаваць душу чароўнай дудкі. І настолькі Яўсейка аказаўся здатным вучнем, што праз нейкі тыдзень выводзіў такія мелодыі, што не толькі дзед, а і ўсе, хто чуў маленькага музыку, дзівіліся і замілоўваліся.

Ішоў час. Яўсейка вучыўся ўжо ў трэцім класе і з жалейка не раставаўся.

Яму было дазволена хадзіць аднаму ў лес па грыбы, тым больш, што дзед паслабеў і мог рухацца толькі ля хаты.

Цяпер Яўсейка ў лесе не спяваў, а праз жалейку нараджаў цудоўныя мелодыі.

Аднойчы ён заўважыў такі дзівос, што не паверыў сваім вачам. Седзячы на пяньку і іграючы на жалейцы, ён раптам заўважыў вакол сябе шмат грыбоў, якія шчыльным кругам сядзелі вакол яго, нібы жывыя слухачы.

— Няўжо я сеў на пень і не заўважыў іх? — уголас дзівіўся хлопчык.— А што, калі яны збегліся сюды паслухаць маю музыку?. Не, такога не бывае...

Яўсейка асцярожна пераступіў праз сваіх «слухачоў» і разгублены пайшоў далей па лесе.

Знайшоўшы другі пень, хлопчык уважліва агледзеўся вакол, адзначаючы, што ніводнага грыба няма, паднёс да вуснаў жалейку і з хваляваннем зайграў. Ён заплюшчыў вочы і ўвесь аддаўся мелодыі, якую нараджала яго душа. У цішы лесу мелодыя гучала асабліва пранікнёна, і хлопчыку здавалася, што і лес, і зямля, і неба — і ён сам зліліся ў адно цэлае, ператварыліся ў чароўныя гукі.

Калі ж мелодыя сціхла, Яўсейка расплюшчыў вочы і ажно войкнуў — вакол яго зноў сядзелі грыбы ўсіх відаў. Нават прыгажун мухамор праціснуўся ў першы рад побач з іншымі жыхарамі лесу.

— Няўжо вы мяне чуеце? — усклікнуў хлопчык.— Няўжо такое можа быць?!

І сам сабе адказаў:

— Канечне, можа! Гэта — вось яно! Ёсць!

Дома Яўсейка ўсхвалявана расказаў усім пра дзівосы, якія адбыліся з ім у лесе.

Бацькі недаверліва ўсміхнуліся:

— Ты, сынок, нікому пра гэта не кажы... Такое бывае толькі ў казках.

— Чаму не? — усклікнуў дзед.— А я веру! Я даўно заўважыў, што нават птушачкі перастаюць спяваць, калі гучыць Яўсейкава жалейка.

— Твая, дзядуля! — удакладніў хлопчык.

— Наша, унучак! — з цеплынёй дадаў дзед.— Тваё сэрца, Яўсейка, адчула яе душу ўзнёслую і чыстую, і цяпер вашы душы ўвасабляюцца ў чароўныя гукі...

Але настаў няўмольны дзень, калі не стала дзеда. Яўсейка плакаў як ніхто, бо страціў не толькі роднага чалавека, а сябра, цікавага і шчырага, з якім жыццё набывала шматкаляровасць і сэнсоўную паўнавагу.

Аднойчы Яўсейка, употай ад бацькоў, прыйшоў на магілу дзеда і, абліваючыся слязьмі, зайграў на дзедавай жалейцы.

Ён усім сэрцам адчуў і зразумеў, чаму такую трапную назву мае жалейка і якое пранізлівае гора здольна агучваць гэта, такая простая з выгляду дудачка.

— Мілы, родны дзядок! — шаптаў Яўсейка.— Я ведаю, што ты не ўстанеш з зямлі, не прыхінеш мяне, але ўпэўнены, што ты чуеш, як плача без цябе ў тваёй жалейцы мая душа.

Прайшлі гады. Яўсейка скончыў школу, але жалейка засталася яго адданай спадарожніцай у жыцці.

І ўжо ніводнае свята не абыходзіцца без Яўсейкавай жалейкі. Яна працягвае хваляваць і зачароўваць душы людзей сваёй загадкавай мілагучнасцю, зачароўваць незвычайнай шчырасцю і беларускасцю.




# Чароўная кніжка

Сцёпка сядзеў на лаўцы ў гарадскім парку і чакаў сяброў, каб вырашыць з імі, як больш цікава бавіць вальны час.

Былі летнія канікулы і гэтага часу, здавалася, хоць адбаўляй. Але так толькі здавалася. Час — хуткаплынны, і лета ў гэтай бязмежнасці часу, як кропелька ў акіяне. Тым боль, што Сцёпка меў запазычанасць перад школай — не знайшоў узаемапаразумення з «гісторыяй». Вось восенню вымушаны будзе пераздаваць яе. «Але ж гэта ажно восенню,— цешыў сябе думкай хлопчык.— Калі яна яшчэ будзе!»

Раптам побач са Сцёпкам на лаўку села старэнькая бабуля і пільна паглядзела на свайго суседа па лаўцы.

Ён, як мага непрыкметней, асцярожна адсунуўся далей ад гэтай старой.

— Адпачываеш? — спыталася яна.

Сцёпку падалося, што ён у кабінеце ўрача перад рэнтгенапаратам.

— Ага... — няўпэўнена адказаў адпачывальшчык.

— Канікулы? — зноў коратка спыталася бабуля.

— Ага... — гэтак жа коратка адказаў ён.

— А поспехі якія ў вучобе? Пэўна, выдатнік? — працягваў дапытвацца гэты «рэнтгенапарат».

Сцёпка замест адказу хацеў устаць і пайсці прэч, але не мог крануцца — штосьці ўтрымлівала яго, быццам ён быў шрубчыкам, а лаўка магнітам.

— Дык выдатнік ці не? — перапыталася старая.

— Выдатнік,— схлусіў Сцёпка.

— Альбо серадняк? — дапытвалася яна.

— Серадняк... — адказаў Сцёпкаў язык без дазволу гаспадара.

— Ці ўсё ж ты ў адстаючых? — з усмешкай удакладніла ўедлівая старая.

Гэта ўсмешка раззлавала хлопчыка:

— Ну, у адстаючых! Я, калі хочаце, у хвасце! А вам што?.. Вы хто, настаўніца на пенсіі ці былы міліцыянер?

— Я — добрая фея!

— Ха! Яшчэ што скажыце! — цяпер ужо ўсміхнуўся Сцёпка.— Ці ж такія феі бываюць? Вы ж зусім старэнькая!

— А я — састарэлая фея,— удакладніла бабуля.— Усё і ўсе ў гэтым свеце старэюць. І ты, галубок, састарэеш.

— А як вы дакажаце, што вы сапраўдная фея? — недаверліва спытаўся Сцёпка.

— А вельмі проста! Ты дрэнна ведаеш «гісторыю», цябе чакае восенню пераэкзаменоўка... І цябе завуць Сцёпка. Так?

— Гэта яшчэ не доказы! — рашуча не паверыў хлопчык.— Я адразу здагадаўся: вы — настаўніца на пенсіі і бываеце ў нашай школе, вось і ведаеце пра мяне штосьці...

Старая моўчкі загадкава ўсміхнулася.

Раптам Сцёпка падсунуўся бліжэй да сваёй, як ён лічыў, «даставалы»:

— А калі вы сапраўдная фея, зрабіце так, каб я быў самы разумны ў класе! Што, слабо?

— Зраблю! — упэўнена адказала старая.— Дапамагу табе, але і ты дапамагай мне ў гэтым чараўніцтве.

— Як? Я на ўсё згодзен! — ускочыў з месца хлопчык.

Старая падумала і таямніча абвясціла:

— Ёсць чароўная кніжка... Праўда, знайсці яе будзе цяжка, але, пры настойлівасці, ты знойдзеш...

— Дзе яе шукаць? Дзе? — запаліўся Сцёпка.— Я гатовы ісці хоць за трыдзевяць зямель!

— Навошта так далёка? Я гэту кніжку бачыла на мінулым тыдні ў гарадской бібліятэцы... Нават

гартала яе старонкі, а вось на якую паліцу і ў якой зале паклала — не памятаю.

— А што, і феі ходзяць у бібліятэку? Навошта? — здзівіўся хлопчык.

— Ходзяць! Яшчэ як ходзяць! Чараўніцтва — гэта таксама навука, а навуковыя веданні патрабуюць пастаяннага падмацоўвання.

— Я яе, тую кніжку знайду! — запэўніў бабулю Сцёпка.— Скажыце толькі, як яна называецца?

— А вось назвы яе я і не ведаю,— развяла рукамі старая.— Я на вокладку не звяртаю ўвагі, а наталяю душу зместам. Ты, Сцёпачка, таксама не звяртай увагі на кніжныя вокладкі, а раскрывай кніжку і чытай.

— А як я даведаюся, што напаткаў менавіта чароўную кніжку?

— Табе, падчас твайго чытання, падкажа сэрца,— патлумачыла старая.— бяры з паліцы па парадку кніжкі, раскрывай іх і чытай старонку-дзве. Маўчыць сэрца — бяры новую кніжку і чытай. Зноў маўчыць — зноў чытай чарговую кніжку. Лета наперадзе, часу шмат — да восені абавязкова трапіш на чароўную кніжку і станеш самым разумным вучнем у сваім класе, а, магчыма, і ва ўсёй школе. А цяпер — бывай, саколік! — і старая паціху паклыпала па паркавай дарожцы.

Сцёпка сядзеў разгублены і засяроджаны адначасова... Верыць ці не чутаму? Няўжо корпацца ўсё

лета ў бібліятэцы? Там жа тысячы кніг! Не!.. Але ж вельмі хочацца здзівіць усіх сваімі ведамі і розумам.

Сцёпкавы развагі перарвалі яго сябры-аднакласнікі:

— Ты ўжо тут! Гайда на карусель! А потым у футбол паганяем!

Сцёпка, нечакана для сябе, адмовіўся:

— Не, пацаны, гуляйце без мяне... Мне трэба ў бібліятэку...

— У цябе што, з мазгамі не лады? — здзівіліся сябры.— Пачакае твая «гісторыя» да восені. Гайда, Сцяпан!

— Не! — рашуча ўстаў Сцяпан, і гэтак жа рашуча падаўся ў бібліятэку.

Ён нават заплюшчваў вочы, калі браў з паліцы кніжку, каб не бачыць яе назву, разгортваў старонкі і пачынаў чытаць. Траплялася рознае — і цікавае, і не зусім, і пазнавальнае, і прыгодніцкае, але кожнае, па-свойму карыснае.

Толькі вось сэрца пакуль нічога не падказвала.

Ён кожны дзень наведваў бібліятэку і ўжо пачаў прыходзіць сюды без уласнага прымусу, а зацікаўлена. Перад ім раскрываўся невядомы дагэтуль таямнічы свет ведаў і адкрыцця чагосьці новага. Хлопчык, часам, забываўся на тое, што шукае нейкую асобную кніжку — усе яны былі яго сябрамі, яго суразмоўцамі.

Але аднойчы, разгарнуўшы чарговую кніжку, Сцёпка не мог адарвацца ад напісанага і, што галоўнае, адчуў светлае ўсхваляванне сэрца.

— Гэта яна! Яна — чароўная кніжка! — усклікнуў ён, звяртаючы на сябе ўвагу ўсіх, хто быў у бібліятэцы.— Сэрца мне падказала!

Упершыню за апошні час, Сцёпка зірнуў на вокладку і прачытаў назву кніжкі:

«ГІСТОРЫЯ РОДНАГА КРАЮ».

Восенню, пры пераэкзаменоўцы, Сцёпка атрымаў адзнаку «выдатна», а пасля пачатку новага навучальнага года, класны кіраўнік, у прысутнасці ўсіх вучняў класа з гонарам адзначыў:

— Адчуваецца, Сцяпан, што летам ты шмат папрацаваў над сабой. Сваімі ведамі і светапоглядам ты выдзяляешся з усіх сваіх аднакласнікаў. Малайчына!..

Але Сцёпку ўвесь час непакоіць думка: «Хто ж яна, тая таямнічая суразмоўніца ў парку? Фея ці вельмі разумная бабуля?»



# Волік

Вясной ацялілася Карова. Яна пяшчотна лізала сваё дзіцятка, якое ляжала і пакуль не магло падняцца на ножкі, такія яны былі зусім кволенькія.

Але час хутка робіць справу для жывёліных дзяцей. Яны, у адрозненні ад нашых дзетак, растуць і сталеюць даволі хутка.

Вось і цялятка, дакладней, Бычэчак, праз некалькі дзён падняўся на свае ножкі і, між ласаваннем цёпленькім малачком з мамінага вымя, спрабаваў ужо скубці траву. Яшчэ праз нейкі час, любімым заняткам нованароджанага было прагульванне ля хлява пад ласкавым вясеннім сонейкам.

Бычэчка вельмі цешыла тое, што акрамя мамы Каровы, яго любілі ўсе астатнія — і Гаспадыня з

Гаспадаром, і іх малыя дзеткі, і іншыя жыхары гаспадарскай сядзібы.

А гэтых «іншых» было нямала. Гэта — і цява Служык, і каток Кеша, і пеўнік Кукарэка, не кажучы пра Курачак і залётных Верабейчыкаў.

Чамусьці больш за ўсіх хінуўся да Бычэчка пеўнік. Ён яшчэ надосвітку заскокваў на жэрдачку над Бычэчкам і бадзёра спяваў:

Ку-ка-рэ —
Ку-ка-рэ-ку!
Шмат я бачыў на вяку...

Мама Карова прасіла пеўніка:

— Спяваў бы ты, Кукарэка, дзесь у другім месцы, ты ж спаць не даеш майму сыночку... Вось, ён ужо і прачнуўся з тваёй такой ласкі.

Але пеўнік бадзёра адказваў:

— А хіба вы не ведаеце, што сваімі спевамі я буджу Сонейка? Не праспяваю я — і не пачнецца раніца.

Бычэчак прасіў сваю маму:

— Мамачка, няхай пеўнік спявае. Мне вельмі падабаюцца яго спевы!

Ішлі дні. Спачатку Бычэчак мала звяртаў увагі на сэнс пеўнікавай песні — ну спявае і спявае. Усе суседскія пеўні надосвітку спяваюць — што тут асаблівага. Але потым яго зацікавілі словы: «Шмат я бачыў на вяку...»

— Скажы, Кукарэка, што такое ты бачыў на сваім вяку? Ты, пэўна, шмат ведаеш таго, чаго не ведаю я.

Пеўнік скокнуў з жэрдачкі і сумна сказаў:

— Не варта было б мне табе гэта казаць, але я вельмі палюбіў цябе і цяпер вагаюся, што мне рабіць? Не скажу, значыць, не папярэджу цябе, скажу — не ўратую, а толькі засмучу... А як дапамагчы — не ведаю.

— Ты пра што? — занепакоіўся Бычэчак.— У чым ты шукаеш дапамогу мне, Кукарэчка? Кажы!

Пеўнік сумна ўздыхнуў:

— Ведаеш, Волік, каб ты нарадзіўся цялушачкай, ну, дзяўчынай, у цябе быў бы шанц на жыццё. Цябе, магчыма, планавалі б пакінуць, як будучую карміцельку-карову... А бычэчкаў... я бачыў гэта не адзін год, гадуюць, страшна сказаць, на мяса...

— На мяса! — жахнуўся Волька.— Няўжо можна есці яшчэ што-небудзь акрамя малачка і травы? Навошта?

Пеўнік падтрымаў сябра:

— І я хачу, каб усе на зямлі елі штосьці такое... зерне, траву, моркву, капусту, адным словам, расліннае. Каб не нішчылі нічыё жыццё. Але, на жаль, так не атрымліваецца...

— Што ж мне рабіць, Кукарэкачка? Парай, як ратавацца?

— Не ведаю,— апусціў дзюбу пеўнік.— Не ведаю, дружа...

Заплакаў Бычэчак, якому пеўнік даў імя Волік, і як сцямнела развітаўся з пеўнікам і ўпотай ад мамы, падаўся прэч са двара, куды вочы глядзелі.

Гаспадары не ведалі, што і думаць, куды падзяваўся Волік.

— Які ён быў ласкавы і разумененькі! — выцірала ўзмакрэлыя вочы Гаспадыня.

— А які прыгожанькі! — уздыхаў Гаспадар.— У яго між вочак на лбе красавалася белая зорачка, а вочы вельмі рэдкага колеру — блакітныя, як валошкі...

А між тым, Волік, карыстаючыся тым, што лета толькі пачыналася, не галадаў і не замярзаў на прыродзе. Ён хутка рос і не менш хутка дужэў. Яго галаву ўжо ўпрыгожвалі даволі прыкметныя рогі.

Волік вельмі сумаваў і па маме, і па ўсіх сваіх сябрах, але паспеў прызвычаіцца да вольнага жыцця і не збіраўся вяртацца на гаспадарчую сядзібу.

У дадатак да ўсяго, матухна-Прырода падказала яму, што неабходна рыхтавацца да зімовых маразоў, таму Волік пачаў паступова абрастаць поўсцю, быццам апранаць цёплае адзенне.

Прайшло амаль паўгода. Надыходзілі халады. Гаспадар запрэг каня і, узяўшы сякеру, паехаў у лес, каб прывезці дровы.

Нагледзеўшы некалькі сухіх хваінак, Гаспадар злез з калёс і пачаў аглядаць дрэвы, прыкідваючы, у які бок валіць, каб не завіслі.

Раптам ён пачуў за спінай трэск галля і з жахам заўважыў мацёрага Мядзведзя, які пагрозліва набліжаўся. Конь падняўся на дыбы, трывожна заіржаў і, як шалёны, паімчаў прэч.

Гаспадар пахаладзеў — на калёсах засталася сякера, апошняя надзея на абарону.

А Мядзведзь наблізіўся і падняўся на заднія лапы. Гаспадар некалі чытаў, што гэта — верная прымета таго, што Мядзведзь настроен рашуча і агрэсіўна. Звычайна Мядзведзь на людзей не нападае. Адбываецца такое толькі тады, калі лахматы жыхар лесу мала назапасіў тлушчу для зімовай спячкі. Галодны мядзведзь — злосны і непрадказальны.

Чамусьці гэта ўсё ўспомнілася Гаспадару, але палёгкі не прынесла і ён падрыхтаваўся да самага горшага, бо Мядзведзь узняў угару пярэднія кіпцюрыстыя лапы, раскрыў іkластую пашчу і страшэнна зароў.

Раптам з другога боку таксама ламаючы голле, нехта выскачыў...

Гаспадар акамянеў і, як пад гіпнозам назіраў, як той нехта рынуўся на Мядзведзя, і збіў яго з лап на спіну.

Мядзведзь, нягледзячы на клышаногасць, спрытна ўскочыў на ўсе чатыры лапы і кінуўся на свайго ворага. Завязалася барацьба не на жыццё, а на смерць. Кроў і поўсць разляталіся далёка ў бакі. Немагчыма было зразумець, хто напаў на Мядзведзя і хто перамагае.

Гаспадару падалося, што яго абаронца Лось, але таго, што Лось можа напасці на Мядзведзя, нават прысніць немагчыма. Звычайна, хоць і рэдка, адбываецца наадварот.

Нарэшце Мядзведзь вырваўся з гэтага смяротнага клубка і даўся на ўцёкі.

На месцы ж застаўся... не, не Лось і ніхто іншы, а не зусім сталы, затое пераканаўча-моцны Бык. Бакі яго і шыя былі акрываўлены, дзе-нідзе вісела абадраная скура, ён хістаўся і цяжка дыхаў.

— Бы-ы-ык?.. Адкуль ты? — не стрымаўся Гаспадар.— Я і не ведаў, што ў нашых лясах існуюць дзікія быкі!

А Бык, тым часам, аддыхаўся і, храмаючы, накіраваўся да аслупянелага Гаспадара, які напружыўся, баючыся агрэсіі, цяпер ужо з боку свайго выратаваў-целя.

Бык падышоў і прыхінуўся лбом да грудзей Гаспадара, пры гэтым неяк жаласліва рыкнуў, потым падняў галаву і зазірнуў чалавеку ў вочы.

Толькі цяпер Гаспадар заўважыў на лбе між вачэй жывёлы белую зорачку! А вочы! Яны былі блакітныя, як валошкі!

— Бычэчак! Ты? — радасна ўскрыкнуў Гаспадар.— Родны Бычэчак! Гэта ты ўратаваў мне жыццё! Дзякуй табе і прабач! Хадзем дадому, родненькі! Мы прытулім цябе, залечым твае раны і ніколі не пакрыўдзім. Жыві з намі да старасці.

Волік усё зразумеў і з яго блакітных вачэй скаціліся слёзы ўдзячнасці. Ён зноў зазірнуў у вочы Гаспадару і ціхенька падаўся ў лес.

— Куды ты, Бычэчак? Куды ты, родненькі? Вярніся! — крычаў расчулены Гаспадар.

Але Волік, не азіраючыся аддаляўся і знік у гушчары...

Даўно гэта было... Так даўно, што сёння ніхто нават не скажа, дзе і калі адбылася гісторыя з Волікам. Яна згубілася сярод мноства іншых гісторый і падзей, якія, як у калейдаскопе, мяняюцца ў нашым жыцці.

Таксама невядома, звязана гэта гісторыя ці не з тым, што здавён-даўна ў нашых лясах жывуць сапраўдныя дзікія быкі — Зубры. Адкуль яны? Не выключана, што гэтыя магутныя Волаты — нашчадкі даўно забытага Воліка.

Забытага? Не! У вёсцы кожную раніцу можна пачуць прызыўны спевы Пеўніка, які ўсё кліча і кліча свайго сябра:

Ку-ка-рэ —
Ку-ка-рэ-ку-у!
Я сумую па дружку-у!



# Прамая дарога

Ішлі аднойчы са школы васьмігадовыя сябры Вова, Мікола і Алесь. Быў цудоўны восеньскі дзень, калі дрэвы яшчэ не скінулі сваёй шыкоўнай залачонай вопраткі. Дарога ад вёскі да вёскі была добра знаёмая, не адзін раз адмераная нагамі.

Раптам сябры спыніліся і здзіўлена пераглянуліся. Месца, дзе яны апынуліся, было незнаёмым. Дарога, па якой можна было з завязанымі вачамі крочыць ад дому да школы і наадварот, раптам зрабілася непазнавальнай і разбягалася ў трох напрамках. На раскрыжаванні ляжаў вялізны камень, на якім было штосьці напісана. Сябры наблізіліся да камня і з цяжкасцю прачыталі:

«Направа прыблудзіш, вучыцца не будзеш, на-

лева падасіся, смакаты і ласункаў наясіся, а прама пойдзеш ... знойдзеш!»

Але далей, пасля шматкроп'я, не было ні слова. Узрушыліся хлопчыкі, захваляваліся:

— Чур, я направа пайду! — усклікнуў Вова,— Я больш за ўсё на свеце не люблю вучыць урокі. І хто іх толькі прыдумаў?

— Прабачце мне, сябры, але нікому не саступлю дарогу, якая вядзе налева! — Рашуча заявіў Мікола і палыкнуў слінкі,— Я вельмі люблю смакату і ласункі! Мне нават у сне есці хочацца.

— А што ж там, у тым «прама»? — пасля невялікай паўзы завагаўся Вова.— Цікава! Магчыма, там штосьці неверагоднае ды нябачанае намі?..

— А калі там Змей Гарынавіч ці Кашчэй Бессмяротны затаіўся? — запярэчыў Мікола,— толькі туды нос ткнеш, а яны тваю галаву — хрум! — і забудся, як цябе звалі. Не! Мяне не спакусяць ніякія там прыгоды — я выбраў смакату. Пакуль, пацаны, я пайшоў! — і Мікола рашуча падаўся налева.

— Ты прабач, Алесь, але і я пакідаю цябе,— павінаваціўся Вова і са злосцю зашпурнуў партфель з падручнікамі ў кусты.— Болей вы мне не спатрэбіцеся!

І Алесь застаўся адзін.

— Прама дык прама! — падбадзёрыў ён сябе і борзда пайшоў па прамой дарозе.

Ці доўга ішоў, ці не, а дарога яго прывяла...


Налева падасіся,
смакаты наясіся
Направа прыблудзіш,
вучыцца не будзеш
Прама пойдзеш………
знойдзеш

Алесь вачыма сваім не верыў — ён без прыгодаў і дзівосаў, якія спадзяваўся ўбачыць на таямнічай прамой дарозе, прыйшоў дамоў, дзе яго як заўжды сустрэла маці. Алесь кінуў партфель з падручнікамі на лаву, супакоіў маці: «Мамачка, я потым паем!», а сам пабег да сваіх сяброў, Вовы і Міколы. Дзе яны? Што з імі? Але сябры былі ўжо таксама дома і беглі да Алеся, даведацца — дзе ён і што з ім?

Сябры сустрэліся на вуліцы, быццам і не расставаліся. Пачулася расчараванне:

— Вось табе «пойдзеш направа, пойдзеш налева...» Камень — нейкі манюка!

Больш за ўсіх абураўся Мікола:

— Дзе тыя ласункі? Дзе тая смаката? Я ўсю дарогу слінкі глытаў, усе вочы праглядзеў — нідзе ні цукерачкі, ні табе снікерса.

Тут Міколу гукнула маці:

— Сынок, Міколка! Ідзі хутчэй дамоў, я табе піражных і цукерак у краме накупіла! Хутчэй!

— Ура! — закрычаў Мікола і яго нібы садзьмула ветрам.

Вова і Алесь здзіўлена пераглянуліся.

— Вось табе і камень-манюка,— выдыхнуў Вова,—шанцуе гэтаму абжору. А мне дык прыйдзецца вяртацца ды шукаць партфель з падручнікамі. Відаць, ад урокаў мне не адкруціцца...

Нечакана пачуўся голас Вовінай маці:

— Валодзечка, сыночак! Ідзі паеш ды адпачні ад вучобы. Дарэмна толькі мазгі сушыш! Мы з тваім

бацькам малапісьменныя, а ў нас і свінні водзяцца, і гаспадарка не горшая за іншых, і капейчына ёсць. Былі б рукі ды ногі, а вучыцца паспееш.

Вова пераможна бліснуў вачыма, засвяціўся ўвесь, як медны гузік:

— Заўтра па мяне не заходзь, я ў школу не пайду! — і ён разваліста падаўся ў сваю хату.

Алесь зноў застаўся адзін.

«Дзіўныя справы адбываюцца»,— падумаў ён і таксама пайшоў дамоў, каб крыху падсілкавацца і сесці за ўрокі.

Ішоў час. Вова кінуў школу, пагульваў ды біў лынды. Мікола працягваў вучыцца разам з Алесем, але зрабіўся круглы, як гарбуз.

— Мне мая мамачка кожны дзень купляе ці торт, ці піро жныя, ці цукеркі, асабліва за добрыя адзнакі ў дзённіку,— пахваліўся ён дастаючы з партфеля чарговую смакату.

Яго нават ад уроку фізкультуры аслабанілі, бо ён не мог выканаць самае простае фізічнае заданне.

І што самае сумнае — ён працягваў таўсцець і круглець.

Алесь, як і ўсе дзеці яго узросту, любіў і футбол паганяць, і спякотай даць нырца ў рэчку, і ў лес па грыбы збегаць, і бацькам дапамагчы, але на першым месцы ў яго жыцці была прага да ведаў.

Нездарма ў пятым класе, на абласной алімпіядзе па матэматыцы ён заняў першае месца.

З сваімі даўнімі дружбанамі Вовам і Міколам ён працягваў сябраваць.

Вову пачалі зваць неўкам і гэта яго моцна крыўдзіла і нагадвала яму, што партфель з падручнікамі чакае яго ў кустах.

Да Міколы прырасла мянушка «Мікола — пузатае кола», што таксама яму вельмі не падабалася.

— Алесь,— звярнуліся яны да сябра — што зрабіць, каб пазбавіцца кпінаў?

Алесь, не вагаючыся адказаў:

— Ідзіце па жыцці прамой дарогай!





# Стасік і іншапланецяне

Першы дзень пасля летніх канікулаў настаўніца вырашыла прысвяціць своеасаблівай справаздачы вучняў на тэму: «Як я правёў летнія канікулы». Кожны, па жаданню, мог падзяліцца ўражаннямі, назапашанымі за лета.

Жадаючымі былі ўсе вучні, бо ва ўзросце 9—10 гадоў, нават дробязныя падзеі ўспрымаюцца, як штосьці вельмі незвычайнае, што магло адбыцца толькі з табой.

Дзяцей асабліва радавала тое, што такая справаздача будзе адбывацца вусна, ужывую. Можна будзе задаваць пытанні, устаўляць у расповед жарты і, што самае галоўнае, у адрозненні ад пісьмовай работы, не трэба думаць пра правапісанне і адрыдлыя памылкі.

І вось першы ўрок пачаўся.

Настаўніца раскрыла класны журнал і пачала па чарзе называць прозвішчы вучняў.

Кожны расказваў штосьці сваё, але гэта «штосьці сваё» часта паўтаралася, бо многія вучні ездзілі са сваімі бацькамі адпачываць да мора, хто — у летнія лагеры, было нямала такіх, хто адпачываў у вёсцы ў сваіх бабуль.

Вядома ж, цяжка знайсці ля мора ці ў вёсцы нешта сваё, асаблівае. У асноўным: купаўся, загараў, хадзіў на экскурсію, а ў вясковых адпачывальшчыкаў: хадзіў на рыбалку, у лес па ягады, ездзіў на кані і, абавязкова, піў сырадой.

Калі ж пасля чарговага перапынку, настаўніца назвала прозвішча Стасіка, ён устаў, па-даросламу адкашляўся і пачаў:

— Клыра выт азлот перлістра ду-у, ялтон экліб маліжна...

Усе дзеці раскрылі раты ад пачутага, а настаўніца ўсклікнула:

— Стасік, пачакай! Спыніся! Што гэта за мова такая?

Стасік вінавата пляснуў далоняй сабе па лбе:

— Прабачце, Аліна Паўлаўна! Я ж забыўся вас папярэдзіць, што мяне, напачатку лета ўкралі іншапланецяне.

— Што-о-о? — выцягнула шыю настаўніца.— Якія іншапланецяне? Ты што, жартуеш?

— Мне не да жартаў, Аліна Паўлаўна. Я столькі перажыў,— уздыхнуў Стасік.

— Ну, і як гэта адбылося? — недаверліва спыталася настаўніца.— Можа, ты лепш пісьмова выкладзі свае прыгоды ці свае... фантазіі на імя дырэктара школы?

— Не! Не! Няхай раскажа! Мы хочам паслухаць,— загаманілі вучні.— дазвольце, Аліна Паўлаўна!

— Што ж, расказвай,— без асаблівай ахвоты дала згоду настаўніца. А потым спыталася: — Дык гэта ты на іх мове пачаў з намі гаворку?

— Так, на іхняй мове.

— Слухаем, працягвай, Стасік, толькі цяпер на нашай, беларускай мове,— удакладніла настаўніца.

Стасік працягваў?

— Па сутнасці, я сам паспрыяў таму, каб аказацца ў іх у палоне.

Пабег я аднойчы ў лес па суніцы. Збіраю ягадку за ягадкай, пераходжу ад адной чырвонай лаціны ягад да другой — няма калі галаву падняць, агледзецца. Калі ж дазбіраў поўны глек суніц, з асалодай выпрастаў спіну і заўважыў на ўскрайку лесу штосьці дзіўнае. Спачатку падумаў, што гэта аўтобус стаіць, які прывёз турыстаў адпачываць. Як прыгледзеўся — ледзь глечык з суніцамі не выпусціў з рук. Гэта была талерка... Не тая, з якой мы ядзім суп, а сапраўдная іншапланетная талерка, срэбнага колеру, з невялічкімі акенцамі-ілюмінатарамі.

У мяне ажно дыханне захапіла ад такога відовішча. Страху не было, было толькі адно жаданне — падысці бліжэй і дэталёва разгледзець гэты карабель, каб потым было што расказваць усім знаёмым. Цікаўнасць, як магніт цягнула мяне да невядомага дзівосу і ногі, здавалася, самі вялі мяне ўсё бліжэй і бліжэй да іншапланетнай таямніцы.

Раптоўна думка рэзанула па маіх напружаных нервах, як нажом: «А дзе ж яны, гаспадары талеркі? Якія яны? Варожыя ці дружалюбныя?»

Вось тут страх спыніў маё набліжэнне да застылай невядомасці.

Я доўга стаяў і вагаўся: набліжацца ці не?

Нідзе не чулася ні шоргату, ні гуку — нават птушкі перасталі спяваць. Тут я заўважыў, што дзверы-люк у пасудзіну адчынены і магніт цікаўнасці зноў пацягнуў мяне ўперад. І не проста ўперад, а ў сярэдзіну талеркі. На дыбачках, ледзь дыхаючы, я пракраўся ў гэты міжпланетны апарат, а там — нікога.

Агледзеўся... На нейкіх панэлях міргалі рознакаляровыя лямпачкі, свяціліся ўсялякія экраны, штосьці высвечвалася і тухла. Уся талерка ўсярэдзіне падзелена на мноства асобных кабін з крэсламі і ляжанкамі. На шматлікіх паліцах — мудрагелістая апаратура. Я забыўся нават, дзе я і што са мной.

Пакуль я, разявіўшы рот, разглядаў усю гэту таямнічасць, у дзвярах з’явіліся яны... Я абмёр ад жаху. Думка-маланка загадала: «Уцякай!», але ногі

і рукі не слухаліся. Ды і куды было ўцякаць, калі ў дзвярах шчыльна стаялі чатыры чалаве... прабачце, не чалавекі, а іншапланецяне.

Убачыўшы, што я не кратаюся і не раблю спробы ўцячы, яны, відаць, падумалі, што я сам, добраахвотна прыйшоў да іх і вырашыў з імі застацца. Таму яны ветліва, штосьці незразумелае залапаталі.

Я, нягледзячы на смяротны жах, адзначыў, што яны не зялёныя, як пра іх пішуць, а, наадварот, чырвоныя, як спелыя памідоры. Росту яны былі значна меншага, чым нашы дарослыя людзі, таму, калі я нарэшце ўстаў, каб павітацца, мы былі роўныя — плячо ў плячо...

Настаўніца раптоўна папрасіла:

— Можа б, ты больш скарочана расказаў, Стасік. Пасля заканчэння твайго расповеду ў нас, пры неабходнасці, будзе магчымасць задаць табе пытанні, штосьці ўдакладніць. Згодзен?

— Згодзен,— адказаў хлопчык і працягваў: — Карацей, дзверы зачыніліся, адзін з іх сеў за пульт кіравання, і мы паляцелі.

Тое, што талерка ляціць, і ляціць вельмі хутка, я здагадаўся, зірнуўшы ў ілюмінатар. Хоць было ўражанне, што мы стаім на месцы. Зямля аддалялася імкліва і праз нейкую хвіліну ператварылася ў кропку і ўвогуле знікла.

Трое іншапланецян, не занятых кіраваннем талеркай, штосьці мне тлумачылі, балбаталі па-свойму. Але, убачыўшы, што я нічога не разумею, надзелі

мне навушнікі і — дзіва! — я пачаў разумець іх мову, быццам усё жыццё толькі на ёй і размаўляў.

Адзін з іх дружалюбна мне сказаў:

— А ты малайчына, што вырашыў далучыцца да нас — паслужыш міжпланетнай навуцы.

Я здзівіўся — які я навуковец! Але той працягваў тлумачыць:

— Мы з цябе на клетачным узроўні выведзем новы від міжпланетнай істоты. Ганарыся гэтым!

— Што-о-о? — ускочыў я.— Як? Навошта? Не хачу! — пратэставалі ўсе мае клеткі.— Я ў раннім маленстве хварэў жаўтухаў. Ваша істота будзе хваравітай!

— Не будзе, мы ўсё прадугледзем,— супакойваў мяне «чырвоны памідор».

Тады я пачаў маніць і хітраваць:

— Ваша істота будзе някемлівай...

Настаўніца ўсміхнулася:

— Не надта ты ўжо і маніў...

Стасік працягваў:

— Тым часам пачало цямнець і хутка чарната акружыла нас з усіх бакоў.

— Гэта што, так хутка надышла ноч? — здзівіўся я.

— Не, гэты мы вылятаем з вашай Сонечнай сістэмы. Промні вашага Сонца не далятаюць сюды, таму, пераадолеўшы міжсістэмную пустэчу, мы хутка дасягнем нашай Сонечнай сістэмы. У нас сваё Сонца і свая Галактыка, пра якую жыхары вашай планеты нават не падазраюць.

Я пацікавіўся:

— А чаго вы прылятalі на Зямлю?

— Гэта — тайна,— коратка адказаў адзін з іх.

— А як завецца ваша планета? — зноў пацікавіўся я.

— Хоць ты ўжо не вернешся на сваю Зямлю,— адказаў той жа іншапланецянін,— на ўсякі выпадак дай слова, што ніколі нікому не агучых назву нашай планеты і Галактыкі.

— Даю піянерскае слова,— урачыста запэўніў я.

І яны назвалі сваю планету і сваю Галактыку.

— І як яна называецца гэта планета? — спыталася Аліна Паўлаўна.

— Прабачце, Аліна Паўлаўна, але на мне ляжыць міжпланетная адказнасць за маё піянерскае слова.

Настаўніца супакоіла Стасіка:

— Разумею, разумею...

А Стасік працягваў:

— Раптам пачалося штосьці падобнае на раніцу. Рабілася відней і відней.

— Вось пачынаецца наша Сонечная сістэма! — абвясціў адзін з касманаўтаў.— Хутка будзем дома!

Прайшло па маіх падліках некалькі гадзін, як я трапіў у гэтую іншапланетную пастку, а мы ўжо ў другой Сонечнай сістэме. Здорава! У той жа час я сумна адзначыў, што гэта «здорава» занесла мяне ад дому ў такую неверагодную далеч і, хутчэй за ўсё, назаўсёды. Я ніколі не ўбачу ні бацькоў, ні сяброў, ні нашай утульнай Зямлі...

Слёзы міжволі зацурэлі з маіх вачэй, і гаспадары талеркі расцанілі іх, як слёзы радасці ад слоў «мы хутка будзем дома».

Нарэшце зусім развіднела і ўверсе паказалася іхняе Сонца. Яно было жоўтае, як яечны жаўток, а неба было светла-лімоннага колеру.

— Вунь! Вунь наша планета! — паўскоквалі «чырвоныя памідоры», паказваючы на кропку, якая імкліва набліжалася да нас, хаця гэта мы імчалі да яе.

Усе, і я ў тым ліку, прыліплі да ілюмінатараў. Хуткасць касмічнага карабля пачала сцішацца, затым ён завіс над гэтай планетай і павольна спусціўся на яе. Іншапланецяне пачалі абдымацца, віншаваць адзін аднаго з заканчэннем пералёту. Страсянулі за плечы і мяне, выказваючы гэтым, што я для іх свой.

Калі мы па трапе спусціліся на планету, першае, што мяне ўразіла — гэта колькасць падобных талерак вакол. Ля кожнага дому, відаць, у кожнай сям'і была такая талерка, толькі меншых памераў. Пазней я даведаўся, што такія лятаючыя апараты ў іх замест машын.

І галоўнае, ад чаго нельга было адвесці вачэй — гэта ўсё наваколле. Уявіце сабе: зямля зялёнага колеру, неба — лімоннага, дрэвы сінія, а жыхары — чырвоныя. Усё мела асобны колер — дамы, рэчкі, нават уласныя лятаючыя апараты. Здавалася, што гэта не рэальная краіна, а па-майстэрску размаляваны казачны мульцік. Вельмі прыгожа!

Уразіла і тое, што нас ніхто не сустракаў, акрамя двух, як я зразумеў, адказных службовых асоб. Пэўна, міжпланетныя палёты ў іх — звычайная справа.

Убачыўшы мяне, сустракаючыя асобы і касманаўты адышлі ў бок і пра нешта доўга размаўлялі. Я здагадаўся, што яны вырашаюць далейшы мой лёс.

Я быў упэўнены, што мяне ізалююць, але адзін з чыноўнікаў падышоў па мяне і сказаў:

— Будзеш жыць пакуль у маім доме, з маёй сям'ёй, а потым вырашым, што з табой рабіць.

Ён быў упэўнены, што мне няма куды ўцякаць, ды і касманаўты, пэўна, даклалі яму, што я добраахвотнік.

Так я апынуўся ў яго сям'і. Мне пашанцавала — у яго, акрамя жонкі была і дачка, прыкладна майго ўзросту. Звалі яе Кісатс — дзіўнае імя. Але, калі я ўдумаўся ў яго сэнс — ажно ўзрушана закрычаў:

— Кісатс, дык мы з табой цёзкі!

Яна здзівілася яшчэ больш за мяне:

— Якія ж мы цёзкі? Я — Кісатс, ты — Стасік.

— А ты прачытай сваё імя наадварот! Альбо маё прачытай наадварот! Разумееш? Во здорава — жылі мы з табой за мільярды кіламетраў адно ад аднаго, а нашы бацькі далі нам адно імя!..

Так пачалося маё жыццё на той далёкай планеце.

Я хачу паўтарыць, што мне вельмі пашанцавала з Кісатс. І не толькі таму, што яна была добразычлівая і разумная дзяўчынка, але і таму... далей вы самі даведаецеся чаму.

Яна расказала мне, што яе бацька займае ў дзяржаве высокую пасаду, што такіх школ, як у нас, у іх няма. Яны, дзеці, аб'яднаны агульнай сістэмай адукацыі праз глабальную сетку відэа-інфарматызацыі. Гэта штосьці падобнае на наш інтэрнэт.

У адведзены час дзеці праз хатнія індывідуальныя мінісістэмы падключаюцца да глабальнай відэасетцы, атрымліваюць заданні ад настаўнікаў, дыскуціруюць між сабой і з тымі ж настаўнікамі, удзельнічаюць у навучальным працэсе да атрымання неабходнага ўзроўню адукацыі.

Кіраўніцтва дзяржавы і дзяржаўнымі ўстановамі ажыццяўляецца таксама праз глабальную сетку інфарматызацыі.

У дзяржаве, а яна адна на ўсёй планеце, няма арміі, няма зброі — адпаведна, няма і войнаў, таму ўсе намаганні і сродкі накіроўваюцца на навукова-сацыяльныя праграмы. За кошт гэтага, жыхары той планеты дасягнулі небывалых навукова-тэхнічных і сацыяльна-эканамічных вярнышь.

Стасік зрабіў невялікую паўзу і ўдакладніў:

— Пра ўсё гэта і многае іншае я даведаўся ад дзяўчынкі ў першы дзень майго знаходжання ў гэтай сям'і. З яе слоў я і пераказваю вам усё гэта, ды і далей буду спасылацца на яе.

Але мяне вельмі непакоіла тое, што я ў гэтым доме часова, што хутка магу апынуцца няведама дзе, адрэзаны інфармацыйна і фізічна ад усяго і ўсіх.

І ўсё ж, па сапраўднаму мяне палохала заява аднаго з іншапланецян падчас палёту, што з мяне, на нейкім клетачным узроўні, створаць нейкую істоту. Істоту створаць, а са мной што будзе? Ці буду я ўвогуле?

Пра свае перажыванні я расказаў Кісатс. Яна пахмурнела:

— Не хачу цябе, Стасік, палохаць, бо дакладна сама ўсяго не ведаю, але, думаю, што з клетак твайго арганізма, а іх у кожнага вельмі шмат, будуць рабіць спробу стварыць кагосьці... Для чаго — не ведаю. Я нешта чула ад свайго таты: прывозілі аднекуль некага, але той эксперымент прайшоў няўдала... Я сама баюся за цябе, Стасік.

Я пахаладзеў:

— А што ж рабіць, Кісатс?

— Не ведаю... лепшае, што можна было б зрабіць — гэта ўцячы. І ўцячы, не адкладваючы, пакуль тваю часовую свабоду не абмежавалі нейкай закрытай тэрыторыяй ці памяшканнем.

— Як уцячы? Куды? — не зразумеў я.

— Туды, адкуль прыляцеў,— адказала дзяўчынка.— Гэта твой адзіны шанц і, не гарантыя, што яго ўдасца выкарыстаць.

— Што ты маеш на ўвазе? — зноў не зразумеў я.— Які шанц? Дзе ён?

— Карабель, на якім ты прыляцеў — вось твой шанц.

Я разгубіўся:

— А як я на яго патраплю? Ён жа ахоўваецца. І хто ім будзе кіраваць? А потым... я вельмі хацеў пабачыць ваш горад, адчуць ваша жыццё. Я ж акрамя яго агульнага выгляду з ілюмінатара нічога не бачыў.

Дзяўчынка пачала нервавацца:

— Табе экскурсія па горадзе даражэй за жыццё! Так? Я згодна рызыкаваць, правесці цябе на карабель, а ты...

— Прабач, Кісатс!.. А хто будзе кіраваць караблём?

— Ты! — рашуча адказала яна.— У нас кожнае дзіця ведае, як кіраваць такой тэхнікай. Я табе асноўнае пакажу. Наперадзе ноч, а раніцай пачнём дзейнічаць.

Стасік перавёў дыханне і звярнуўся да настаўніцы:

— Я, Аліна Паўлаўна, буду прапускаць дэталі нашай падрыхтоўкі плану бегства, скажу толькі, што раніца аказалася не мудрэй за вечар, а больш страшнай за яго.

Самыя горшыя прагнозы Кісатс пацвердзіліся.

Я яшчэ спаў, калі ў мой пакой увайшлі нейкія людзі і згадалі мне збірацца.

— Куды? — спытаўся я, хоць разумеў, што мне ўсё роўна не адкажуць.

Я спецыяльна марудзіў час апранаючыся і з надзеяй пазіраў на дзверы — а раптам у пакой увойдзе Кісатс. Але мае надзеі згасалі з кожнай хвілінай.

— Хутчэй! — падганялі мяне незнаёмцы.— У нас мала часу.

Мяне вывелі, пасадзілі ў талерку без ілюмінатараў і кудысьці павезлі.

Двор, на якім мы селі, быў абнесены высокай сцяной. Пасярэдзіне яго знаходзіўся толькі адзін трохпавярховы будынак.

Я ў гэтай казачна-каляровай краіне ўпершыню ўбачыў чорны колер — будынак, быў чорны, як сажа, што наганяла ў сэрца жах. Пакой, у які мяне пасялілі, быў таксама чорнага колеру, нават ложак і ўся мэбля — чорныя.

Убачыўшы гэта, я ледзь не згубіў прытомнасць, але незнаёмец, які прывёў мяне сюды, ласкава сказаў:

— Не здзіўляйся такому інтэр'ету. Чарната — гэта вынік, гэта самы даўгавечны, самы пастаянны колер для кожнага з нас. Яна псіхалагічна настройвае пацыента на вечнае ўпакаенне. Гэта ў нас замест анестэзіі. Праз нейкі час тут ты забудзешся пра ўсё на свеце, пра ўсе колеры. Затое, пасля аперацыі, ты па-інакшаму будзеш успрымаць сапраўднае суквецце. А пакуль — адпачывай.

Пасля такой анестэзіі ў мяне сапраўды не было ні сіл, ні волі працівіцца чаму-небудзь...

Тым часам Кісатс заўважыла маю адсутнасць і кінулася да бацькі:

— Татачка, а дзе Стасік?! Што з ім?

— Забудзься на яго, дачушка,— як мага мякчэй адказаў ён.— Ён хутка пяройдзе ў іншае малекулярнае вымярэнне.

— Не! — кінулася на шыю бацькі Кісатс.— Я хачу апошні раз пабачыць яго.

— Навошта, дачушка? Эксперыменту дадзен ход.

Кісатс зразумела, што патрэбен нейкі пераканаўчы аргумент. Яна плаксівым тонам сказала:

— Татачка, мы ўчора вечарам пачалі развучваць песню, якую Стасік прывёз з Зямлі. Я яшчэ не зусім валодаю мелодыяй і не ўсе ведаю словы. У іх свае песні, не падобныя да нашых. Ён мне некалькі разоў яе праспявае, я запішу яе на дыск, а потым — працягвайце эксперымент... Ты ж толькі ўслухайся, татачка: «Касіў Ясь канюшыну...» Далей я не памятаю. У нас жа не расце канюшына і няма такіх дзівосных імён як Стасік і Ясь. Дазволь, татачка.

Бацька падумаў і завагаўся:

— Што ж у выпадку няўдалага эксперыменту, няхай пасля яго застанецца хоць канюшына. Добра! Пропуск у цэнтр эксперыментальнай медыцыны я табе выпішу, але толькі на адну гадзіну.

— Дзякуй, родны татачка! Але я б хацела паехаць туды з сябрам Клырстам — ты ж яго ведаеш. Я адна крыху баюся.

— Можна і з Клырстам,— згадзіўся бацька,— хлопец ён надзейны...

Стасік абвёў поглядам клас. Усе вучні былі засяроджаныя і напружаныя. Нават Аліна Паўлаўна скінула з вуснаў недаверлівую ўсмешку.

А Стасік працягваў:

— Я ляжаў на ложку, нібы ў нейкай чорнай бязмежнасці, хоць пакой быў невялікі. Я не проста ляжаў, а пакорліва чакаў свайго канца.

Раптам адчыніліся дзверы і ў пакой увайшоў той жа незнаёмец і ўрачыста сказаў:

— Прымай гасцей!

Убачыўшы Кісатс, я, як сталёвая спружына, падскочыў ледзь не да столі.

— Кісатс, мілая, родная! — не мог стрымаць я слёз радасці і сваіх эмоцый.— Ты тут! Дзякуй!

Незнаёмец, пэўна, доктар, сказаў:

— Не буду вам перашкаджаць,— і выйшаў.

Толькі цяпер я заўважыў, што Кісатс не адна, і хацеў спытацца, хто гэта, але Кісатс тузанула мяне за грудзі:

— Хутчэй распранайся! Хутчэй!

— Навошта?

— І ты хутчэй распранайся! — паўшэптам зашыкала яна на сябра.— Мяняйцеся адзеннем, пераапранайцеся.

Пакуль я корпаўся з адзеннем, Кісатс дастала з сумачкі нейкую бляшанку, адкрыла яе, і пачала націраць мне твар і рукі ярка-чырвонай фарбай.

— Клырст, хутчэй бяры вунь тую шкляначку і фарбуй сябе сам. Маж толькі часткі цела, якія выглядаюць з-пад адзення!

Праз некалькі хвілін я зрабіўся, як спелы памідор, а той Клырст набыў колер маёй скуры.

— Ну, Кісатс! Ну, малыйчына!

— Цішэй ты! — зноў зашыкала яна.— маўчы і выконвай усё, што я загадаю. А ты,— звярнулася яна да Клырста,— кладзіся на ложак і адвярніся да сцяны, а як зойдзе доктар, рабі выгляд, што плачаш — уздрыгвай усім целам.

— А што будзе з ім? — занепакоіўся я.— Яму ж пападзе!

— Не хвалюйся, яго выпусцяць пасля таго, як усё высветліцца... Вось мне перад татам будзе сорамна, але — перажыву.

Клырст бухнуўся на ложак і адвярнуўся да сцяны, а Кісатс адчыніла дзверы і зычна сказала:

— Бывай, Стасік! Не хвалюйся, усё будзе добра!

Зайшоў доктар, а мы з Кісатс, знешне спакойна выйшлі ў калідор. Я, праўда, адварочваў твар, баяўся, што мяне пазнаюць і схопяць.

Кісатс ветліва развіталася з доктарам і мы хуценька падаліся да выхаду. За спінай чуўся голас доктара:

— Паплач, паплач, табе зробіцца лягчэй...

Трэба дадаць, што Кісатс прыляцела на сямейнай лятаючай талерцы, у якую мы хуценька селі.

— Цяпер перад намі апошняя складанасць — карабель, у якім ты прыляцеў,— усхвалявана выдыхнула дзяўчына.— Галоўнае, папасці ў яго. Уперад!

І праз некалькі хвілін мы прызямліліся.

Карабель стаяў ля нейкай дзяржаўнай установы і быў зачынены.

Убачыўшы нас, з будынку выйшаў, відаць, навуковец і строга спытаўся:

— Што вам тут трэба?

Кісатс ласкава патлумачыла:

— Дазвольце мне з маім сябрам зайсці на хвілінку ў карабель. Толькі на хвіліначку! Так хочацца дыхнуць паветрам, якое прыляцела да нас з далёкай Зямлі.

Пазнаўшы дачку высокага начальніка, навуковец памякчэў:

— Пастаронніх пускаць у карабель забаронена, але для цябе, Кісатс, я зраблю выключэнне. Толькі нічога там рукамі не чапаць,— і дазволіў нам зайсці ў сярэдзіну карабля.

Усе пульты і экраны былі выключаны, але дзяўчынка па-майстэрску штосьці націснула, нешта пакруціла і ўсё ажыло, засвяцілася і заміргала.

Кісатс ліхаманкава пачала інструктаж:

— Вось аўтаматычны рэжым работы. Бачыш? Гэта — сістэмы навігацыі. Задаём сістэме загад: «Адваротны курс». Гэта значыць — маршрут да Зямлі. Гэта кнопка — узлёт, гэта — хуткасць. Гэта — кіслародазабеспячэнне. Гэты экран высвеціць за сотні кіламетраў ад цябе небяспечны астэроід ці іншы міжпланетны карабель. Вось гэта — управа, улева — манеўр. Гэтыя шафы — халадзільнікі з запасамі ежы ў гранулах і вады ў спецыяльных крышталах.

Як толькі я зачыню за сабой ўваходны люк — цісні на кнопку «ўзлёт», праз хвіліну ўключай сістэму навігацыі і хуткасць.

— А як жа ты, Кісатс? Што будзе з табой?

— Я, пасля твайго ўзлёту, закрычу, што ты выпхнуў мяне з карабля і ўгнаў яго. Не хвалюйся!

— Дзякуй табе, дарагая Кісатс! Я цябе ніколі не забуду! — ледзь не заплакаў я.

Яна дрыготкім голасам адказала:

— Шкада расставацца, але бывай, цёзка! Шчасліва даляцець!

Праз хвіліну я быў у паветры, яшчэ праз хвіліну ўжо імчаў у кірнку Зямлі.

— Ура! Я хутка буду дома! — радасна закрычаў я і заспяваў усё, што прыходзіла ў галаву.

Праз нейкі час пачало цямнець і я зразумеў, што карабель пакідае жоўтую Сонечную сістэму. Хутка, як і першы раз, зрабілася зусім цёмна і толькі пульт і экраны вакол не давалі страху авалодаць мной. А страшна было не слаба. Уявіце — я адзін у глыбінях космасу імчу насустрач невядомасці.

Раптам мне зрабілася па-сапраўднаму страшна — пульт кіравання пачаў паступова патухаць і на экране высветлілася засцярога: «Пульт адключаецца, акумулятары разрадзіліся — пераход на ручное кіраванне».

У мяне валасы закраталіся на галаве. Якое ручное кіраванне? Дзе яно? Кісатс пра яго нічога не казала! І як ім карыстацца?

Сорамна сказаць, але я ад жаху закрычаў: «Ма-а-ма!» Усе прыборы патухлі, цемра вакол такая, быццам я не ў касмічным караблі, а ў банцы, поўнай ваксы.

Я мацаў рукамі па панэлі кіравання, хапаўся за нейкія рычажкі і тумблеры, але нічога не пераключаў і не націскаў, баяўся нашкодзіць.

Тут, на вялікую маю радасць, пачало паціху віднець — значыць набліжаецца другая, наша Сонечная сістэма.

Калі ж зусім пасвятлела і паявілася наша Сонейка, я пачаў разглядаць пульт кіравання. Знайшоўшы надпіс «ручное кіраванне», я нерашуча ціскануў на кнопачку і адразу з панэлі высунулася штосьці падобнае на штурвал. Я ўхапіўся за яго рукамі і паспрабаваў ціхенька павярнуць управа, улева. Карабель паслухмяна хіснуўся ў абодва бакі.

— Я кірую касмічным караблём! — з гонарам закрычаў я і зноў заспяваў, але адразу прыкусіў язык: — Што я раблю? Навошта, кратаю штурвал? Я ж магу адхіліцца ад курса і праляцець міма Зямлі. Я да болю ў пальцах сціснуў штурвал, не дазваляючы яму павярнуцца ні на міліметр.— Толькі прама! Толькі ў тым кірунку, які загадала сістэма навігацыі! — шаптаў я.— А вунь і месяц! Усё правільна! Калі ляцелі ад Зямлі, ён быў справа, цяпер, наадварот — злева.

Я зноў пачаў спяваць, не выпускаючы з рук штурвал, бо ведаў, што ад месяца да Зямлі — рукой падаць.

І сапраўды праз хуткі час паказаўся шарык — наш родны Зямны шарык, які ўсё рос і рос у памерах. Я ліхаманкава знайшоў пульт з надпісам «хуткасць», павярнуў рычажок у бок яе сцішэння і Зямля пачала набліжацца значна цішэй.

— Ага! Вунь кантыненты і акіяны! Вунь Амерыка... Не, яна мне і задарма не трэба. А дзе ж Беларусь? Эх, шкада, пакуль не бачу! А вунь Расія! Ура! — бяру курс на Расію, бо ведаю, што недзе побач мой дом, наша сінявокая зямля. Цяпер я сваю Радзіму адшукаю хутка!

Бяру рэзка ўправа і пікірую ўніз. Хуткасць выбраў самую малую, каб не праскочыць міма мэты. Вось ужо відаць лясы, нейкія населеныя пункты, рэчкі — і зноў лясы.

Раптам у мяне над галавой зараўла сірэна і аварыйны блок высветліў міргаючы надпіс: «Аварыйная пасадка! Аварыйная пасадка. Сістэма энэргазабеспячэння заканчваецца!»

Я адчуў, як карабель, а з ім і я, даволі рэзка апускаемся ўніз. Я паспеў прышпіліцца да крэсла і ў наступны момант карабель жорстка шмякнуўся аб зямлю. Дзверы аўтаматычна адчыніліся і ў сярэдзіну талеркі шуганула свежае паветра.

Я адшпіліў рэмні і куляй выскачыў з талеркі.

— Зямля! Трава! Дрэвы! Ура-а! — крычаў я, як звар’яцелы. Потым азірнуўся. Талерка прызямлілася на лясную паляну і ляжала на баку. Дзе я, што рабіць і куды ісці — не ведаў.

— Ды некуды выйду! — падбадзёрыў я сябе і пашыбаваў, як мне здавалася, прама.

Прыкладна праз гадзіну, я апамятаваў — я ж, дурань, не прыхапіў у кішэні з халадзільніка ежу і ваду, а раптам буду доўга блукаць...

Кінуўся назад, управа, улева — пятляў, пятляў, а сваю талерку так і не знайшоў. Толькі сілы патраціў і час змарнаваў.

Цяпер ужо я сябе так заблытаў у лесе, што не меў паняцця, куды кіравацца і як ратавацца.

Карацей, пятляў я па лесе тры дні і тры ночы. Уратоўвалі мяне ад голаду лясныя агяды, якіх было даволі многа.

На чацвёрты дзень я заўважыў, што лес паступова пачаў пераходзіць у гарыстасць. Ісці стала цяжэй, ягады траплялі ўсё радзей. Сілы пакідалі мяне.

— Няўжо я, прайшоўшы праз такія міжпланетныя выпрабаванні, загіну на сваёй роднай планеце Зямля? — прастагнаў я і раптоўна адчуў пах дыму, быццам недзе палілі касцёр.

— Эне-ге-ей! Людзі! Ратуйце! — залямантаваў я.— Памажыце! Я ту-у-ут!

Прыслухаўся — ціха.

Я зноў закрычаў што ёсць сілы і на гэты раз падалося, быццам хтосьці адгукнуўся.

Я з усіх ног, як шалёны, кінуўся ў той бок і праз некалькі хвілін заўважыў касцёр і нейкіх барадатых людзей ля яго.

— Дзядзечкі, родныя! — кінуўся я да іх, абліваючыся слязьмі.— Дзядзечкі, я вас знайшоў!

— Адкуль ты тут узяўся, Рабінзон? — здзівіліся яны, смяючыся. Але, убачыўшы мае слёзы, схуднелы і змардаваны выгляд, абхінулі мяне нейкай тканінай, накармілі і напаілі гарачым чаем.

Я сёрбаў чай, апякаючы вусны і абліваючы калені і толькі ўсхліпваў: «Дзядзечкі... дзядзечкі...»

Калі я прыйшоў у сябе і супакоіўся, яны спыталіся:

— Дык адкуль ты ўзяўся тут і што з табой здарылася? І чаму ты такі чырвоны — дзе ты ў фарбу ўлез?

Замест адказу я спытаў:

— А далёка адсюль Беларусь?

Незнаёмцы, цяпер ужо ад душы зарагаталі:

— Хлопча! Тут вакол нас на дзясяткі, а ў некаторыя бакі і на сотні кіламетраў тайга. А да тваёй Беларусі — некалькі тысяч кіламетраў. Ты што, пешшу збіраўся ісці да Беларусі?

— А вы хто? — спытаўся я.

— Мы — геолагі, а вось ты так і не адказаў, адкуль ты ўзяўся. Ты што з неба зваліўся?

Не мог жа я ім сказаць, што я сапраўды з неба зваліўся — не паверыць! — таму я пачаў хітраваць, выкручвацца:

— Я адстаў ад бацькоў... Мы падарожнічалі... Мясціны незнаёмыя... Вось... А чырвоны я таму, што мы з бацькам гулялі ў індзейцаў.

— Вось што, хлопчык, пакінь ты пры сабе сваю ману. Праз тыдзень за намі прыляціць верталёт, давязём цябе да нашага стацыянарнага лагера. Адтуль на папутнай машыне адправім цябе да чыгункі — і каці сабе з Далёкага Усходу ў сваю Беларусь. Праўда, перад тым, як адправіць цябе ў такое доўгае падарожжа праз усю Расію, мы патэлефануем тваім бацькам, каб пераканацца ў тым, што ты сапраўды з Беларусі і цябе там чакаюць. Тэлефон у тваіх бацькоў ёсць?

— А як жа! — запэўніў я.— І хатні, і мабільны...

— Вось тут, Аліна Паўлаўна, можна паставіць кропку ў маіх прыгодах — заключыў Стасік.— дадам толькі, што злётаў я ў другую Сонечную сістэму і вярнуўся на Зямлю менш, чым за двое сутак, а вяртаўся з той тайгі дадому два тыдні...

Аліна Паўлаўна звярнулася да дзяцей:

— Ну што, паверым Стасіку?

— Паверым! Паверым! — у адзін голас закрычалі вучні.

— А дзе той касмічны карабель? — спыталася настаўніца.— Хто-небудзь шукае яго? Ці ты не паведамляў пра яго афіцыйным органам?

— Пакуль не... — ціха адказаў Стасік.— Тата параіў мне маўчаць, каб не палічылі манюкам ці зусім...

— Усё ты расказаў складна-ладна,— разважала настаўніца,— а вось доказаў ніякіх не прадставіў. Няўжо нічога ты адтуль не прывёз такога... не нашага?

— Доказы ёсць! — спахапіўся Стасік.— Там, у касмічным караблі, застаўся сувенір ад Кісатс — мініяцюрны герб і сцяг — сімвалы той каляровай дзяржавы. Я пасля таго, як карабель ударыўся аб зямлю, у гарачцы выскачыў з яго і потым забыўся пра той падарунак....

Зазваніў званок на чарговы перапынак і настаўніца выйшла з класа, а аднакласнікі Стасіка шчыльна абступілі яго і засыпалі пытаннямі...

Будзем спадзявацца, што з часам, тую касмічную талерку ўсё ж знойдуць і тады ніхто нават і падумаць не асмеліцца, што Стасік маніў.





# Жывая душа

Каштану, як ён лічыў, пашанцавала ў жыцці. Яго гаспадар, Савось, меў характар памяркоўны, незласлівы.

Пугай амаль не карыстаўся, хаця, ходзячы за плугам альбо седзячы на колах, трымаў яе ў руцэ. Каштану дастаткова было гаспадарскага «но-о-о» ды лёгкага патузгвання лейцамі.

Увогуле, у дадзеным выпадку, паміж чалавекам і канём даўно ўсталявалася поўнае паразуменне, нават сяброўства.

Бывала, прыйдзе Савось запрагаць Каштана і, перад тым, як накінуць на галаву каню аброць, паднясе на далоні да конскай пысы кавалачак хлеба ці цукру, зазірне ў яго вочы і з цеплынёй скажа:

— Прабач, дружа, але, пасля ласунка я мушу тыцкаць табе ў зубы жалеза... Ды ты ж сам ведаеш, што

незацугляны конь, як вятрак без ветру,— і накідваў на галаву каню аброць, устаўляючы між зубоў цуглі.

Савось кожны раз, запрагаючы каня, прыкладна гэтак вінаваціўся перад ім, і Каштану гэта вельмі падабалася.

Бывала, Савось крыху мяняў гаворку, тады Каштан чуў:

— Шкада, дружа, што ты няўмееш размаўляць. Вочы ў цябе разумныя, выразлівыя, а вось язык твой — ні «бэ» ні «мэ».

Каштану крыўдна было гэта чуць, бо гаспадара ён разумеў і заўсёды адказваў яму — «падтрымліваў гаворку», але Савось і падумаць не мог, што калі конь «стрыжэ вушамі», пафырквае на розны манер ды ціхенька іржэ — ён гэткім чынам размаўляе. Трэбы толькі прыслухацца, прыгледзецца ды прызвычаіцца да конскага «лексікону».Матухна-прырода зрабіла так, што той, хто асвойваў сэрцам гэты лексікон жывёлінак, той з лёгкасцю мог зносіцца, размаўляць з канём, сабакам ці катом.

На жаль, мала такіх людзей, бо большасць лічаць сябе царамі-ўладарамі і прыроды, і ўсяго жывога ў ёй.

Як ні дзіва, але дзесяцігадовы сын Савося, Піліпка, бавячы вольны час ля Каштана, не толькі пасябраваў з ім, але вывучыў ад «а» да «я» і яго конскую азбуку, і яго лексікон.

Хлопчык з захапленнем распавядаў яму свае навіны і з цікавасцю даведваўся ад Каштана пра яго

маленства, пра тое, як пазней аддзялілі яго ад маці Каштанкі, як ён сумаваў па ёй, як яму першы раз накінулі на шыю хамут, пасля чаго пуга ўтаймоўвала яго наравістасць — пра многае-многае іншае да таго часу, калі Каштан патрапіў да сучаснага гаспадара, Савося.

Пілiпка неяк вечарам зрабіў спробу расказаць пра ўсё гэта свайму бацьку, але той адмахнуўся:

— Фантазёр ты, сынку...

Жыццё рухаецца наперад, мяняе прыярытэты і патрэбы. Тэхнічны прагрэс закрануў і сялян з іх адвечным укладам жыцця.

Вось чаму аднаго дня, Савось з форсам заруліў на сваю сядзібу на трактары «Беларус», які купіў, падпарадкоўваючыся тэхнічнаму прагрэсу.

— Прымайце жалезнага каня! — з гонарам абвясціў ён жонцы і Пілiпку.

— А як жа Каштанчык? — з болем усклікнуў хлопчык.— Куды яго?

— Яго збудзем... Прададзім,— адказаў Савось сыну.— Не вечна ж гнуць спіну над плугам. Глянь якая моц! Сотня Каштанаў у гэтым волаце! Сядай, пракачу!

— Не! Не хачу! — ледзь не захлынуўся слязьмі Пілiпка і пабег прэч са двара на выган, туды, дзе пасвіўся яго самы шчыры сябар.

Хлопчык абхапіў рукамі шыю каня і, ўздрыгваючы ўсім целам, загаласіў:

— Мілы! Родны! Не аддам цябе нікому! Не хачу! Не хачу!..

Вечарам бацька абняў Піліпку і пачаў супакойваць:

— Ты думаеш, мне не шкада Каштана? І мне баліць душа... Знойдзем яму другога гаспадара, будзе жыць неяк. Супакойся, сынок.

Потым пачалі прыходзіць розныя людзі, прыцэньваліся на каня, зазіралі яму ў зубы, цікавіліся пра яго ўзрост і нораў.

Пілiпка сціскаўся ў камячок і з жахам назіраў за ўсім гэтым.

Неяк раніцай Савось, які руплiва ўставаў раней за сонца, ускочыў у хату з крыкам:

— Каня ўкралі!

І сапраўды, дзверы ў хляве былі расчынены, а Каштана ў ім не было.

Прыехала міліцыя — штосьці пісала, кагосьці апытвала — і ўсё, канцы ў ваду — ні грошай, ні каня.

Савось відавочна мяняўся ў горшы бок. Знікла яго разважлівасць і памяркоўнасць, рабіўся злосным. І не толькі ад таго, што ўкралі каня, але і таму, што трактар, у адрозненні ад Каштана, мёртвае жалеза. Ён не зазірне з цеплынёй у вочы, не прыхіне галаву да грудзей, не возьме сабе твой боль. З трактарам не паразважаеш пра жыццё, не паскардзішся яму. У трактара няма цёплай пысы і жывой душы. Трактар часцяком «капрызнічае», бывае, не завод-

зіцца, ён мазутны, чадны. Рукі і адзенне ў Савося прапахлі саляркай і маторным алеем.

Савось быў падобны на хмару, якая вось-вось заплача навальнічным дажджом.

І толькі Піліпка ў гэтай сітуацыі паводзіў сябе на дзіва спакойна. Дзівілася і маці Піліпкі,— чаму сын, падчас летніх канікул, адмовіўся ехаць з класам у лагер. І асабліва дзівілася таму, куды дзяваецца хлеб з хаты.

— Я яго ем, мамачка! — запэўніваў маці хлопчык, а сам запіхваў ціхенька запазуху акраец і ўпотай бег да свайго сябра Каштана аж на Прылуцкія лугі, дзе конь быў навязаны і спакойна пасвіўся на сакаўной траве.

— Я ж казаў, што нікому цябе не аддам! — крычаў шчаслівы хлопчык, падбягаючы да свайго сябра.— Еш! Еш хлеб, родненькі! Лета наперадзе, а там пабачым. Я люблю цябе, конік!

— Дзякуй табе, дружок! — адказваў на сваёй мове Каштан.— І я цябе люблю!

Піліпка перавязваў каня на свежае месца, расказваў яму пра ўсе хатнія навіны, абдымаў за шыю і зноў бег дамоў.

Так мінуў цэлы месяц.

Савось ішоў да трактара, як да прынукі. Штосьці неабходна было падкручваць, падцягваць, падмазваць. У дадатак да ўсяго, трактар настолькі растрос Савося, што ў яго пачала балець сярэдзіна.

— А мае нервы,— сумна жартаваў Савось,— патрабуюць капітальнага рамонту

Ён абняў сына і з горыччу выдыхнуў:

— Эх, Піліпка, быў бы з намі наш Каштанчык!.. Я так па ім сумую. Здаецца, абняў бы яго, прытуліўся да жывой душы — і падужэў бы, і ўся хворасць адступіла б...

— Ты ж хацеў яго прадаць, тата...

— Дурны быў, прабач... Ну купіў я трактар. І што? Няхай бы і конь быў... Жывая душа, як процівага жалезу... Эх, сынок...

Піліпка кінуўся на шыю да бацькі, моцна абняў яго:

— Тата! Татачка родны! Ты сядзі тут — я хутка! Я зараз! — і паімчаў на Прылуцкія лугі, каб вярнуцца адтуль да свайго таты з ратавальнай жывой душой.



# Успышкі на сонцы

У Сонейка, як і ў ва ўсіх, ёсць дзеці.

Ну, напрыклад, ёсць жа дзеці ў дрэў. Гэта — маленькія парасткі, якія з гадамі сталеюць і вырастаюць да ўзросту магутных дрэў. Ёсць дзеці і ў аблокаў — аблачынкі, а ў курыцы — жоўценькія кураняткі, у коткі — прыгожанькія кацяняткі — і гэты пералік можна доўжыць да бясконцасці.

Не кажучы ўжо пра людзей, у якіх самыя прыгожыя з усіх пералічаных і непералічаных дзяцей — свае маленькія хлопчыкі і дзяўчынкі.

І што вельмі цікава — усе дзеці любяць казкі, і ўсе дзеці не вельмі любяць слухацца дарослых.

Узяць хаця б парасткі. Сталыя дрэвы жадаюць, каб іх дзеці прарасталі як мага бліжэй да іх, а моладзь

прагне «адбегчы» ад сваіх продкаў у самастойнае жыццё.

— Нам каля вас цесна, нам замінае ваша крона, нам не хапае сонейка і ўвогуле нам з вамі не цікава.

(Гэта ж трэба такое сказаць!)

Ці аблачынкі. Яны лёгкадумныя, лёгкаважныя, весела абганяюць сваіх, менш рухавых бацькоў, і імчаць навыперадкі да краю неба. А таго, што ў неба няма краёў, яны пакуль не ведаюць. Эх, блазнота...

А кураняткі? Яны жоўтым гуртком могуць бегчы за матыльком, забыўшыся на маму, хоць на край зямлі. І яны, як і аблачынкі, не ведаюць, што ў зямлі няма краю.

А ўжо чарвячок іх нібы гіпнатызуе. Мама ім крычыць, што каршун у небе, а яны абступяць чарвячка і дзівяцца, пакуль мама іх не зграбе пад ратавальнае крыло.

Пра кацяняткава непаслухменства можна распавядаць ад раніцы да вечара, бо ад раніцы да вечара яны вытвараюць такое, што ў беднай маці і горла асіпне, і галава разбаліцца, а яе дзеткі выдумляюць ўсё новыя і новыя штукарствы.

Тое, што яны спрабуюць злавіць свае хвосцікі ці робяць «куча мала», сплятаюцца ў адзін клубок — не бяда. А вось, калі яны, гуляючы ў даганялкі, заскокваюць на дрэва, адкуль самастойна не могуць злезці, іх маме вельмі не падабаецца. Не падабаецца котцы, калі хтосьці з яе неслухаў баўтанецца ў карыта з вадой, якое пастаўлена не для купання

кацянят, а для піцця карове. Тады бедная маці, якая зусім не любіць вады, вымушана лезці ў карыта і за карак выцягваць няўрымсліка. А яшчэ кацяняткі, бывае, крадуцца да жоўценькіх куранятак, гуляючы ў паляўнічых, тады мама-курыца балюча дзеўбане ў носік пушысціку.

— Вой, вой, як баліць! — кідаецца да мамы-коткі пацярпелы балаўнічок.

— А я цябе папярэджвала: не лезь! — ласкава супакойвае сваё дзіця маці, залізваючы яму напухлы носік.

У людзей адбываецца прыкладна тое ж. дарослыя забараняюць сваім дзецям гуляць з запалкамі, каб тыя не нарабілі пажару, а пажары па віне дзяцей нярэдка здараюцца.

Бацькі не дазваляюць сваім малым дзецям без нагляду дарослых купацца ў рэчцы ці возеры, а дзеці, нягледзячы на забароны, часцяком трапляюць у бяду, як тое кацяня ў карыта з вадой.

А што адбываецца за сталом падчас снедання ці абеду? Просіць маці дзіця з’есці кашу з катлетай, а маленькі неслух-хітрун, каб самому не есці, непрыкметна скідае катлету пад стол кату.

Дзеці, якія не слухаюцца сваіх бацькоў, дарослых людзей, як правіла, марудна растуць, дрэнна вучацца і потым няўтульна адчуваюць сябе ў жыцці...

Але мы крыху адхіліліся ад Сонейка, у якога таксама ёсць свае дзеці. Сонейкавы дзеці — гэта промні,

якія бываюць пякучыя, ласкавыя, альбо даволі абыякавыя — свецяць, але не грэюць.

Промняў вельмі многа і ўсе яны рознага ўзросту. Ужо сталыя і адукаваныя промні — кожную раніцу ляцяць да нашай зямлі, каб абвясціць, што дзень пачынаецца, што дарослым пара на работу, дзецям — у садок ці школу, а старым людзям — можна выходзіць на двор і прымаць сонечныя ванны.

З першымі промнямі раскрываюць свае пялёсткі краскі, пачынаюць рупіцца пчолкі, прачытаюцца бесклапотныя матылькі, ажываюць пасля ночы мурашнікі — жыццё віруе ва ўсіх сваіх праявах.

Але ёсць яшчэ зусім маладыя промні, якія ў сонечных школах набываюць неабходныя веды.

І нарэшце, вялікая ўцеха для Сонца — яго маленькія промнікі-дзеткі.

Яны, безумоўна, уцеха, але і галаўны боль Сонца, бо непаседлівыя, непрадказальныя і, галоўнае, непаслухмяныя. Яны ўвесь час імкнуцца ў бязмежную прастору сусвету, але Сонца ведае, што там вельмі лёгка заблудзіцца, таму трымае малечу ля сябе.

Але вось бяда — на Сонцы ёсць свае сонечныя запалкі, з якімі промнікам не дазваляюць ладзіць гулі. Тыя запалкі вельмі небяспечныя, і небяспечныя яны не для самога Сога і яго дзяцей, а для ўсяго жывога ў сусвеце. І, у першую чаргу,— для жыхароў Зямлі.

Калі маленькія промнікі нейкім чынам абыходзяць забароны і ўсё ж пачынаюць паліць запалкі,

людзі адзначаюць тады на Сонцы сонечныя ўспышкі. Успышкі калі-нікалі бываюць вельмі моцнымі, гэта значыць, што промнікі-шалянцы спалілі адразу цэлы карабок запалак. Такая ўспышка нясе да Зямлі ўзмоцненую сонечную радыяцыю, якую яшчэ называюць сонечным ветрам. Моцныя ўспышкі на Сонцы вельмі небяспечныя для людзей.

Вось вам і дзеткі-промнікі, якія дурэюць за мільёны кіламетраў ад нас.

І ўсё ж мы заўсёды рады Сонейку, яго ласкавым дарослым промням, без якіх не было б жыцця на Зямлі.

А маленькія промнікі-неслухі хутка вырастуць і ўжо, як і дарослыя промні, прыляцяць некалі да нас, каб абвясціць пра надыход новага дня.

Добрай раніцы ўсім!



# Лясун

У Мацея, як вучыўся ўжо ў трэцім класе, быў малодшы брат Янка. Маці вучыла Янку, але так, каб чуў і Мацейка:

— Ты, Янáчка, адзін у лес не хадзі, там жыве страшны лясун, які ловіць маленькіх дзяцей і трымае іх у сваіх чашчобах ды гушчарах...

Маці страшыла дзяцей нездарма: бегалі вясковыя блазнюкі ў лес збіраць грыбы ды ягады і нярэдка губляліся, блудзілі цэлы дзень, а, бывала, і вымушаны былі начаваць у лесе. Дзіця адно ў лесе — гэта небяспека. Маці непакоілася за пяцігадовага Яначку, бо Мацейка добра вывучыў навакольны лясы і не адзін раз самастойна бегаў па баравікі.

Аднаго разу, вяртаючыся з грыбамі ў кошыку дамоў, Мацей нечакана, нос у нос сутыкнуўся з

незнаёмцам. У Мацея пахаладзела спіна, бо незнаёмец меў сівыя вусы і гэткую ж сівую бараду. Каб на дварэ была зіма, Мацейка падумаў, што сустрэў Дзеда Мароза. У незнаёмца была за спіной стрэльба, а вопратка стракаціла зялёнымі ды рудымі плямамі.

— Ты чаму так далёка ад вёсак і адзін у лесе? — спытаўся незнаёмец.— Хіба ты не баішся?

Голас незнаёмца падаўся Мацейку сіплым і таямнічым. Хлопчык памкнуўся ўцякаць, але ногі не паслухаліся.

Замест адказу незнаёмцу, Мацейка сам дрыготкім голасам спытаўся:

— В-вы лесавік?.. Прачабце, лясун?..

— Так, я — ляснік!

Для Мацейкі словы «ляснік» і «лясун» ад страху гучалі аднолькава.

— А шт-т-о вы са мной зроб-б-іце? — сцішана спытаўся хлопчык.— Зацягаеце ў чашчобу?

Ляснік здагадаўся, што хлопчык знаходзіцца ў палоне страху, таму ветліва ўсміхнуўся:

— Не хвалюйся, сёння я цябе адпускаю, але перадай мальцам у вашай вёсцы і ў тваёй школе, што дзецям, нават такім «дарослым» як ты, хадзіць у лес без сапраўдных дарослых, вельмі небяспечна. У лесе жывуць і карэнныя «лесуны», сустракацца з якімі не пажадана. Гэта — і ваўкі, і дзікі, асабліва вяпрукі, і нават тыя ж ласі, падчас іх вясельных гуляў. Сустрэнеш іх — хуценька лезь на дрэва і перачакай, пакуль яны не пойдуць сваёй дарогай. Зразумеў?

— Ага!..— толькі і выціснуў Мацейка.

— А цяпер, калі ведаеш дарогу, шыбуй дамоў, і памятай, што лес — гэта не жарты.

Мацейка крутнуўся і, як кажуць, без памяці плятануў дамоў. Але ж нездарма кажуць, што ў страха непрадказальны характар, таму, напалоханы хлопчык кінуўся ад «лесуна» крыху ўбок ад вёскі і вымушаны быў папятляць па лесе, пакуль дапяў дамоў.

Пераступіўшы парог, Мацейка крыкнуў:

— Мама! Я сустрэў у лесе сапраўднага лесу...

Тут хлопчык абсекся і змоўк. За сталом, побач з татам сядзеў той сапраўдны лясун» з сівой барадой і сілкаваўся гарачай бульбай са смажаным салам.

— Ну, што ты спыніўся? — здзівілася маці,— не палохайся, сынок, гэта вось ляснік завітаў да нас, каб паведаміць, што лес, які мы выпісвалі ў лясніцтве на трысцень да хаты, можна з дзялянкі забіраць.

— А мы з ім знаёмыя! — зноў ветліва ўсміхнуўся ляснік.— Вось толькі не ведаю, як зваць майго новага знаёмага.

Хлопчык апусціў галаву і пачырванеў:

— Мацейка я...

— О, дык мы з табой цёзкі! Ну як, Мацейка, карысная была наша сустрэча ў лесе? Ці мо страшная?

— Карысная! — усміхнуўся хлопчык.



# Неспадзяванка

Пачыналася вясна. Сонейка з кожным днём пракладвала свой шлях па небе ўсё вышэй і вышэй, пяшчоціла застылую за зіму зямлю ўсё цяплей і цяплей.

Першыя праталіны, першыя пралескі, першыя матылькі — хіба ж гэта не цуд! А жаўрукі. А шпакі і буслы! Яны вярнуліся з далёкага выраю да сваіх гнёўдаў — з шчаслівым вяртаннем вас!

Іван Крылоў, кароль усіх баек, як і належыць каралю, сядзеў на сваім троне, грэўся на сонейку і звысоку паблажліва назіраў за ўсімі тымі, каму ён у розныя часы надаў у сваіх творах статут станоўчых ці адмоўных герояў.

Вакол яго трону віравалі: Варона і Ліса, Сабака і Конь, Мартышка з акулярамі на хвасце, Зязюля і

Певень, Асёл і Салавей, Мядзведзь і Пчолы, Воўе і Журавель, Свіння пад Дубам. Слон і Моська, нават Багацей і Паэт...

Ды марная справа пералічваць усіх персанажаў вялікага чараўніка баечнага слова, настолькі іх тут шмат.

— Ці правільна я складаў байкі? — задаў сабе пытанне байкапісец.— Можа, кагосьці незаслужана пакрыўдзіў?

І, падумаўшы, сам сабе адказаў:

— Здаецца, правільна... Жыццё дажываю, а ніводнай скаргі ад сваіх герояў не чуў.

Раптам, сярод гэтага веснавога шчыравання жыцця, да яго вушэй дапяла ледзь чутнае стагнанне.

Крылоў азірнуўся і ўбачыў каля сваіх ног Страказу, якая дрыжала ўсім сваім зграбным целам. Перламутравыя яе крыльцы зліналі, зліпліся, яе прыгожыя вочы прыцьмянелі, тоненькія ножкі падгіналіся ад слабасці. Відаць, зіму яна перажыла з цяжкасцю.

— Што здарылася? — перапалохаўся Крылоў і асцярожна пасадзіў бедалагу на сваю цёплую далонь.

— Вы яшчэ пытаецеся, што здарылася? — дрыготкім голасам абурылася Страказа.— Праз вас я ледзь не загінула!

Крылоў здзівіўся:

— Праз мяне? Якім чынам?

— А хто напісаў: «Ты ўсё пела, гэта дзела, а цяпер вось паскачы?» Хто? З вашай ласкі мурашы

выштурхнулі мяне вон. Як я толькі не загінула зімой ад холаду і голаду — сама не ведаю.

Затым з дакорам дадала:

— Спачатку трэба падумаць пра наступствы, а потым ужо пісаць!

— Вось яно што! — засмяяўся Крылоў.— Дык ты ж сама вінаватая!

Страказа страпянулася, у яе нават разліпліся крыльцы.

— У чым мая віна? У тым, што я пела і скакала? Я ж стварала добры настрой усім маім суседзям, і тым жа мурашам, вытворчасць працы якіх павялічвалася ад маіх спеваў. Калі і каму добрая песня і вясёлы настрой шкодзілі?

І ўвогуле, я — творчая натура, створаная маці-Прыродай для ўпрыгожвання жыцця! Па-вашаму, Іван Андрэевіч, усіх спевакоў і танцораў трэба залічыць у дармаеды?

Іван Крылоў відавочна стушаваўся:

— Вось дык неспадзяванка... Ты першая, ад каго я пачуў скаргу.

— Я першая?! — усхадзілася Страказа.— Я ўсе вашы байкі чытала і ведаю, што незадаволеных шмат.

— Напрыклад? — насцярожыўся Крылоў.

— А ўспомніце: «Ты вінаваты ў тым, што хочацца мне есці...» Тое ягня і рада было б паскардзіцца вам, ды ад яго няма ўжо ні рожак, ні ножак.

І ўсё — гэта вы! Вы!

А салавей?.. Вясна, я яго нідзе не чуваць. Чаму, па-вашаму?

Ён у котчыных кіпцюрах не толькі не мог спяваць. Але і не падумаў скардзіцца таму, хто, дзеля чырвонага слоўца, загнаў яго ў гэтыя кіпцюры.

А што далей сталася з чароўным пяюном, вам вядома лепш, чым каму.

Бывайце, Іван Андрэевіч!

Страказа адагрэлася пад вясеннім сонейкам на пульхнай далоні Івана Крылова, страпянулася сваімі крылцамі і растала ў ласкавым блакіце неба.

— Гм-м,— задумліва ўздыхнуў Іван Андрэевіч, затым крыкнуў наўздагон Страказе:

— У маіх баснях шмат алегарычнага, вобразнага, павучальнага! Я і не думаў нікога крыўдзіць, тым больш знішчаць. Наадварот, я папярэджваў сваіх і станоўчых, і адмоўных герояў, ратаваў іх ад непрадуманых паводзін і небяспечных крокаў.

Пачула гэта Страказа ці не, невядома, а вось тыя, хто віраваў вакол трона Крылова, шматзначна пераглянуліся.



# З казкі ў казку

Усе казкі, як вядома, пачынаюцца прыкладна так: «Жыў-быў дзед ды баба і была ў іх курка раба... ці: было ў іх тры сыны — два разумныя, а трэці...» — і гэтак далей.

Наша ж казка пачынаецца наадварот:

Жыў-быў сын, дарослы сын, адкуль ён узяўся, ён і сам не ведаў, альбо рабіў выгляд, што не ведаў. Хутчэй за ўсё, ён не вельмі задумваўся, адкуль што бярэцца. Жыццё — яно поўнае спакусаў, смакаты ды розных уцехаў, а ці ж абавязкова ламаць галаву, адкуль усё гэта? Галоўнае, што яно ёсць — еш, пі, спажывай.

Але ў гэтага сына быў свой сын, які ўжо вучыўся ў першым класе і не толькі там вучыўся, а ўжо вывучыўся чытаць.

Узяў аднойчы гэты маленькі хлопчык, якога звалі Хвядоскам, у рукі кніжку казак, разгарнуў старонкі і, водзячы пальчыкам па надрукаванаму, пачаў уголас чытаць:

— Жылі сабе дзед ды баба і быў у іх сын...

— Хлопчык перапыніў чытанне і звярнуўся да бацькі:

— Тата, вось тут напісана пра дзеда і бабу, у якіх быў сын. Гэтаму сыну дзед і баба хто?

— Яны яму — бацька і маці.

— А я ў цябе хто? — спытаўся хлопчык.

— Як хто? Ты мне — сын,— адказаў бацька.

— А хто ты? — не сунімаўся малец.

— Я — твой тата! Што тут незразумелага? — ужо з нецярпеннем тлумачыў хлопчыку бацька.

— Не, не для мяне, хто ты! А для дзеда і бабы? — дапытваўся Хвядоска.

Яго бацька пачаў нервавацца:

— Для якога яшчэ дзеда і бабы? Гэта ж там, у тваёй казцы, дзед і баба, а тут ты, я і твая маці. Тут дзеда і бабы няма.

Хвядоска не адступаў:

— Але ж у казцы ёсць сын і ў яго — дзед і баба... Ну, яго бацька і маці. І ў нас ёсць я і ў мяне вы — мае тата і мама.

— Ну, дык і цудоўна! Нарэшце ты разабраўся сынок!

Хвядоска няўпэўнена працягваў:

— Я, тата, не зусім разабраўся...

— Ну, што яшчэ? — выказаў злосць бацька.

Хвядоска працягваў:

— Ёсць я і ў мяне ёсць ты і мама, і ёсць ты, а дзе твае мама і тата? Калі яны ёсць ў казцы, дык і ў жыцці павінны быць...

Хвядоскаў тата пачырванеў. Ён даўно забыўся на сваіх бацькоў. У жыцці яму шанцавала — была і ёсць камерцыя, грошы, машына і ўсё астатняе. Таму неяк неўпрыкмет ён аддаліўся ад бацькоў, яны падаліся непатрэбнымі і нават лішнімі. І дзе яны зараз — яму было не зусім цікава.

Хвядоскава пытанне вярнула бацьку да рэалій жыцця:

— Дык дзе, тата, твае дзед і баба ці, як ты казаў, бацька і маці? Мяне, я ведаю, бусел прынёс некалі да цябе і мамы, а цябе бусел прынёс да каго?

Бацька пачаў блытана тлумачыць:

— Разумееш, сынок, ішлі мы аднойчы па дарозе, ды раптоўна наляцеў моцны вецер, зрабілася цёмна, як ноччу. Безгаловіца параскідала нас — я вось апынуўся тут, а дзе дзеліся мае бацькі, невядома.

— А ці ж ты не шукаў іх? — страпянуўся хлопчык.

— Шукаў...але, як кажуць, шукай ветру ў полі...

— А яны мне, хто былі б, каб знайшліся? — працягваў хваляваўцца Хвядоска.

— Вось табе яны і былі б дзедам і бабай.

— Я іх знайду! — запаліўся хлопчык,— як жа так — у казцы ёсць дзед і баба, а ў мяне няма!

— Не дурней, сынок! — заспакойваў бацька Хвядоску,— Дзе ты іх знойдзеш? Свет вялікі.

— Я перашукаю ўвесь свет! Я табе абяцаю! — усклікнуў Хвядоска і, выціраючы ўзмакрэлыя вочы, выйшаў з хаты.

Бацька ўзяў у рукі кніжку казак і незадаволена прамовіў:

— Пішуць жа ўсякую лухту, толькі нервы дзяцям псуюць... і іх бацькам...

Хвядоска не жартаваў. Ён выйшаў з хаты і накіраваўся за вёску, на самы высокі пагорак, дзе звычайна сустракаўся самы моцны вецер.

— Вецер! Вецер! — паклікаў ён,— Чуеш мяне, вецер? Ты ж тут, я цябе адчуваю! Адгукніся!

У посвісце ветра Хвядоску падалося:

— І я цябе чую і адчуваю тваю заклапочанасць.

— Скажы тады, калі ласка, вецер, куды ты занёс майго дзеда і бабу, бацькоў майго таты? Я іх шукаю! Тата сказаў, што ты іх разлучыў.

Зноў Хвядоску падалося:

— Я твайго бацьку добра ведаю. Ён носіцца па дарогах на сваім «Мерсэдэсе» хутчэй за мяне і псуе на хаду маю вопратку. Але гэта дробязь. Не дробязь тое, што ён схлусіў — я не чапаў яго бацькоў. Твой тата зрабіўся сляпым.

— Не! — крыкнуў Хвядоска,— гэта не пра майго тату! Мой тата не сляпы, ён усё бачыць!

— Ён толькі думае, што бачыць,— пасвістаў незадаволена вецер,— На самой справе, яго асляпіла

нажыва, яе ён толькі і заўважае. А твае дзед і баб-ка, бацькі твайго таты, жывуць ажно за пяцьдзесят кіламетраў адсюль, у вёсцы Найда. Яны нават не ведаюць, што ў іх ёсць унук — ты Хвядоска. Далёка гэта — не дойдзеш!

— Дайду! — крыкнуў хлопчык,— Дзякуй табе, вецер! Ты сапраўдны мой сябар! — І Хвядоска пай-шоў. Але пайшоў не ў далёкую вёску Найду, а дамоў, каб супакоіцца і асэнсаваць чутае. Яму было балюча і крыўдна, што яго тата, якога ён любіў, схлусіў яму, што ён адмовіўся ад сваіх бацькоў.

«Хіба ж я магу адмовіцца ад сваёй мамы і свайго таты?» — з болем думаў хлопчык.

Не, вырашыў ён, я нават не падам выгляду, што раскрыў гэту непрыемную тайну. Я не хачу нават думаць, што мой тата благі, я павінен нейкім чынам яму дапамагчы. Але як?

І Хвядоска прыдумаў. Наступным днём хлопчык шумна ўскочыў у хату, кінуўся тату на шыю і шчасліва зашчабятаў:

— Тата! Татачка родны! Я знайшоў тваіх маму і тату, маіх дзеда і бабу! Якое шчасце!

— Дзе? — разгубіўся бацька,— Як ты мог іх ад-шукаць? Жартуеш, сынок?

— Заводзь машыну, татка! — ажно свяціўся хлопчык,— Вецер занёс іх ажно ў вёску Найду. Ед-зем, татка, я хачу абняць сваіх, а не казачных, дзеда і бабу! Праўда, гэта здорава, татка?

Хвядосаву бацьку прыйшлося падыйграць сыну:

— Малайчынка, сынок! Едзем!

Праз паўгадзіны шчаслівы Хвядоска і яго тата ехалі ў «Мерсэдэсе» у накірунку далёкай вёскі, дзе іх чакала шчасл...

Так, шчаслівая сустрэча!

На пагорку Хвядоска звярнуўся да свайго бацькі:

— Крыху цішэй едзь, тата, бо ў ветра псуецца вопратка.

Бацька прамармытаў сабе пад нос:

— І хто іх прыдумвае, гэтыя казкі?





# Лустачка хлеба

Два дружбаны, Віцька і Міцька, скончылі першы клас і былі заслужана ўзнагароджаны першымі ў жыцці летнімі канікуламі. Кожнаму чалавеку, нават самаму даросламу, прыемна адпачыць пасля цяжкай працы. І хлопчыкам гэты падарунак жыцця, здавалася, надаваў крылы — наперадзе цэлых тры месяцы вольнасці-раздольнасці. І хоць вучоба — не такая ўжо і праца, а ўсё ж — штодзённая адказнасць перад сабой і, самае галоўнае, падкантрольнасць з боку бацькоў і настаўнікаў.

Абавязкі, няхай сабе і прыемныя, пазбаўляюць дзяцей яшчэ больш прыемнай, гэтай самай вольнасці-раздольнасці.

Вось Віцька і Міцька, адчуўшы сваю «непадкантрольнасць», вырашылі пайсці ў паход да

Скандынаўскага Госця. Так звалі вялізны камень, які ўзвышаўся на пагорку сярод раскідзістых дубоў. А ён меў такую назву таму, што, па словах дарослых, яго калісьці прыцягнуў сюды са Скандынавіі ляднік.Ісціна да яго трэба было нейкіх пяць кіламетраў па наезджанай турыстамі дарозе.

Хлопчыкам гэта дарога была знаёмая, бо яны ўжо хадзілі аднойчы на каменя разам з усім класам. Але, ці ж гэта паход з настаўніцай? Туды — не хадзі, у бакі — не глядзі, не штурхайся — слухай...

Не, яны адны, самастойна, пройдуць па гэтай дарозе да загадкавага Скандынаўскага Госця.

А каб пазбавіцца кантролю ці ўвогуле забароны з боку бацькоў, сябрукі непрыкметна пакінулі вёску. Яны, як вопытныя вандроўнікі, запіхнулі ў кішэні па бутэрброду і бадзёра пакрочылі насустрач першым у жыцці прыгодам.

У дарозе было цікава і весела, прыемна і бесклапотна. Кашлаты лес з двух бакоў дарогі пазіраў на хлопчыкаў загадкава і таямніча, што прымушала іх сцішаць хаду.

Не прайшоўшы і паловы шляху, сябры дасталі свае бутэрброды і, хоць не прагаладаліся, пачалі сілкавацца.

У Віцькі быў бутэрброд з кілбасой, а ў Міцькі — з салам. Віцька хуценька з'еў кілбасу, а лустачку хлеба нядбайна кінуў на дарогу.

Міцька, які крыху адстаў ад сябра, падняў лустачку і паклаў сабе ў кішэню. Зрабіў ён гэта, хутчэй

аўтаматычна, без аніякай думкі, а свой бутэрброд даеў увесь. Магчыма, таму, што сала адно, без хлеба, не есца.

Падсілкаваўшыся, хлопчыкі весела пакрочылі далей.

А вось і ён, Скандынаўскі Госць. Які ж ён агромністы! Толькі цяпер сябры, убачыўшы адзін аднаго побач з гэтай веліччу, адчулі сваю мелюзгавасць і кволасць.

— Вось гэта гара! — баязліва прашаптаў Віцька, быццам баяўся разбудзіць гэту грамадзіну.

— Ага-а-а...— выдыхнуў сябар.

— А ведаеш,— працягваў Віцька,— тады, з усім класам, ён здаваўся значна меншым. А цяпер — ого-о!

— Угу-у-у...— яшчэ раз выдыхнуў Міцька. Затым спытаў: — А памятаеш, тады настаўніца казала, што кожны вялізны камень вылучае з сябе адмоўную ці станоўчую энергію. Можна да яго прыхінуцца і ён табе энергію аддасць. Прыхінемся?

— А калі ён аддасць нам штосьці благое? — завагаўся Віцька.

— А мы ж тады да яго прыхіналіся,— напомніў сябар.— І што? Нічога такога не адчулі — ні адмоўнага, ні станоўчага.

— Ты не адчуў, а я наступным днём двойку схапіў,— напомніў Віцька.

Хлопчыкі асцярожны прыхінуліся да валуна і моўчкі пастаялі.

— Ну як? — спытаўся Віцька.— Што адчуваеш?

— Стому,— адказаў сябар.

— Гэта пасля дарогі,— удакладніў Віцька.— Давай пасядзім, адпачнем і — гайда дамоў!

— Давай!

А ведаеш,— прапанаваў неўгамонны Віцька, дарога сюды пралягае паўгрукам, робіць вялікую дугу, а напрамкі, праз лес, будзе ўдвая карацей. Ну як, скароцім дарогу?

— Праз лес боязна, яшчэ заблудзімся,— завагаўся сябар.

Не дрэйфь! Мяне тата вучыў, як не заблудзіцца — трымайся сонца!

— Як гэта, трымайся за сонца? — не зразумеў Міцька.

— Ды не за сонца! — засмяяўся Віцька.— Вёска наша вунь у тым кірунку, сонца ў нас — справа. Вось і будзем трымаць яго ўвесь час з правага боку. Ну? Ды што мы малыя» І шлях скароцім, і сілы захаваем.

— Пайшлі!..— без асобай ахвоты згадзіўся Міцька.

І падаліся сябры да сваёй вёскі нацянькі. Але ж кажуць: «Пойдзеш нацянькі, будзеш блудзіць тры дзянькі». Так яно і атрымалася.

Спачатку здавалася, што ўсё ідзе па Віцькінаму плану: вёска — там, сонца справа. Але ж лес — не шаша. Тут і вываратні, і паваленыя дрэвы, якія неабходна абыходзіць, тут і гушчарыны непралазныя, якія трэба абмінаць. Мусіш увесь час пятляць, як

заяц, губляючы кірунак. Ды і хмаркі папаўзлі, надалі небу шэра-свінцовы колер і схавалі сонейка. Дзе вёска, дзе сонца — усё зблыталася.

Адчуўшы, што пачынаюць блудзіць, сябры запанікавалі.

— Мо вернемся назад? — нясмела прапанаваў Віцька.

— А дзе тое «назад»? — у сваю чаргу спалохана спытаў Міцька.— Гэта «назад» цяпер для нас — на ўсе чатыры бакі.

— А што ж рабіць? — звярнуўся да Міцькі сябар.— Можа, пачакаць сонца?

Міцька паказаў на неба:

— Якое сонца? Вечарэе...

— Але ж і стаяць на месцы нельга! — адчуваючы віну, надаў свайму голасу бадзёрасць Віцька.— Я чуў ад таты, што, калі заблудзішся, трэба ісці ўвесь час у адным напрамку, некуды выйдзеш — ці на дарогу, ці да людзей.

— Менш бы ты чуў ад свайго таты, мы б даўно вярнуліся дамоў па дарозе.

Слова «дамоў» надало хлопчыкам такога адчаю, што Віцька не стрымаўся:

— Я баюся! А раптам мы ніколі не вернемся дамоў?

— І я баюся,— прызнаўся Міцька.— Але дамоў мы, хоць калі, ды вернемся. Не ў тайзе ж мы! Вакол нашай вёскі столькі іншых вёсак. Трэба толькі

ўважліва слухаць, ісці і слухаць — брэх сабак чуваць здаля.

Тым часам пачало па-сапраўднаму цямнець і ў прыцемку ісці зрабілася немагчыма. Прыйшлося залезці пад нейкую елачку, сесці і моцна прыціснуцца адзін да аднаго, каб было цяплей.

Сябры адчувалі ўздрыгванне сваіх целаў і не ведалі — ад холаду гэта ці ад страху.

Быў чэрвень, ночы гэтай парой году кароткія і даволі цёплыя, таму дружбаны без асобых цяжкасцей дачакаліся раніцы, тым больш, што стома паспрыяла ім заснуць.

Але сябры, апынуўшыся ў палоне стомы і страху, забыліся на голад. І толькі цяпер, як узышло сонца, яны адчулі такія рэзі ў жываце, што Віцька застагнаў:

— О-ё-ё, як хочацца есці! Сіл няма ісці далей! Я ж — дурны-дурань, па дарозе да гэтага... фу, не хочацца называць, як яго завуць, каменя, выкінуў лустачку хлеба. Што ж я нарабіў? Як бы той хлебчык нас уратаваў ад гэтых рэзяў у жываце.

Міцька — мац за кішэню і ўскочыў. Лустачка на месцы, яна не згубілася! Яна ўвесь час вандруе з імі па лесе! Ён ад радасці знайшоў сілы нават на жарты:

— Віцька! — ажно закрычаў сябар.— Віцячка, а раптам тая лустачка — чароўная! Ты пакліч яе, яна прыляціць да нас!

Стомлены сябар сумна згадзіўся:

— Я б паклікаў, але такое спаўняецца толькі ў казках...

— А я паклічу! — усклікнуў Міцька і, прыклаўшы да роту далоні, штосілы гукнуў: — Лустачка! Родная! Ляці да нас! Ратуй нас! Хутчэй!

— І што? — кісла скрывіўся Віцька.— Прыляцела яна?

Міцька непрыкметна дастаў з кішэні лустачку хлеба і пераможна падняў яе над сабой:

— А як жа! Прыляцела! Вось табе і казка — а ты не верыў!

Віцька разгублена спытаўся:

— Гэта твая лустачка? Гэта ты тады не з'еў, а схаваў яе?

— Не, Віцячка, гэта лустачка твая! Я машынальна падняў яе, не ведаю, чаму. Магчыма таму, што хлеб увогуле нельга выкідваць. Не ведаю...

Затым разламаў яе напалам:

— На вось, гэта табе. Мы згубілі шмат сіл, спадзяюся, лустачка нам дапаможа.

Віцька пачырванеў:

— Мне сорамна... нават расхацелася есці. Не ведаю, магу я яе ўзяць ці не?

— Бяры, бяры! Лустачка чароўная, яна не пакрыўдзілася, інакш не прыляцела б да нас.

І сябры пачалі есці хлеб, які падаўся ім самым найсмачнейшым з усіх прысмакаў, якія давялося есці ў сваім кароткім жыцці.

Даеўшы лустачку, сябры адчулі прыліў сіл і зноў бадзёра пайшлі прама і прама, не звяртаючы ўвагі, з якой рукі сонца, бо ўсе арыенціры канчаткова пераблыталіся.

Віцька на хаду абураўся:

— Гэта ўсё ён — чортаў камень! Выпремініў на нас сваё адмоўнае нутро, вось мы і блудзім.

— Камень тут ні пры чым,— не згадзіўся Міцька.— Самі мы вінаваты.

Паблудзіўшы яшчэ некалькі гадзін па лесе, сябры раптам пачулі брэх сабакі.

— Вёска! — у адзін голас усклікнулі яны.— Туды! Хутчэй туды!

І яны пабеглі на сабачы брэх. Але брэх адхіліўся і пачуўся з другога боку, нават ззаду сяброў.

Хлопчыкі спыніліся і прыслухаліся.

— Вёска нейкая дзіўная,— разгубіўся Міцька,— не стаіць на месцы.

Віцька на ўсякі выпадак асцярожна гукнуў:

— О-го-го! Людзі-і!

Раптам ззаду да хлопчыкаў з лесу выскачыў Міцькін сабака, Званок. Ён з радасным брэхам і віскам кінуўся на грудзі да свайго маленькага гаспадара.

— Званочак! Родненькі! — цяпер ужо ледзь не вішчаў шчаслівы хлопчык.

Віцька таксама абдымаў сабаку і толькі прыгаварваў: «Званочак... Званочак».

— Ты адкуль? — не мог супакоіцца Міцька.— паказваў дарогу, Званочак! Вядзі дамоў! Дамоў!

Слова «дамоў», відаць, было знаёма сабаку, і ён, весела памахваючы хвастом, упэўнена пабег наперадзе двух блукацеляў і праз хуткі час вывеў іх да сваёй вёскі.

Давялося гукаць і збіраць усіх вяскоўцаў, якія ўсю ноч і паўдня шукалі зніклых хлопчыкаў.

Развітваючыся з сябрам ля яго хаты, знямоглы Віцька з цеплынёй сказаў:

— А лустачка была сапраўды чароўная. Яна вярнула нам сілы і шмат чаму нас навучыла, асабліва мяне.





# Пра сяброўства

Жыў на свеце Лёд. Жыў, як кажуць, не тужыў. Але аднойчы востра адчуў адзіноту і сум.

— Эх, пасябраваць бы з кім-небудзь! — уздыхнуў Лёд.— А з кім?

Непадалёк жыў Агонь. І ён аднойчы адчуў сум і адзіноту.

— Эх, як не хапае сябра! — страпянулася полымя Агню.— А вунь жа Лёд! Ура!

Агонь наблізіўся да Лёду і прапанаваў:

— А давай сябраваць! Сумна аднаму.

— І мне сумна,— адказаў Лёд.— Лічы, што мы — сябры!

Але нічога агульнага не магло звязваць Лёд і Агонь. Нават гаворка ў іх не атрымлівалася — настолькі яны былі розныя. Як было ім сумна

паасобку, так засталося і падчас іх «сяброўства». Нічога не змянілася.

Хаця не! Ад блізкасці Агню, Лёд пачаў паступова раставаць. І настолькі гэта таласць набыла сілу, што Лёд ператварыўся ў ваду і заліў свайго «сябра».

Не стала Лёду, не стала і Агню...

Аказваецца, не варта штучна ссяброўвацца з некім толькі таму, што табе сумна.

*

Павук саткаў сабе новую павуцінку між галінак дрэва, з асалодай улёгся на ёй і пачаў чакаць... А раптам хтосьці — якая-небудзь Мушка, Мошка ці Матылёк ублытаюцца ў яго лавушку.

Пралятала міма Муха-весялуха. Яна своечасова заўважыла небяспеку і абмінула павуцінку.

— Стой! Стой! — закрычаў ёй Павук.— куды ж ты? Вярніся!

Муха крутнулася назад і села на галінку побач з павуціннем.

— Што здарылася? — спыталася яна ў Павука.

— Як што? — ажно падскочыў Павук.— Ты ж глянь, які я сплёў гамачок! А як прыемна на ім пагойдвацца ды люляцца. Бачыш?

І Павук пачаў раскалыхваць сваю павуцінку, як арэлі:

— Глядзі! Уверх-уніз, улева-ўправа. Любата! Скачы да мяне, я цябе бясплатна пакалыхаю.

А можна, пры жаданні, ціхенька ляжаць на маім гамачку і марыць.

Ні ў водным парку адпачынку няма такіх цудоўных арэляў. Гушкі-гушкі, для Мухі-весялушкі! Ляці да мяне, Мушка, пасябруемся, весялушка. Ну?

— Ага, хітранькі! — замахала лапкамі Муха.— гаворыш ты салодка, але горка мне будзе ад твайго сяброўства. Бывай!

І Муха-весялуха ўзмахнула крылцамі — толькі Павук яе і бачыў...

Як добра, калі хтосьці з хлопчыкаў ці дзяўчынак, своечасова заўважаюць небяспеку ў паводзінах ці гаворцы сваіх знаёмых і не трапляюць у павуціну іх «сяброўства».





# Старажытны экспанат

*Сказка — ложь, да в не намёк...*
А. С. Пушкин

Пасля адкрыцця гісторыка-архелагічнага музея, жыццё ў горадзе відавочна ажывілася. Жыхары ўсіх узростаў і відаў у вольны час спяшаліся зазірнуць за заслону сівой даўніны.

Прыемна здзіўляла і тое, што пад музейным дахам мірна суіснавалі і вегетарыянцы, і платаядныя ці, як іх яшчэ называюць, драпежнікі.

Тут можна бачыць ля якога-небудзь экспаната, побач ваўка і зайца, вужаку і жабку, льва і антылопу, нават павука і муху, якія абменьваюцца ўражаннямі.

Вось што значыць прага пазнання і атмасфера духоўнасці.

Але аднойчы жыхароў зямлі схаланула сенсацыйная навіна — знойдзен шкілет невядомай старажытнай істоты, які, пасля падрыхтоўкі спецыяльнай залы, будзе выстаўлены на паказ.

З усіх куткоў зямлі збягаліся, зляталіся, спаўзаліся зацікаўленыя.

Неверагодныя чэргі цягнуліся да ўваходу ў музей — усім не цярпелася ўбачыць невядомую старажытнасць.

І нарэшце гэты гістарычны дзень настаў. Дзверы музея гасцінна раскрыліся і жывая рэчка наведвальнікаў хлынула ў будынак.

Экскурсію праводзіў сам дырэктар музея — Бусел, чыя дзюба была яму замест указкі.

Дырэктар, для важнасці моманту, зрабіў доўгую паўзу, затым паказаў дзюбай на шкілет, які ляжаў пад шклом, і сказаў:

— Вучоны савет музея, з дапамогай замежных свяціл навукі, пасля дэталёвага вывучэння экспанату, аднагалосна прыйшоў да высновы, што гэтаму шкілету больш як два мільёны гадоў і належыць ён тагачаснай істоце, імя якой — чалавек.

Усе прысутныя інтуітыўна здрыгануліся, хоць ніколі не чулі слова «чалавек», тым больш ніколі не бачылі яго шкілета. Відаць, на генным узроўні страх перад гэтым словам у наведвальнікаў музея захаваўся.

Бусел працягваў:

— Вучоныя лічаць, што людзі як від вымерлі ў эгаістычна-драпежны перыяд кан'юктурна-бездухоўнай эры.

Хтосьці з наведвальнікаў пацікавіўся:

— А што магло стаць прычынай вымірання людзей?

Дырэктар толькі развёў крыламі:

— Дакладна невядома... Ёсць меркаванні, што людзі зніклі з зямлі не ў выніку нейкай прыроднай катастрофы, як калісьці дыназаўры, інакш разам з людзьмі зніклі б і мы.

Хутчэй за ўсё, людзей выкасіў нейкі мор, нейкі вірус, які ўздзейнічаў толькі на іх. Нам вядомы некаторыя старажытныя вірусы, такія, як грошы, войны, захоп улады.

Мы ператрэслі ўсе архівы і прыйшлі да высновы, што кан'юктурна-бездухоўная эра — гэта прадукт, створаны людзьмі. Музеяў рабілася ўсё менш, зброі і жорсткасці — усё больш. Прага нажывы паглынула дабрыню і любоў да бліжняга. Людзьмі кіравала галоўная іх запаведзь: «Чалавек чалавеку — воўк».

Тут Бусел паглядзеў у бок прысутнага ў музеі ваўка:

— Я прашу, шэры, не крыўдзіцца, бо ўсе ведаюць, што воўк ваўка, у адрозненні ад людзей, не знішчае.

Пасля чарговай паўзы, дырэктар працягваў:

— Паколькі людзі жылі ў эгаістычна-драпежны перыяд, думаю, што яны былі вельмі небяспечнымі

драпежнікамі, што і прывяло іх да самазнішчэння.

Знікненне людзей пайшло на карысць нам усім, уратавала нас і ўсю планету ад пагібелі. Таму ўпэўнены, што ніхто з вас, прысутных, не шкадуе пра знікненне тых, хто мог бы паставіць пад пагрозу наша існаванне.

— Не! Не, ніхто не шкадуе! — загаманілі экскурсанты.

Раптам у выставачную залу ўвайшлі двое. Убачыўшы незнаёмцаў, усе здрыганулі і змоўклі.

Дырэктар музея асцярожна спытаў:

— А вы хто будзеце?

Той, хто быў больш высокага росту, адказаў:

— Я — Адам, а яна — Ева. Я — мужчына, яна — жанчына. Нас выгналі з Раю.

Бусел спытаўся іначай:

— А да якога віду вы належыце?

— Мы — людзі,— адказаў мужчына.

Розгалас жаху пранёсся над наведвальнікамі музея.

— Людзі! — жахнуўся і Бусел.— Значыць, зноў жорсткасць, зноў грошы, зноў зброя і войны!

— Не! — усклікнуў мужчына.— Не хвалюйцеся і не палохайцеся! Нас пакуль двое і ў нас няма пакуль ні грошай, ні зброі.

— Пакуль... — сумна адзначыў дырэктар музея. Ён паказаў дзюбай на старажытны шкілет і

заключыў: Тыя, якія зніклі з Зямлі прыкладна два мільёны гадоў таму, пэўна, таксама пачыналіся з Адама і Евы і, як і вы, пакуль не мелі ні грошай, ні зброі. Няўжо ўсё паўтараецца?..





# Чужога болю не бывае

У тым, што Алег спачувае чужой юядзе і чужому болю, ледзь не як свайму ўласнаму, няма нічога дзіўнага. Кожны чалавек суперажывае разам з роднымі, блізкімі, знаёмымі, падзяляе з імі радасць і гора — таму і мае права называцца сапраўдным чалавекам.

Бываюць выключэнні сярод людзей, але гэта толькі адзінкі і пра іх не верта гаварыць.

Але Алег, нягледзячы на свае ўсяго дзесяць гадоў, адкрыў у сабе здольнасць чуць боль, як яго лічуць, нежывога асяроддзя.

Упершыню хлопчык заўважыў гэта падчас летняга класнага паходу ў знакамітыя Купалавы Акопы, куды пясняр калісь наязджаў да сваёй маці і дзе пісаў свае знакамітыя творы.

Там, у Акопах, вучні разам з настаўнікам вырашылі заначаваць. Усе былі ўзрушаныя і ўсхваляваныя ад магчымасці ступаць па зямлі, па якой ступаў сам Янка Купала. Вучняў не менш радавала і пазакласная шматдазволенасць, калі можна крычаць, скакаць ці, як кажуць, хадзіць на галовах.

Хто цягаў ражны для кастра, хто абіраў бульбу, хто рэзаў хлеб і каўбасу — усе былі пры справе. Раптам Алегаў аднакласнік Эрык схапіў сякеру і, на хвалі гэтай шматдазволенасці, ссек бярозку, якой было, як і вучням, 10—12 гадоў. Бярозка ўздрыгнула духмянай лістотай і бездапаможна ўпала вершалінай да ног аслупянелага Алега. Яму падалося, быццам гэта яго жыццё падсеклі па жывому і кроў сцякае ў зямлю, быццам гэта ён упаў галавой да нейчых ног і ўжо ніколі не паднімецца. Алегава сэрца пранізаў востры боль, камяк крыўды і жалю душыў горла.

Алег перахапіў з рук Эрыка сякеру і з дакорам прамовіў, амаль прастагнаў:

— Ты думаеш, ён не баліць? Навошта ты знішчыў дрэўца? Ды якое дрэўца — бярозку!

— Табе што, мала бяроз у лесе? — не раздумваючы адказаў Эрык.— Вунь іх колькі — сячы не перасячэш!

Алег узвысіў голас:

— Ты ведаеш, колькі людзей у свеце? Лічы не пералічыш! Дык што? Па-твойму, можна забіваць

па аднаму, дзеля забавы? Цябе, напрыклад, Эрык! Згодзен?

— Ну ты, Алег, дзівак! Параўняў маё жыццё з нейкай бярозай. Лячыцца трэба!

Потым шмат начэй снілася Алегу паміраючая бярозка, лісце якой жаласліва шапацелі: «За што?.. За што?..»

Другім разам Алег адчуў боль зямлі пасля таго, як напаткаў непадалёку ад дарогі на шаўкавістай лугавіне вялізную чорную пляму невядомага мазуту. Відаць, нейкі трактарыст зліў з прычэпленай цыстэрны адработку на зямлю, каб не везці яе за шмат кіламетраў да спецыяльнага сховішча на нафтабазе.

Менавіта тут Алег пачуў крык зямлі, якая не здольна паглынуць атрутную вадкасць, і ўсім сэрцам успрыняў пакуты шаўкавістай травы, рамонкаў і лугавых званочкаў, апынуўшыся пад смяртэльным покрывам. Алег удыхаў едкі пах мазуту і чуў, як усё наваколле напаўняе стогн зямлі: «За што?.. За што?..»

Яму чамусьці ўспомніўся Эрык, які, напэўна сказаў бы тут: «Ці ж мала ў Беларусі лугоў? Забруджай не паразабрудзіш...»

І зноў Алегу сніўся жах, быццам ён сам ляжыць і задыхаецца пад чорным ядавітым пакрывалам і на сваім твары адчувае клейкія паміраючыя пялёскі рамонкаў і званочкаў.

— Алежык, чаму ты стогнеш у сне? Што табе сніцца, сынок? — занепакоена пыталася маці.

Алег хацеў адказаць, што сніцца яму чужы боль, але спахапіўся і, замест адказу, выдыхнуў:

— Не, чужога болю не бывае...

Маці нічога не зразумела, але, каб не засмучаць сына, пагадзілася:

— Не бывае, сынок, не бывае...

Як вядома, вясной, пасля сыходу снегу, зямля мае шэра-рыжы выгляд. Гэта сухая, міжлагодная трава, быльнёг і ўсякае смецце надаюць такую непрыгляднасць наваколлю. Але пасля першага дожджычку ўсё вакол зелянее і прымае прывабнае аблічча. Ды, на жаль, ёсць такія людзі, якія не чакаюць першага дожджыку, а падпальваюць паслязімовую сухату.

Вось такую гарэласць убачыў Алег. Убачыў і жахнуўся:

— Там жа гінуць розныя кузуркі, жучкі, жабкі! Там жа чмяліныя гнёзды ў зямлі! Там гіне жыццё!

І Алег кінуўся да агню, здымаючы на хаду з сябе куртачку. Ён, хлапчаня, ля шырокай аблогі чырвонага агню і чорнага дыму, сам выглядаў здаля маленькай жывой істоцінкай, якая кінула смелы выклік небяспечнай стыхіі.

Алег з усяе сілы малаціў куртачкай па полымі, якое бязлітасна абыходзіла хлопчыка з усіх бакоў і ўспыхвала, з дапамогай ветру, з новай сілай.

Калі падбеглі на дапамогу аднавяскоўцы і аднакласнікі, агонь настойліва набліжаўся да вёскі, пагражаючы пабудовам і ўсяму жывому.

Падмога прыімчалася своечасова, бо галоўны «агняборац» — Алежка, абяссілена ляжаў на чорнай выпаленай зямлі з апаленымі рукамі і валасамі на галаве.

Агонь пагасілі і вёску ўратавалі, а Алега адвезлі ў бальніцу.

Назаўтра, увесь яго клас сцішана ўвайшоў у бальнічную палату. Не было толькі Эрыка, але яго адсутнасць ніхто не заўважыў.

Алег неяк сціпла, нават сарамліва прамовіў:

— Дзякуй вам... мне ўжо лепш, я вельмі рады... Навошта ж так...

Хтосьці з вучняў адказаў за ўсіх:

— Чужога болю не бывае...



# Зайка і Зайчык

На лясной дарозе хтосьці згубіў кішэннае люстэрка. Яно ляжала амаль рубам прыхінуўшыся да нейкага гурбячка і сумна пазірала на лес.

Пазірала яно сумна таму, што было пахмурна і гэта пахмурнасць у ім адбівалася і псавала настрой.

Вядома ж, што пахмурнае надвор'е здольна сапсаваць настрой не толькі люстэрку, а нават самаму вясёламу чалавеку.

Раптам хмары расхінуліся і заззяла сонейка. Яно асвятліла кожнае дрэва, кожны кусцік, не абмінула і лясную дарогу. А паколькі люстэрка ляжала на дарозе, сонейка зазірнула і ў яго.

Люстэрка ажывілася і пачало радасна выпраменьваць сонечнае святло.

У гэты час па лясной дарозе бесклапотна скакаў лясны Зайка, у якога, як і ў люстэрка, быў цудоўны, сонечны настрой.

Ён з захапленнем спяваў:

Тра-ля-ля,
Тру-лю-лю,
Як я сонейка люблю!

Раптам штосьці бліснула яму ў вочы. Ён ажно заплюшчыўся і спыніў свой скок.

— Вой! Хто мяне асляпляе?

— Гэта я! — адказаў нехта, седзячы на Зайкіным носе.

— Ты хто? — памацаў Зайка лапкай свой нос, але пад лапкай нікога не знайшоў.

— Я — Зайчык! — зноў адказаў нехта.

— Гэта я — Зайка! — удакладніў Зайка.

— А я — Зайчык! — пацвердзіў нябачны незнаёмец.— Я — сонечны Зайчык! Я — вунь з таго люстэрка, якое ляжыць на дарозе.

Толькі цяпер лясны Зайка заўважыў люстэрка і падскочыў да яго.

— Ты тут? — спытаўся лясны Зайка і зазірнуў у люстэрка.

— Тут я, тут! — адказаў сонечны Зайчык.— Бачыш мяне?

Лясны Зайка ўбачыў у люстэрку сваё адлюстраванне і здзівіўся:

— О-го-го! Які ты вушасты! Ды яшчэ і касавокі. А як гэта ты ўмееш так моцна свяціцца? Навучы мяне!.

Сонечны Зайчык не ведаў, як навучыць ляснога Зайку выпраменьваць сонечнае святло, але, на ўсякі выпадак, параіў:

— А ты падстаў сябе пад сонечныя промні і пакручвайся — яны павінны аб цябе абвівацца. Ну як, падставіў?

Лясны Зайка падставіў сонейку спачатку адзін бок, затым другі, але нічога не атрымалася.

— Гэта не цікава! — заключыў ён.— Давай лепш гуляць у даганялкі. Умееш скакаць?

— Яшчэ як! — запаліўся сонечны Зайчык.— Толькі трэба, каб хтосьці пакручваў люстэрка. Тады я магу імгненна заскочыць вунь на тую, самую высокую сасну.

— Ого! — не смог стрымаць захаплення лясны Зайка.— Пакажы!

Раптам побач пачулася:

— Мама! Мама! Знайшла сваю згубу! Вось ляжыць маё люстэрка!

Зайка і Зайчык так захапіліся сваёй гаворкай, што не заўважылі, як па дарозе да іх наблізіліся жанчына і дзяўчынка.

Лясны Зайка з перапуду даў стрыкача за густую ялінку і з жахам назіраў, як дзяўчынка падняла люстэрка, у якім жыве яго новы сябар.

— Толькі б яна не спалохала яго, як спалохала мяне! Толькі б сонечны Зайчык не збег у лес і не заблудзіўся ў ім,— шаптаў лясны Зайка.

Люстэрка ў руках дзяўчынкі крутнулася ва ўсе бакі і — о, дзіва! — сонечны Зайчык заскакаў спачатку па зямлі, потым па ствалах дрэў і нарэшце скокнуў на самую высокую сасну.

— Вось гэта здорава! — не стрымаўся лясны Зайка.— Ён не маніў.

Тут дзяўчынка паклала маленькае люстэрка ў сваю сумачку і пакрочыла са сваёй мамай далей.

Сонечны Зайчык знік.

Лясны Зайка напалохаўся і кінуўся шукаць свайго сябра па ўсім лесе.

Ён клікаў яго, гукаў, але ніхто не адгукваўся. Ён мітусіўся — уперад, убакі, рабіў «петлі», вяртаўся на дарогу і зноў выпісваў кругі па лесе, але свайго сонечнага цёзку так і не знайшоў...

І сёння ў зімовым лесе можна бачыць заячыя сляды, якія пятляюць між дрэў. Пэўна, гэта лясны Зайка працягвае шукаць свайго сябра.

Будзем спадзявацца, што яны сустрэнуцца.




# Як пісаць казкі?

Прыйшоў малады пачынаючы пісьменнік да вядомага пісьменніка-казачніка і слёзна папрасіў:

— Навучыце вы мяне, як пісаць казкі! Колькі разоў не браўся, колькі ні пачынаў — нічога не атрымлівалася. Разумею. Што ў казцы павінны адбывацца нейкія цуды, штосьці незвычайнае, казачнае, а дзе што браць, не ведаю.

Калісьці лёгка было складаць казкі — бяры сабе Змея Гарынавіча, Кашчэя Бессмяротнага, Салаўя Разбойніка ці хоць Бабу Ягу. Былі Каваль-Вярнідуб, Ілья Мурамец з сябрамі. Ды розныя там дываны-самалёты, дудкі-самагудкі, гуслі-самаграйкі.

А што сёння? Дзе ўзяць для казкі хоць маленькую незвычайшчыну? Мазгі можна зламаць.

Выслухаў пісьменнік-казачнік свайго маладога калегу, моўчкі апрануўся і коратка прапанаваў:

— Пайшлі шукаць цуды!

Селі яны ў аўтобус, выехалі за горад. І напрамкі накіраваліся да жытнёвага поля. Спыніліся ля яго.

— Ціха! — загадаў сталы пісьменнік.— Уважліва слухай. Чуеш?

Малады калега напружана прыслухаўся:

— Не... пакуль нічога не чую...

— Ты сэрцам слухай! — параіў казачнік.— Сэрцам...

Малады зноў напружана прыслухаўся, ажно пачырванеў:

— Нічога ж не чуваць! Толькі каласы пагойдваюцца ды шапацяць паціху.

Сталы пісьменнік здзівіўся:

— Няўжо не чуеш у мілагучным переразвоньванні каласоў адвечную песню жнеяк з сярпамі, якая далятае да нас праз далечыню часу? Жытнёвае поле захавала гэту песню, як гімн цяжкой працы і перадае яе з пакалення ў пакаленне.

— Сёння ж жыта жнуць камбайны, а не сярпы,— запярэчыў малады творца.— Іх гудзенне я ўявіць яшчэ магу.

Казачнік уздыхнуў:

— Шлях ад сярпа да камбайна далёкі і няпросты. Вось пра яго і распавядаюць каласы... А ты зірні ў неба! Бачыш?

— Што? — не зразумеў малады, задзёршы галаву.

— Неба — гэта твар сусвету! Колькі ў ім рознага настрою і псіхалагічных перажыванняў. Сёння яно яснае, блакітнае. Іншым разам яно засмучанае і заклапочанае. Нярэдка — задумлівае і летуценнае. Бывае — пагрозлівае і небяспечнае. Бачыш? У неба рысы нашых, людскіх характараў. А колькі ў ім галасоў і гукаў! Чуеш?

— Не! — разгублена залыпаў вачамі малады пісьменнік.— Ціха ж...

— Шкада. Што ты не чуеш, калега. У небе гучаць галасы нашых продкаў, з неба глядзяць на нас іх душы. У ім і плач птушак, адлятаючых восенню ў далёкі вырай. І радасць вяртання на Радзіму. Азірніся вакол! Вось наша маці — зямелька! Зараз лета, і яна нагадвае гаспадыню, у якой усё паároблена і надышоў час кароткага адпачынку. А зірні на яе праз месяц-другі! Восенню — яна руплівая, працавітая, гаспадарлівая. Затое зімой — зямелька адпачывае, набірае моцы і сніць дзівосныя сны пра надыход вясны. Вясной зямля амалоджваецца, быццам нараджаецца нанова. Яна ўсхваляваная, узрушаная, зноў жа — руплівая і кожны год — непаўторна-прыгожая!

А вось, глядзі, стаяць дзве маладыя бярозкі. Думаеш, яны моўчкі стаяць? Гэта ж дзве дзяўчынкі, якія шчыра дзеляцца сваімі дзявочымі сакрэтамі. Ты прыкладзі вуха спачатку да адной, затым да другой і даведаешся, што яны закаханыя вунь у тых клёніка і

дубка. І голлем сваім яны цягнуцца сарамліва да іх. Жадаю вам шчаслівай сустрэчы!

Малады пісьменнік збянтэжана паціснуў плячыма.

— Ведаеш, калега,— звярнуўся сталы пісьменнік да маладога,— усё гэта, і многае іншае, ёсць вакол нас, трэба толькі глядзець, слухаць і ўспрымаць жыццё адкрытым сэрцам...— Потым зазірнуў яму ў вочы: — Ну, цяпер ты зразумеў, як трэба пісаць казкі?

Той абурана махнуў рукой:

— Я да вас прыйшоў, як да сур'ёзнага чалавека, за парадай. А вы. Замест яе, прывялі мяне ў чыстае поле!..

Крутнуўся і пакрыўджаны падаўся прэч.

— Ніколі табе не быць казачнікам,— уздыхнуў сталы пісьменнік.



# Памаўза

Заяц Памаўза адпавядаў свайму імя — быў і сапраўды памаўзлівым. Не мінаў ніводнага агарода, вядома ж, чужога, ніводнай сядзібы, будзь яна хоць Лісіная, Воўчая, нават Мядзведзева.

І ўсё ж часцей за ўсіх ён наведваў грады дзеда Макара. Пэўна таму, што дзед, у адрозненні ад пералічаных звяроў, вырошчваў моркву і капусту, нават рэпу.

Адным разам Памаўза, завітаўшы ў чарговы раз да дзеда ў агарод, выпадкова пачуў як той, седзячы на ганку, скардзіўся свайму суседу:

— Штосьці старая мая зусім занядужала...

— А што з ёй? — заклапочана пацікавіўся сусед.

— Ой, братка! — слёзна ўсклікнуў дзед Макар.— Цэлы букет нямогласцей. І зрок пачала губляць, і ў

вушах страляе, ды і сярэдзіну скруціла... У дадатак, адвярнулася ад стравы, кажа, што пад лыжачкай муціць. О-хо-хо...

Між тым, дзед Макар пачаў заўважаць, што хтосьці «праполвае» ды «прарэжвае» яго грады. Прыгледзеўся дзед да слядоў і зразумеў — гэта заяц памаўзуе.

— Ах ты, нягоднік! — усклікнуў Макар.— Ты ў мяне больш сталавацца не будзеш! Я табе пакажу, колькі каштуе фунт ліха!

Паставіў дзед на градах пастку, і злавіў Памаўзу.

Але заяц, наколькі быў памаўзлівым, настолькі і здольным на розныя прыдумкі-хітрыкі.

Узмаліўся Памаўза:

— Дзядок, адпусці мяне, злітуйся! Я ж лазіў у твой агарод не для сябе, а дзеля сваёй хворай жонкі.

Памаўза нават выціснуў з аднаго вока слязу.

Дзед расчуліўся:

— А што з тваёй жонкай?

Заяц усхліпнуў:

— Ой, дзядочак... У яе цэлы букет нямогласцей. Яна без морквы зрок губляе, у яе вушах страляе, ёй і сярэдзіну круціць, і пад лыжачкай муціць... О-хо-хо...

І Памаўза выціснуў слязу з другога вока.

Дзед Макар здзівіўся:

Бач ты, якое супадзенне! Ды і ў маёй старой тое ж. Ах ты гаротнік! — дзед выцер узмакрэлыя вочы.— Хто ж табе паспачувае, як ні я? Ідзі сабе на волю да

сваёй хворай жонкі. Ды морквачкі не паляну́ўся вырваць для яе.

Выпусціў дзед Памаўзу.

Сарока, якая сядзела на плоце, і пра ўсіх усё ведала, застракатала-зарагатала:

— Ну і абдурыў цябе, дзед, заяц! Ох і абмішурыў! Ён жа не жанаты.

Дзед крыкнуў у бок уцякаючага манюка:

— Ну пападзіся ты мне яшчэ раз! Я табе пакажу, колькі каштуе фунт ліха!

Але Памаўза і не збіраўся яшчэ раз трапляць у пастку дзеда Макара. Ён накіраваўся да сядзібы Мядзведзя, каб на ўсякі выпадак падслухаць, чым хварэе яго жонка.

Але гэтым разам Памаўзу не пашанцавала. Мядзведзя нідзе не было, ні на ганку, ні на дварэ.

— А-а, пэўна, спіць! — вырашыў заяц і смела накіраваўся ў кут Мядзведзевага сада. Там клышаногі гаспадар завёў цудоўную сартавую маліну.

Маліннік быў такі густы, а Памаўза так захапіўся, прыгінаючы высокія сцяблiны з сакаўнымі ягадамі, што нават не зразумеў, як апынуўся ў кіпцюрыстых лапах мядзведзя.

Ён у гэты час таксама ласаваўся спелай смакатой, заўважыў зладзюжку і цапнуў яго ў свае кіпцюры.

— Што, прахвост-кароткі хвост, папаўся! — рыкнуў Мядзведзь.— Прывык на дармавінку ласавацца чужым. Зараз я цябе пакладу на адну лапу, а

другой зверху прыплясну, ад цябе і мокрага месца не застанецца.

Памаўза затросся ад жаху, замармытаў:

— Прабачце, дзядзечка Міхайла! Яж не для сябе рваў маліну, а для сваёй хворай жонкі. Злітуйцеся, калі ласка!

Мядзведзь абыякава спытаўся:

— А што з тваёй жонкай?

Заяц трасучыся, працягваў тлумачыць:

— У яе, дзядзечка Міхайла, цэлы букет нямогласцей. Яна без маліны зрок губляе, у яе вушах страляе, ёй і сярэдзіну круціць, і пад лыжачкай муціць... Вось...

Заяц напяўся і выпусціў дзве слязіны.

— Ха! — усклікнуў Мядзведзь.— Па такіх балячках будзе твая жонка жыць сто гадоў. А вось цябе я ўсё-такі прыплясну, каб не памаўзаваў больш.

Памаўза бачыць, што яго мана не кранула сэрца гаспадара маліны. Ён кінуўся ў новыя хітрыкі:

— Стойце, дзядзечка Міхайла! Я ж вам яшчэ не ўсё сказаў!

— Што яшчэ? — незадаволена спытаў Мядзведзь.

Заяц надаў свайму голасу таямнічасці:

— У маёй жонкі хвароба невядомая і вельмі небяспечная. Баюся, што яна смяртэльна заразная і жыць мне засталося мала. Яе ўсю пабіла на сінія плямы, поўсць з яе выпадае цэлымі ахапкамі, зубы ў яе вывальваюцца... Вось, зазірніце ў мой рот —

толькі спераду і засталося два зуба, астатнія — выпалі. Усё маё цела свярбіць, як ад кароcты. І мяне ўвесь час — бачыце? — кідае ў дрыжыкі. Думаеце, я трасуся ад страху? Не! Гэта яе хвароба ўскочыла на мяне. Вось... — заяц глыбока ўздыхнуў і працягваў: — Я, дзядзечка Міхайла, перадумаў. Чым паміраць у пакутах, лепш пакладзіце мяне зараз на адну лапу, а другой зверху прыпляснiце, каб не засталося ад мяне і мокрага месца.

Мядзведзь з жахам расціснуў кіпцюры і кінуў Памаўзу падалей ад сябе.

— Фу ты, гадота якая! Не хапала мне толькі заразіцца ад цябе! Ану прэч адсюль, басота-памаўзота!

Памаўза з усіх ног плетануў ад небяспечнага месца, а мядзведзь гэтак жа хутка пабег мыць з мылам свае лапы.

Заяц ад нечаканага паратунку так разагнаўся, што ледзь не збіў з ног Ваўка, які фацэтна трымаў пад лапу Лісу і шпацыраваў з ёй па лесе.

— У цябе што, вочы твае касыя павылазілі?! — захрыпеў Воўк.— куды прэш, як шалёны?

Памаўза разгубіўся, што замест адказу сам спытаўся:

— А в-вы куд-д-ды?

Ліса ганарліва адказала:

— А мы з шэрым дыхаем вольным паветрам. А зараз ідзём да мяне ласавацца духмяным пірагом, які я спякла і які чакае нас на стале.

Заяц імгненна скумекаў, што пакуль Воўк і Ліса гуляюць па лесе, можна і пірагом чужым паласавацца, і markzнымі экзатычнымі травамі-прыправамі, якія Воўк вырошчвае на сваёй сядзібе для аздаблення мяса.

— Вось добра, што я вас спаткаў! — з прытворнай радасцю ўсклікнуў Памаўза.— Я ж па даручэнні самога Мядзведзя імчаў да вас.

— І навошта мы яму? — у адзін голас пацікавіліся «прамінатары».

— У яго сёння дзень нараджэння! — запальна хлусіць касы.— Ён збірае ўсіх знаёмых. У яго там стол ломіцца ад markзнай смакаты. На любы густ! Не марудзьце часу і габлюйце да Мядзведзя! Яшчэ паспееце заняць месцы на покуце.

Воўк і Ліса пераглянуліся:

— А што: Чаму б не пабаляваць за чужым сталом? Ды і гаспадар пакрыўдзіцца, калі мы адмовімся.

Заяц памкнуўся бегчы далей, але яго спыталі:

— А ты куды? Хіба цябе не запрасілі?

— Запрасілі! Яшчэ як запрасілі! Можна сказаць, персанальна,— выдыхнуў заяц.— А імчу я дадому, каб вярнуцца на свята са сваёй жонкай. Ідзіце, мы вас дагонім.

Калі Воўк і Ліса з'явіліся да Мядзведзя, той яшчэ мыў лапы з мылам.

— Мы не спазніліся? — весела спыталі «запрошаныя».— Віншуем цябе, Міхайла, з днём

нараджэння. Просім прабачэння, што без падарункаў. Вельмі нечакана ты нас запрасіў.

Мядзведзь разгубіўся:

— Пра што гэта вы? Якое запрашэнне? Чый дзень нараджэння? Нічога не разумею...

Цяпер разгубіліся госці.

— Заяц нас паслаў да цябе, а сам пабег па сваю жонку. Хутка тут будуць.

— Заяц? — выцягнуў шыю Мядзведзь.— Ён жа маю маліну краў і трапіў да мяне ў кіпцюры. Тут жа скавытаў і бажыўся, што ў яго жонка хворая. Я яго прэч прагнаў, а не за вамі паслаў. Во прахіндзей!

Тая ж Сарока, услед за Памаўзом прыляцела на Мядзведзеву сядзібу і, як заўсёды, усё бачыла і чула. Яна зноў уголас застракатала-зарагатала:

— Вой, памру ад смеху! Ну і цырк! Заяц абвёў вас вакол свайго кульцяпістага хваста, як апошніх прасцячкоў. У яго няма ні здаровай, ні хворай жонкі. Ён не жанаты! Ха-ха-ха!

Мядзведзь незадаволена прамармытаў:

— Столькі мыла паравёў дарэмна...

Воўк і Ліса кінуліся да сваіх сядзіб, да сваіх хат. А пірог Лісы ўжо быў у Зайцавым жываце, а Воўчыя травы-прыправы здратаваныя і паедзеныя.

Сарока аказалася тут як тут і звысоку здзекавалася з рыжай і шэрага:

— Плакаў пірог! Плакалі травы-прыправы!

— Сарочанька! — узмаліліся падманутыя.— Дзе нам знайсці зайца-манюку? Дзе яго хата?

Сарока зноў застракатала-зарагатала:

— У Зайца хата пад кожным кустом. Сёння — тут, заўтра — за дзесяць вёрст. Шукайце-блукайце!...

Тут можна было б і кропку паставіць ды перайсці да наступнай казкі, але цікава даведацца, куды падзеўся заяц.

І сапраўды, дзе Памаўза?

Ён і сёння наведвае чужыя агароды і сады — памаўзуе. Калі давядзецца вам яго злавіць, не верце ніводнаму яго слову.





# Суп з чарапахі

Больш за ўсё на свеце заяц Вушасцік любіў бегаць хоць з кім навыперадкі. Ды толькі мала хто згаджаўся на такое спаборніцтва. Марная справа спрабаваць перагнаць такога спрынтэра.

Раптам Вушасцік спаткаў чарапаху Цюхцю.

— Во-ой, якая сустрэча! — узрадаваўся Вушасцік і адразу прапанаваў: — Давай бегчы з табой наперагонкі!

Звычайна Вушасціку на яго прапанову адразу і рашуча адмаўлялі:

— Не! Ты што, Вушасцік?! Бегчы за тваім хвастом! Не, не і не!

А тут, на прапанову зайца, Цюхця адказала маўчаннем. І не таму што збіралася змагацца з Вушасцікам за званне самага хуткага бегуна, а таму, што

чарапахі, наколькі лянотна рухаюцца, настолькі марудна і думаюць.

Заяц палічыў такое маўчанне чарапахі за згоду і бадзёра патлумачыў:

— Умовы такія: калі я цябе пераганю — ты будзеш цэлы дзень вазіць мяне на сабе. Калі ты мяне — я ўвесь дзень буду насіць цябе на сваім карку. Згодна?

У адказ — зноў маўчанне.

— Вось і выдатна! — заключыў Вушасцік.— Бяжым па гэтай дарозе да крывой бярозы, потым управа па лесе да рэчкі, ад яе, праз поле, зноў сюды. Стартуем па маёй камандзе: «Марш!»

Заяц устаў на заднія лапы і ўрачыста закамандаваў:

— Увага! На ста-а-арт!.. Марш!

І адразу лупянуў, спачатку да крывой бярозы, а далей па згаданым маршруце.

Чарапаха пракручвала ў галаве чутае, і нарэшце выдыхнула:

— Ды не пабягу я з табой, Вушасцік.

Але заяц ужо паспеў мінуць крывую бярозу, праскочыў праз лес да рэчкі і толькі на полі спыніўся і аддыхаўся. Агледзеўся — чарапахі нідзе не відаць і з палёгкай плятануў да месца старту, якое для яго зрабілася фінішам.

Убачыўшы Цюхцю, заяц аслупянеў ад нечаканасці.

— Ты ўжо тут?! Раней за мяне-е?

— Ты ж бачыш,— лянотна выдыхнула Цюхця.— Я — тут.

Заяц схапіўся за галаву і залямантаваў:

— Як гэта табе ўдалося мяне перагнаць? Які сорам! Якая ганьба! Да чаго я дажыўся!

Але колькі не лямантуй, а ўмовы, якія сам Вушасцік прапанаваў, трэба выконваць. Таму пасадзіў ён Цюхцю сабе на шыю і сумна паклыпаў па лесе. Бачыць, ажно насустрач ідзе Ліса.

— Што гэта ты, Вушасцік, чарапаху бясплатна возіш на сабе? — смяецца рыжая.

— Разумееш, Лісачка,— хітруе заяц,— скразнякі прастудзілі мае шыйныя пазванкі, вось я і нашу Цюхцю замест грэлкі. Добра дапамагае.

— Дык і ў мяне тое ж самае! — скардзіцца Ліса.— Праветрывала сваю нару, нарабіла скразнякоў, і вось шыю навярнуць не магу. Страляе то ў вуха, то ў патыліцу. Дай мне, Вушасцік, панасіць Цюхцю замест грэлкі ды палячыцца.

— З задавальненнем! — узрадаваўся заяц.— Насі на здароўе!

Зняў ён са сваёй шыі Цюхцю і, перад тым як перадаць Лісе, шапнуў чарапасе: «Ты ж не прагаварыся, што перамагла мяне».

Ліса пасадзіла сабе зверху на шыю чарапаху і жахнулася:

— Во-о-ой! Яна ж халодная! Такая грэлка яшчэ горш застудзіць мяне.

Вушасцік ледзь стрымліваў смех і патлумачыў:

— Не застудзіць, а загартуе! Трывай і прывыкай, Лісачка! Вось я трываў і цяпер здаровы, як самы наймаладзейшы. Ну, дык бывай!

Чарапаха хоць і марудна думае, але тут зразумела, што патрапіла ў даволі складанае становішча. Адна справа — бяскрыўдны Вушасцік, другая — хітрая Ліса, ад якой можна чакаць любых непрыемнасцей.

А тут, як на тое ліха, насустрач Воўк. Ідзе і на хаду гартае старонкі нейкай кніжкі. Пры гэтым напявае:

— Рэцэптаў густа, а ў роце пуста...

— Што гэты ты, кум, такое чытаеш? — замест вітання пацікавілася Ліса.

— А-а, гэта ты, рыжая! — спыніўся Воўк.— А ты хіба не чула, што ў нашым лесе праводзіцца акцыя «Лета з цікавай кніжкай»? Вось я прыдбаў сабе «Сто рэцэптаў смачнай ежы». Кніжка хоць і цікавая, але я праз яе толькі апетыт раздражніў ды рэзі ў жываце нажыў. У мяне нават песенька сама склалася: «Рэцэптаў густа, а ў роце пуста...» Пасля кожнай старонкі ледзь паспяваю слінкі палыкаць. Ты ж глянь, кума, сама на старонку 13. Які экзатычны рэцэпт: «Суп з чарапахі». Пальчыкі абсм... прабач, кіпцюры абсмокчаш. Каб да гэтай кніжкі ды яшчэ правіянт прыкладалі, а так — пустая папера...

Чарапаха ад пачутага яшчэ больш пахаладзела.

Ліса смачна аблізнулася:

— Кажаш, суп з чарапахі? Цікава...

— Казаць кажу,— уздыхнуў Воўк,— толькі дзе яе возьмеш, чарапаху? Яны ў нашым лесе, пэўна, не водзяцца.

Ліса крутнулася спінай да Ваўка:

— А ты зірні на маю шыю! Вось і правіянт да тваёй кніжкі.

Воўк ажно засвяціўся ад радасці і прыціснуў да грудзей «Сто рэцэптаў...».

— Ай ды карысная акцыя: «Лета з цікавай кніжкай»!

— Чытай, што там неабходна для гэтага экзатычнага супа? — загадала Ліса.

Чарапаха Цюхця ў думках развіталася з жыццём.

А Воўк пачаў чытаць:

— Для такога супа неабходна маладая чарапаха і абавязкова морква, кроп... — Воўк спыніў чытанне і пытліва зірнуў на Лісу.— Чарапаха ёсць, а дзе ж мы возьмем моркву і кроп? Тут яшчэ спецыі розныя.

Ліса схамянулася:

— У зайца! Мы з ім толькі хвіліну як разміналіся. Ён паскакаў дамоў. Гайда да яго!

Заяц, убачыўшы ля дзвярэй свайго дому Лісу і Воўка ды яшчэ з чарапахай, зразумеў, што Цюхця прагаварылася і яго, лепшага спрынтэра, зараз падымуць на смех. Але, даведаўшыся прычыну такога візіту, спачатку ўзрадаваўся, а потым панік — зрабілася шкада Цюхцю.

Вушасцік пачаў хітраваць:

— Вы што, першы раз у жыцці суп з чарапахі будзеце варыць?

— Першы... — разгублена, у адзін голас адказалі Ліса і Воўк.

— Эх вы, слабакі, Лісы і Ваўкі! — усклікнуў Вушасцік.— Ды я гэтых супоў за сваё жыццё гатаваў-перагатаваў, можа, сто! Тут патрэбен асобы нюх і густ! Даверце мне — і кіпцюрыкі абсмокчаце.

— Ну, Вушасцік, дзякуй! — лагодзіць Ліса.— Мала таго, што падараваў мне чарапаху, дык яшчэ і смакату прыгатуеш.

— Каб далёка не хадзіць,— раіць заяц,— усё зварганім тут, у мяне. Тым больш і печ ужо паліцца. Ты, Ліса, вырві вунь на градах моркву і кроп, а ты, Воўк, прынясі з паветкі яшчэ дроў, а мне даверце чарапаху. Я яе ўмомант выпатрашу.

Калі Ліса і Воўк разышліся па сваіх абавязках, Вушасцік схапіў Цюхцю і хуценька запіхнуў яе пад ложак. Сам жа наліў у кацялок вады, накідаў туды дубовай кары і паставіў у печ. Потым разрэзаў бурак і перапэцкаў лапы яго сокам, быццам крывёю.

Калі вярнуліся Ліса з морквай і кропам, а Воўк з дровамі, кацялок ужо булькатаў у печы.

— Ну, дзе чарапаха? — спыталася Ліса.

— Уварваецца, як міленькая! — бадзёра паказаў на кацялок Вушасцік. Потым дэманстратыўна ўзяў ручнік: — Пайду, адмыю ад крыві лапы.

Памыўшы лапы, заяц звярнуўся да Лісы і Ваўка:

— Папярэджваю! Паколькі гэта першы ў вашым жыцці суп з чарапахі, ён можа вам і не спадабацца. Самі разумееце — экзотыка! Я, напрыклад, можа, толькі на сорак дзевяты раз адчуў сапраўдны смак. А да гэтага суп тхнуў нейкай карой. Ды і мяса чарапахі настолькі разварваецца, быццам яго і не было.

Воук і Ліса нясмела пераглянуліся і сціпла прамаўчалі.

Калі ж Вушасцік дадаў у кацялок моркву і кроп, а потым разліў гатовы суп па талерках, Ліса і Воўк нерашуча сербанулі страву і кісла скрывіліся.

— Вой, што гэта?! Фі... Фу... На жаль, да экзотыкі мы яшчэ не дараслі. Бывай, Вушасцік! Еш сам свой сто першы суп з чарапахі...

Госці бразнулі дзвярамі і падаліся прэч.

Застаўшыся адзін, заяц выцягнуў з-пад ложка Цюхцю і насцярожана спытаў:

— Ты сапраўды не асаромела мяне перад Лісой і Ваўком за мой пройгрыш?

Цюхця цяпер ужо не задумваючыся, адразу і рашуча адказала:

— Ды не было і блізка твайго пройгрыша!

І яна падрабязна распавяла Вушасціку пра ўсё, з чаго пачаліся яе небяспечныя прыгоды.



# Несцерка і Насрэдзін

Ішоў калісьці па беларускай зямлі чалавек, які пешшу падарожнічаў, і які відавочна не быў беларусам. Насустрач яму патрапіў таксама аматар падарожнічаць пешшу, і які відавочна быў беларусам.

— Салам Алейкум! — прывітаўся беларус з незнаёмцам.

— Прывітанне, спадар зямляк! — адказаў той, хто знешне не выглядаў беларусам. Ён жа пацікавіўся: — А адкуль ты, зямляк, ведаеш маю мову і прывітаўся са мной на ёй?

— А я,— адказаў беларус,— паважаю нашых гасцей і іх мову, таму і вітаюся на іхняй мове.— У сваю чаргу ён таксама пацікавіўся: — А чаму ты, шаноўны госць, завеш мяне земляком і адкуль ведаеш беларускую мову?

Незнаёмец адказаў:

— Дык мы ж жывем на адной Матухне-зямлі, таму ўсе з'яўляемся землякамі. А беларускую мову я ведаю таму, што паважаю зямлю, па якой падарожнічаю, і людзей, якія на ёй жывуць.

— Дык, можа, разам будзем вандраваць далей? — прапанаваў беларус.

— З задавальненнем! — адказаў незнаёмец.— Але спачатку скажы, колькі вёрстаў будзе ад гэтага месца да Бухары?

— Беларус, не вагаючыся, адказаў:

— Роўна столькі, колькі ад Бухары да гэтага месца.

— Я ведаю, хто ты! — усклікнуў незнаёмец.

— Ну, і хто я?

— Ты — Несцерка!

— А як ты здагадаўся, што я Несцерка? — здзівіўся беларус.

— Дык толькі Несцерка здольны так дакладна і з такім гумарам адказаць.

— А скажы цяпер ты, шаноўны мой спадарожнік,— спытаўся Несцерка,— колькі грошай у маёй правай кішэні і колькі ў левай?

Незнаёмец не задумваючыся, адказаў:

— У тваёй правай кішэні ў сто разоў менш, чым у левай, а ў левай кішэні — роўна столькі, колькі ў тваёй правай кішэні.

— Як гэта? — здзівіўся Несцерка.

— А так, што і ў правай тваёй кішэні, і ў левай — пуста.

— Я ведаю хто ты! — усклікнуў Несцерка!

— Ну, і хто я?

— Ты — Хаджа Насрэдзін з Бухары!

— А як ты, шаноўны Несцерка, здагадаўся, што я Насрэдзін з Бухары?

— Толькі Насрэдзін здольны, гледзячы ў вочы, бачыць наскрозь чужыя кішэні! — усміхнуўся Несцерка.

— Ну, нарэшце мы сустрэліся і пазнаёміліся! — радасна ўсклікнулі вандроўнікі і абняліся.

— А давай мы з табой, шаноўны Несцерка,— прапанаваў Насрэдзін,— у гонар нашага сяброўства, часова памяняемся вопраткамі і нашымі імёнамі. Цікава, ці будуць распазнаваць нас людзі ў такім выглядзе?

І сябры зрабілі так, як задумалі.

Прыйшлі яны вечарам у адну вёску і пастукаліся ў першую хату.

— Пусціце, калі ласка, пераначаваць, людзі добрыя! — папрасіліся Несцерка і Насрэдзін.

У той хаце жылі дзед і баба, і была з імі пяцігадовая ўнучка Алёнка.

— А вы хто будзеце? — пацікавіліся гаспадары.

— Я — Насрэдзін з Бухары,— адказаў Несцерка.

— А я — Несцерка,— адказаў Насрэдзін.— Чулі пра такіх?

— Як не чуць! — адказалі старыя.

— А ты, Алёнка, чула? — спыталіся ў дзяўчынкі спадарожнікі.

— Чула! — адказала дзяўчо.

— І што ты пра нас чула? Што ведаеш пра нас? — дапытваліся сябры.

— Ведаю, што вы вельмі разумныя,— зноў адказала Алёнка.

— А ты сябе лічыш разумнай? — не адставалі ад яе пастаяльцы.

Тут баба не вытрывала і ўторкнула сваё:

— Яна ў нас не проста разумненькая, яе жартам клічуць Шэрлакам Холмсам.

— Ого! — здзівіліся сябры.— Як бы гэта праверыць?

Тым часам гаспадары рупіліся ля печы, бо ведалі, што людзі стаміліся і прагаладаліся з дарогі.

— Калі ласка, за стол! — запрасіла гасцей гаспадыня.— Нічога такога асаблівага няма, выбачайце, але табе, шаноўны Несрэдзін, як далёкаму і дарагому госцю — прапаную талерку плову,— і яна паставіла перад пераапранутым Несцеркам плоў.— А цябе, наш знакаміты Несцерка, пачастую тваёй любімай стравай — дранікамі,— і баба паставіла перад пераапранутым Насрэдзінам дранікі са смятанай.

Госці відавочна збянтэжыліся і, падцікаўшы, калі баба адвярнулася з гаворкай да дзеда, хуценька памяняліся талеркамі.

— Ах, які смачны плоў! — смакаваў ежу пераапрануты ў Несцерку Насрэдзін.

А Несцерка, пераапрануты ў Насрэдзіна, уплятаў за дзве шчакі дранікі і смачна прыцмокваў:

— У нас, у Бухары, такой смакаты няма! Ай ды малайцы беларусы!

Тут ужо не вытрывала Алёнка:

— Не, дзядзечка, вы не Несцерка! — звярнулася яна да Насрэдзіна.— А вы — не Насрэдзін, а Несцерка! — паказала яна пальчыкам на Несцерку.

— Што ты, унучачка! — спалохаліся старыя.— Ты ж паглядзі на іх вопратку!

— А вопратка тут ні пры чым! — настойвала на сваім Алёнка.— Яны, бабуля, употай ад цябе памяняліся талеркамі. Тут і дзіцяці зразумела, што Насрэдзін любіць плоў, а Несцерка — дранікі.

Сябры ажно папярхнуліся ад смеху:

— Ну і Шэрлак Холмс! Вось дык разумненькая дзяўчынка!

— А ў Беларусі ўсе такія! — з гонарам прамовіў Несцерка.

Насрэдзін развёў рукамі:

— Тут, у Беларусі нам не дапаможа пераапрананне. Калі пяцігадовая дзяўчынка вевыла нас на чыстую ваду, што ўжо казаць пра дарослых! Паехалі, шаноўны Несцерка, да нас, ва Узбекістан, магчыма, там нас не распазнаюць у пераапранутым выглядзе.

Прыехалі яны ў Бухару і, каб ураўняць шанцы, спыталіся на шумнай вуліцы ў пяцігадовай дзяўчынкі:

— Скажы нам, калі ласка, як прайсці да гарадскога базару?

— А вы, дзядзечкі, хто будзеце? — спыталася ўзбекскае дзяўчо.

— Я — Несцерка з Беларусі,— адказаў пераапрануты Насрэдзін.

— А я — Хаджа Насрэдзін,— адказаў пераапрануты Несцерка.

— А скажыце, шаноўны Несцерка,— звярнулася дзяўчынка да таго, хто назваўся ім,— дзе будзе цэнтр зямлі?

Насрэдзін разгубіўся, зачырванеўся і не ведаў, што адказаць — не дапамагло і адзенне Несцеркі.

— Вы, дзядзечка, не Несцерка! — засмяялася дзяўчынка.— Несцерка паказаў бы любое месца: вось тут цэнтр зямлі! Не верыце — праверце сваімі крокамі. А вы, дзядзечка, не Насрэдзін, бо наш Насрэдзін ведае не толькі, дзе гарадскі базар, а ўсю Бухару, як свае пяць пальцаў. Бывайце!

— Ай ды разумная дзяўчынка! — пляснуў у далоні Несцерка.

— А ва Узбекістане ўсе такія! — з гонарам заключыў Насрэдзін.

І пайшлі сябры вандраваць далей па свеце, здзіўляючыся ад убачанага і здзіўляючы ўсіх сваім розумам.



# З першым юбілеем!

У старыя-старадаўнія часы, у старым-старадаўнім лесе жыў сярод іншых звяроў, не стары, але таксама старадаўні Воўк. Драпежнік — ён і ёсць драпежнік ва ўсе часы. Таму і тады, калі адбыліся гэтыя падзеі, Воўк быў заўсёды гатовы з'есці каго-небудзь слабейшага за сябе. Але бываюць слабейшыя, затое разумнейшыя за Ваўка, таму іх не так ужо і проста зрабіць сваёй ежай.

Штосьці падобнае адбылося сонечнай раніцай у той старадаўні час, у тым старадаўнім лесе.

Заяц, у якога сёння быў дзень нараджэння, весела выкрочваў па лесе і гэтак жа весела спяваў. А лес, як вядома, цішыню любіць. Ды і ворагаў у Зайца не пералічыць — ледзь не за кожным дрэвам. Але ў такім узросце — а Зайцу споўніўся год, і гэты быў

першы яго юбілей,— дык вось, у такім узросце здаецца, што ўсе вакол твае сябры — і Сонейка свеціць для цябе, і птушачкі спяваюць толькі для цябе. Як тут утрымацца і самому не заспяваць?

А ў гэтым старым-старадаўнім лесе ў Зайца і сапраўды было шмат сяброў — і Вожыкі, і Барсучкі, і Птушачкі, і Жучкі, і ўсе Матылькі.

І ўсё ж самым лепшым Зайцавым сябрам быў — не паверыце хто! — быў Дзяцел. Здавалася б, што можа быць агульнага між Зайцам і Дзятлам, але існавала між імі нейкая параднёнасць душамі. А для сапраўднага сяброўства большага і не трэба.

Імя ў гэтага Дзятла было даволі дзіўнае. Дакладней, іх у яго было два. Для кагосьці ён быў Стома, хтосьці зваў яго Лаг. Вось і называлі яго то Стома, то Лаг.

Зайцу ж падабаліся абодва, таму ён называў свайго сябра Стома-то-Лаг.

Дык вось, ідзе сабе Зайчык па старадаўнім лесе і весела спявае. А паколькі лес любіць цішыню, а спевы прывабліваюць ворагаў, дык і Зайцава песня разбудзіла Ваўка, які прыгрэўся пад кустом на сонейку і нават пахрапваў.

Воўк прадзёр вочы і бачыць, што сняданак сам просіцца да яго ў рот. Ён раптоўна, як з-пад зямлі, вырас перад пяюном.

— Цудоўна спяваеш, Вушасцік! А добрая песня будзе для сняданка замест прыправы. Ды і табе весялей паміраць будзе. Спявай, спявай!

— Як гэта, паміраць? — не зразумеў Заяц.— У мяне сёння дзень нараджэння! У такі дзень, дзядзечка, не паміраюць, а нараджаюцца. Вось так!

— А тваё вось так, мы зробім не так! — вышчарыўся Воўк.— Я проста цябе з'ем разам з тваёй песенкай.

Заяц зазірнуў у раскрытую Воўчую пашчу і запярэчыў:

— Не, дзядзечка Воўк, вы мяне з'есці не зможаце, каб і моцна хацелі.

— Чаму гэта? — здзівіўся Воўк.

Заяц папрасіў:

— Раскрыйце, калі ласка, шырэй пашчу.

— Ну, раскрыў... І што?

— О-ё-ёечкі! — жахнуўся Заяц.— У вас жа карыес! Калі вы апошні раз чысцілі зубы. Гэта ж жах!

Воўк напалохаўся. Слова «карыес» ён чуў упершыню і яно сапраўды нагнала на яго і жаху, і страху, і панікі.

— Што такое карыес? — дрыготкім голасам спытаў шэры.— Першы раз чую. Няўжо штосьці больш страшнае, чым костка ў горле?

— Ды ваша костка — дробязь! — тлумачыць Заяц.— У вашай пашчы ўсе іклы: і жоўтыя, і хворыя, і кволыя, і — фу-у-у — смярдзючыя. Доўга вы, дзядзечка, не працягнеце...

Тут трэба ўдакладніць, што ў тыя старыя-старадаўнія часы ў Ваўка і ва ўсіх драпежнікаў было, як і ў людзей, ажно па трыццаць два зубы. Уяўляеце

пашчу Ваўка ці Мядзведзя, утырканую, як парканам, вострымі ікламі. Страх — лепш не бачыць такога... Кракадзіл пазайздросціў бы.

А між тым Воўк пакратаў лапай свае іклы і войкнуў:

— Сапраўды, баліць! А як жа ратавацца ад гэтага... як яго, карыеса?

Заяц тлумачыць:

— Вось я іду запрашаць на свой дзень нараджэння лепшага сябра Стома-то-Лага, ён сваёй дзюбай вылечвае наш лес, нават дубы ратуе ад усякай напасці, таму, думаю, што і вашым зубам дасць рады.

— Што ж, хадзем да твайго Стома-то-Лага,— без ахвоты згадзіўся Воўк.

Варона, падчас сустрэчы і размовы Воўка і Зайца, сядзела на дрэве і ўсё чула. Яна, як шалёная паляцела па лесе з крыкам: «Кар-р-рыес! Кар-р-рыес! Ратуйцеся!» Яна называла імя то Стома, то Лага, як выратаваццеля ад карыеса.

Усе драпежнікі, хто часцяком сілкаваўся мясам і ніколі не чысціў зубы, пацягнуліся з усіх куткоў старадаўняга лесу да дзятла. Хутка ля пакояў, дзе ён жыў, сабраліся ўсе драпежныя звяры.

Першым ад Стома-то-Лага выскачыў Воўк і кінуўся да крыніцы, каб у люстэрку вады абгледзець сваю пашчу. Ён спачатку жахліва завыў, бо замест трыццаці двух іклаў, у роце засталося па дзве іклы спераздзі і некалькі іклаў у куце роту. Астатнія,

падгнілыя, доктар Стома-то-Лаг выдаліў, каб уратаваць Ваўка ад поўнай бяззубасці.

Раптам Воўк адчуў палёгку ў роце і перастаў выць.

Тое ж самае адбылося і з астатнімі драпежнікамі, якіх, як Ваўка, вылечыў Дзяцел.

З тых старых-старадаўніх часоў і да нашых дзён, ва ўсіх драпежнікаў і нават у хатніх жывёл, такіх, як сабака ці кот, у роце засталіся толькі пярэднія і кутнія іклы.

Хто ведае, каб усе яны своечасова чысцілі зубы, магчыма, і сёння іх пашчы былі б узброеныя трыццаццю двума ікламі.

А вось Варона і ў нашы часы працягвае лётаць і папярэджваць тых, хто не чысціць зубы: « Кар-р-рыес! Кар-р-рыес!»

Не выключана, што ад таго старадаўняга Дзятла Стома-то-Лага і пайшла назва сучаснага зубнога доктара — стаматолаг.

Напрыканцы казкі нам толькі застаецца сказаць колішняму разумнаму і вясёламу Зайцу:

— З днём нараджэння! З першым юбілеем!



# Усё паўтараецца...

Ехаў дзед на санях з базару. Конік весела перабіраў нагамі, і ў дзеда настрой быў цудоўны. Ён прадаў усё, што планаваў і купіў усё, чаго жадаў.

Раптам бачыць ляжыць на снезе, упоперак дарогі нежывая Ліса. Дзед спыніў коніка і падышоў да нечаканай знаходкі. Падняў лісу за хвост, агледзеў яе з усіх бакоў і задаволена ўсміхнуўся:

— Добры каўнер будзе для маёй бабы. Але, Лісанька, калі ты прыкінулася мёртвай, то табе не пашанцавала, бо тую казку, у якой ты абдурыла дзеда, я чытаў. Ды і рыбы на маіх санях няма. Таму, для надзейнасці, я пакладу цябе ў мех і моцна завяжу.

Зрабіў гэта дзед і паклаў мех з Лісой на сані да другіх клункаў.

І зноў конік весела зацерабіў нагамі снег, а дзедаў цудоўны настрой зрабіўся яшчэ больш цудоўным.

А вось Лісе ў мяху было не да весялосці. Яна сапраўды прыкінулася мёртвай, каб абдурыць чарговага дзеда і паласавацца на дармавінку чужым дабром. Але гэты, просты з выгляду дзед, аказаўся начытаным дзедам.

Каб неяк уратавацца, пачала Ліса пакручвацца ў мяху ды пакочвацца. Краталася яна, краталася і нарэшце скінулася з саняў на дарогу. Стары гэтага не заўважыў, бо глядзеў увесь час уперад, кіруючы канём.

Сядзіць Ліса ў мяху пасярод дарогі і не ведае, як з гэтай пасткі высвабадзіцца. Зрабіла яна ў мяшку маленькую дзірачку і пазірае, а раптам хтосьці ёй дапаможа. Бачыць, ажно па дарозе ідзе Воўк. Узрадавалася палонная, але радасць яе была нядоўгай. Воўк быў без хваста. Гэта быў той самы Воўк, якому яна калісьці параіла лавіць рыбу на ўласны хвост, і які пазбавіўся ўмерзлага ў ваду хваста, ратуючы сваё жыццё. Не, гэты Воўк ёй не таварыш. Ён не толькі не выпусціць яе з меха, а чаго добрага, і прыдушыць ад злосці.

А тым часам Воўк наблізіўся да незвычайнай знаходкі і пачаў разглядаць ды абнюхваць яе. Раптам чуе з меха чыйсьці голас:

— Не хачу! Не жадаю быць царом звяроў! Не хачу быць Львом! Няхай ім будзе хтосьці другі, толькі не я!

Воўк прыслухаўся і пазнаў голас сваёй крыўдзіцельніцы Лісы.

— А-а, рыжая, папалася! — рассмяяўся ён.— І на цябе знайшлася ўправа!

Але Ліса працягвала паўтараць:

— Не хачу быць Львом! Не хачу быць царом звяроў! Няхай ім будзе хтосьці іншы, больш разумны, чым я!

— Дарэмна стараешся, Лісанька! — пахлопаў лапай па меху Воўк.— Справа ў тым, што пра Хаджы Насрэдзіна з Бухары я чытаў. І замест цябе лезці ў мех не збіраюся.

— А-а, гэта ты, Воўк? — пачала хітраваць Ліса.— Я і не ведала, што ты падышоў да меха. А каб ведала — прамаўчала б, бо сюды, на маё месца, патрэбен хтосьці з галавой.

— А я што, па-твойму, без галавы? — абурыўся Воўк.— Не дурнейшы за цябе!

— Каб быў не дурнейшы, сядзеў бы на маім месцы,— адказала Ліса. Ідзі сваёй дарогай, я дачакаюся больш разумнага, чым ты.

І Ліса зноў пачала прычытаць:

— Не хачу быць царом звяроў! Майго розуму недастаткова, каб быць Львом!

Воўк занепакоіўся.

— Пачакай, Ліса! Няўжо я ўжо самы дурны ў лесе? Што трэба для таго, каб быць царом звяроў? Ты растлумач талкова...

— Для пачатку той, хто пажадае быць царом звяроў, павінен заняць маё месца,— тлумачыць Ліса.

— А далей што? — захваляваўся Воўк.

Ліса запратэставала:

— Не, Воўк, не буду я табе нічога тлумачыць, бо ты не падыходзіш для такой высокай пасады. Ідзі куды ішоў.

Воўк не вытрываў і развязаў мех.

— Ну, вылазь!

Ліса зрабіла пакрыўджаны выгляд.

— Не вылезу! Ты карыстаешся тым, што дужэйшы за мяне. Гэта гвалтоўны захоп улады!

— Лісанька! — узмаліўся Воўк.— Дай сесці мне на тваё месца. Ну, хоць на хвілiначку.

— На адну хвілiначку можна,— злітавалася Ліса.

І яна вылезла з меха, куды хуценька заскочыў задаволены Воўк. Рыжая гэтак жа хуценька завязала мяшок і спытала:

— Ну як, добра табе там?

— Пакуль не блага, а што далей?

— А далей, Ваўчок,— засмяялася Ліса,— быў ты без мазгоў, застаўся без хваста, і памрэш ты апошнім дурнем. Бывай, Шэры!..

А ў гэты час дзед пад’ехаў да сваёй хаты, скуліўся з саняў і гукнуў бабу:

— Сустракай, старая! Гасцінцаў табе прывёз поўныя сані!

На ганак выйшла жонка.

— Усё прадаў?

— Усё!

— Усё купіў?

Дзед ажно засвяціўся.

— Усё! І нават больш! Дармавую Лісу табе на каўнер прывёз. Шыкоўны каўнер будзе табе, баба!

Старая насцярожылася.

— Якая Ліса? Які каўнер? Я чула, што адзін стары ў казцы ўжо прывозіў сваёй жонцы каўнер. З Лісой лепш не звязвацца. Гэта шэльма каго хочаш абдурыць.

— Мяне не абдурыць! — усміхнуўся дзед.— Я яе ў мех запіхнуў і моцна завязаў. Ад мяне не ўцячэ!

Якое ж было здзіўленне дзеда, калі меха з Лісой на санях не аказалася. Дзед павярнуў каля назад, каб ехаць шукаць прапажу, але баба выхапіла з яго рук лейцы:

— Ты ўжо даказаў, які ты не дурань. Чакай мяне і вучыся ў разумных, пакуль я жывая.

Зноў конік весела цярэбіць нагамі снег, а баба пільна ўглядаецца ўперад, на дарогу. А вунь і мех!

Старая пацірае рукі:

— Безгаловыя губляюць, а разумныя знаходзяць!

Воўк — зірк праз дзірачку і зразумеў, што прыйшоў яму канец. Прывязе яго баба ў вёску і, не забілі тады, калі ён хвастом лавіў рабу, здзяруць з яго скуру гэтым разам. Ён напруг мазгі, шукаючы ратавальнага выйсця, і ўспомніў, праз які падман трапіў у мех.

А баба падклыпала да меха і кухтальнула яго нагой:

— Ну што, Рыжая, збегчы хацела! Я табе не дзед, будзеш ты маім каўнерам. Будзеш!

Раптам чуе з меха голас:

— Не хачу быць уладычыцай марскою! Не жадаю, каб мне прыслужвала сама Залатая Рыбка! Марской уладычыцай павінна быць толькі жанчына!

Баба аслупянела. Голас быў не Лісы, а больш грубы.

— Хто ў мяшку? — спытала яна.

— У мяху я, Ліса. Я не хачу быць марской уладычыцай, каб на пасылках у мяне была сама Залатая Рыбка! Уладычыцай павінна быць разумная і талковая жанчына!

— Дык я талковая і ёсць! — з гонарам адказала баба.— Да таго ж я і разумная!

— А кіраваць усімі марамі і акіянамі здолееш? — пачулася з меха.— Ці, можа, лепш твайго дзеда на гэту пасаду прызначыць?

— Куды яму! — запратэставала баба.— Ён у мяне дурань дурнем. Яго Ліса і тая абмішурыла, як апошняга прасцячка.— Тут баба насцярожана спытала: — Дарэчы, гэта ты яго абдурыла?

— Я! Хто ж яшчэ? Ды развяжы ты мех, хопіць нам размаўляць усляпую.

Баба развязала мех і адскочыла.

— Дык якая ж ты Ліса? Ты ж Воўк!

— Не бабуся, я — Ліса! Гэта мяне, Лісу, дзед пасадзіў у мех і праз нейкі час я ператварылася ў Ваўка. А каб я пасядзела яшчэ даўжэй, ператварылася б у марскую ўладычыцу. А я не хачу ёй быць, я вады баюся.

— А, можа, я падыду? Мне — мора па калена! — зазірнула ў вочы Воўку баба.— Ці ж я ўжо такая дурная?

— Вось ты — самае тое! — запэўніў Воўк.— Лезь у мех і толькі потым не крыўдуй Залатую Рыбку.

— Гэта ўжо мая справа! — фанабэрыста адказала будучая «марская ўладычыца», уладкоўваючыся ў мяшку.

Воўк старанна завязаў мех і усцягнуў яго на сані. Потым развярнуў каня ў бок вёскі і тузануў за лейцы.

— Но-о! Вязі падарунак дзеду!

З меху пачулася:

— І ён будзе ў мяне на пасылках разам з Залатой Рабкай!

А Воўк пайшоў да лесу, каб знайсці Лісу і расказаць ёй, што яна памылілася, і што ён, аказваецца, не апошні дурань.

Конь жа, адчуўшы вольныя лейцы, не мінаў ніводнай гурбы ды ўхабіны. На адной ухабіне баба, седзячы скурчыўшыся ў мяху, не ўтрымалася і паспела толькі войкнуць, як скулілася на дарогу. Конь спудзіўся, лупянуў дадому і спыніўся толькі каля ганку.

Дзед падбег да саняў, а ў іх — ні бабы, ні Лісы. Зноў павярнуў ён каня і паехаў на пошукі жонкі і яе каўнера. Нарэшце ўбачыў на дарозе свой мех.

А праз дзірачку ў мяжу баба ўбачыла свайго дзеда. Паколькі, у адрозненні ад Лісы і Воўка, яна не прачытала за сваё жыццё ніводнай кніжкі, тым больш

ніводнай казкі, нічога ў сваё апраўданне прыдумаць не змагла. Яна ўжо зразумела, што Воўк яе абдурыў, таму вырашыла маўчаць — будзь што будзе.

Дзед падыйшоў да меха і здзівіўся:

— Мех мой, а вось Ліса штосьці вельмі вырасла,— ён паторкаў у мех пугаўём і спытаў: — Гэта ты, Ліса?

Баба танюсенькім галаском адказала:

— Я! Гэта я!

Дзед з цяжкасцю ўсцягнуў мех на сані і ледзь аддыхаўся.

— Дома разбяруся... Але куды ж старая падзелася? Каўнер знайшоўся, а гаспадыні няма. Пэўна, пайшла ў суседнюю вёску, і малоціць там языком з бабамі. Во чортава насенне!

Прыцмокнуў дзед на коніка і паехаў дахаты. Развязаў ля ганку мех і ледзь не самлеў:

— Што за цуд? Як ты трапіла ў мех? Я ж у яго Лісу запіхнуў!

Баба пачала выкручвацца:

— А я і ёсць Ліса. Я з Лісы ператварылася ў тваю жонку.

— Што ты мне дурыш галаву! — раззлаваўся дзед.— Як гэта можа Ліса стаць жанчынай? Тым больш, маёй жонкай?!

Баба стаяла на сваім:

— Ты ж падумай, як я магла ўлезці ў мех і сама сябе завязаць? Кажу табе, што ў мінулым жыцці я была Лісой, а цяпер зрабілася тваёй жонкай.

Дзед стаяў у роспачы.

— Дык што мне загадаеш жыць з Лісой?

— Не з Лісой, а цяпер ужо, з законнай жонкай.

Дзед жахнуўся:

— А калі прыйдзе тая, другая?.. Куды яе дзець?

— Не хвалюйся, не прыйдзе. Яна наадварот,ператварылася ў Лісу і цяпер бегае недзе па лесе.

— Так ёй і трэба! — усклікнуў дзед.— Запілавала яна мяне... Спадзяюся, што характар у цябе больш лагодны.

Старая моўчкі ўсміхнулася. Дзед спахапіўся:

Ты ж толькі нікому не кажы, што ты Ліса — засмяюць мяне людзі, асабліва мужыкі.

— Жыві, як жыў,— супакоіла дзеда «новая жонка»,— гэта застанецца між намі.

Вечарам, парабіўшы ўсю работу, дзед уладкаваўся ля цёплай печы, узяў у рукі кніжку казак і прапанаваў бабе:

— Хочаш, я табе прачытаю вось гэту цікавую казачку пра Залатую Рыбку?

Баба падскочыла ледзь не да столі.

— Не хачу быць уладычыцай марскою... — і прыкусіла язык.

Дзед нічога не зразумеў, адклаў убок кніжку.

— Ну, не хочаш, дык не хочаш...

Баба падумала: «Лепш я буду ў вачах свайго мужа Лісой, чым апошняй дурніцай».



# Дудачка

Рытм горада — няспынны, руплівы, бяссонны. Здаецца, што ўсе кудысьці спяшаюцца, нервуюцца, спазняюцца. Але па-іншаму горад жыць не можа. Усё і ўсе падпарадкоўваюцца, гадамі адладжанаму жыццю сучаснага горада. Шматлікія машыны, аўтобусы, метро, толькі падкрэсліваюць гэты імклівы рытм.

Анатоль, вучань другога класа, таксама штодня спяшаўся — то ў школу, то на заняткі ў кружок пачынаючых вынаходнікаў, то ў кіно, не задумваючыся, што і сам з'яўляецца маленькай часцінкай вялікага арганізму пад назвай — горад.

Бадай, упершыню ён адчуў вакол сябе гэты напружаны рытм жыцця, убачыўшы на шматлюдным тратуары старэнькую бабульку з кійком у руцэ. Яна

відавочна вылучалася сваёй вымушанай няспешнасцю з гэтай чалавеча-тэхнічнай мешаніны.

Анатоль спыніўся ля светлафора, каб перайсці на другі бок вуліцы, і заўважыў, што і бабуля плануе таксама перайсці дарогу. Але, пакуль яна збіралася ступіць на праезджую частку, зялёнае святло светлафора мянялася на чырвоны колер, папярэджваючы пешаходаў пра тое, што машыны пачынаюць рух.

І хоць Анатоль мог спазніцца ў школу, яму стала шкада бабулю, ён падыйшоў да яе і ветліва прапанаваў:

— Давайце я вам дапамагу. Трымайцеся за маю руку і па-магчымасці, не адставайце ад мяне. Вось так... Вось і добра... Вось мы і перайшлі.

Хлопчык, пераводзячы старую праз вуліцу, крутнуўся ў бок школы і перайшоў на подбег.

— Пачакай, галубок! — пачуў Анатоль за сваёй спінай.— Пастой, залаценькі!

Ён падумаў, што патрэбна яшчэ якая-небудзь дапамога старому чалавеку, таму спыніўся.

— Вось, галубок, табе за тваё добрае сэрца падарунак. Ён навучыць цябе шмат чаму, не горш, чым школа,— і старая працягнула хлопчыку зусім просценькую з выгляду дудачку.

Анатоль, не маючы часу разглядаць свой падарунак, запіхнуў дудачку ў партфель, кінуў на хаду кароткае: «Дзякуй!», і цяпер ужо не азіраючыся, пабег у школу.

Прайшло некалькі дзён напоўненых для хлопчыка рытмам яго клопатаў і забаў. Ён забыўся на тую бабулю: падумаеш, дапамог старому чалавеку перайсці вуліцу. Што тут асаблівага?

Але аднойчы, дастаючы з партфеля падручнік, выцягнуў і дудачку, якая ўпала на падлогу. Гэта адбылося ў класе на перапынку між урокамі. Зазваніў званок і ўсе дружна і шумна ўселіся на свае месцы. Анатоль падняў дудачку і пачаў разглядаць яе — нічога асаблівага. Адна скразная дзірачка і ўсё... Прыкладна з такіх трубачак вучні «страляюць» на ўроках адзін у аднаго. Паражоўваюць кавалачак паперы, запіхваюць мокры камячок у трубачку, прыцэльваюцца і — моцна дзьмуць. Камячок вылятае, як куля, і шлёпаецца некаму ў патыліцу ці вуха. Весела!

Анатоль хацеў выпрабаваць сваю новую «зброю» і ўжо адарваў кавалачак паперы, каб пажаваць, потым перадумаў, і проста ціхенька падзьмуў у дудачку.

Якое ж было яго здзіўленне, калі перад ім, на праходзе між партамі, з'явіўся незнаёмец, апрануты ва ўсё белае.

— Што загадаеш, Анатоль? — спытаўся ён.

Хлопчык разгубіўся, нават напалохаўся. Незнаёмец заўважыў гэта і супакоіў яго:

— Не хвалюйся, мяне, акрамя цябе, ніхто не бачыць і не чуе. Дык для чаго ты выклікаў мяне? Ведай, што кожнае тваё жаданне будзе выканана адразу.

— Я вас не выклікаў,— ледзь выціснуў з сябе Анатоль.— Тут нейкая памылка.

— Як гэта не выклікаў! — запярэчыў незнаёмец.— Ты ж дзьмуў у дудачку, вось я і тут.

Хлопчык разгублена маўчаў, не ведаючы, што сказаць.

— Ну, калі нічога не трэба, тады да новай сустрэчы,— і незнаёмец знік.

Хлопчык апрытоміў і прашаптаў:

— Дык вось якая гэта дудачка! Цудоўна! Любое маё жаданне будзе выканана, паглядзім...

— Што ты там шэпчаш? — звярнулася да Анатоля настаўніца.

— Я... я паўтараю хатняе заданне, Вольга Сяргееўна,— схлусіў хлопчык.

— Калі так,— сказала настаўніца,— ідзі да дошкі і не шэптам, а для ўсяго класа раскажы, што ты вывучыў.

Анатоль быў пад моцным уражаннем ад дудачкі і незнаёмца, таму блытаўся, запінаўся і, «схапіў» двойку.

Пасля ўрокаў ён схаваўся ад чужых вачэй і лёгенька падзьмуў у дудачку.

— Што загадаеш, Анатоль? — як з-пад зямлі з'явіўся незнаёмец у белым.

Анатоль нерашуча сказаў:

— Я двойку атрымаў сёння. А нельга яе...

— Зразумеў,— адказаў незнаёмец.— Якія ў вас самыя высокія адзнакі?

— Пяцёркі...

— Будзе выканана,— адрапартаваў незнаёмец.— Што-небудзь яшчэ?

— Пакуль не,— прамармытаў Анатоль.

— Не дык не. Бывай! — і незнаёмец знік.

На наступны дзень настаўніца абрынулася на Анатоля:

— Я ўчора ў журнал ставіла табе двойку! Дзе яна? Замест яе стаяць дзесяць пяцёрак! Калі ты паспеў перапravіць сваю двойку на пяцёркі? Гэта ж трэба, да чаго дадумаўся. Заўтра, каб з'явіўся ў школу з бацькам.

— Я нічога не перапраўляю, Вольга Сяргееўна! — слёзна запэўніваў настаўніцу хлопчык.— Чэснае слова!

— Не, двойка сама перарабілася аж у дзесяць пяцёрак,— іранічна адказала настаўніца.

Пасля ўрокаў Анатоль, цяпер ужо з усяе сілы падзьмуў у дудачку. Перад ім зноў як з-пад зямлі з'явіўся незнаёмец, але цяпер увесь у чорным.

— Што загадаеш, Анатоль?

Анатоль разгублена спытаў:

— А вы хто? Я выклікаў не вас, а таго, другога, у белай вопратцы.

— А-а, ты падзьмуў у дудачку з другога канца, вось я і тут.

Анатоль пакруціў у руках дудачку.

— А я і не ведаў гэтага... А якая розніца між вамі? І ён, і вы пытаецеся адно і тое ж: «Што загадаеш, Анатоль?»

— А розніца ў тым, што той, белы, выконвае толькі добрыя пажаданні, я ж раблю толькі благія справы. Напрыклад, я магу пакалаціць тваіх крыўдзіцеляў ці магу што-небудзь украсці для цябе. А хочаш, я ўтвару цэлы патоп у каго ў кватэры?

— Не! — жахнуўся хлопчык.— Нічога такога не трэба!

— А чаму ты такі засмучаны? — спытаў незнаёмец у чорным.— Можа, усё ж каго аддубасіць трэба? Я гэта хутка.

Анатоль уздыхнуў:

— Не, нікога дубасіць не трэба. А засмучаны я ад таго, што ў класным журнале мая двойка ператварылася аж у дзесяць пяцёрак. А я тут ні пры чым. Я таго журнала ў вочы не бачыў, ды і бачыць не жадаю.

— Ха! Хіба ж гэта праблема? — усклікнуў незнаёмец.— Я табе дапамагу. Бывай! — і знік.

Анатоль уважліва агледзеў дудачку, каб запомніць, дзе ў яе «белы» канец, а дзе «чорны». Ён вырашыў, што будзе выклікаць толькі белага незнаёмца.

А пакуль, хлопчык пайшоў дадому і сумна абвясціў бацькам, што іх выклікаюць у школу.

Назаўтра Анатоль з'явіўся ў клас разам з бацькам.

Настаўніца не знаходзіла сабе месца ад злосці. Яна паказвала Анатолеву бацьку шматкі ад класнага журнала, раскіданыя па падлозе і торкала пальцам у хлопчыка.

— Вось ён спачатку пераправіў у журнале сваю двойку на пяцёркі, а пасля маёй заўвагі, зусім разадраў журнал на дробныя кавалачкі.

— Я не чапаў журнал, Вольга Сяргееўна! Гэта не я! — апраўдваўся Анатоль. Ён успомніў незнаёмца ў чорнай вопратцы і здагадаўся, што гэта яго «дапамога».

Настаўніца агледзела клас.

— Чулі? Ён ведае, хто гэта зрабіў! На іншых спіхнуць хоча!

З задняй парты пачуўся голас Вадзіка Стукалава, усім вядомага паклёпніка:

— Журнал парваў ён, Вольга Сяргееўна. Я гэта дакладна ведаю.

— Ну вось,— падхапіла настаўніца,— і вучні гэта пацвярджаюць. Сорамна, Анатоль.

Пасля ўрокаў раззлаваны хлопчык рашуча падзьмуў у «чорны» канец дудачкі.

— Што загадаеш, Анатоль? —бадзёра спытаў незнаёмец у чорным.

— Хачу, каб у кватэры Вадзіка Стукалава адбыўся сапраўдны патоп! Каб усе вадаправодныя трубы пацяклі! Каб сам Вадзік плаваў там, як рыбіна! Можна гэта зрабіць?

— Яшчэ як можна! — весела адказаў «чорны».— Малайчына, Анатоль! Вось гэта сапраўднае жаданне! А рабіць людзям усялякія гадасці — мая любімая справа. Выконваю! — і знік.

— Ну, трымайся, Вадзік-гадзік! — трыумфаваў Анатоль. Паплаваеш ты ў мяне!

Якое ж было яго здзіўленне, калі, прыйшоўшы дадому, ён убачыў мітусню сваіх бацькоў з вёдрамі, тазікамі і іншым посудам, а са столі і па сценах вадаспадам цякла вада.

— Што здарылася? — крыкнуў Анатоль.

— Патоп, сынок! У Стукалавых, якія жывуць над намі, прарвала ўсе вадаправодныя трубы. У іх кватэры, як у акварыўме, вось, ліецца і да нас. Там, у іх, нават нейкая вялізная рыбіна плавае і гавора чалавечым голасам! Жах!

Анатоль выскачыў у пад'езд і падзьмуў у «белы» канец дудачкі.

— Што загадаеш, Анатоль? — спытаўся «белы» незнаёмец.

— Хуценька зрабіце, каб вада перастала цячы і ў Стукалавых, і ў нас! І яшчэ — няхай тая вялікая рыбіна ў Стукалавых зноў ператворыцца ў Вадзіка.

— Выконваю! — адказаў незнаёмец і знік.

Раптам перад Анатолем з'явіўся «чорны» незнаёмец.

— Я вас не выклікаў! Я не дзьмуў у дудачку з другога боку,— здзівіўся хлопчык.

Незнаёмец павінаваціўся:

— Прабач, Анатоль, я сам, па сваёй ініцыятыве... Я чуў тваю размову з «белым» дабрадзеем і не вытрываў. А, можа, усё ж пакінем вялікую рыбіну? Гэта ж так незвычайна: рыбіна, а размаўляе. Ну як?



— Вы што! — раззлаваўся Анатоль.— Гэта ж Вадзік, мой аднакласнік!

— Ён жа паклёпнік, даносчык, твой нядобразычлівец,— удакладніў «чорны». Магу зрабіць так, што ён будзе маўчаць, як сапраўдная рыба.

— Не! Хай будзе ў чалавечым абліччы. Ён выправіцца.

Незнаёмец у чорны не сунімаўся:

— Тады давай я ўтвару ў Стукалавых грандыёзны пажар, а твайго Вадзіка зраблю вогнетушыцелем. Во будзе здорава!

— Не трэба! Нічога не трэба! — закрычаў Анатоль.— Без маёй просьбы нічога не рабіце! Ні-чо-га!

— Эх, Анатоль... — сумна выдыхнуў «чорны».— Ты зусім не даеш мне работы. Бывай,— і знік.

Хлопчык забег у сваю кватэру і з палёгкай уздыхнуў: вада са столі і па сценах больш не цякла.

Ён пабег да Стукалавых, дзе адбыўся патоп, і ледзь не наступіў на Вадзіка, які ляжаў на падлозе без сіл і, як рыбіна, хапаў ротам паветра. Ён быў увесь мокры і ад яго ішоў моцны пах рыбы.

— Во-ё-ёй... Ну і наплаваўся я,— стагнаў Вадзік.

— Так табе і трэба, мокрая маляўка,— выпаліў Анатоль.— сушы свае жабры.



Хлопчык схамянуўся, быццам штосьці ўспомніў, крутнуўся і выбег з кватэры Стукалавых. За дзвярыма Анатоль дастаў з кішэні дудачку і падзьмуў у адзін і ў другі канец. Адразу з'явіліся два незнаёмцы і амаль у адзін голас прамовілі:

— Што загадаеш, Анатоль?

Анатоль, не вагаючыся і рашуча сказаў:

— Вось што, неспадзяваныя мае памочнікі! Вы абяцалі выконваць кожнае маё пажаданне.

— Абяцалі і выканаем,— зноў у адзін голас адказалі незнаёмцы.

— Дык вось, а я не толькі жадаю, а нават загадваю вам,— цвёрдым голас працягваў хлопчык, я загадваю вам, колькі б я ні дзьмуў у гэту дудачку, ніколі не з'яўляцца перада мной. Вы мне больш не патрэбныя! Бывайце!

— Не дык не... — адказалі незнаёмцы і зніклі.

Анатоль для праверкі падзьмуў у адзін канец дудачкі, у другі, але ніхто не з'явіўся.

Тут хлопчык успомніў, што спазняецца ў кружок пачынаючых вынаходнікаў. Па дарозе ў Палац піянераў Анатоль спыніўся ля святлафору, чакаючы зялёнае святло. Побач стаяла і тая бабуля з кійком у руцэ.

— А-а, гэта ты, саколік,— сіплым голасам сказала бабуля.— Дапаможаш мне перайсці праз вуліцу?

— Ой, як добра, што я вас сустрэў! — усклікнуў хлопчык.— Вось, забярыце сваю дудачку, ад яе адны

непрыемнасці... А яшчэ казалі, што яна мяне навучыць шмат чаму...

— Няўжо нічаму не навучыла? — здзівілася старая, беручы ў Анатоля дудачку.

— Давайце руку, бабуля, нам зялёнае святло,— павярнуўся да бабулі Анатоль, але яе побач не было.

Анатоль перабег вуліцу, яшчэ раз азірнуўся, але сярод пешаходаў бабулі не заўважыў.

Ён пайшоў да Палацу піянераў, у вушах гучала пытанне незнаёмкі: «Няўжо нічаму не навучыла дудачка?»

Хлопчык спыніўся і задумаўся: «А сапраўды, што мне дала гэта дудачка і што магла даць? Чаму яна мяне навучыла? Не ведаю... Магчыма, падказала мне, што пры жаданні і намаганнях, чалавек можа абыйсціся ў жыцці і без чароўнай дудачкі...»

А ўголас Анатоль весела ўсклікнуў:

— Я дакажу, што гэта так!





# Літаргічна-камічны сон

Вечарэла. Баба рупілася ля стала, замешвала цеста. Ля бабуліных ног завіхаўся Каток, а пад рукамі, не адставала ад Катка, падкручвалася ды торкала пальчыкам у цеста, унуча Ганначка, якую бацькі прывезлі да бабулі з горада на лета. Ганначку перапаўняла цікавасць, а язык ажно свярбеў ад пытанняў:

— А калі, бабулечка, будзе пірог? А з чым ён будзе? А ці не мала яечак ты ўбіла ў цеста? А чаму так мала цеста ты паклала ў дзежачку?

Баба ледзь паспявала адказваць на адно пытанне, як з дзяўчынкавага языка ляцелі да бабіных вушэй новае.

— А цеста я паклала ў дзежачку самы раз,— тлумачыла ўнучцы баба.— За ноч яно падрасце і яму

нават цесна зробіцца. Вось ранічкай, унучачка, пабачыш — яно і збегчы будзе гатова.

— А я яго даганю! Ад мяне не ўцячэ, я хутка бегаю! — супакойвала бабу ўнучка.

— Ну, то добра! — усміхалася старая, накрываючы чыстым ручнікам дзежачку.— Будзем спаць, Ганначка.

Раніцай усе прачнуліся: і дзед, і ўнучка, і Каток, і Цява, і Пеўнік. Не прачыналася толькі старая, якая звычайна ўставала раней за ўсіх. Яна ляжала роўненька на спіне і, здавалася, не дыхала.

Дзед напалохаўся. Ён пачаў штурхаць бабу, але яна ляжала, як не жывая. Стары памацаў яе рукі, лоб і з палёгкай выдыхнуў:

— Цёплая, дзякуй Богу! Здаецца, жывая...

Бабу будзіла скрозь слёзы і Ганначка:

— Бабулечка, прачынайся, не памірай! Я цябе вельмі люблю!

Але старая працягвала нерухома ляжаць.

Бабу будзіў і Каток. Ён скокнуў ёй на грудзі і ласкава замурлыкаў:

— Мур-р, мур-р. Мяў-мяў. Я даўно не сплю і ты ўставай.

Але старая нават не варухнулася.

У хату заскочыў Цява, стаў перад гаспадыняй на заднія лапы і жаласліва заскуголіў:

— Ця-яў, ця-яў, я таксама даўно ўстаў. Прачынайся і ты, гаспадыня.

Але старая і вухам не павяла.

На адчыненае акно ўскочыў Пеўнік і закукарэкаў:

— Ку-ка-рэ-ку! Я і Сонейка разбудзіў, я і ранічку прыгукаў, я і курак расштурхаў, і твой сон, гаспадыня, праганю! Ку-ка-рэ-ку!

Баба зноў не кранулася.

Выклікалі доктара. Той уважліва агледзеў, абслухаў, абмацаў старую і заключыў:

— У вашай бабы сон, але не вечны — трагічны, а часовы — літаргічны.

— І колькі ж яна будзе спаць? — насцярожыўся дзед.

— А спаць яна можа і месяц, і год, і два...

Стары з жахам схапіўся за галаву:

— А што ж рабіць, доктар?

Доктар развёў рукамі:

— А тут нічога не папішаш. Відаць, шмат яна недаспала за жыццё, вось цяпер і кампенсуе свой недасып.

Дзед з надзеяй зазірнуў доктару ў вочы:

— А, можа, ёсць які сродак у медыцыне?..

Доктар пачухаў патыліцу.

— У медыцыне нічога такога няма. А вось я чытаў некалі казку, у якой прынц ці царэвіч пацалункам расчараваў сваю каханую ад вечнага літаргічнага сну. А што, калі б вам паспрабаваць пацалаваць у вусны сваю жонку?

Дзед ажно адскочыў ад старой, як ад агню:

— Ні за што! Яна мяне ўчора абазвала недарэкам, а я яе сёння цалаваць павінен! Не, не і не!

Да дзеда падыйшла ўнучка Ганначка.

— Дзядулечка! Пацалуй бабулю, расчаруй яе.

Да дзедавых ног пачаў лашчыцца Каток. Дзеду на грудзі паклаў пярэднія лапы Цява і закалаўроціў хвастом. Пеўнік на акне затрос сваім залатым грэбнем: «Ко-ко-ко! Рас-ча-ру-уй!»

Дзед расчуліўся, выцер далоней вусны і пацалаваў старую жонку, як той прынц ці царэвіч. Зной выцер вусны і прыцмокнуў:

— Дык даволі салодка атрымалася!

Але і гэта не дапамагло. Старая не расплюшчыла вочы і не варухнулася.

Усіх агарнула тужлівая безвыходнасць. Што ж рабіць? Няўжо чакаць месяц ці год, ці два?

Тут Ганначка выпадкова зірнула на дзежачку, з якой выпірала цеста, рыхтуючыся збегчы.

— Цеста ўцякае! — крыкнула яна.— Трымайце бабуліна цеста!

Баба як падскочыла, як кінулася да дзежачкі.

— Вой, як добра падышло маё цеста! Дзед, хутчэй распальвай печ, самая пара пірог пячы!

Усе ўзрадаваліся, узрушыліся, замітусіліся: і Ганначка, і Каток,і Цява, і Пеўнік, і доктар.

Адзін толькі дзед абураўся:

— Твой летаргічна-камічны сон усіх нас напалохаў...

А баба даставала з ражачкі на пасыпаны мукой стол цеста, і ажно свяцілася:

— Затое мне прыснілася, што мяне пацалаваў у вусны сам царэціч!

Тут ужо і дзед не стрымаўся і разам з усімі ад душы рассмяяўся.





# Ратавальная мана

Лісе не шанцавала. Ноч прабегала ўпустую, надыйшла раніца, а ў роце — ні крошкі.

Убачыла мышку, кінулася за ёй, а тая ў нару. Капала Ліса, капала, а ў норкі, відаць, быў запасны выхад, і Ліса засталася ні з чым. Напаткала Вожыка — цап яго галоднай пашчай, а акрамя іголак у нос, нічога не атрымала. Спалохала Курапатку, а тая — ф-р-р-р на высокую галінку — паспрабуй яе дастаць.

Нарэшце — радасць! У густым ельніку, нос у нос сутыкнулася з Зайцам. Яму, бедалагу, акрамя Лісіных зубоў, няма куды дзявацца.

— А-а, вось кім я паснедаю! — смачна аблізнулася Ліса.— Развітвайся з жыццём, Касавокі!

— А я з ім развітаўся яшчэ да сустрэчы з табой, Лісанька,— хітруе Заяц.— Я і рады быў бы быць тваім сняданкам, але, прабач, спяшаюся.

— І куды мой сняданак так спяшаецца? — са здзекам спыталася рыжая.

— Бягу да Ваўка, Лісанька. Я ўчора паабяцаў яму, што сёння раніцай буду на яго стале свежанькі і цёпленькі.

— Во-ой, якая неспадзяванка! — расчаравана пачухала за вухам Ліса.— Што ж, упоперак дарогі Ваўку я не стану, імчы да яго, калі ўжо паміж вамі такая дамоўленасць.

Заяц, не доўга думаючы, плетануў прэч, смеючыся на бягу ад таго, што так лёгка абдурыў Лісу, якая лічылася самай хітрай у лесе.

І так Заяц разагнаўся, што не заўважыў, як з наскоку сутыкнуўся лоб у лоб з Ваўком. Воўк пачухаў лабаціну і прыціснуў лапай да зямлі Зайца.

— Ты што? — рыкнуў ён.— Вочы павылазілі? За гэта я цябе з'ем! Дарэчы, не толькі за гэта, а, хутчэй за тое, што сёння яшчэ не снедаў. Развітвайся з жыццём, Касавокі!

— О-ёй-ёй... — задрыжаў Заяц.— Ды я, Ваўчок, і рады быў бы быць тваім сняданкам, але ўчора паабяцаў Мядзведзю, што сёння раніцай буду на яго стале свежанькі і цёпленькі... і не пакамечаны. Так што адпусці мяне.

— А-а, дык вось чаму ты так пёр, як шалёны! — адпусціў Зайца Воўк.

— А ты думаў што! — абтросся Заяц.— З Мядзведзем благія жарты!

— Ведаю, ведаю,— пагадзіўся Воўк.— Ну, тады спяшайся, і прывітанне ад мяне гаспадару леса...

Узрадаваны Заяц яшчэ хутчэй плетануў далей ад небяспечных сустрэч. І да таго ён разагнаўся, што з усяго маху ўлупіўся лбом у нешта вялікае і мяккае. Заяц, як мячык, адскочыў ад гэтага вялікага і мяккага, і з жахам заўважыў, што з перапуду наскочыў на Мядзведзя, які ласаваўся спелай малінай. Мядзведзь ад нечаканасці ажно папярхнуўся ягадамі.

— Ты што гэта, Касавокі, тараніш мяне падчас майго сняданка,— зароў Мядзведзь.

— Я... я... разумееце... — замармытаў перапалоханы Заяц.

— А што тут разумець! — адкашляўся клышаногі.— Тут і разумець няма чаго: ягады набілі мне аскоміну, а мяса я не еў даўно. Вось ты і ўпрыгожыш маё меню.

— Я... я... разумееце... — спахапіўся Заяц.— Я і рады быў бы быць упрыгожаннем вашага меню, але ўчора паабяцаў Слану, што сёння раніцай прымчу да яго сняданкавага стала свежанькім і цёпленькім. Вось чаму я так безаглядна пёр, шаноўны Міхайла, прабачце, не ведаю, як вас па бацьку.

— Ты што, Касавокі, дурня з мяне робіш? — абурыўся Мядзведзь.— Хіба ж у нашых лясах сланы водзяцца?

— Яшчэ як водзяцца! — запэўніў Заяц.— На носе глабальнае пацяпленне, вось да нас і перасяляюцца сланы.

— Гм-м... — пачухаў патыліцу Мядзведзь.— Пра глабальнае пацяпленне я нешта чуў. Што ж, не варта з-за нейкага там касавокага псаваць будучыя адносіны са Сланом. Таму спяшайся, і маё прывітанне афрыканцу.

А сам падумаў: «Гэта ж трэба, сланы харчуюцца зайцамі! Дзе ж іх набрацца?»

Заяц не верыў сваім доўгім вушам, наколькі лёгка ўдалося падмануць даверлівага Мядзведзя.

Ён імчаў далей па лесе што ёсць заячай моцы, задаволены сваім розумам. Радасць асляпіла яго касыя вочы, і ён са страшэннай сіла шмякнуўся лбом у сланову нагу. Яму падалося, што не толькі іскры, але і полымя шуганула з вачэй. Ён зваліўся, як падкошаны і, губляючы прытомнасць, паспеў падумаць: «Толькі сланоў нам у лесе і не хапала...»

Доўга ляжаў Заяц на імху. Калі ж апрытоміў, агледзеўся і зразумеў, што бабахнуўся лбом не ў нагу слана, а ў звычайны беларускі дуб. Памацаў ён вялізную шышку на сваім лбе і весела заключыў:

— Шышка — дробязь! Затое я свежанькі і цёпленькі нікому на сняданак не патрапіў!



# Конкурс

У лістападзе, напярэдадні зімы, сумна зрабілася ў лесе. Дрэвы скінулі сваю зялёную вопратку, не стала ягад і грыбоў — холадна і галадна. Многія птушкі адляцелі ў вырай, а тым, якія засталіся зімаваць, было не да спеваў і весялосці.

Адны толькі Сарокі неўгамонна стрыкаталі, паказваючы ўсім, што і восенню можна жыць весела, і з надыходам зімы жыццё не спыніцца.

Аднойчы яны вырашылі ўчыніць жарт, каб расштурхаць лясных жыхароў і прыўнесці жывінку ў сумнае перадзім'е. Разляцеліся яны па ўсім лесе, абвяшчаючы: «Конкурс! Конкурс! Запрашаем усіх да непахіснага Дуба ля блакітнага возера на конкурс!»

Зляцеліся да Дуба птушкі, збегліся звяры, спаўзліся вужакі і яшчаркі, прыскакалі жабы і — на-

ват жучкі і павучкі. Запанавала вакол Дуба ўзрушанасць і ўсхваляванне.

Калі ўсе, хто пачуў Сарочы заклік, былі ў зборы, Мядзведзь звярнуўся да стрыкатунняў:

— Ну, які конкурс бы абвясцілі? Што надумалі?

Сарокі разгубіліся. Пажартаваць яны пажартавалі, але не спадзяваліся, што так дружна і сур'ёзна адгукнуцца на іх заклік лясныя жыхары.

Усталявалася доўгая паўза. Сарокі пераглядаліся, перашэптваліся, але нічога ім у галаву не прыходзіла.

Узрушанасць улеглася і зноў зрабілася сумна ўсім. Мядзведзь нават пазяхнуў ва ўвесь рот.

Убачыўшы Мядзведзева пазяханне, адна з сарок прапанавала:

— А конкурс будзе такі: хто каго перазяхае! Не! Не! Лепш — хто каго пераспіць!

Усе здзіўлена загаманілі, зноў усхваляваліся, заспрачаліся. Як заўсёды ў такіх выпадках знайшліся тыя, хто быў «за» і тыя, хто «супраць».

— Я супраць! — крычала Сойка.— Я ўвогуле не люблю доўга спаць. Я спадзявалася, што будзе конкурс прыгажосці,— і яна дэманстратыўна расправіла свае крылы і пакруцілася, паказваючы ўсім сваё рознакаляровае пер'е.

Сінічка, дык тая і паўхвілінкі не магла высядзець на адным месцы. Яна падтрымала Сойку, бо мела шыкоўны жоўценькі сарафанчык і чорную шапачку.

— Я таксама не люблю спаць! Лепш няхай бы быў конкурс спрытнасці і руплівасці!

Снягір выставіў уперад сваю чырвоную грудку і ўсклікнуў:

— Я абодвума крыламі і лапкамі за конкурс прыгажосці!

— Ціха! — раўнуў Мядзведзь.— Што ўсё птушкі ды птушкі выказваюцца? Што думаеш, Дзік?

— А я нічога не думаю,— рохнуў Дзік і пачаў падкопваць карэнне ў Дуба, шукаючы жалуды.

— А ты, Ліса, што скажаш?

— А можна я пасля вас выкажуся, шаноўны Міхайла Міхайлавіч? — зазірнула Мядзведзю ў вочы Ліса.

— Другога я і не спадзяваўся пачуць ад цябе, Рыжая,— усміхнуўся Мядзведзь.

— А ты, шэры, што думаеш? — звярнуўся ён да Воўка.

Воўк пабаяўся не дагадзіць Мядзведзю, таму схітрыў:

— Я, калі дазволіце, як і Ліса... Вось Заяц, ён у нас разумны, спытайцеся, Міхайла Міхайлавіч, у яго.

— А ў мяне пытацца і не трэба, я сам скажу: я і спаць люблю, і скакаць люблю! — бадзёра адказаў Вушасцік.

— Тады давайце галасаваць,— прапанаваў Мядзведзь.

Пачалося галасванне. Жаба, як і трэба было чакаць, галасавала супраць конкурсу прыгажосці. Вужакі, Яшчаркі, калючыя Вожыкі, нават не пазбаўлены прыгажосці Барсук, галасавалі таксама супраць. Магчыма, яны і не вельмі хацелі прасыпаць частку свайго жыцця, але, паколькі не лічылі сябе прыгажунамі, вырашылі лепш паспаць, чым прайграць конкурс прыгажосці.

Мядзведзь пакуль не галасаваў, каб сваім аўтарытэтам не ціснуць на канкурсантаў. Вось чаму Воўк, Ліса і Заяц вырашылі лепш устрымацца.

Калі ж падлічылі тых і тых, атрымалася што галасы падзяліліся пароўну.

Усе з напружаннем паглядзелі на Мядзведзя.

— Мой голас пераважыць у той ці іншы бок. Я галасую за тых, хто вырашыў аддацца сну. І раблю гэта таму, што зімой мне будзе вельмі цяжка пракарміцца. Але гэта не значыць, што меншасць павінна падпарадкоўвацца большасці. Таму конкурс будзе працягвацца ў двух кірунках — хто каго пераспіць і хто больш прыгожы ў нашым лесе. А вы, хітруны,— звярнуўся ён да Воўка і Лісы,— далучайцеся да каго захочаце.

Мядзведзь яшчэ раз салодка пазяхнуў і пайшоў ладкаваць на зіму першую ў сваім жыцці бярлогу.

За ім, у розных кірунках, пачалі распаўзацца і разыходзіцца астатнія «сплюшкі», каб праспаць усю зіму.

Але вясной бесклапотныя Сарокі забыліся абвясціць усіх, што конкурс закончыўся. Таму кожны год, позняй восенню, перад зімой, многія нашы канкурсанты старанна ўкладваюцца спаць, спадзеючыся заняць першае месца.

А астатнія прыгажуны, такія як Сойка, Снягір, Сінічка, Дзяцел і хітрунння Ліса, круглы год з гонарам і годнасцю, заслужана фарсяць сваёй непаўторнай прыгажосцю.

Ад іх не адстаюць і неўгамонныя, апранутыя ў афіцыйныя чорна-белыя фрэнчы, Сарокі, якія і заварылі ўсю гэту конкурсную «кашу».





# Барсучок Піма

Барсукі, як вядома жывуць у норах. Яны вялікія чысцюлі. Свае норы ўтрымліваюць у бездакорным парадку і чысціні. Больш таго, яны кожны год пашыраюць свае «апартаменты» — дакопваюць новыя норы, звязваюць іх між сабой хадамі. Свой «парадны» ўваход яны старанна маскіруюць, як і патаемны запасны выхад. Адным словам — майстры.

У адной з такіх «шматпакаёвак»-нор жыла сям'я барсукоў: бацькі і іх сынок — малады яшчэ барсучок Піма. Вось Піма і кажа аднойчы сваім бацькам:

— Мама, тата, я хачу жыць самастойна. Мне ўжо цэлых пяць месяцаў, і я шмат чаму навучыўся ў вас. Я выкапаю сваю ўласную нару.

— Што ты, сынок! — пляснула лапкамі маці.— Ці ж табе блага ў нас?

Затым звярнулася да бацькі-барсука:

— А ты што маўчыш? Скажы сваё бацькоўскае слова!

Барсук супакоіў жонку:

— Няхай ён сябе адчуе самастойным. Яго ж нара будзе побач. Па сутнасці, ён будзе жыць з намі, толькі ў сваім пакойчыку. Ён у нас разумненькі.

І пачаў барсучок Піма капаць сваю нару, злучаючы яе асобным ходам з бацькоўскімі пакоямі. Капаў ён капаў і натыкнуўся на штосьці незнаёмае. Гэта была жалезная скрыначка са шчыльнай накрыўкай.

— Мама, тата! — паклікаў ён бацькоў.— Я штосьці знайшоў!

Адкрылі скрыначку, а там... і самі не ведаюць, што там. Нейкая, цяпер ужо драўляная скрыначка з круглымі дзіркамі зверху. Над дзіркамі нацягнуты драцінкі. На драцінках-струнах ляжалі дзве палачкі. Дзіва! Барсучок Піма асцярожна пакратаў лапкай струны і яны неяк дзіўна загучалі.

У гэты час да Пімы завітаў яго лепшы сябар заяц Скок.

— Глянь, што я знайшоў! — пахваліўся Піма. Штосьці дзіўнае,— і ён зноў пакратаў лапкай струны, якія глуха загулі.

— Эх ты! — засмяяўся Скок.— Па струнах трэба не лапкай гладзіць, а біць па іх вось гэтымі палачкамі.

— Адкуль ты ведаеш? — здзівіліся барсукі.

— А я часцяком бегаю ў вёску на агароды то за морквай, то за капустай і, бывае, бачу там дзеда, які сядзіць на сваім ганку і іграе вось на такой жа штуковіне, толькі большай, дарослай. Зараз успомню, як яна называецца... Здаецца, цып... цык... цым...— успомніў! — завецца цымбалы. Вось і ты знайшоў таксама цымбалікі, відаць, дзіцячыя.

Барсучок Піма ўзяў пярэднімі лапкамі драўляныя палачкі і ціхенька ўдарыў па струнах. Якое ж было здзіўленне, калі струны мілагучна адгукнуліся.

— Вось гэта здорава! — усклікнуў шчаслівы Піма. Ён пачаў ад радасці трэнькаць па ўсіх струнах і нара напоўнілася беспарадачнымі гукамі.

— Стой, сынок, стой! — спыніў барсучка бацька.— Тут, відаць, тоіцца нейкі сакрэт. Вось ты Пімачка, і пастарайся авалодаць ім. Помніш нашу любімую песенку?

Утульна ў норцы нам,
Барсукам.
І мы заўсёды рады
Сябрам...

Паспрабуй падабраць на гэтых цымбаліках мелодыю нашай песні. А потым яшчэ што-небудзь.

І пачаў Піма настойліва авалодваць такімі чароўнымі і такімі непаслухмянымі гукамі. Ён цэлымі днямі не выпускаў з лапак цмбалікі і, нарэшце, не

валодаючы нотнай адукацыяй, на слых, не толькі падабраў мелодыю любімай песенкі, але і ствараў штосьці сваё. Цяпер ён кожную раніцу перад сном,— а барсукі вядуць начны вобраз жыцця, а днём спяць у норках — дык вось, перад сном, раніцай, Піма садзіўся ля ўвахода ў нару і з асалодай іграў на цымбаліках.

Адной такой раніцай, непадалёк ад барсуковай нары ішлі два бракан'еры — Хлыст і Хват. Пачуўшы чароўную музыку, яны ціхенька падыйшлі да Пімы і не паверылі сваім вачам і вушам.

Хват схапіў з плеч ружжо і прыцэліўся.

— Не страляй! — зашыкаў на яго Хлыст.

— Гэта ж барсук! Хоць якая здабыча будзе,— запырскаў слінай Хват.

— Ты глянь! — зноў зашыкаў на яго Хлыст.— Барсук іграе на цымбалах. Мы ж азалоцімся!

Бракан'еры падкраліся да Пімы ззаду, рыхтуючыся накрыць яго курткай. Барсучок настолькі захапіўся музыкай, што нічога не зразумеў: на яго навалілася штосьці чорнае, ён паспеў толькі крыкнуць: «Ма-а-ма!», як яго падхапілі і кудысьці панеслі.

Перапалоханыя бацькі-барсукі выбеглі з нары, але Пімы нідзе не было.

Прыскакаў усхваляваны заяц Скок.

— Я ўсё бачыў! Я не паспеў папярэдзіць Піму пра небяспеку! Эх, шкада...

— Што здарылася? Дзе наш сыночак? — загаласілі бацькі.

— Яго схапілі бракан'еры. Я іх ведаю, яны з той вёскі, дзе жыве дзед-цымбаліст.

— Пабеглі туды! — сказалі барсукі.

— Не! — запярэчыў Скок.— Там сабакі, ад іх вам не ўцячы. Вы заставайцеся тут, а я скокну ў вёску і, можа, што-небудзь выведаю.

Бракан'еры Хлыст і Хват прынеслі барсучка Піму ў вёску і пасадзілі яго ў клетку.

— Ну і як мы азалоцімся? — спытаў Хват.

— Ты падумай сваёй даўбешкай,— гарачыўся Хлыст.— дзе яшчэ ў свеце можна знайсці барсучка, які б так заліхвацкі іграў на цымбалах? Мы яго заўтра адвязём у Мінск і прададзім у Дзяржаўны цырк. Уяўляеш, колькі нам адваляць грошай?!

Так і зрабілі. На наступны дзень яны баязліва пагрукалі ў дзверы дырэктара цырка. Ён уважліва выслухаў незнаёмцаў і не хаваў свайго недаверу.

— Бачу, што гэта барсучок. Бачу ў клетцы дзіцячыя цымбалікі. Ну і што? Вы хочаце, каб я паверыў вам на словы і выклаў перад вамі кругленькую суму грошай?

— Гэта не проста словы! — гарачыліся сябры.— Мы яго дзень і ноч дрэсіравалі. Зараз паслухаеце.

Хлыст і Хват смаўжамі звіваліся вакол клеткі, прасілі барсучка, пагражалі яму, але напалоханы Піма зашыўся ў куток клеткі і нават не варухнуўся.

— Вось гэта і ўсё, на што здольны ваш барсучок? — усміхнуўся дырэктар.— Не густа...

— Ну, упартая псіна,— аскаліўся Хват, выходзячы з цырка,— здзярэм мы з цябе скуру.

У гэты ж дзень заяц Скок у чарговы раз прыскакаў у вёску, куды бракан'еры ўчора прынеслі палоннага Піму. Ён ніяк не мог даведацца пра лёс свайго сябра, і вымушаны быў наблізіцца да дзеда-цымбаліста, які сядзеў на ганку і смактаў люльку.

Справа ў тым, што дзед ужо не раз праганяў Скока са свайго агарода, таму заяц і асцярожнічаў. Каб звярнуць на сябе ўвагу, Скок ціхенька кашлянуў.

— Ну што, зладзюшка-доўгае вушка, зноў прыбег на мае грады па моркву? — сярдзіта спытаў дзед.— Вось злаўлю я цябе — пакаштуеш дубца!

— Не, дзядуля, не... Я больш ніколі не буду красці ў вас моркву. Чэснае заячае!

— Т ак я табе і паверыў! — хітравата ўсміхнуўся дзед.— А чаго ты тут туляешся?

Заяц пасмялеў і крыху наблізіўся да дзеда.

— Здарылася бяда, дзядуля. Учора два бракан'еры з вашай вёскі злавілі майго сябра, барсучка Піму і куды яго адвезлі, я не ведаю. А той барсучок вельмі здольны: іграе на цымбалах, як і вы.

— Да ну? Няўжо іграе? — не паверыў дзед.— Ох і маніш ты, зладзюшка!

— Яшчэ як іграе! Не есці мне век морквы, калі я маню,— адказаў Скок.

— Цікава, цікава. А адкуль жа ў барсучка цымбалікі? — пацікавіўся дзед.

Скок патлумачыў:

— Ён капаў сабе норку і натыкнуўся на жалезную скрыначку, у якой ляжалі цымбалікі.

Дзед насцярожыўся:

— А нару барсучок капаў ці не ля Вапеннай Гары?

— Там, ля Вапеннай,— пацвердзіў заяц.

— Няўжо барсучок знайшоў мае дзіцячыя цымбалікі? — схамянуўся дзед.— Я ж іх адразу пазнаю, мне б толькі зірнуць на іх.

— А вы, дзядуля, што, там таксама нару капалі? Як вашы цымбалікі апынуліся аж ля Вапеннай Гары?

— Не! Разумееш, прабач, як цябе завуць?

— Скок.

— Разумееш, Скок,— ажывіўся стары і вочы яго загарэліся агеньчыкамі,— я калісьці з бацькамі жыў на хутары ля Вапеннай Гары і меў у маленстве вялікія здольнасці да музыкі. Вось бацькі і прыдбалі мне цымбалікі, як нацыянальны беларускі інструмент. І да таго я захапіўся гэтымі цымбалікамі, што адвярнуўся ад вучобы. Бацькі мне падручнікі, а я — цымбалікі ў рукі, яны мне — кніжкі, а я — цымбалю. Што бацька толькі не рабіў: і дзягай мяне частаваў, і хаваў цымбалікі, а я іх знаходзіў і барабаніў палачкамі па струнах. Нарэшце бацька ўпотай ад мяне, паклаў цымбалікі ў жалезную скрыначку і закапаў іх недзе ў лесе. Калі ж хутары пачалі звозіць у вёску, бацька спахапіўся, каб адкапаць тую скрыначку, але так яе і не знайшоў.

Дзед ажно свяціўся ад шчасця.

— Вось гэта навіну ты мне прынёс, Скок, дык навіну! Калі пацвердзіцца, што ў барсучка мае цымбалікі, можаш, Скок, не хаваючыся прыходзіць на мае грады і сілкавацца гароднінай.

Заяц смачна праглынуў слінкі.

А дзед працягваў разважаць:

— Цікава, цікава... А дзе ж ты чуў, як я іграю?

— Як вам сказаць, выпадкова,— зачырванеўся Скок.

— Ага,— усміхнуўся дзед.— лазіў у маю моркву і слухаў музыку. І за гэта дзякуй.

Скок наблізіўся да дзеда.

— Дапамажыце, дзядуля, знайсці і вызваліць майго сябра.

— Кажаш, бракан'еры з нашай вёскі? — задумаўся стары.— Не інакш як Хват і Хлыст. Дарэчы, яны сёння раніцай чагосьці паехалі ў Мінск. Баюся, што і твайго сябра павезлі туды ж. Галоўнае, каб гэтыя прайдзісветы не зрабілі чаго дрэннага з барсучком, і не знішчылі цымбалікі.

Дзед з цяжкасцю ўстаў і выпрастаў спіну.

— Вось што, Скок! Вырві ты сабе на дарогу морквы і вяртайся дадому, а я займуся пошукамі твайго сябра.

— Не! — адмовіўся заяц.— Не хачу я морквы! Не пабягу я дамоў! Я буду чакаць вас тут. Мне, дзядуля, без Пімы вяртацца нельга. Там яго бацькі ўсе вочы выплакалі ад гора.

— Тады чакай,— і дзед паклыпаў да Хлыста і Хвата.

На яго шчасце шукацелі лёгка спажывы былі дома. Яны вярнуліся з горада і вырашалі — забіць Піму ці садраць скуру з жывога?

— Табе чаго, дзед? — спыталі бракан'еры.— Мы табе барсучка не аддадзім. Ён нам падклаў такую свінню, што ў нас рукі свярбяць здзерці з яго скуру.

Дзед не адступаў:

— Я ж у вас не задарма хачу забраць звера. Хочаце — дам грошай... ці гарэлкі...

— Добра! — згадзіліся бракан'еры.— Давай і грошы і гарэлку. Па руках!

Узрадаваны дзед схапіў клетку з барсучком і пашыбаваў да сваёй хаты.

— Ура! — закрычаў Скок, убачыўшы свайго сябра жывым і здаровым.— Дзядулечка, дзякуй вам! Пімачка, як будуць рады твае бацькі! Ура!

Дзед таксама быў задаволены.

— Крычы, Скок, яшчэ раз «ура»! Гэта мае дзіцячыя цымбалікі. Я іх адразу пазнаў.

— Ура! — зноў закрычаў Скок.— Я буду кожны дзень ласавацца морквай!

— Цяпер,— папрасіў дзед,— няхай твой сябар Піма парадуе мой слых ігрой на цымбаліках.

Скок звярнуўся да барсучка:

— Пімачка, сыграй для дзядочка. Дзядок добры, ён цябе выратаваў.

Піма вылез з клеткі, узяў у лапкі цымбалікі і сабраўся ўдарыць па струнах, але дзед спыніў яго:

— Пачакай, дружа. Я вазьму свае цымбалы і мы разам агучым маё маленства і маю старасць.

О, як было цікава чуць і бачыць на ганку двух мазукаў — старэнькага дзядка і маладзенькага барсучка, якія нараджалі чароўныя мелодыі.

Раптам побач пачулася:

— Ага, псіна ты лясная! Дзе трэба было ты адмовіўся іграць, а тут вызвоньваеш! Цяпер мы здзярэм з цябе скуру — не адкруцішся! — крычаў Хват, а з ім побач стаяў і Хлыст.

Скок і Піма ад жаху сціснуліся ў камячкі, але дзед рашуча ўстаў перад бракан'ерамі.

— Барсучка я вам не дам! Прэч адсюль!

— Наш барсучок! — хрыпелі сябры.

— Я вам аддаў за яго грошы! — не здаваўся дзед.— Ці можна ж забіваць дзіця, тым больш такі талент! Халодныя вы сэрцы!

Раптам на ганак з хаты выйшла баба з чапялой у руках:

— Хто тут на майго дзеда горла дзярэ? — і яна замахнулася чапялой на бракан'ераў.

Хлыст і Хват імгненна зніклі.

— Ху-у-ух...— з палёгкай выдыхнуў Скок.— Як страшна было.

— Ну, ідзіце з мірам,— правёў сябраў за сядзібу дзед.— Усцешылі вы мяне.

А колькі было шчасця і радасці пры сустрэчы Пімы і бацькоў. Гэта трэба было бачыць, бо словамі апісаць немагчыма.

Галоўным героем быў усё ж заяц Скок, які і дапамог выратаваць Піму. Скок сказаў барсукам:

— На жаль, бракан'еры ведаюць, дзе ваша нара і абавязкова вернуцца сюды. Я пакажу вам адно патаемнае месца ў лесе, дзе вы можаце выкапываць сабе новыя норы і дзе вас ніхто, акрамя мяне, не знойдзе.

Барсукі рушылі за Скокам да свайго новага жытла.

З аднаго боку — гэта вельмі добра, бо барсукі будуць жыць у бяспечнасці, а з другога — шкада, бо мы таго патаемнага месца не ведаем і не маем магчымасці пачуць чароўную музыку таленавітага маленькага цымбаліста.



# Калабковы футбол

Хату, у якой жылі дзед і баба, з усіх бакоў атуляў лес. Разам з імі жыла ўнучка Маша — уцеха старых і руплівая памочніца.

Адным разам Маша гуляла з мячыкам ля хаты, а той — скок, скок ад яе і пакаціўся. Паколькі хата стаяла на пагорку, то і мячык каціўся хутчэй, чым дзяўчынка яго даганяла. Заплакала Маша і вярнулася дамоў ні з чым.

А мячык між тым усё каціўся і каціўся, пакуль яго не затрымаў Заяц. Мячык быў жоўтага колеру і Заяц падумаў, што гэта Калабок і ўзрадаваўся:

— Калабок, Калабок, я цябе з'ем!

Мячык маўчаў, бо не ўмеў размаўляць і Заяц палічыў яго маўчанне за згоду. Паспрабаваў кусну- ць яго сваімі двума пярэднімі зубамі і расчараваўся:

— Фу, які ты нясмачны! Гумай ад цябе пахне...

Кінуў Заяц мячык і той пакаціўся далей. Каціўся ён каціўся, а тут насустрач Ліса.

— О, які прыгожы Калабок! — усклікнула Рыжая.— Вось цябе я і з'ем!

І зноў мячык ні слова ў адказ.

— Ага, маўчыш, значыць, не супраць! — і куснула яна мячык за гумавы бачок, а бачок толькі крыху ўгнуўся і пругка выпрастаўся.

— Вой, які ты, Калабок, непрапечаны! — скрывілася Ліса і кінула мячык на зямлю. Мячык падскочыў і пакаціўся далей.

Праз нейкі час нейкая моцная лапа спыніла яго. Гэта быў Воўк, як заўсёды галодны і злосны.

— Хоць і не люблю я печанага цеста, усё ж з'ем я цябе, Калабок, бо нікога сёння акрамя цябе не сустрэў,— прахрыпеў ён.

І Воўк, не чакаючы згоды Калабка, грызнуў гумавы бачок мячыка, а таму — хоць бы што.

— У-у, зусім няспечаны Калабок! — узвыў Шэры.— Каціся прэч адсюль!

І пакаціўся мячык далей. Але нядоўга давялося яму вольна пакочвацца, бо Мядзведзь туляўся па лесе ў пошуках ласунка.

— Ай, як добра, што я цябе напаткаў, Калабочак! Я ж так люблю печыва!

І хоць мячык быў не малы, затое апетыт у Мядзведзя быў вялікі, таму праглынуў ён Калабка цалкам. Пайшоў задаволены Мядзведзь далей па лесе,

аблізваецца. Але праз нейкі час адчуў у страўніку рэзі.

— Толькі мне нястраўнасці і не хапала,— прабурчаў касалапы.— Відаць, Калабок быў чэрствы ці спечаны нейкай недарэкай. Во-о-ой-ой! — стагнаў ён.

Тут ён убачыў Сароку і пытаецца ў яе:

— Можа, ты ведаеш, хто і дзе пячэ калабкі?

— Баба, баба, баба! — застракатала Белабокая.

— Я яе, тую бабу, за такія калабкі парву на шматкі! — зароў Мядзведзь і, войкаючы накіраваўся да хаты, дзе жылі дзед, баба і ўнучка Маша.

Убачыў ён ля хаты дзяўчынку, якая сядзела і плакала, і здзівіўся:

— А чаго ты плачаш? Я ж яшчэ тваю бабулю не парваў на шматкі. Ці ты мяне напалохалася?

— А чаго я павінна цябе палохацца? — усхліпнула Маша.— Я ў такога як ты доўга жыла, прыбіралася ў яго хаце і гатавала яму смачную ежу.

— Ха! — радасна ўсклікнуў Мядзведзь, перасільваючы рэзі ў жываце.— Дык цябе Маша завуць, а жыла ты ў майго старэйшага брата. Шмат прыемнага распавёў ён пра цябе.

— Так, гэта я,— перастала хліпаць носам дзяўчынка.

Мядзведзь зноў войкнуў ад болю і рыкнуў:

— Але прабач, Маша, я ўсё роўна павінен разадраць тваю бабулю на шматкі.

Тут з хаты выйшла баба.

— Хто гэта збіраецца разадраць мяне на шматкі і за што? — пацікавілася яна.

— Ты спякла калабок, ад якога ў мяне баліць страўнік і коліць у бок? — грозна рыкнуў ён.

— Калабо-о-ок? — здзівілася старая.— Не, Міхайла Міхайлавіч, мы з унучкай пячэм толькі піражкі. Хочаш, пачастуем...

— Хацець хачу, ды не магу-у-у! У маім страўніку засеў цэлы калабок, які ніяк не пераварваецца. Болі і рэзі не дазваляюць мне нават прадыхнуць.

— А ты, Міхайла Міхайлавіч, вадзіцы папі, той калабок і размякне, рэзі сціхнуць. Вось, калі ласка, вядзерца з вадой.

Пачаў Мядзведзь піць ваду, абхапіўшы пярэднімі лапамі вядро. Выпіў усю ваду да кропелькі.

Паколькі мячык быў гумавы, ён у выпітай вадзе ўсплыў да самага горла Мядзведзя. Той папярхнуўся, моцна кашлянуў, мячык і выскачыў прама Машы пад ногі.

— Мой любімы мячык знайшоўся! — радасна падхапіла Маша мячык.

— Ха-ха-ха! — радасна зарагатала баба.— Дык вось які калабок ты праглынуў!

З хаты на шум і смех выйшаў дзед.

Мядзведзь зачырванеўся ад сораму, бо збіраўся разадраць на шматкі зусім не вінаватую бабу.

— Прашу прабачэння, людзі добрыя! — пакланіўся ён.— Гэта рэзі ў страўніку абудзілі ўва мне звера.

Тут азвалася шчаслівая Маша:

— Бабулечка, пачастуй Мішу нашымі піражкамі, яны сёння з малінавым варэннем.

Калі падсілкаваліся піражкамі і напіліся духмянага чаю, Мядзведзь пачаў развітвацца.

— Ай, як добра, Маша, што я праглынуў твой мячык. Праз яго я пазнаёміўся з вамі,— а потым няўпэўнена спытаў: — А, можа, Маша, пажывеш і ў мяне? Будзеш у маіх пакоях прыбірацца, будзеш гатаваць мне ежу, а я буду табе казачкі перад сном расказваць. У мяне іх шмат назапашана.

— Не! Не! — у адзін голас занекалі дзед і баба.— мы ўжо зусім старыя, без Машы нам не пражыць...

— Шкада,— уздыхнуў Мядзведзь, збіраючыся ісці ў лес.

— Не сумуй, дзядуля Мядзведзь,— суцяшала яго Маша,— прыходзь да нас у госці. І мы будзем бачыцца.

Затым яна ажывілася:

— А давай мы с табой пагуляем у мячык, бо я ўвесь час гуляю з ім адна ды адна. Ён нават рачаў уцякаць ад мяне.

— А ў што будзем гуляць? — спытаў Мядзведзь.

Раптам дзедавы вочы ўспыхнулі агеньчыкамі:

— У футбол! Я ў маладыя гады — у-ух! — як захапляўся гэтай гульнёй!

— Як гэта? — здзівіўся Мядзведзь.

— Вельмі проста! — пачала тлумачыць Маша.— Баба будзе стаяць у маіх варотах, а дзед — у тваіх. Цікава, хто каму заб’е больш галоў, ці ты мне, ці я табе?

— Эх, было не было, гуляем! — запаліўся Мядзведзь.

І пачалася гульня. Маша — спрытная, вяртлявая, але і Мядзведзь, нягледзячы на сваю касалапасць, даволі рухавы. Да таго ж, у Мядзведзя ў лапах сілы больш, чым у дзіцячых нагах, таму ён біў па бабіных варотах з усякіх дыстанцый, нават здалёк. Але баба па-майстэрску лавіла, здавалася б, небяручыя мячы, нават з «дзявятак» даставала іх. А вось дзед, відавочна, адставаў ад бабы, бо прапускаў, як кажуць, самыя хліпкія ўдары ўнучкі. Такім чынам, пасля двух напружаных таймаў, лік быў 7:0 на карысць Машы.

Мядзведзь падыйшоў да дзеда і ціхенька, каб гульцы другой каманды не чулі, папракнуў старога:

— Ты, дзед, шальмаваў, падыгрываў унучцы і прапускаў галы, якія б і сляпы не прапусціў. Але няхай сабе дзіця пацешыцца.

Дзед зачырванеўся:

— Вінаваты я, прабач... сам разумееш, унучачка, родная кроў... Другім разам стаў у свае вароты бабу.

Мядзведзь хмыкнуў:

— Дык і для бабы Маша — родная кроў. Не, лепш другім разам на варотах будзем стаяць мы з Машай, а вы з бабай будзеце ганяць па полі калабок, прабач, мячык.

Ці быў другім разам калабковы футбол ці не, і на чыю карысць ён закончыўся,— мы, на жаль, не ведаем. А шкада...



# Верыць у цуды!

На перапынку, паміж урокамі, сядзелі вучні ў класе і фантазіравалі. Хтосьці з іх звярнуўся з пытаннем да сваіх аднакласнікаў:

— Уявіце, што кожнаму з нас выпала такая магчымасць загадаць толькі адно жаданне. Толькі адно! Але яно абавязкова споўніцца. Цікава, хто чаго пажадае!

Пасля кароткай паўзы, загаманілі ўсе разам, перакрыкваючы адно аднаго. Чуваць было толькі: «Я!», «я!», «а вось я бы!..» — і далей жаданні кожнага зліваліся ў адзін заблытаны шум і гвалт.

Прыкладна так шумяць на кусце вераб'і, адчуўшы набліжэнне вясны.

Разблытаць гэты клубок тлуму ніяк не ўдавалася. Але перапынак скончыўся і ў клас ўвайшла

настаўніца. «Вераб'і» адразу сціхлі і разбегліся па сваіх месцах.

— Ну, што вы тут так жыва абмяркоўвалі? — спыталася настаўніца.— Вас было чуваць ажно ў настаўніцкай.

Вучні зноў паўскоквалі са сваіх месцаў і збіраліся распачаць той жа тлум, але настаўніца рашуча загадала:

— Ціха! Няхай хтосьці адзін тлумачыць. Ну хто?

Руку падняў Віталік:

— Можна мне, Вольга Сяргееўна? — спытаўся ён.

— Можна, Віталік.

Хлопчык паўтарыў тое, што на перапынку сказаў сваім сябрам:

— Я спытаўся ў вучняў, хто чаго пажадаў бы, каб, напрыклад, жаданне абавязкова споўнілася? Уявіце, Вольга Сяргееўна, што ў кожнага толькі адно жаданне.

— Цікава! — усміхнулася настаўніца.— Ну, і хто чаго пажадаў? Можна мне даведацца?

— Дык мы яшчэ не паспелі нічога пажадаць! — зноў пачалі перакрыкваць адно аднаго вучні.

— Ціха, ціха! — зноў давялося настаўніцы павысіць голас.— Будзем лічыць, што гэта такое класнае заданне на вольную тэму. Хто пачне?..

І пачалі хлопчыкі і дзяўчынкі адкрываць сакрэты сваёй душы:

— Я жадаю стаць знакамітым, каб мяне ўсе ведалі і захапляліся мной...

— Мне дык хочацца стаць балерынай...

— А я, як вырасту, не адмовіўся б ад мільёна долараў, каб мець шыкоўную машыну і яхту...

— А я папрасіла б для сваёй мамы добрага здароўя, каб яна перастала хварэць...

— А я папрасіў бы для сябе бессмяротнасці, каб жыць вечна...

Хтосьці з вучняў хіхікнуў:

— Ты б стаў Кашчэям Бессмяротным...

Жаданні выказваліся самыя розныя, траплялі і не зусім дарэчныя, але ж гэта былі дзеці ды і «пытанне-адказ» яны, хутчэй, успрымалі, як гульню.

— А ты, Віталік, чаму нічога не жадаеш? — спыталася настаўніца.— Гэта ж твая прыдумка пра самае галоўнае жаданне. Ці ў цябе ніякага жадання няма?

— Ёсць,— ціха і неяк сумна адказаў хлопчык.

— Скажы, а мы паслухаем. Смялей! — падбадзёрыла настаўніца.

Усе агучвалі свае жаданні з месца, седзячы, а Віталік, ледзь стрымліваючы сваё хваляванне, устаў і, зноў жа ціха і сумна сказаў:

— Я хачу... я вельмі хачу, каб усё жывое на зямлі: людзі, звяры, птушкі, усе, хто з'явіўся ў гэты свет, пражылі ад першага да апошняга дня, адведзенае ім прыродай поўнае жыццё... Тады ніхто заўчасна не памрэ, ніхто не будзе забіты...

Віталік зачырванеўся, апусціў галаву і сеў. У пакоі ўсталявалася напружаная цішыня. Нават настаўніца ад нечаканага пачутага, не магла варухнуцца. Нарэшце яна апрытомнела і спыталася:

— Дык ты, Віталік, не хацеў бы жыць вечна, заставацца заўсёды дужым і маладым? І ты не жадаеш багацця, славы?

— Я сказаў, чаго б я хацеў і што мяне хвалюе,— ціха прамовіў хлопчык.

— Вось, дзеці,— цяпер ужо ўсхвалявана ўстала настаўніца,— вось яскравы прыклад самаахвярнасці дзеля шчасця другіх! Дзякуй табе, Віталік, нават я да такога не дадумалася б...

Далей урок працягваўся ўжо па тэме, але заняткі ішлі вяла і без ахвоты. У канцы ўрока настаўніца нагадала ўсім:

— Не забудзьцеся, заўтра ў дзесяць гадзін раніцы нас будзе чакаць школьны аўтобус і мы пакоцім ажно ў Брэсцкую крэпасць на экскурсію.

— Ура! — закрычалі вучні, перакрыкваючы званок, які абвясціў аб заканчэнні заняткаў.

Наступным днём аўтобус весела імчаў у накірунку Брэста. Ды і як аўтобусу было весела не імчаць, калі салон перапаўняў смех і жарты вучняў, якія імчалі не толькі насустрач беларускай святыне, але й насустрач свайму жыццю?

Нечакана, з малапрыкметнай дарогі на шашу Мінск-Брэст, на вялікай хуткасці вылецела грузавая аўтамашына і штосілы пратараніла аўтобус з

дзецьмі. Абарваўся смех і жарты, ды і многія жыцці абарваліся таксама...

Некаму не суджана стаць знакамітым альбо багатым, нечая хворая маці не дачакаецца выздараўлення, камусьці не быць балерынай...

Але...

Але вернемся да таго месца, калі аўтобус весела імчаў у накірунку Брэста і салон быў перапоўнены вясёлым смехам і жартамі.

Недаязджаючы да таго ракавога скрыжавання, у грузавой аўтамашыны спусціла кола. І пакуль шафёр мяняў яго, нашы вучні шчасліва мінулі тое скрыжаванне, і ўсе астатнія да Брэста і на адваротным шляху. Экскурсія прайшла цікава і карысна.

Хутчэй за ўсё, той, хто марыў стаць знакамітым, даб'ецца свайго, той, хто хацеў стаць багатым, будзе ім, дзяўчынка вывучыцца на балярыну, а маці другой вучаніца абавязкова выздаравее. Не выключана, што хтосьці з вучняў абессмяроціць сваё імя адметнымі справамі.

Але чаму ж аўтобус не сутыкнуўся з тым грузавіком? Пэўна, таму, што Віталік пажадаў, каб усе пражывалі свой жыццёвы век ад першага да апошняга дня.

Будзем верыць у цуды!



# Кот Гаўрык

Кот Гаўрык распачаў сваё жыццё ў сям'і Васіля і Настасі, і жыве ў іх ажно цэлых пяць гадоў. Праўда, Гаўрыка можна толькі цяпер зваць катом, бо ён зрабіўся важным кацярам, з вялікай галавой, шырокай спіной і акруглым жывоцікам. Асобы гонар Гаўрыка — яго пышны, «вавёркавы» хвост.

А пачынаў ён сваё існаванне пад сонцам маленькім кацяняткам на крывенькіх няўклюдных лапках, з востранькай спінкай, над якой тоненькай антэнкай тырчаў смешны хвосцік.

За такую малечую кволасць і смешны блазнюковы выгляд яго і назвалі Гаўрыкам.

Катка ўсе любілі і ён усім дзячыў тым жа.

Але аднойчы маленькі Гаўрык памыліўся і схадзіў па патрэбе не ў свой латочак з пясочкам, а ў

вугал на падлогу. Яго, у парадку выхавання, патыцкалі носікам у сваю патрэбу ў непатрэбным месцы і крыху далі плескача па тым месце з якога расце антэнка-хвасток. Гаўрык пакрыўдзіўся і зашыўся ў другі чысты вугал. Ён доўга адтуль не выходзіў і ўсё ніяк не мог зразумець, за што яго, любімца гаспадароў, гаспадары ж і пакаралі?

Будучы з народзін кемлівым катком, ён пачаў, як кажуць, глядзець у рот сваім гаспадарам. І не толькі глядзець, але і адкладваць у сваёй маленькай галоўцы сэнс кожнага слова, кожную інтанацыю. І да таго ён прызвычаіў свае мазгі, свой маленькі «камп'ютар» да чалавечай мовы, што ўжо праз год, каб вывучыўся гаварыць, мог бы працаваць выкладчыкам беларускай мовы.

Вось што значыць прымаўка: «Урок пайшоў на карысць».

Цяпер жа, у сталым узросце, ледзь толькі гаспадары раскрывалі рот, як Гаўрык ужо ведаў, што яны скажуць.

Аднойчы Васіль кажа сваёй жонцы:

— Слухай, Настася, наш Гаўрык разляноціўся настолькі, што перастаў лавіць мышэй. Заходжу я неяк у хату і бачу, як мыш частуецца з Гаўрыкавай міскі, а ён, басяк, назірае за ёй ды нядбайна пазяхае:

— Будзе ён табе мышэй лавіць, калі ў яго пад носам каўбаска не пераводзіцца і малачко не перасыхае,— адказала Настася.

Гаўрык усё чуў і падумаў: «Патрэбны мне вашы мышы! У мяне, можа, другое прызначэнне ў жыцці... Эх, мог бы я размаўляць, я б адказаў вам, хто з нас больш разумны». І тут Гаўрык злавіў сябе на гэтай думцы. Ён востра адчуў сваю непаўнацэннасць у жыцці. «Я ж усё разумею! Кожнае слова! — падскочыў ён.— Мне б толькі навучыцца агучваць словы! Агучваць — толькі і ўсяго!»

— Глянь, Настася,— звярнуўся Васіль да жонкі,— падскочыў наш гультай, калі пачуў крытыку ў свой адрас. Будзем спадзявацца, што сумленне ён яшчэ не згубіў.

«Не згубіў, не згубіў!» — мяўкнуў кот і падаўся хутчэй на двор, каб знайсці патаемнае месца на гарышчы і тэрмінова пачаць вучыцца агучваць словы.

Тут нялішнім будзе такое параўнанне: няхай хтосьці з людзей паспрабуе агучваць кітайскія словы — язык напачатку зломіць, мазгі выкруціць. Але пры настойлівасці і кітайская, і іншыя мовы, праз пэўны час пададуцца лёгкімі ва ўжыванні.

Прыкладна гэтаксама кот Гаўрык — і язык свой ламаў, і мазгі выкручваў, але паступова, дзень за днём, тыдзень за тыднем, настойлівы і кемлівы Гаўрык авалодаў маўным гучаннем. Праўда, каб зразумець яго «дыялект», трэба было моцна напружыць мазгі і праявіць, цяпер ужо чалавечую кемлівасць. Але ўсё ўдасканальваецца з часам і на практыцы. А паколькі Гаўрык практыкавацца з га-

спадарамі пакуль саромеўся, яму даводзілася быць «тэатрам аднаго акцёра».

Паехалі неяк Васіль з Настасяй да сваіх сваякоў пагасціць. Загасціліся і заначавалі ў іх у другой вёсцы. Пакуль яны там ноччу спакойна спалі, не спалі ў шапку злодзеі, якія начамі робяць сваю ганебную справу — крадуць у людзей усё, што пад руку трапляе.

Вось гэтай ноччу яны залезлі ў дом да Гаўрыкавых гаспадароў. Павыграбалі ўсё каштоўнае: тэлевізар, адзенне з шафы, грошы.

Напалоханы Гаўрык затаіўся пад ложкам і з жахам за ўсім назіраў.

Вярнуліся гаспадары дамоў і ў адчаі схапіліся за галаву — заробленае сваім мазалём засталося прайдзісветам. Выклікалі яны міліцыю, напісалі заяву, падпісалі нейкія паперы, складзеныя ахоўнікам парадку і засталіся ні з чым.

Пасля ад'езду міліцыі, гаспадыня, як жанчына, горка плакала, а Васіль хадзіў па хаце і, як пацеры, паўтараў:

— Няўжо ж не знойдуць прахадзімцаў? Няўжо ж не пакараюць злачынцаў?

Настася скрозь слёзы хліпала:

— Лёгка сказаць, каб знайшлі... Не так гэта проста. На лбе ў чалавека не напісана, злодзей ён ці сумленны.

Тут з-пад ложка вылез Гаўрык і, «ламаючы язык», далажыў:

— Злодзеі — Максім і Нічыпар.

Жонка здрыганулася і зірнула на Васіля:

— Гэта ты сказаў?

— Н-не... — аслупянеў Васіль.— Я думаў, што гэта ты скрозь слёзы так невыразна прага-га... Га-ўрык? Гэта ты зараз назваў Максіма і Нічыпара?

— Ну, я... Ну што тут дзіўнага? — фанабэрыста адказаў кот.

— Мы здурнелі! — пляснула ў далоні Настася.— Ты здурнеў, Васіль! Хіба ж каты размаўляюць?

— Каты — не, а я размаўляю! — зноў ганарліва прамовіў Гаўрык.— Максім і Нічыпар былі, я іх ведаю.

А паколькі ўсе каты гуляюць самі па сабе, дык і Гаўрык усе гэтыя гады гуляў па ўсёй вёсцы і ўсіх ведаў. Ён вясной завітваў нават у суседнія вёскі, калі даведваўся, што там ёсць прыгожая котачка. Таму і жыхароў навакольных вёсак ведаў таксама.

— Бяжы хутчэй у міліцыю! — ускочыла Настася.— Хутчэй, Васілька!

У міліцыі, куды прыбег Васіль, некалькі разоў здзіўлена перапыталі:

— Хто вам сказаў? Ко-о-от?

— Так! Так! — усхвалявана пацвердзіў Васіль.— Наш кот Гаўрык!

Дзяжурны міліцыянер, да якога звярнуўся Васіль, зняў тэлефонную трубку і некаму загадаў:

— Выклікай тэрмінова «хуткую дапамогу», тут грамадзянін з'ехаў з розуму.

— Пачакайце! — ускочыў Васіль.— Пачакайце выклікаць «хуткую»! Спачатку праверце Максіма і Нічыпара, а потым рабіце са мной, што палічыце неабходным.

Дзяжурны стомлена сказаў у тэлефонную трубку:

— Адкладзём выклікане «хуткай» Рыхтуй аператыўны нарад на выезд!

На здзіўленне аператыўнікаў, усё крадзенае знайшлося ў названых Максіма і Нічыпара, якія ва ўсім прызналіся.

— Што гэта? — здзівіўся начальнік міліцыі.— Супадзенне ці ўнікальная з'ява ў жыцці жывёл?

Начальнік крымінальнага вышуку нерашуча прапанаваў:

— А што, калі б нам гэтага ката залічыць у штатныя супрацоўнікі? Крадзяжы з дамоў, асабліва з багатых катэджаў сыпяцца, як гарох з дзіравага меху.

— Ды ты што?! — запярэчыў начальнік міліцыі.— Засмяюць нас, як даведаюцца, асабліва прэса.

І ўсё ж, пасля доўгіх ваганняў, вырашылі ката Гаўрыка аформіць, як малодшага аператыўніка, і нават прысвоілі яму званне сяржанта міліцыі.

А выкарыстоўваць «маладога аператыўніка» вырашылі так: паколькі асноўным галаўным болем для міліцыі былі крадзяжы з катэджаў, іх гаспадароў папрасілі абвяшчаць па чарзе пра ад'езд «далёка і

надоўга», каб гэта інфармацыя даходзіла да зацікаўленых вушэй. Але катэдж не пуставаў, у ім пакідалі Гаўрыка. Гэта была ўсім вядомая, так званая «лоўля на жыўца».

Пасля чарговага крадзяжу, Гаўрык, які быў жывым сведкам злачынства, выкладваў, як на блюдзе, сваім калегам па службе:

— Былі Сымон і з ім некалькі незнаёмцаў...

Наступным разам:

— Быў адзін Змітрок з суседняй вёскі...

А потым:

— Шукайце ў Івана і Дзям'яна...

Аднаго разу Гаўрык развёў лапамі:

— Былі нейкія залётныя, зусім незнаёмыя...

Давялося доўга складаць фотапартрэт злачынцаў, пакуль кот упэўнена не заявіў:

— Падобныя! Вельмі падобныя!

Хутка гэтых «падобных» вылічылі і затрымалі.

Дыяграма раскрыцця злачынстваў рэзка пайшла ў гару, за што высокія міліцэйскія чыны атрымалі павышэнне па службе.

І кату Гаўрыку вырашылі прысвоіць чарговае спецыяльнае званне «малодшы лейтэнант міліцыі», але кот нечакана знік.

О, як узрадаваліся Васіль і Настася, калі іх любімы кот з'явіўся дома.

— Цябе адпусцілі! — падхапілі яны Гаўрыка на рукі, прыціскаючы да грудзей.

— Не, я сам... — нядбайна адказаў кот.— Мне надакучыла дакладаць па стойцы «смірна» ды браць лапай «пад казырок». Я крыху адпачну ў родным доме і буду рыхтавацца да паступлення ў міліцэйскую акадэмію...

А пакуль, я пайду пагуляю — сам па сабе.





## Пытанне без адказу

Прыгожыя елачкі ля дарогі ў адзін голас пазайздросцілі сваёй менш прыгожай сяброўцы:

— Вой, як табе пашанцавала! Ты — аднабокая, скрыўленая, непрывабная.

— Вы здзекуецеся, сястрыцы,— слёзна абурылася елачка, пазбаўленая прыгажосці.— Я не магу на вас намілавацца, такія вы гарманічна-пірамідальныя і вытанчана-прыемныя.

Эх ты, курыная слепата,— загаманілі прыгажуні. Глянь вакол! Вунь колькі пянькоў ад такіх, як мы. Хутка свята, Новы год, і бязлітасная сякера ў руках чалавека зноў пачне знішчаць нас — прыгожых і гарманічна-пірамідальных.

Адна з прыгажунь з болем сказала:

— Вось гэты пянёк побач са мной — усё, што засталося ад маёй самай блізкай сяброўкі. Яшчэ нядаўна мы разам з ёй марылі пра тое, як дажывём да сталасці і насенне з нашых шышак будзе весела разлятацца вакол, нараджаючы шчаслівую моладзь. Сёння ад яе мар і ад яе самой — толькі гэты мёртвы пянёк і горкі ўспамін.

Чалавек не задумваецца, што нішчыць наша жыццё ў самым яго пачатку, што жыць мы маглі б і сто, і больш гадоў, прыносячы карысць усяму жывому на зямлі, абураліся елачкі.

Хваёвыя лясы вырабляюць унікальны лекавы водар, неабходны для людзей з лёгачнымі захворваннямі, і ён папярэджвае такія захворванні.

— А што рабіць? Як вам ратавацца? — захвалявалася крывенькая елачка.— Можа б, неяк людзям патлумачыць усё гэта?

— Не,— адказалі сумна зялёныя прыгажуні.— Людзі не адчуваюць нашага болю, не разумеюць нашай мовы і ўвогуле ставяць сябе па-за законамі прыроды. А ў прыродзе ўсё ўзаемазалежнае і ўзаемазвязанае. Не стане нас, лясоў, і людзі сутыкнуцца з вялікімі бедамі.

Ратаванне для нас, натуральных елак, адно — штучныя елкі на Навагоднім свяце. Ды людзі неахвотна імі карыстаюцца, ім патрэбен пах у кватэры. Але пасля свята нас абыякава выкідваюць на сметнік, дзе мы дасыхаем, абсыпаемся і з намі паміраюць усе нашы мары...

— Вы не адны такія! — страпянуліся маладыя, зграбныя бярозкі, якія чулі елачкіны скаргі.— І жыццё наша, у самым яго пачатку, знішчаюць людзі.

— А вас для чаго? — здзівіліся калючыя суседкі.

Бярозкі сумна тлумачылі:

— Ёсць такое свята — Сёмуха. Хтосьці калісьці выдумаў, што на гэтае свята трэба ссякаць нас, маладых і самых прыгожых і ўпрыгожваць цэрквы і храмы. Уяўляеце, колькі на нашай зямлі цэркваў і храмаў! Знішчаюцца тысячы і тысячы маладых бярозак, цэлыя будучыя шматлікія бярозавыя гаі. І гэта — з году ў год.— бярозкі глыбока ўздыхнулі і працягвалі: — Акрамя храмаў, у кожнай вёсцы, кожны гаспадар ссякае на сёмуху абавязкова дзве бярозкі і ставіць іх ля сваіх брамак.

Пасля свята мы таксама будзем выкінутыя на сметнік. Няхай бы рэзалі ўжо галінкі і ўпрыгожвалі імі храмы, хоць і гэта для нас вельмі балюча.

І маладыя бярозкі з зайздрасцю паглядзелі ўгару на сваіх сталых сясцёр. Але тыя, перахапіўшы іх погляд, у сваю чаргу паскардзіліся:

— І наш лёс няпросты. З надыходам вясны людзі бяздумна падсякаюць нашу кару і збіраюць сок. А сок дрэва — як кроў для чалавека. Мы пасля гэтага губляем моц росту і хварэем. Акрамя таго, нас спілоўваюць на дровы і праз нейкі час мы ператвараемся ў попел.

Потым сталыя бярозы звярнуліся да маладых елачак:

— Вось вы казалі пра хваёвы лекавы водар. А ці ведаеце вы, што ў бярозавым гаі паветра чыстае, як у аперацыйнай? Нашы лісточкі выдзяляюць такія фітанцыды, якіх баяцца ўсе мікробы, і якія карысныя для ўсіх людзей. Па сутнасці, мы спрыяем людзям жыць як мага даўжэй.

— А чаму ж тады нас і вас знішчаюць? — жахнуліся елачкі.— Мы ж сябры людзям!

Бярозы сумна заківалі голлем:

— На гэта пытанне могуць адказаць толькі людзі...





# Аднаногі конік

Руслан быў з выгляду хлопчык як хлопчык. Нічым не адрозніваўся ад вучняў свайго класа. Але гэта толькі з выгляду. Акрамя знешнасці, у кожнага чалавека, існуе яшчэ нябачны ўнутраны свет. І хоць унутраны свет Руслана лічыўся нябачным, але ён калі-нікалі праяўляў сябе даволі відавочна. Руслан любіў у школе цягануць за касу дзяўчынку, ды цягануць не з лёгкім жартам, а так, каб у дзяўчынкі слёзы цурэлі з вачэй ад болю. Ці знадцішка падстаўляў падножку таму ці той, хто з усіх сіл даганяў каго-небудзь альбо ўцякаў ад некага. Вядома ж, ён ставіў падножку таму, хто быў слабейшым за яго і не мог даць здачы. Звычайна, пасля падножкі, бедалага збіваў нос ці калені ці, у лепшым выпадку, набываў на штанах прыкметныя дзіркі.

Аднаго разу ён з імправізацыйнай «рагаткі», якая ладзіцца на двух растапыраных пальцах з дапамогай тонкай гумкі, патрапіў туга скручанай паперкай у вока аднакласніку. У вока ён, магчыма і не цэліўся, але ад гэтага параненаму не лягчэй і зрок яму з цяжкасцю ўратавалі.

Усё гэта вельмі забаўляла Руслана і ён, пасля кожнай сваёй каверзы, гучна рагатаў.

Такія паводзіны ў любым узросце завуцца дурнымі жартамі, але яны, як сведчыць жыццё, часцяком перарастаюць у жорсткасць.

Калі такія свае паводзіны з сябрамі Руслан лічыў бяскрыўднымі, дык адносіны яго да катоў, сабак і іншай дробнай жыўнасці, многія, нават яго лепшыя сябры, называлі не інакш, як безсардэчнымі.

Руслану падабалася вырваць у жука ўсе лапкі, акрамя адной і з захапленнем назіраць, як той на паперы выпісвае кругі вакол сваёй восі, адпіхваючыся адной лапкай. Ці ён лавіў матылька, упіхваў яму ў брушка сухую травінку і з асалодай назіраў за тым, як бедалага спрабуе ўзляцець.

У нармальнага чалавека такія паводзіны выклікаюць унутраны пратэст супраць садызму. Менавіта такі пратэст даволі эмацыянальна выказаў Руслану яго сябар Іван пасля таго, як Руслан злавіў у траве коніка і адарваў адну ножку. Конік адчайна пстрыкаў на пакінутай ножцы і завальваўся ўвесь час у бок. Зноў пстрыкаў, і зноў куляўся на бок. Руслан ад смеху хапаўся за жывот.

Іван ускіпеў:

— Ты глянь, якога скакуна-весялуна скалечыў! Навошта? Ты думаеш яму не баліць? А каб табе адарвалі нагу — як бы ты сябе адчуваў?

— Ха-ха-ха! Хто мне адарве нагу? Хахмач ты, Іван!

Такія паводзіны Руслана закранулі Івана за жывое:

— Я не разумею тваёй чэрствасці, Руслан! Лічы, што мы больш не сябры! — і хлопчык падаўся прэч.

Руслан наўздагон крыкнуў, цяпер ужо былому сябру:

— З-за нейкай казяўкі ты рвеш сяброўства! Ну і каціся!

Іван ішоў узрушаны, нават моцна раззлаваны. Як уратаваць сябра? Што б яму такое сказаць ці зрабіць, каб ён ачысціў сваё сэрца ад жорсткасці, каб прасвятліў сваю душу?

Тут ён успомніў ці легенду, ці байку, якую не раз чуў і ад старых, і ад моладзі. Трэба, згодна той байкі, падысці да старой, каранджакаватай вярбы, што схілілася над сажалкай, прытуліцца шчакой да яе кары і сказаць нейкае заклінанне, тады ўсё, што загадаеш, споўніцца.

Як патанаючы хапаецца за саломінку, так і Іван ухапіўся за легенду пра вярбу. Праўда, заклінання ніякага ён не ведаў.

І вось хлопчык баязліва наблізіўся да пакручанай часам вярбы, абняў яе глабока маршчыністы ствол, моцна прыціснуў шчаку да вострых рэбраў кары і прашаптаў:

— Бабуля-вярба! Я не ведаю ніякіх заклінанняў, баюся гэтым пакрыўдзіць цябе, але без тваёй парады і дапамогі мне не абысціся. Не ведаю, байка гэта ці праўда пра тваю чароўную сілу, але ўсё роўна выслухай мяне...

І Іван, хвалюючыся і блытаючыся, расказаў старой вярбе пра свайго сябра, пра неабходнасць выратавання яго ад відавочнай хваробы, назву якой Іван дакладна не ведаў.

Хлопчык паведаў вярбе нават пра тое, як у злосці параўнаў свайго сябра з аднаногім конікам і ў душы пажадаў яму паскакаць на адной назе...

Нічога не адказала вярба хлопчыку, але, не гледзячы на поўную бязветранасць, яе шаўкавістыя, пасівелыя ад часу косы, усхвалявана загойдаліся над вадой.

Хлопчыку раптам, быццам увесь боль яго сэрца забрала сабе вярба, зрабілася лёгка і светла на душы, як бывае ў першы дзень летніх канікулаў.

— Дзякуй табе, бабуля-вярба, дзякуй табе! — з цеплынёй усклікнуў Іван і пабег дамоў.

Дома маці ў яго спыталася:

— Ці чуў ты, Іванка, што толькі што твой лепшы сябар Руслан зламаў нагу? Павезлі яго ў бальніцу накладаць гіпс. Лічы, ён усе летнія канікулы праскача на адной назе... Бедны Руслан.

Івану падалося, што па яго спіне папаўзлі мурашкі.



# Сучасны гном

Як вядома, гномаў даўно сярод нас няма. Кажуць, былі яны некалі і валодалі вялікай чароўнаю сілаю. Але гэта было ў такой глыбокай даўніне, што ніхто ўжо не ведае, як яны, тыя гномы, выглядалі. Сучасныя дзеці і дарослыя людзі запярэчаць: «Як выглядаюць гномы? Ды звычайна! Мы іх ледзь не кожны дзень бачым у мульціках па тэлебачанні!»

Не! Гэта не гномы, а намалёваныя чалавечкі, прыдуманыя мастакамі-мульціплікатарамі.

А вось сапраўдныя гномы!..

Але ж дарослыя і дзеці памылкова лічаць, што гномы, калі і былі,— яны ў мінулым. Памыляецеся, мае дарагія! Ой, як памыляецеся! Ёсць яны сёння, загадкавыя гномы! Ёсць! І жывы сведка гэтаму — Сяргейка. Звычайны беларускі хлопчык, са звычай-

нага 3 «А» класа. Незвычайным у яго было толькі адно — яго душа. Спагадлівая, ранімая, не па-дзіцячы, бязмежная душа.

Сяргейка спачуваў кожнай жывой істоце — ад маленькай божай кароўкі да агромністага лася, якіх у навакольных лясах нямала, на якіх і ў пару, і без пары палююць людзі са стрэльбамі.

«Але што значыць «у пару», у дазволены паляўнічы сезон? — думаў Сяргейка.— Хіба ж бывае нейкая дазволеная пара, якая вышэй за права на жыццё, напрыклад, зайца, казулі ці таго ж лася?»

Але асабліва балела Сяргейкава душа за птушак, якія пакутуюць зімой ад маразоў і голаду, за бяздомных жывёлінак — катоў і сабак, якіх з кожным годам усё больш і больш у гарадах і вёсках. Гэта атручвала жыццё Сяргейку, не давала ноччу спаць. Ён востра адчуваў сваю бездапаможнасць, якая павялічвала боль душы. Ён ніяк не мог зразумець, чаму людзі не заўважаюць схуднелых, змардаваных «братоў нашых меншых» альбо заўважаюць і абыякава ідуць міма? Ён з горыччу дзівіўся, як можна не пакарміць галубка з зламаным крылом ці перабітай лапкай, чыё жыццё залежыць цяпер ад чалавечай чуласці? Як можна не падтрымаць у дваццаціградусны мароз верабейчыкаў, якія, як пісаў Сяргей Ясенін: «Как детки сиротливые, прижались у окна...»?

Бывала, Сяргейку кавалак не лез у горла ад думкі, што зараз нехта з птушачак ці жывёлінак памірае з голаду...

Вось Сяргейка і расказаў мне пра яго сустрэчу з гномам, катэгарычна адмовіўшыся апісваць яго знешні выгляд. Зрабіць гэта папрасіў яго сам гном, баючыся, што кінуцца да яго ўсе з просьбамі і патрэбнымі, і не. Сам гном вырашаў, каму дапамагаць.

А пачыналася хлопчыкава знаёмства з гномам так.

Вяртаўся неяк Сяргейка са школы дамоў і, падыходзячы да сваёй хаты, заўважыў абяссіленага сабаку, які спрабаваў ісці, але валіўся то на адзін, то на другі бок. Ён зноў падымаўся, каб ісці, і зноў падаў. Відаць, хтосьці некалі выкінуў яго з машыны ці прагнаў ад хаты, і бедалага, шукаючы прытулку, аддаў усе сілы за выжыванне.

Сяргейка падбег да бяздомніка, падхапіў яго на рукі і кінуўся з ім да свайго ганку:

— Мама! Тата! — крыкнуў ён.— Дапамажыце!

Спалоханая маці выбегла на двор і жахнулася:

— Божа літасцівы! Які ён худы!

— Мамачка, дай хутчэй яму што-небудзь паесці! — узмаліўся хлопчык, але, пакуль маці забегла ў хату за ратавальнай ежай, сабака памёр у Сяргейкі на руках.

Большага гора ў хлопчыкавым жыцці пакуль не было, таму ён не стрымліваў сябе і ўголас плакаў.

Прыйшлося рабіць апошняе, што магчыма было зрабіць для гэтага сабакі — пахаваць яго.

Пахаваўшы бяздомніка, Сяргейкавы маці і бацька пайшлі дамоў, а хлопчык працягваў сядзець ля свежага пясочку на сабачай магіле.

Ён сядзеў і спадзяваўся праз гарачыя слёзы паменшыць востры боль, які пранізваў сэрца.

Вось тут ён і пачуў:

— Прымі мае шчырыя спачуванні, хлопчык.

Сяргейка здрыгануўся і ўбачыў побач з сабой... Ён не зразумеў, каго ўбачыў, бо бачыў першы раз у жыцці кагосьці незвычайнага і дзіўнага. Хлопчык не паспеў ні спалохацца, ні здзівіцца і толькі аўтаматычна скрозь слёзы спытаўся:

— Вы хто будзеце?..

— Я — гном!

Сяргейка не ведаў, як паводзіць сябе далей, бо гномаў, як і ўсе мы, бачыў толькі ў мульціках, але тыя, мульцяшныя гномы, выглядаюць зусім іначай.

— А хіба ж такія гномы бываюць? — нарэшце спытаўся хлопчык, выціраючы ўзмакрэлыя вочы.

— Толькі такія і бываюць! — упэўнена адказаў сапраўдны гном.

— А адкуль вы ўзяліся? — цяпер ужо шчыра здзівіўся Сяргейка.— Я ж жыву ў звычайнай вёсцы, а не ў казцы...

— Адкуль я — гэта не галоўнае! — перахапіў гаворку гном.— Для мяне сёння галоўнае толькі адно: чаго б ты хацеў ад мяне, хлопчык?

— Я?.. Я... не ведаю... — разгубіўся Сяргейка.— Мне нічога не трэба... Дзякуй.

— Падумай, не спяшайся,— параіў гном.— Што ты пажадаеш, тое я і зраблю.

— Ой! — усклікнуў хлопчык.— Што я кажу — нічога не трэба! Я хачу, вельмі хачу прытулак для бяздомных жывёлінак! Я хачу ўратаваць іх ад пакутаў... Ці няхай хоць хтосьці ўратуе іх! Ці можна такое?!

— Прытулак для жывёл? — перапытаў гном.— Ты не памыліўся? Можа, прытулак для бяздомных людзей лепш?

Сяргейка задумаўся і, пасля доўгай паўзы, выдыхнуў:

— Не!.. Усё ж, для жывёл... Людзей шкада, але бяздомныя людзі маюць магчымасць звярнуцца да другіх людзей, папрасіць дапамогі, і іх пачуюць, зразумеюць, дапамогуць... А, па-другое, многія людзі самі вінаватыя ў сваёй неўладкаванасці. А ні ў чым не вінаватая жывёлінка не мае магчымасці звярнуцца да людзей па дапамогу. Адзіная мова жывёлін — іх выразныя вочы, поўныя болю, але хто асабліва зазірае ў вочы бяздомнікаў?.. Калі можаце, дапамажыце гаротнікам, пазбаўце іх ад пакут...

— Добра! — адказаў гном.— Няхай будзе па-твойму,— і знік.

І адбыўся цуд! На грошы, якія ахвяраваў таямнічы спонсар, на ўскрайку Мінска, пабудавалі вялізны сучасны прытулак для бяздомных катоў і сабак. Бяздомнікаў звозілі з усяе Беларусі і тут, пад наглядам абслугі і ветэрынараў, гаротнікаў ратавалі — і кармілі іх, і лячылі.

Сапраўды, па адносінах да састарэлых людзей і бяздомных жывёл, у свеце ацэньваюць і дзяржаву ў цэлым.

Але праз нейкі час у прэсу прасачылася інфармацыя пра тое, што спонсарскія грошы на ўтрыманне прытулку для бяздомнікаў заканчваюцца і што, хутчэй за ўсё, прытулак закрыюць, а жывёлава гора зноў бяздомна разбрыдзецца па нашай зямлі.

Сяргейка вучыўся ўжо ў дзясятым класе і быў настолькі пісьменны, што мог самастойна напісаць у высокія інстанцыі хадайніцтва пра далейшае фінансаванне з боку дзяржавы прытулку для бяздомных жывёл.

Аднак адказу на хадайніцтва ён пакуль не атрымаў і з горыччу падумаў: «Няўжо толькі гном і надалей здольны ўратаваць бяздомнікаў ад пакут і пагібелі?..»





# Міколка і сапраўдны Дзед Мароз

Свята Новы год — для дарослых толькі свята. Мы падводзім вынікі мінулага году і спадзяёмся на здзяйсненне новых мар і дасягненне новых мэт у годзе надыходзячым. Гэта — для дарослых.

А для дзяцей?

Для тых дзяцей, што яшчэ вераць у добрага Дзеда Мароза — гэта казка. Казка, у якой чараўнік Дзед Мароз з белай барадой і вусамі, апрануты ў чырвонае альбо блакітнае адзенне, з мяшком падарункаў за плячыма, пакладзе пад Навагоднюю Ёлачку штосьці смачнае і цікавае.

І кладзе гэтыя дарункі чараўнік абавязкова ноччу перад самым святам-казкай, калі хлопчыкі і дзяўчынкі спяць. Як жа ім хочацца хоць разочак пабачыць таемства, але Дзед Мароз — няўлоўны і загадкава-нябачны.

Бачыць-то яго дзеці бачаць штогод: і ў мульціках, і кожнае Навагодняе свята ў садку, у школе ці нейкім палацы ля святочнай Ёлачкі.

А вось адкуль ён ведае, хто дзе жыве, і хто чаго хоча ў падарунак, для дзяцей — таямніца.

Шчаслівыя дзеткі, хто верыць у казку, у добрага Дзеда Мароза і Снягурку.

Але надыходзіць час, калі з узростам, дзіця выходзіць за межы казкі і пачынае разумець: гэта ж бацькі, а не Дзед Мароз, кладуць ноччу пад Ёлачку падарункі, выведаўшы ў дзіцяці, што б ён хацеў атрымаць на новы год.

Гэта — самае першае і, бадай, самае горкае расчараванне маленькага чалавека. Ён, гэты маленькі чалавечак, адчувае сябе так, быццам у яго забралі самую любімую і дарагую цацку і ніколі ўжо яе не аддадуць.

Штосьці падобнае здарылася і з Міколкам. Ён выпадкова прачнуўся ў навагоднюю ноч і ўбачыў, як яго бацькі кладуць пад Ёлачку падарунак і ціхенька перагаворваюцца:

— Прачнецца Міколка раніцай, а падарунак яго ўжо чакае!

— Цішэй, а то разбудзіш.

— Дык гэта вы, а не Дзед Мароз, кожны год кладзеце падарункі! — уголас заплакаў хлопчык.— Вы... Вы!

Міколка і раней чуў ад сяброў, што ёсць такія

фірмы, з якіх за грошы выклікаюць дадому несапраўдных Дзедаў марозаў. Але Міколка не верыў сябрам. Цяпер жа ён скрозь слёзы крычаў:

— Гэта вы! І да нас прыходзіў несапраўдны Дзед Мароз. Вы яго выклікалі за грошы!

Бацькі разгубіліся. Першай апрытоміла маці:

— Міколка, супакойся, сынок! Гэта ж сапраўдны Дзед Мароз папрасіў нас пакласці пад ёлачку для цябе падарунак.

— Так! Так! — падхапіў і бацька ману.— Ён, Дзед Мароз, адзін, а вас, дзетак, вельмі шмат, таму ён папрасіў нас дапамагчы яму.

— Не веру! — працягваў плакаць расчараваны Міколка.

Мала хто ведае, а, магчыма, і ніхто, што ўсё ж існуе сапраўдны Дзед Мароз. Не, ён не ходзіць з мяшком за плячыма навідавоку, не водзіць з дзецьмі вакол Навагодняй Елкі карагоды. Ён — нябачны. Вопратка на ім снежнага колеру, рукавіцы ж такія, таму ўбачыць яго на зімовым фоне немагчыма. Вось толькі твар у яго, асабліва шчокі, маюць, як і ў людзей, ружовы колер. А каб заставацца нябачным, сапраўдны Дзед Мароз закрывае частку твару і шчокі сваім шалікам, таксама снежнага колеру. Бывае, шалік спаўзае ўніз, тады яго ружовыя шчокі адлюстроўваюцца на краі неба, ствараючы ружовую зару. Убачыўшы гэта, сапраўдны Дзед Мароз хуценька папраўляе шалік і зара паступова згасае...

Дык вось, гэты сапраўдны Дзед Мароз, калісьці, даўным-даўно, спрабаваў адзін ахапіць сваёй увагай усе гарады і вёскі, не абмінаючы ніводнага дзіцяці.

Уяўляеце? Аднаму за адну Навагоднюю ноч абысці столькі населеных пунктаў! І не толькі абысці, а яшчэ зазірнуць у кожнае акно, дзе ёсць дзеці, і пераканацца, што ніводзін з іх не пакрыўджаны, што кожнага чакае падарунак.

Зрабіць гэта аднаму, нават казачнаму Дзеду Марозу было немагчыма. Ён стаптваў за ноч не адну пару валёнак, стамляўся, а не паспяваў зазірнуць нават у тысячную частку акон, дзе жывуць дзеці.

Тады Дзед Мароз-адзінота выкінуў на сметнік усе свае стаптаныя валёнкі і абурыўся:

— Чаму я адзін непакоюся пра дзяцей? Нас жа, марозаў, шмат, толькі астатнія не вельмі любяць чадныя гарады. Яны, маладзейшыя, разбегліся па палях і лясах. Чым яны там забаўляюцца? Пустым! Каго за нос ушчыкнуць, каму вушы падмарозяць, некага за шчокі куснуць.

І гэты Дзед мароз, на правах старэйшага, гукнуў і сабраў вакол сябе больш маладых калег, якім загадаў:

— Хопіць бесклапотнасці! Можна адну ноч у год і парупіцца! Разыходзьцеся па ўсіх гарадах і вёсках, дзе ўсталявалася зіма і дзе адзначаюць Новы год, сачыце там за парадкам. Ніводнае дзіця не павінна застацца без падарунка. Зазірайце ва ўсе вокны і, калі каму з дзяцей бацькі забыліся пакласці пад

Ёлачку падарунак — рабіце гэта ноччу самі. Для чаго я і надзяляю кожнага з вас на адну толькі ноч чараўніцтвам.

Пры гэтым строга забараніў сваім маладым калегам праяўляць сябе, паказвацца людзям. Тлумачыў так:

— Людзі, даведаўшыся, што ёсць мы, сапраўдныя, адвернуцца ад несапраўдных, і тады мы будзем вымушаны на ўсе святочныя дні забаўляць дзяцей у душных залах. А гэта вельмі небяспечна для нашага здароўя.

Калі галоўны Дзед Мароз забараняў калегам «праяўляць сябе», ён хацеў, каб яны сачылі за шалікамі, якія закрываюць твар і асабліва не расхіналі сваё доўгае адзенне снежнага колеру, пад якім апранута — адкрыю сакрэт! — усё тая ж чырвоная альбо блакітная вопратка. Гэтыя два колеры ў сапраўдных Дзядоў Марозаў, як і ў несапраўдных — любімыя колеры.

Вось такой Навагодняй ноччу, калі Міколка абвінавачваў бацькоў у падмане, адзін з маладых Дзядоў Марозаў, зазірнуў у акно і жахнуўся:

— Ая-я-яй! — пляснуў ён рукавіцамі снежнага колеру.— Хлопчык губляе веру ў нас. Як гэта блага, калі нават дарослы чалавек губляе веру ў штосьці вельмі важнае для яго. А тут дзіця! Я павінен вярнуць яму, веру ў казку.

І гэты чулы Дзед Мароз пастукаўся ў кватэру, дзе жыве Міколка. Дзверы адчыніла маці Міколкі і

разгубілася, нават спалохалася, бо быў бачны толькі ружовы твар, а адзенне снежнага колеру, на фоне калідора, надавала незнаёмцу абрыс лёгкага туману.

— Хто вы? — спыталася жанчына.

— Я — Дзед Мароз! — адказаў незнаёмец.

— А мы вас не заказвалі, не выклікалі,— яшчэ больш разгубілася яна.— Ды і ноч ужо...

— А я — сапраўдны Дзед Мароз! Сапраўдны! Вы і не маглі мяне выклікаць! — усклікнуў незнаёмец. Затым спахапіўся: — Вой! Я зараз распрануся і праяўлюся ўвесь!

І ён, парушаючы забароны галоўнага Дзеда Мароза, скінуў вопратку і заззяў шыкоўным, сапраўдным дзеда-марозаўскім адзеннем, якое шматкалярова выпраменьвалася.

Маці Міколкі ахнула ад убачанага і, хоць не паверыла, што гэта сапраўдны Дзед Мароз, выказала гасціннасць і запрасіла незнаёмца ў пакой:

— Заходзьце, калі ласка! І хоць мы вас не выклікалі, мы рады вам. Потым паклікала сына: — Міколачка! Да цябе прыйшоў сапраўдны Дзед Мароз. Ён пацвердзіць, што мы па яго просьбе паклалі падарунак пад Ёлачку.

Дзед Мароз зайшоў у залу, дзе ля елачкі стаяў заплаканы хлопчык.

— Дык ты не верыш, Міколка, што я сапраўдны Дзед Мароз?

— Не веру...— захліпаў носам Міколка.— Вас выклікаюць за грошы. Мне ўжо шэсць гадоў, мяне не

падманеце...— хлопчык выцер слёзы і спытаўся: — А дзе ваш падарунак, калі вы сапраўдны Дзед Мароз?

— Пад Ёлачкай. Пад Ёлачкай! — загаманілі бацькі.

Дзед мароз урачыста абвясціў:

— Мой падарунак чакае цябе наперадзе. Ты яго хутка атрымаеш! Апранайся!.

— Куды? — занепакоіліся бацькі.— Ён будзе дома, ноч на дварэ! З незнаёмцам мы яго нікуды не пусцім!

— Ноч гэта — Навагодняя, казачная! — зноў абвясці Дзед Мароз.— Яна і толькі яна дазваляе раз на год ствараць неверагодныя цуды! За мной, Міколка!

І цуды адразу пачалі адбывацца, бо Міколкавы бацькі, як пад гіпнозам, стаялі і за ўсім пакорліва назіралі, а хлопчык апрануўся і пабег за незнаёмцам.

Ля пад’езду стаялі крылатыя сані, у якія селі Дзед Мароз і Міколка. Сані ўзмахнулі крыламі і ўзмылі ў марознае паветра Навагодняй ночы. Недзе ўнізе, казачным міражом пaміргваў горад.

— Цяпер ты верыш, што Дзед Мароз існуе? — перакрыкваў свіст ветру Міколкаў знаёмы.

— Веру, калі гэта не сон, веру!

— Вось гэта і ёсць мой Навагодні падарунак табе! Вера ў казку — хіба гэта не падарунак?!

— А куды мы ляцім? — пацікавіўся хлопчык.

— Убачыш! Хутка ўсё ўбачыш і яшчэ раз пераканаешся, што жыццё і казка — побач!

Раптам, калі здавалася, да зорак можна было дакрануцца рукой, двух летуценнікаў дагналі другія, значна большыя крылатыя сані, у якіх сядзеў галоўны Дзед Мароз. Ён пералятаў ад горада да горада, ад вёскі да вёскі і правяраў, як яго падначаленыя выконваюць яго загады.

— Ты куды? — грымнуў ён на Дзеда Мароза.— Чаму пакінуў свой абход?

Маладзейшы Дзед Мароз пачаў апраўдвацца:

— Вось ён, гэты хлопчык, згубіў веру ў нас, у казку... Я вязу яго на Нябесны Навагодні баль, дзе вакол Казачнай Навагодняй Ёлкі танчаць Феі, Анёлы, Чараўніцы і казачныя...

— Ты парушыў маю забарону і паказаўся людзям! — зноў грымкнуў галоўны Дзед Мароз.— Я пазбаўляю цябе казачнага чараўніцтва! Вяртайся на зямлю і заставайся там назаўсёды — будзеш кожны год на галоўнай Ёлцы вадзіць карагоды з дзецьмі! Бывай! — і ён знік у начным небе.

Дзед Мароз-малодшы неахвотна павярнуў сані і сумна выдыхнуў:

— Вось, Міколка, заўтра я ўжо буду несапраўдным Дзедам Марозам...

— Не! Не! — горача ўсклікнуў хлопчык.— Вы для мяне заўсёды будзеце самым сапраўдным. Заўсёды!

— Я ж не давёз цябе да Нябеснага Навагодняга балю, павінаваціўся Міколкавы «самы сапраўдны» Дзед Мароз.

— Нічога! — бадзёра адказаў хлопчык.— І на зямлі Навагоднія Ёлкі вельмі прыгожыя, і вакол іх карагодзяць, хоць і ў масках — і Феі, і Анёлы, і Чараўніцы, і шмат іншых казачных персанажаў...

Як і дзе прызямліліся крылатыя сані і як Мікола вярнуўся дамоў, ён не памятае.

Раніцай бацькі ледзь дабудзіліся яго:

— З Новым годам, Міколка! З новымі радасцямі і падарункамі, сынок!

Міколка ўскочыў з пасцелі і пабег да бацькоў:

— Мама! Тата! Я хачу папасці на Галоўную Навагоднюю Ёлку! Там будзе мой знаёмы. Самы сапраўдны Дзед Мароз! Пойдзем?

— Пойдзем, абавязкова пойдзем, Міколка! — згадзіліся бацькі.

З Новым годам!



# Дабром за дабро

Пра жыццё на зямлі, якое віруе вакол нас, мы ведаем дасканала. Тут — усё навідавоку. А вось пад вадой — што і як? Скажам, у нашай рэчцы, у якую мы даём летам нырца?

А там — свае парадкі, свае законы. Ды, у адрозненні ад нашых зямных законаў, даволі жорсткія.

У рэчцы спрадвек верхаводзіць... ці, дакладней, глыбокаводзіць шчупак. Ад яго ўсе рыбіны, якія толькі водзяцца ў рэчцы, маланкава ўцякаюць. Нікому не хочацца трапляць у зубастую пашчу рачнога драпежніка.

Праўда, ёсць усё ж адна рыбіна, якая не ведае страху перад гэтым разбойнікам. Гэта — сом. Ён з лёгкасцю мог бы праглынуць шчупака, але сом — незваротлівы ды лянотны. Яму ў спрытнасці далёка да шчупака і характар у яго больш лагодны.

А вось астатнія жыхары рэчкі, такія, як плотка, лінь, язь, лешч, акунь, нават калючы задзіра яршок — усе пасуюць перад бязлітасным шчупаком.

І вось аднойчы ўсё насельніцтва рэчкі са здзіўленнем даведаліся, што нават самая жорсткая істота здольная стаць літасцівай.

А ўсё адбылося так. Шчупак Цап, як заўсёды застаўся ў засадзе, схаваўшыся за падводным карчом, і чакаў чарговую ахвяру. Доўга яму чакаць не давялося, бо міма праплывала бесклапотная плотачка Плынька. Шчупак з разяўленай пашчай знянацку наскочыў на бедалагу і схапіў яе зубамі за хвост.

Звычайна Цап хапаў сваю ахвяру з галавы. А тут — ці ён прамахнуўся, ці плотачка своечасова заўважыла небяспеку і рынулася з усіх плаўнікоў на ўцёкі — невядома. Але, тым не менш, Плынькаў хвост апынуўся ў палоне вострых шчупаковых зубоў.

Узмалілася яна:

— Не еш мяне, шчупак! Злітуйся! У мяне сямёра маленькіх дзетачак. Загінуць яны без мяне!

Шчупак Цап моўчкі слухаў. Ён хацеў сказаць, што з’есць і яе дзетак, але зразумеў — варта толькі раскрыць пашчу для размовы і плотачка знікне.

А яна працягвала:

— Ты ж быў сам некалі маленькім дзіцяткам. Уяві, што ты тады застаўся сіроцінкай, без маці. Будзь міласэрным, адпусці мяне. Бачыш, я плачу...

Цап не мог бачыць плотчыных слёз, бо яны, каб і былі, расталі б у вадзе. Але ён адчуў, што вада крыху пасаланела і зразумеў, што Плынька не хлусіць, а сапраўды плача.

Невядома, што паўплывала на бязлітаснага шчупака — ці слёзы плотачкі, ці ўспаміны свайго маленства, але ён злітаваўся і расціснуў зубы.

— Плыві, гадуй сваіх дзетак, але другім разам не трапляй на мае вочы.

Слых пра такое незвычайнае здарэнне маланкава разляцеўся па ўсёй рэчцы. Ва ўсіх рыбін з'явілася надзея на магчымасць мірнага суіснавання з рачнымі драпежнікамі.

Астатнія ж шчупакі наадварот, пры сустрэчы з «літасціўцам» адварочваліся ад яго ці са здзекам цадзілі скрозь зубы:

— Эх ты, безхрыбетнік! Сваім учынкам ты заплям іў увесь шчупачыны род...

— Я ж пашкадаваў дзетак... Мы ж самі былі некалі малькамі...

Але яго і слухаць не хацелі.

Ішоў час, і нейкі шчупак-разява патрапіў у сетку, якую бракан'еры закінулі ў рэчку на ноч. І хоць сіла ў шчупака не малая, ды сетку разадраць ён не здолеў. Толькі нарабіў шуму і яшчэ больш ублытаўся.

А ў вадзе, як вядома, і як гэта ні дзіўна, гукі разлятаюцца імгненна і даволі далёка. Таму на шум сплылося шмат розных рыбін-зявак. Але пра дапамогу зубастаму драпежніку ніхто і не думаў, бо ўсе

баяліся наблізіцца да яго. Колькі палонны ні маліў пра дапамогу, ніводная рыбіна плаўніком не кранула.

Нават наплыўшыя з усіх бакоў шчупакі абыякава назіралі за сваім сабратам, бо ведалі, што з сеткай благія жарты.

Раптам за ўсёй гэтай рыбнай табалы падплыла плотачка Плынька і яе сямёра крызу падросшых дзетак.

— Што ж вы стаіцё! — усклікнула яна, звяртаючыся да зявак.— Трэба ж ратаваць бедалагу!

Плыньчыны дзеткі захваляваліся:

— Мама, гэта ўблытаўся шчупак, які зліставаўся з цябе?

— Не, дзеткі, гэты шчупак мне незнаёмы, але мы абавязаны дапамагаць таму, хто ў бядзе.

І добрая Плынька разам са сваімі добра выхаванымі дзеткамі, пачалі асцярожны выблытваць абяссіленага небараку.

Астатнія шчупакі пачырванелі ад сораму, і далучыліся да плотачак. У іх і думкі не было, каб накінуцца на Плыньку і яе дзетак.

Хутка бедалага быў вызвалены з палону. Ён звярнуўся да сваіх выратавальнікаў:

— Вы ўратавалі маё жыццё. Я ніколі гэтага не забуду!

Плынька сціпла адказала:

— Без узаемнай дапамогі жыць на гэтым свеце вельмі цяжка.

Шчупакі яшчэ больш пачырванелі.

Невядома, як у іншых рэчках, а ў гэтай з тае пары ўсталявалася спакойнае і мірнае жыццё.

А як жа рыбіны-драпежнікі? Не паміраць жа ім з голаду!

Аказалася, што ў рэчцы хапае ўсялякага рознага, што з часам адмірае і кладзецца на дно. Ды і ў выніку чалавечай дзейнасці сёе-тое неатручанае трапляе ў ваду.

Не выключана, што рачныя драпежнікі заклапаціліся пра сваё здароўе і сталі вегетарыянцамі.

І ўсё ж галоўную ролю сыграла адна добрая справа, якая нарадзіла шмат новых добрых спраў.

Што тут можна дадаць?

І ў нас, на зямлі, за дабро плоцяць дабром.



# Вечная песня

О, якое прыгожае зорнае неба яснай ноччу! Зірнеш на неба і, здаецца, што ты ўжо не на зямлі, а лунаеш між гэтых яснавокіх прыгажунь. Працягнеш руку — і вось яна, зорачка, на тваёй далоні.

Пэўна, такое адчуваюць усе ўлюбёныя ў жыццё і ва ўсё, што нас атуляе.

А якая ўрачыстая цішыня! Прыслухаешся і не разумееш, ад чаго пазваньвае ў вушах — ад цішыні ці гэта зорачкі, не толькі перамірґваюцца, а яшчэ і мілагучна перазвоньваюцца.

У зорачак сваё жыццё, свой свет пачуццяў. Не выключана, што ў іх і свая, зорная мова. На жаль, ніхто з людзей не валодае гэтай загадкавай, незямной моваю.

Ніхто?! Хочацца верыць, што ўсё ж быў адзін такі чалавек, дакладней, таленавіты і прыгожы

юнак. Ён не толькі замілоўваўся зорным небам, але і разумеў — сэрцам разумеў мову зорнага неба.

А адбылося гэта прыкладна сто гадоў таму. Ён, гэты юнак, падчас сваіх светлых мараў яснай ноччу, стаў сведкам цікавай размовы, якая даляцела да яго з бясконцай вышыні зорнага неба.

— Я — зорачка сузор'я Вялікай Мядзведзіцы. Чулі? Вялікай! Нас у сузор'і аж сем блізнятак!

— Падумаеш! Толькі сем,— адгукнулася з глыбінь неба нейкая зорачка.— Я з сузор'я Цяльца. Нас, сясцёр-зорачак у сузор'і не злічоная колькасць!

— А я з сузор'я Скарпіён! Чулі такое?

— Вой, як страшна — Скарпіён! — загаманілі зорачкі з іншых сузор'яў.

— А чулі, ёсць сузор'е Рака? Я адтуль.

— Памаўчала б са сваім Ракам. Гэта таксама страшна.

Хтосьці з зорачак з гонарам прамовіў:

— Вось я з сузор'я Лебедзя. Зайздросна?

— А сузор'е Арыён гучыць не горш Лебедзя! — паўлася ў адказ.

Хтосьці заключыў:

— Лепш адносіцца да сузор'я Скарпіёна ці Рака, чым блытацца ў небе адзінотай-гарымотай,— і ўсе азірнуліся на зорачку, якая трымалася асобкам і ад гэтага яе выпраменьванне выглядала сумным і самотным.

— Затое ў маім святле прысутнічае прыемная ружовасць,— сумна адказала зорачка.

— Каму твая ружовасць патрэбна? — загаманілі сузор'і.— Вунь на Зямлі стаіць прыгожы юнак і пазірае на неба. Бачыш? Думаеш, ён на цябе любуецца? Ты, адзінота, з Зямлі наўрад ці відаць! А мы, сузор'і, бачныя з усіх Галактык!

Паступова ноч саступіла месца раніцы і сонечнаму дню. Зорачкі расталі ў дзённым святле, каб наступнай ноччу зноў упрыгожыць чорны аксаміт неба.

І вось надышла чарговая ноч. Зорачкі з усіх сузор'яў і зорачкі-адзіноты зноў убачылі таго прыгожага юнака, які, як і раней, замілоўваўся прыгажосцю зорнага неба. І кожная зорачка была ўпэўнена, што юнак выбраў толькі яе.

Раптам юнак душэўна і ўзнёсла заспяваў:

— Зорка Венера ўзышла над Зямлёю,

Светлыя згадкі з сабой прывяла...

— Пры каго ён спявае? — захваляваліся прыгажуні ў небе.— Хто яна, адна з незлічоных нас? Каму ён прысвяціў сваю песню?

Усе напружана маўчалі і толькі пераглядаліся. Сціпла маўчала і тая, каму былі прысвечаны юнаком цудоўныя паэтычныя радкі. Яна ад радасці толькі крыху больш паружавела.

Тады зорнае неба сваім мілагучным переразвонам звярнулася да юнака:

— Скажы, калі ласка, чароўны юнак, хто яна? Каму ты прысвяціў свой верш? Дзе тая шчаслівая прыгажуня?

Юнак паказаў на зорачку-самоту, якая была блізкай яго сэрцу і яго лёсу:

— Вунь яна, з прыемным ружовым адценнем! Гэта мая самая любімая — Зорка Венера!

З тае далёкай пары ўсе зоркі, якія толькі запальваюцца на небе, з павагай і зайздрасцю ставяцца да зоркі, якая, хоць і не належыць ні да воднага сузор'я, затое не горш за астатніх упрыгожвае начны небасхіл.

І дзякуючы яе прыгажосці і таленту юнака, сэрцы людзей саграваe цудоўная песня, вечная, як зорнае неба.





# Жыха́рыкі

Тое, што ёсць на зямлі жыхары, мы з вамі — усім і даўно вядома. Як гэта без нас?

А вось тое. Што ў кожным кутку зямлі беларускай ёсць жыхарыкі,— мала каму вядома.

Ды што такое, мала каму! Бадай, ніхто пра іх, жыхарыкаў, і не ведае, і не чуў. Ніхто, акрамя мяне. Не таму, што я такі ўжо разумны ці дасведчаны, а, таму, што я, вандруючы пешшу па роднай Лагойшчыне і захапляючыся яе непараўнальнай прыгажосцю, выпадкова натрапіў на нейкі дзіўны сход нейкіх дзіўных чалавечкаў.

Я, амаль не дыхаючы і зусім не кратаючыся, затаіўся за ялінай і з цікавасцю назіраў за тым, што адбываецца на лясной паляне.

Мне пашанцавала, бо сход толькі пачынаўся.

Магчыма, недзе, у другіх краінах, іх, гэтых маленькіх чалавечкаў, называюць гномамі ці нейкімі там тролямі, яны ж сябе назвалі жыхарыкамі, і мне гэта было вельмі даспадобы.

Адзін з гэтых чалавечкаў, пэўна, старшынствуючы, выступіў з уступным словам:

— Мы, беларускія жыхарыкі, сабраліся сёння тут, на Лагойскай зямлі таму, што Лагойшчына — адзін з самых маляўнічых куткоў Беларусі. Яе, Лагойшчыну, некаторыя жыхары памылкова называюць Швейцарыяй. Далёка той Швейцарыі да тутэйшых мясцін!

Хачу нагадаць, што сёння тут прысутнічаюць дэлегаты: ад Віцебскай Браслаўшчыны — Азёрык, ад Брэсцкай Піншчыны — Палесік і Балоцік ды яшчэ — Белавежык, ад Гродненшчыны — Налібочык і Нямонік, ад Магілёўшчыны — Дняпровік, ад Гомельшчыны — Сожык.

Міншчыну, як гаспадыню нашага сходу, прадстаўляюць Нясвіжык, Заслаўлік, Нарачанік і Салігорык.

Дадаткова, ад кожнага названага рэгіёну дэлегіраваны сюды Жытнёвікі, Гаспадарыкі, Рупліўчыкі і Гасціннікі.

І ўсё ж, з асаблівым задавальненнем, я называю дэлегатаў славутай Лагойшчыны.

Гэта — Лагожык, Прыгожык, Мурожык, Крынічык, Пагорык, Гаёвік, Баровік, Блакіцік і Таленавіцік.

Вось якое сузор'е Лагойскіх жыхарыкаў!

Пра кожнага трэба сказаць асобна.

Лагожык — першы, хто калісь пасяліўся на гэтай зямлі. Таму некалі ягоным імем назвалі сталіцу Лагойшчыны — Лагожск, а затым ужо — сучасны Лагойск.

Прыгожык — адказны за прыгажосць Лагойскай зямлі, з чым ён, як мы бачым, паспяхова спраўляецца.

Мурожык — стварыў і ўтрымлівае сёння ў належным стане шаўковыя лугі-мурагі.

Крынічнік — не дае замутніцца крыштальным крыніцам, якіх вельмі шмат на Лагойшчыне.

Пагорык — стварыў тут непаўторныя, маляўнічыя пагоркі, якія прываблівауць да сябе турыстаў і спартсменаў. Чаго толькі вартыя адны знакамітыя Сілічы.

Гаёвік і Баровік — раскідалі па ўсёй Лагойшчыне празрыстыя бярозавыя гаі і задуменныя хваёвыя бары, у якіх нараджаюцца легенды і паданні.

Блакіцік — расхінуў над гэтай старажытнай зямлёй бяздонныя блакітныя шаты.

А вось Таленавіцік — узбагаціў зямлю і людзей духоўна, творча.

Пачуліся шчырыя апладысменты, пасля чаго прамоўца працягваў:

— Прыгожая ўся зямля Беларуская! І мы сёння сабраліся тут, каб абмеркаваць, як яшчэ больш упрыгожваць яе, абмяняцца вопытам і надалей

дапамагаць людзям захоўваць і множыць гэту навакольную прыгажосць.

Як заўсёды, шмат намаганняў неабходна нам прыкласці для ачысткі лясоў ад смецця і бруду, якія людзі чамусьці пакідаюць пасля сябе...

Мне зрабілася сорамна за нашы паводзіны на прыродзе, якую мы вельмі любім і якую, тым не менш, нярэдка забруджваем.

Прабачце нам, жыхарыкі. Мы больш так сябе паводзіць не будзем!

Далей я даведаўся, што ва ўсіх кутках Беларусі, сярод жыхарыкаў, ёсць свае Гаспадарыкі, руплівчыкі, Прыгожыкі, Крынічыкі, Блакіцікі і Таленавіцікі.

— Ды інакш і быць не можа! — заключыў аратар.— зямля наша — гаспадарлівая. Гасцінная і слынная сваімі творчымі здабыткамі!

Затым ён прадставіў слова Лагожыку, назваўшы яго працавітым, гасцінным і кемлівым і, што асабліва мне спадабалася — непазбаўленым гумару і аптымізму.

«Дык вось чые рысы характару,— падумаў я,— перадаліся маім землякам! У кожным з нас ёсць штосьці ад Лагожыка!»

Калі Лагожык пачаў сваю прамову, я нечакана кашлянуў, што не дазволіла мне пачуць свайго маленькага земляка і дагледзець да заканчэння гэты дзіўны сход, бо жыхарыкі імгненна зніклі, як іх і не было.

А тое, што яны былі — я ўпэўнены і магу ўрачыста пацвердзіць гэта, паклаўшы руку на сэрца.



# Незвычайны кухар

Мы, людзі, думаем, што толькі мы здольныя размаўляць. Гэта не так. Размаўляюць усе — і кветкі, і аблокі, і птушкі,і звяры, і дрэвы, і матылькі.

Усе на зямлі вакол нас зносяцца між сабой на сваёй, толькі ім вядомай, мове.

Магчыма, каб мы слухалі расліннае і жывёльнае асяроддзе сэрцам, шмат цікавага пачулі б. А паколькі мы слухаем вушамі, да нашага слыху далятаюць розныя, малазразумелыя нам гукі. Гэта і шум дрэў, і рыканне кароў, і посвіст ветру, і сабачы брэх, і шмат самых розных гукаў. Што ўтойваюць яны, гэтыя гукі, нам мала цікава.

А вось якую цікавую гісторыю распавёў мне адзін звычайны кухар. Ой, што я кажу — звычайны! Ён зусім незвычайны, паколькі сваім сэрцам падслухаў

гаворку... Чыю б вы думалі? Не ламайце дарэмна галавы — не здагадаецеся.

Першым пачаў выхваляцца фасолевы суп:

— Я вельмі смачны і карысны. Апошнім часам мяне так рэдка гатуюць, што ледзь толькі маё імя з'яўляецца ў меню, я нарасхоп. Я — галоўны!

Гаворку перахапіла духмянае падсмажанае сала:

— Без мяне на стале сум, а ў жываце чалавека галодны тлум. Я — самае галоўнае для чалавека!

— Ды ў параўнанні з намі, ты — нішто! — фанабэрыста заявілі круглабокія сакаўныя катлеты.— I ты, і той фасолевы суп — адна толькі назва. На стале мы — незаменныя. Вось хто галоўны, а не вы, самазванцы!

— Ха-ха-ха! — зарагатаў халаднік з буракоў.— Я — чырвоненькі, халодненькі, ды яшчэ са смятанкай, ды з зялёнай цыбулькай! Зірнеш на мяне і ва ўсіх слінкі цякуць. Каму вы ўсе патрэбныя ў спякоту? Я — галоўны!

— Ды вы ўсе шэрасць у параўнанні са мной! — выказаў свой гонар, дастаны з пылу, з жару ружовабока падпалены шашлык.— Дзе вы бачылі пікнік альбо дачныя адпачынкі з нейкім там фасолевым супам, ды і з усімі вамі? Смех ды і толькі! А вось я, з памідорчыкам, ды з салатай, ды пад кетчупчыкам — пальчыкі абсмокчаш! Я не толькі галоўны, а самы найгалоўнейшы!

— Не надта ты тут выхваляйся! — не без падстаў запярэчыла халодная адвараная цяляціна.— Я, тоненька нарэзаная, ды прыгожа выкладзеная на

талерцы, а побач са мной, запраўлены бураковым сокам, цёрты хрэнчык,— чым не смакаўны цуд! Нават гледзячы на мяне, можна язык палыкнуць. Упэўнена, што галоўная ўсё ж я!..

Кухар, які за ўсім назіраў і слухаў, схаваўшыся за прыадчыненымі дзвярамі, вырашыў паказаць, прыгатаваным яго рукамі, гэтым хвалькам, хто ж галоўны.

Ён увайшоў на кухню і спрэчкі разнастайнай смакаты адразу сціхлі.

У сталовую залу, дзе сядзелі наведвальнікі, кухар пачаў выносіць па чарзе — фасолевы суп, падсмажанае сала, катлеты, і ўсё астатняе. Сам жа хуценька выйшаў.

Усе па-майстэрску прыгатаваныя і, безумоўна, вельмі смачныя страўныя блюда, напружана чакалі, каго ж наведвальнікі сталоўкі пачнуць больш за ўсіх хваліць, і каго назавуць галоўным.

Але ніхто не пачынаў есці. Усе чагосьці чакалі.

Кухаравы вырабы захваляваліся — у чым справа? Чаму да іх не дакранаюцца? Няўжо яны нясмачныя і спрачаліся між сабой дарэмна?

Нарэшце з-за сталоў пачулася:

— Гэй, кухар! А дзе хлеб? Хіба ж без хлеба можна есці? Ты забыўся, што хлеб — усяму галава?

Вось тут усе, хто адзін перад адным выхваляўся — нават апетытны шашлык, зразумелі, хто самы галоўны на стале для чалавека.

Дзякуючы незвычайнаму кухару і мы з вамі ведаем гэта.



# Чужыя думкі

Усе чулі пра Лесавіка, які, быццам, гаспадарыць у лесе. Чуць чулі, але ніхто ніколі яго не бачыў.

Ніхто, акрамя зайца Віславушыка. Віславушыкам звалі яго ў лесе ўсе таму, што адно яго вуха ніяк не хацела трымацца ўгару, а абвісала. Гэта надавала яго выгляду камічнасць.

У вочы ніхто з яго не смяяўся, але заяц здагадваўся, што тут не ўсё, як кажуць чыста. Але, паколькі, чужых думак не прачытаеш, здагадкі заставаліся здагадкамі.

Трэба сказаць, што Віславушык быў ветлівым, дружалюбным і даволі вясёлым зайцам. Ён ніколі не сумаваў і ні на што не скардзіўся.

Дык вось, вернемся да Лесавіка, якога Віславушык усё ж бачыў. Дакладней, Лесавіком яго назваць даволі цяжка, настолькі ён быў маленькі.

А звалі яго Лесавічок-зялёны бачок, бо меў ён зялёную вопратку, гэткага ж колеру боты і толькі капялюш быў на ім чырвоны, ды і той у белыя кропачкі. Віславушык спачатку палічыў яго за мухамора.

А пачыналася іх знаёмства так. Бег аднойчы заяц у бок вёскі, спадзеючыся паласавацца там гароднінай. Бег, як заўсёды, у добрым настроі і з пеняй.

Раптам Віславушык пачуў аднекуль плач і крык аб дапамозе. Паколькі ў яго было добрае сэрца, ён забыўся на сваю любімую гародніну і крутнуў у той бок, адкуль чуўся плач.

Віславушык убачыў мухамора, які ўблытаўся ў калючы куст дзікай шыпшыны, але, наблізіўшыся зразумеў, што гэта ніякі ні мухамор, а маленькі зялёны чалавечак у чырвоным капелюшы. І як ні намагаўся чалавечак выблытацца, ён толькі боль трапляў у палон калючак.

— Дапамажы, Віславушык! — узмаліўся чалавечак,— Я табе за гэта аддзячу!

Заяц здзівіўся:

— Адкуль ты ведаеш маё імя? І хто ты такі?

— А я ўсё пра ўсіх у лесе ведаю, такая у мяне пасада. Я — Лесавічок-зялёны бачок.

Паколькі Віславушык быў міласэрным, ён адказаў:

— Хто б ты ні быў, я табе дапамагу! І аддзякі тваёй мне не трэба.

Ён паскалоў сабе ўсе лапы пакуль выблытаў свайго новага знаёмага з калючага куста.

— Хух! Ну ты і ўблытаўся! І чаго ты палез у гэтыя калючкі?

Былы палонны, папраўляючы сваю вопратку, сазнаўся:

— Зараз восень і спелая шыпшына мне вельмі падабаецца. Яна і карысная, і смачная. Толькі вось занадта высока яе плады.

Віславушык усклікнуў:

— Дык вось у чым твае праблемы! Давай я нагну гэты куст, а ты нарві сабе ягад, колькі табе трэба.

І заяц, асцярожна, каб яшчэ больш не пакалоць лапы, пачаў па чарзе нагінаць галіны куста, а Лесавічок-зялёны бачок набраў ягад поўныя кішэні.

— А цяпер бывай! — гукнуў заяц,— Я і так тут з табой забавіўся, мяне чакаюць у вёсцы важныя справы.

— Пачакай! — спыніў яго Лесавічок,— Я ж хачу табе аддзячыць. Што б ты хацеў?

— Я? Нічога!

— Падумай, не спяшайся! Я ўсё магу.

Віславушык паскроб за сваім апушчаным вухам і спытаўся:

— А ці можаш ты зрабіць так, каб я чытаў думкі маіх сяброў і знаёмых? Ну, скажам, Ваўка, Лісы ці, няхай сабе, Мядзведзя?

Лесавічок здзівіўся:

— А ты не баішся праз гэта страціць сяброў?

— Не баюся! — упэўнена адказаў заяц,— Другога я не хачу!

— Ну, гэта дык гэта... Няхай будзе па-твойму. Бывай! — і Лесавічок знік.

Задаволены Віславушык паімчаў, але не ў бок вёскі, а па лесе, шукаць сустрэчы з сваімі сябрамі і знаёмымі. Яму не цярпелася праверыць свае здольнасці і даведацца, хто і што пра яго думае.

Першым яму сустрэўся воўк.

— Вітаю цябе, весялун! — прывітаўся ён,— А ты, нягледзячы на набліжэнне зімы, не сумуеш. Малайчына!

Не сказаць, што заяц лічыў Ваўка сваім сябрам, таму, не набліжаючыся блізка да яго, адказаў:

— Вітаю і я цябе!

Адказаў і пачаў напружана прыслухоўвацца, ці не пачуе, апроч Воўчых слоў, яшчэ што-небудзь.

Воўк жа пра сябе падумаў: «Эх, быў бы ты бліжэй да мяне, я б паказытаў зубамі тваю пячонку».

Віславушык лупянуў прэч.

— Ого! Трэба яго надалей аббягаць за вярсту! А такім сябруком прыкідваўся.

Заяц, разважаючы, ледзь не наскочыў на Лісу.

— О-ё-ёй! — заспявала ліслівым голасам яна,— каго я бачу! Сустрэча з табой, Віславушык, для мяне заўсёды радасць! Памятай гэта заўсёды і не абмінай мяне, не пазбаўляй радасці.

І Ліса, аблізнуўшыся, пабегла далей.

Заяц напругся і ў яго вушах пачулася: «Бегай, бегай, нагульвай тлушч! Добры будзе для мяне абед.

У Віславушыка ад страху абвісла і другое вуха.

— Вось гэта дык сябры! Такіх сяброў лепш не тое, што згубіць, а не мець увогуле.

У бедалагі сапсаваўся настрой і ён асцярожна паклыпаў далей, з небяспекай пазіраючы па баках.

А тут якраз — насустрач Мядзведзь.

— Здарова, Касавокі! Табе, што лета, што зіма — аднолькава. Прыг-скок, прыг-скок, то прама, то ўбок. Ха-ха-ха!

І Мядзведзь паклышаножыў далей.

У зайцавых вушах пачулася: «што мне на яго квапіцца! Усё роўна я яго не даганю. А шкада. Пэўна, смачны».

Віславушык уздыхнуў:

— Няўжо ж у лесе няма сяброў для мяне?

Раптам ён нос у нос сутыкнуўся з Вожыкам. Заяц насцярожыўся і падумаў: «Гэты увогуле і калючы, і страшны. Ды вунь яшчэ як чмыхае носам. Не, ад яго трэба трымацца далей».

Вожык прывітаўся першым:

— Вітаю цябе, дружа! Нейкі ты напалоханы. Што здарылася?

— Што здарылася, тое і здарылася! — Тыркнуў Віславушык,— А табе якая справа?

І пабег прэч. Адбегся і пачуў у вушах:

«Эх, бедалага... Такая добрая душа і такая безабаронная. Няхай яму пашчасціць безгалодна перазімаваць».

Віславушык кінуўся назад, каб папрасіць у Вожыка прабачэння за свае паводзіны, але яго ўжо не было.

Раптам зверху хтосьці застракатаў. Ён зірнуў уверх і ўбачыў Сароку.

— Скачы, скачы! — стракатнула яна,— Ды не лянуўся ўцячы!

— Ад каго? — спытаўся заяц.

Сарока паляцела далей, напаследак стракатнуўшы:

— Шмат у лесе жыхароў — і сяброў, і не сяброў...

Віславушык сумна выдыхнуў:

— Гэта я ўжо ведаю і без цябе. Разбярыся тут, хто сябар, хто не...

Далей ён сустракаў Казулю, Лася, Цецерукоў і Курапатак. З прыемнасцю даведваўся, што ў іх добрыя сэрцы, што і ў іх шмат ворагаў.

Віславушык успомніў Лесавічка-зялёнага бачка і падумаў: «Хіба ж я страціў сяброў? Наадварот мне адкрыліся вочы на сапраўднае сяброўства.»

Невядома, здольныя Віславушык і яго браты-зайцы чытаць чужыя думкі ці не, але з тае пары яны аббягаюць далёка і Ваўка, і Лісу і іншых драпежнікаў.

# Змест

**Давідовіч, С. Ф.**

Д13 Збор твораў. У 5 т. Т. 5. Казкі. Прыгоды / Сяргей Давідовіч. — Мінск : Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, 2017.— 495 с., іл.

ISBN 978-985-6975-48-9.

У пяты том Сяргея Давідовіча ўвайшлі казкі і прыгоды, якія вучаць дзяцей спагадлівасці і шчырасці, заклікаюць адносіцца да ўсяго жывога на зямлі і да маці-Прыроды беражліва і адказна.

**УДК 821.161.3-93**

**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ДАВІДОВІЧ** Сяргей Фёдаравіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У пяці тамах

**Том 5**

*Казкі*
*Прыгоды*

Адказны за выпуск *У. А. Мачульскі*

Малюнкі *С. Ф. Давідовіча*

Мастацкае афармленне серыі *С. Ф. Давідовіча*
Мастацкі рэдактар *В. М. Максімовіч*
Тэхнічны рэдактар *Л. С. Зубец*

Падпісана да друку 20.01.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 26,04.
Ул.-выд. арк. 10,28. Наклад 70 экз. Заказ 1.

Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/463 ад 28.04.2015.
Вул. Фрунзэ, 5-209, 220034, Мінск.

Падрыхтоўка да друку і паліграфічнае выкананне:
Выдавец А.М. Вараксін.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/99 ад 02.12.2013.
E-mail: artmanager3@mail.ru